АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1981

ББК 82.3 Бел-6
В99



Складальнік Л. А. Малаш

Музычны дадатак З. Я. Мажэйка

Рэдактары тома: М. Я. Грынблат, А. С. Фядосік

В99 **Вяселле:** Песні. У 6-ці кн. Кн. 2 / [Склад. Л. А. Малаш; Муз. дадат. З. Я. Мажэйка; Рэд. М. Я. Грынблат, А. С. Фядосік].— Мн.: Навука і тэхніка, 1981.— 831 с., нот. іл.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У пер.: 3 р. 50 к.

У другую кнігу выдання ўключаны песні, прысвечаныя абраду каравая, зборнай суботы, пасада. Пераважная колькасць іх сабрана ў час фальклорных экспедыцый, пачэрпнута з архіваў і розных выданняў XIX—XX стст. Збору папярэднічае ўступны артыкул, у канцы падаюцца музычны дадатак і каментарыі.

В $\frac{70700—087}{М316—81}$ 145—80 4702120000

ББК 82.3 Бел-6
Бел Ф

# ПЕСНІ КАРАВАЙНАГА АБРАДУ, ЗБОРНАЙ СУБОТЫ І ПАСАДА

*Каравайныя песні* складаюць значную частку беларускай вясельнай паэзіі. Ад іншых вясельных песень яны адрозніваюцца больш дакладнай дыферэнцыяцыяй у межах данага абраду, ярка выражаным абрадавым прызначэннем, магічным, заклінальным сэнсам. Каравайныя песні пераважна невялікія па аб'ёму, лаканічныя па зместу, не маюць развітага лірычнага маналога, носяць чыста рытуальны характар і ў асноўным каменціруюць дзеянне на ўсіх этапах прыгатавання вясельнага хлеба, змяшчаюць у сабе просьбы, заклёны, пажаданні. Вялікая колькасць песень прысвечана працэсу прыгатавання каравая, яго ўсхваленню, а таксама каравайніцам, маці, галоўным дзеючым асобам гэтага этапа вяселля.

Абрад каравая з яго рытуаламі і песнямі больш поўна разгорнуты на поўдні і ў цэнтральнай Беларусі. На поўначы і паўночным захадзе Беларусі каравайныя песні не выконваюцца, і сам абрад каравая вельмі кароткі. Амаль не маюць аналагаў каравайныя песні ў іншых славянскіх народаў, апрача ўкраінцаў. Каравайны абрад, акрамя агульных рыс, характэрных для ўсёй тэрыторыі Беларусі, мае рад лакальных асаблівасцей, якія тлумачацца спецыфікай бытавога ўкладу, эканомікі і культуры розных мясцовасцей у розныя перыяды гістарычнага развіцця.

Хлеб для беларускага селяніна быў галоўнай крыніцай яго існавання, таму да хлеба адносіліся з асаблівай пашанай. Ен з'яўляўся неад'емным атрыбутам многіх абрадаў і звычаяў. Хлебу пакланяліся, яго цалавалі, давалі зямлі, на ім прысягалі, ім абменьваліся пры заключэнні дагавораў. З ім ходзяць да нованароджаных. Хлеб і яго абрадавыя заменнікі — зерне, дзяжа — з'яўляюцца кампанентамі амаль усіх рытуалаў беларускага вяселля. Ужо ў сваты і на заручыны прыходзяць з хлебам. Маладая ў знак згоды напаўняе сватам бутэльку жытам або ўзамен іх хлеба дае свой. З хлебам запрашаюць не толькі на вяселле, але нават і на асобныя яго этапы. Абрады абсыпання маладых жытам (пшаніцай), саджэння іх на дзяжу з булачкай хлеба ў руках сімвалізуюць пладавітасць, багацце. Трыманне нявестай хлеба за пазухай, пад пахай мела ахоўнае значэнне. Хлеб клалі на кут, на парог, за печ, на прыпечак, на паліцу, што сімвалізавала задобрыванне духаў продкаў. Хлебам сустракаюць маладых, на яго кладуць завіванне нявесты, падараваныя маладым рэчы, грошы і г. д.

Сярод розных відаў абрадавага выкарыстання хлеба каравай, яго прыгатаванне і падзел, займае цэнтральнае месца і з'яўляецца адной з важнейшых частак беларускага вяселля. Каравай — спецыяльны абрадавы хлеб — звычайна пякуць з пшанічнай мукі ў выглядзе круглай булкі (у хаце маладой), радзей — у форме месяца (у хаце маладога) вагой да дваццаці кілаграм, «каб можна было ўвесь род надзяліць». Зверху яго ўпрыгожваюць рознымі фігуркамі з цеста ў выглядзе шышак, птушачак (гусак), бочачак з абручыкамі, нябесных свяціл, фігурак фалічнага характару і спавітага дзіцяці, якім адводзілася магічная роля стымулявання патомства, а таксама кветкамі з каляровай паперы, саламянымі крыжыкамі, галінкамі елкі, сасны, грушы, каліны, барвенка, мірта і інш., якія мелі магічнае і сімвалічнае значэнне. Акрамя вялікага каравая, робяць яшчэ маленькія булачкі (гускі, яскі, шышкі) для частавання дзяцей і для «зняцця пробы» каравайніцамі. Раней спецыяльны каравай пяклі для пана, што адлюстравана і ў песнях.

Кожны этап пячэння каравая суправаджаецца адпаведнымі песнямі, рытуальнымі дзеяннямі, цырымоніямі, заклінаннямі, зваротамі да звышнатуральных сіл і з'яў прыроды. Ніводная каравайная песня ніколі не выконваецца і не мае сэнсу па-за абрадам каравая, бо іх функцыя і тэматыка непадзельныя. Многія каравайныя песні нельга зразумець, калі не ўлічваць іх сувязі з абрадам, не ведаць пазапесенных абставін. Так, песню, у якой бацька каравайніц запрашаць «ходзіць, у руках сітца носіць», можна зразумець, толькі ведаючы старажытны звычай аказання дапамогі новай сям'і кожным членам абшчыны пры пячэнні радавога каравая. Часта тлумачэнне абраду знаходзім у самім тэксце песні. Значымасць каравайных песень асабліва бачна ў выпадку выпадзення асобных рытуалаў. Так, у XIX і XX стст. у час прыгатавання абрадавага хлеба бацькі ўжо не стаяць з запаленымі свечкамі каля яго, не кладуць у цеста спецыяльнае магічнае зелле, «дравічнае» масла, не бяруць ужо «з трох крыніц вады», «з трох палёў пшаніцы» і г. д. Тым не менш песні з такім зместам абавязкова трэба выканаць, бо яны раўназначны абраду. Гэта тлумачыцца мінулай верай народа ў вялікую сілу слова, дзякуючы якому сам абрад набываў большую моц. Без песні (слоў) і адпаведных дзеянняў прыгатаванне каравая страціла б свой абрадавы сэнс, бо з'яўлялася б звычайным пячэннем хлеба. Выкананне каравайных песень і рытуалаў адбываецца ў строгай паслядоўнасці адначасова з прыгатаваннем абрадавага хлеба.

Адзначаная ідэнтыфікацыя песень і этапаў абраду з'явілася асновай для нашай класіфікацыі каравайных песень: 1) запрашаюць род і суседак на каравай, 2) рашчыняюць каравай, 3) сукаюць свечкі, 4) месяць каравай, і ён падыходзіць, 5) рыхтуюць печ для каравая, 6) робяць каравай і шышкі, 7) садзяць каравай у печ, 8) каравай пячэцца, 9) вымаюць каравай з печы, 10) убіраюць каравай, 11) пераносяць каравай у клець, 12) частуюць каравайніц, 13) дзеляць каравай, 14) просяць каравая.

Прыгатаванне каравая — калектыўнае абрадавае свяшчэннадзейства, якое выконвалася спецыяльнымі асобамі (каравайніцамі) у адпаведнасці з традыцыйным рытуалам. У старажытнасці ў ім прымалі ўдзел усе члены радавой абшчыны, а пазней, у класавую эпоху, усе члены сельскай абшчыны, што з'яўляецца адгалоскам даўніх грамадскіх адносін [1].

Аб калектыўным характары каравайнага абраду сведчыць і спосаб нарыхтоўкі прадуктаў і паліва. Так, сваякі і каравайніцы прыносяць з сабой муку, масла, яйкі: «Сабралася Агаты радзіна... Прыехала сем дзядзек (цётак, сясцёр) родных»; «знеслі ж яны на каравай тры бочкі (сіты) мукі, кваску масла, капу яек, вясы (бязмены) солі, нават прывязлі і тры вазы суччa»; «муку да й пшанічную, па кварце солі, фунту цукру, маслечка дравішнае, яечка курапячае».

Наогул, трэба адзначыць, што «ўвесь працэс пячэння каравая, а таксама звязаныя з ім абрады і песні даюць нам даволі правільны ўзор старажытнейшага радавога камунізма» [2]. Аб даўнім паходжанні гэтага абраду сведчаць і заклінальныя песенныя формулы, якія маюць прыкметы малітвенага звароту. Іменна пры дапамозе іх запрашаюцца каравайніцы: «Прыйдзіце пасабіць» прыгатаваць абрадавы хлеб. Ад імя маладой або маці спяваюць:

Выйду я на вуланьку,
Стану я на грудочку,
Гукну я да радочку:
— Сыйдзіся, мой радочку,
Вяселле пачынаці,
Каравай учыняці (валкаваці, садзіці, убіраці,
дзяліці і г. д.).

У мясцовасцях з шырока развітым каравайным абрадам ён лічыўся пачаткам вяселля. Да каравая звяртаюцца як да жывой істоты: «Караваю, караваю, вяселле зачынаю, дружыначку сабіраю», просяць каравай (які змацоўвае вузы маладых накшталт Сулукі, Кузьмы-Дзям'яна ў іншых пачынальных песнях) пачаць вяселле:

Караваю-мураваю,
Да не стой у запечку,
Да выходзь на хатачку,
Да зачні вяселлейка.

У некаторых каравайных песнях спяваецца, што зачынае вяселле святы Ілля:

А ў гародзе зелле,
За гародам вяселле,

---

[1] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. Мн., 1956, с. 203—204.
[2] Охримович В. Значение малорусских свадебных обрядов и песен в в истории эволюции семьи.— Этнографическое обозрение, кн. XV, № 4 за 1892 г. М., 1893, с. 26.

А ў тым дому святы Ілля
Зачынае вяселле.

Аб вядучай ролі каравайнага абраду на поўдні Беларусі сведчыць і той факт, што вяселле тут пачынаюць не бацькі, а самі каравайніцы:

Каравайнічкі-пачынальнічкі,
Да не стойце ў запечку,
Да выйдзіце на хатачку,
Да пачніце вяселлейка,
Вяселлейка вясёлае:
Дзевачкі — у песенькі,
Музычкі — у скрыпачкі,
А мамачка — у мысенькі.

Пякуць каравай часцей за ўсё ў суботу, а ў некаторых мясцовасцях — у пятніцу або нядзелю. Раней самыя адказныя моманты ў прыгатаванні каравая (як рашчыняюць, месяць, садзяць і г. д.) выконвалі толькі найбольш блізкія сваякі маладых.

Рашчынялі каравай сястрыцы,
А мясіла хрышчона,
Саджала ў печ раджона.

Пазней, з аслабленнем сваяцкіх вуз, для пячэння абрадавага хлеба запрашаюць 3, 5, 7, 11 найбольш вопытных у гэтай справе паважаных жанчын, добрых гаспадынь, але не ўдовых і не бяздзетных, бо лічылася, што ўсе якасці каравайніц праз каравай перадаюцца маладым.

Удаўся, удаўся каравай.
Чаму яму не ўдацца?
Багатыя ўчынялі,
Прыгожыя качалі,
Пузатыя саджалі.

Або:

Ой, харошы каравай, харошы.
Знаю, яго харошыя рабілі.
Ой, удалы каравай, удалы.
Знаю, яго ўдалыя рабілі.
Ой, чырвоны каравай, чырвоны.
Знаю, яго чырвоныя рабілі і г. д.

Запрошаныя на каравай падзяляюцца на дзве групы, функцыі якіх строга абумоўлены абрадам. У першую ўваходзяць маладыя жанчыны, якія рашчыняюць і месяць каравай, наглядаюць за працэсам яго пячэння. У другую — выканаўцы абрадавых цырымоній: адзін-два жанатыя мужчыны, якія рыхтуюць дровы, печ і ўсе неабходныя прылады для прыгатавання абрадавага хлеба, нежанатыя хлопцы, якія садзяць каравай у печ, і дзяўчаты, якія робяць «гускі» і ўпрыгожваюць яго. Такое размеркаванне аба вязкаў паміж удзельнікамі каравайнага абраду знаходзім у песнях: «Сабі-

райся, род, к роду, а старыя мужы, на параду, маладыя маладзіцы, каравай мясіць, красныя дзевачкі, ка саду каравай убіраць, песні пець, маладыя малойцы, каравай печ, а старыя мужы, раду радзіць».

На каравай, як і на само вяселле, у многіх выпадках запрашаюцца ўсе родныя і аднавяскоўцы, якія часткова ўдзельнічаюць у выкананні адпаведных абрадаў і песень. Лічыцца, што чым больш людзей, гоману і весялосці, тым лепш удасца каравай, з якім звязваецца будучае маладых. У маладой каравайны абрад адбываўся больш урачыста, чым у маладога, і суправаджаўся вялікай колькасцю песень.

Вылучаецца цэлая група песень пра запрашэнне маці (рэдка бацькам) суседачак (жоначак), каравайнічак да «роду, каб давесці божы дар да ладу». Каравайніц маці збірае «па зорачках і па яснаму месяцу», бо, як абавязвае звычай, кожную адказную справу трэба пачынаць зранку, калі «дзень ідзе ў рост». Але паколькі неабходна сабраць вялікую колькасць каравайніц, то маці даводзіцца хадзіць і «па яснаму сонцу». У гэтых песнях даволі выразна бачым выпрацаваны стагоддзямі сялянскі этыкет і мараль. Хор, звяртаючыся да маладой, напамінае ёй аб неабходнасці паважаць бацькоў і наогул старэйшых:

Ой, пахадзі па двару ціхенька
І ўкланіся свайму баценьку нізенька.
А няхай бацелька па сялу паходзіць,
А няхай ён жоначак папросіць.

Па традыцыі на вяселле запрашаюць некалькі раз, што сведчыць аб вялікай павазе да гасцей і важнасці самога вяселля. У песнях гэты рытуал апісваецца скупа і лаканічна, але яркімі і выразнымі штрыхамі. Тут ствараюцца разгорнутыя малюнкі ўзаемаадносін паміж людзьмі. Маці, ходзячы па хатах, «накрыж рукі носіць» (кланяецца) і просіць: «Мілыя суседачкі, ці вы дзетачкі не маеце, што ка мне не бываеце?» (бо ім прыйдзецца прасіць аб тым жа). І далей: маці «каравайніц збірае, шоўкавае зарукаўечка за пояс затыкае» (многа клопату мае), ходзячы, яна «стаптала тры пары чаравік», бо ёй трэба абысці ўсю вёску і не аднойчы. Нарэшце, сама форма і змест запрашэння маюць розныя сэнсавыя адценні ў залежнасці ад таго, ці запрашаюць для ўдзелу ў вяселлі ці быць гледачом.

Многія песні гэтай групы, дзе галоўнай дзеючай асобай з'яўляецца маці, пачынаюцца своеасаблівымі пытальна-сцвярджальнымі зачынамі:

Чыя гэта маці па вуліцы ходзіць?
Па вуліцы ходзіць, мяцеліцу топчыць.
Іванькава маці па вуліцы ходзіць.
Па вуліцы ходзіць, мяцеліцу топчыць.

Некаторыя песні змяшчаюць толькі першую частку гэтай экспазіцыі (пытанне), іншыя ж пачынаюцца адразу другой часткай — адказам. Такая

ж тыпалагічная мадэль зачынаў уласціва многім каравайным песням. Напрыклад: «Да чыя гэта жана (сястра) каравай мясіла?», «Ой, чый то брацейка пад караваем гуляе?», «Ой, дзе ж й тая пайшла, што каравай у печ нясла?», «На чыёй гэта ніве жыта ў трубы павілося?», «А чыя жана не ўмее жыта жаці?» і г. д. Падобныя зачыны ўжываюцца з мэтай прыцягнуць увагу слухачоў, павысіць сэнсава-эмацыянальнае значэнне кожнага моманту абраду. Адной з прыкмет умоўна-вобразнай мовы разглядаемых песень з'яўляецца таксама сімволіка, у аснове якой ляжыць параўнанне чалавека з навакольнай прыродай. Тут шырока выкарыстоўваюцца памяншальна-ласкальныя формы: «каравайначкі красны так, як зорачкі ясны», маці параўноўваецца з «цяцеранькай», «вутачкай», бацька — з «лябедзекам», род — з «сакаламі», «пташачкамі», а само вяселле — з пчаліным роем.

Запрошаныя ў дом маладой каравайніцы, «з сяла сяляначкі», «з места мяшчаначкі» ідуць «дарогаю шырокаю», шумнай грамадой «цераз поле шырокае», «гарою высокаю, цераз места да вялікае», «цераз леты залацецкія», «праз мора глыбокае, цераз ваду быструю» і пытаюць «сяла да Тацянкіна двара». Незвычайнае, часам фантастычнае апісанне шляху каравайніц сімвалізуе дабрабыт, дастатак і шчасце будучага жыцця маладых.

Кожнаму этапу прыгатавання каравая папярэднічае традыцыйная формула-зварот. Так, пасля ўнясення дзяжы ў хату старшая каравайніца звяртаецца да бацькоў і суседзяў як прадстаўнікоў роду: «Ёсць тут бог, бацька і матка радзоныя і суседзі блізкія і далёкія, мужы статэчныя, бабкі заплечныя, дзеткі запечныя? Благаславіце краснай панне каравай учыніць (замясіць і г. д.)». У другой формуле звяртаюцца не толькі да бога-продка, але і да покуці: «Напрод пана бога, покуця святога, пане ойчэ, пані матка, панове прыяцелі, панове суседзі, прашу гэтаму дзіцяці благаславіць каравай рашчыніці». Такі зварот паўтараецца тройчы («за другім разам», «за трэцім разам»). І тройчы ўсе адказваюць: «Бог благаславіць». Такія формулы-звароты маюць рытуальную значымасць, валодаюць пэўнымі функцыямі ў развіцці дзеяння і складаюць як бы частку самога абраду. Адпаведнымі ж формуламі-падзякамі, што «дзела зрабілі, каравай учынілі», «замясілі», «нарадзілі», «падзялілі» і г. д., і заканчваецца кожнае дзеянне.

У старажытныя часы ў хлебе-караваі бачылі матэрыялізаванага бога-продка, і таму ў песнях прасілі яго прыйсці з неба каравай учыняці, замясіці і г. д. Паступова ўяўленне гэта хрысціянізавалася і зварот за дапамогай пачаў адрасавацца багародзіцы, анёлам, святым. Але няцяжка заўважыць, што бог і святыя ў каравайных песнях вельмі далёкія па свайму абліччу і дзеяннях ад хрысціянскага пантэона багоў. Яны настолькі антрапамарфізаваныя, што зусім не адрозніваюцца ад простых сялян. Так, прачыстая выступае ў вобразе каравайніцы. Яна «воск точыць, свечкі сукаець, ідзе праз поле сцежкай, праз раку кладкай», каб «быць парадніцай, старшай каравайніцай».

Сам бог каравай месіць,
Прачыстая свеціць,
Ангелы ваду носяць.
Хрыстос прыступае,
Хустаю накрывае.

Наогул у беларускіх каравайных песнях дзейнічаюць не князі, баяры або каралеўны, а простыя працавітыя, добрасумленныя, гожыя, акуратныя жанчыны і здаровыя кучаравыя мужчыны. Гэта былі вядомыя выканаўцам канкрэтныя людзі: Іванава (Міколы, Якава) жонка, цялушанскія каравайніцы, вайтавая з Азяран і г. д.

Вясельнае дзеянне малюецца ў песнях у канкрэтнай прасторы і часе. Так, з Магілёва купцы абруч вязуць, у Вільні (Варшаве) кветкі купляюць, у Слоніме іхваскуюць. Ваду бяруць у Дунаі (у крыніцы) каравайніцы з Языля, Нясвіжа і г. д. Дакладна абазначаецца і час: «У нядзелю паўтрушку», «у суботу позне», «усю ночку» і г. д. Багата прадстаўлена ў песнях флора Беларусі: каліна, рута, мята, барвенак, мірт, яленец, грушэўнік, вішня, яблыня, чэрац — чым упрыгожвалі каравай; пшаніца, жыта, авёс — з чаго рабілі каравай. Асаблівае месца ў каравайных песнях адводзіцца птушкам, якія лічыліся сімваламі шчасця, прымалі непасрэдны ўдзел у прыгатаванні каравая. Птушкамі з цеста ўпрыгожвалі каравай і частавалі дзяцей.

Ляцелі птушачкі з раю,
Пыталіся ў каравая:
— Чаму нас, птушачак, не ждалі?
Мы б к таму часу прыбылі,
Шчасце-долю прынеслі,
Шчаслівую гадзіну
Нашаму сужаньку-чалядзіну.

У песнях вельмі трапна падмечаны паводзіны і рысы птушак: «шырокія скокі ў сарокі», «вясёлыя песенькі ў салаўя», «доўгія ногі ў жураўля». Многа спяваецца пра гусей, якія прыляцелі з выраю і прапануюць сваю дапамогу.

Значнае месца ў каравайных песнях займаюць аграрныя матывы, бо ў жыцці сялян сямейныя і земляробчыя інтарэсы былі непарыўна звязаны: «Буйна пшаніца на гнаі — харош каравай на стале».

Думка аб караваі з'яўляецца ўжо тады, калі яшчэ рыхтуюць поле для той пшаніцы, з якой ён зроблен:

— Караваю, мой караваю,
А хто цябе задумаў?
— А задумаў мяне Мішачка,
У чыстым полі аручы
Да пшанічаньку сеючы.
— А задумала цябе Надзечка,
У чыстым полі ходзячы
Да пшанічку родзячы.

Вобразна апісваецца працэс вырошчвання пшаніцы для каравая: «Як на цябе аруць — валы равуць, як цябе сеюць — ветры веюць (пташкі доўна буць), як дажынаюць, то спяваюць, а як валочаць да печы — мочаць (гусі шчыплюць)», а цяпер «з цябе каравай гіблюць». Як маладая «пшанічку палола, свае ручкі пакалола». Нялёгкай працай яна «заслужыла» гэты каравай у сваіх бацькоў «не за год, не за два, а з малай дзяцінкі».

Песні гэтай групы заснаваны на веры ў магію слова, г. зн. веры ў здольнасць слова «адным сваім з'яўленнем ствараць тое, што яно азначае»[3]. Жадаемае падаецца ў песнях як рэальна існуючае і тым самым заклінаецца:

На чыёй гэта ніве
Жыта ў трубы павілося?
Жыта ў трубы павілося,
На каравай удалося.
На Пётухнавай ніве
Жыта ў трубы павілося і г. д.

У некаторых жа песнях сустракаюцца традыцыйныя формулы-заклёны: «Радзі, божа, жыта, пшаніцу і ўсялякую пашніцу», «Радзі, божа, жыта на пяску», «Урадзі, божа, пшаніцу на мой каравай багаты», «Урадзі, божа, пшоначку да на маладу жоначку». Заклінаюць, каб не было «ні гугалю, ні мятліцы», каб птушкі не клявалі ўраджай і г. д.

Ідэя ўрадлівасці аб'ядноўвае цэлую групу каравайных песень і рытуалаў, якія выконваюцца з мэтай магічнага ўздзеяння на раслінны свет, каб атрымаць багаты ўраджай. Так, пасля прыгатавання каравая ваду, у якой мылі рукі і стол, вылівалі на агарод, на поле, у сад, каб радзіла гародніна, збожжа, садавіна.

Каравайніцы, ручкі мыйце
І пад вішанькі ліце,
Каб вішанькі радзіліся,
Каб дзетачкі любіліся.

Пры дапамозе формул-зваротаў просяць дазволу ў роду і прысутных пасля таго, як рашчынілі каравай, занесці рошчыну на печ, каб закісла, а затым, калі яна гатова, зняць яе. Дзяжу ставяць на сярэдзіну хаты супраць печы і песнямі просяць бацькоў благаславіць і дазволіць замясіць абрадавы хлеб. Каб каравай (а гэта значыць, і жыццё маладых) атрымаўся ўдалы, неабходна было ў першую чаргу бацькоўскае благаславенне, якое абавязкова прысутнічае на ўсіх этапах каравайнага абраду. У рытуале благаславення даволі празрыста бачны рэшткі культу продкаў.

О, Евачка, Евачка,
Ці ў ласцы ты з маткай?
А калі ты не ў ласцы,
Дык твой каравай не ўдасца.

---

[3] Потебня А. Объяснение малорусских и сродных народных песень, т. 2. Колядки и щедровки. Варшава, 1887, с. 59.

Калі месяць, бацькі стаяць «блізка каравая» з трайчатай свечкай і просяць сваім дзецям долю «і хлебную, і салянную — дай, божа, усякую».

Клопаты аб долі — адметная рыса каравайнага абраду і песень. Многія каравайныя песні з'яўляюцца своеасаблівымі малітвамі-зваротамі да багоў — апекуноў шлюбу і змяшчаюць у сабе просьбу маладых і ўсяго роду аб добрай долі. За доляй для маладых, г. зн. каб яны былі з хлебам, патомствам, шчасцем, звяртаюцца да той вышэйшай сілы, якая садзейнічае пладавітасці людзей, скаціны, хлеба — тых «долей», якія так патрэбны земляробу. Доля маладой часта залежала ад таго, у якую сям'ю яна трапіць. Таму тэма сямейных адносін таксама знайшла адлюстраванне ў каравайных песнях. Гэта пажаданні, каб у маладой былі добрыя залоўкі, дзеверы, свёкар, свякроў.

Пры выкананні розных каравайных рытуалаў запальваюць свечкі, якія робяць пераважна пасля таго, як рашчыняць каравай. Суканне свечак у некаторых мясцовасцях Палесся складае самастойны цыкл абрадавых дзеянняў і адпаведных ім песень. Першым пачынае рэзаць воск на кавалкі хросны бацька, а браты, сукаючы свечкі, кладуць у сярэдзіну тры «зеллейкі»:

Адно зеллейка — мята,
Другое зеллейка — рута,
А трэцяе зеллейка — кветкі,
Штоб любіліся дзеткі.

Запаліўшы свечкі, мясілі цеста і гучна пляскалі ў далоні, скакалі вакол дзяжы. У песнях, якія выконваліся ў гэты час, выражалася радасць, вяселле, хвала караваю.

Каравай робяць густым і вялікім, каб маладыя былі багатымі і можна было ўвесь род надзяліць цудадзейным хлебам і даслаць яго тым, хто адсутнічае на вяселлі. Таму малады просіць:

Вы, жоначкі-каравайначкі,
Рабіце каравай, та не мальце:
Мая радзіна бардзо вяліка,
А сяло, як места.

На такі вялікі каравай «многа кошту трэба: з сямі палёў пшаніца, цэбар вады крынічнай, гарнец солі лядовай, тры капы перапялішных яек, гарнец руты зялёнай, корч каліны чырвонай, ярых пчолак мядок» і г. д.

Калі месяць цеста, спяваюць многа велічальных песень каравайніцам, вобраз якіх раскрываецца праз дынаміку іх дзеянняў. Апісанне знешняга выгляду каравайніц у песнях засяроджана пераважна на руках — сімвале працы і працаўніка. Каравай яны месяць «беленькімі ручкамі, пярсцёнкамі з вочкамі». З вопраткі асабліва падрабязна апісваюцца рукавы, якія малююцца рэалістычна, з пералічэннем розных дэталей. У каравайніц «сінія запаясачкі, чырвоныя закаўрашачкі», «залатыя зарукаўніцы», «шоўкам-золатам (срэбрам-золатам) зарукавы пашыты», «залатыя зарукаўейка».

Чыя жана каравай мясіла,
Шоўкам-золатам рукавы нашыла,
Кала каўнера белым паперам,
Кала забору чырвоным горам?

Да каравая, які падыходзіць у дзяжы на печы, звяртаюцца як да жывой істоты з павагай, просяць яго расці вялікім, бо ад гэтага, як лічылася, залежаў лёс маладых:

Не ўленкайся, дзеванька,
Твой каравай да падыходзіць.
З дзяжы века падымае —
Твая доля прыбывае.

З такой жа просьбай звяртаюцца да каравая, калі ён пячэцца. Каравай маладога просяць расці «вышэй топаля зялёнага, стаўпа медзянога (залатога)», а каравай маладой — «вышэй печы крамяной (медзяной), вішні зяленай, каліны чырвонай, вярбы залатой». У песнях яго рост параўноўваецца таксама з ростам хмелю, ліпы, пшаніцы і інш. І на самай справе каравай нярэдка вырастаў так, што даводзілася вынімаць некалькі цаглін, каб дастаць яго з печы.

Персаніфіцыруецца ў песнях і дзяжа, у якой робіцца каравай. Ад яе залежыць якасць будучага каравая. Таму да дзяжы звяртаюцца з заклёнам-просьбай:

Не цячы, бочачка, не цячы,
Яшчэ наш каравай не ў пячы.
Як будзем каравай саджаці,
Тады будзем бочачку качаці.

Як і ў іншых каравайных песнях, у песнях пра дзяжу разам з ужываннем традыцыйных эпітэтаў пры яе апісанні (дубовая, цісовая) прыводзяцца гіпербалічныя і метафарычныя эпітэты:

Бочачкі да жалезныя,
Абручкі месяндзовыя,
А гвоздзікі сталёвыя.

Але такія эпітэты не частыя ў беларускіх вясельных песнях, бо для іх характэрна рэалістычнае і дэталёвае апісанне прадметаў быту. Каравай, напрыклад, пякуць на «кляновым (ліпавым, вінаградным) лісце», садзяць у печ «новай лапатай», «кацюбай» выграбаюць жар з печы і чыста вымятаюць яе мокрым памялом.

Каб каравай добра спёкся, печ паляць «дубовымі (яловымі, бярозавымі, радзей — «залатымі, жалезнымі») дравамі», якія даюць многа духу, а каб ён быў румяны, для «загнету» кладуць сухія смаляныя трэскі ад старой сасны або салому.

Стаяла сасна сорак лет,
Валіце ж яе на загнет,
Каб наш загнет ясен быў,
Каб наш каравай красен быў.

Калі цеста падышло, яго разам з дзяжой тройчы абносяць вакол таго месца, дзе яно раней стаяла. Папрасіўшы благаславення рабіць каравай, каравайніцы дастаюць з дзяжы цеста за адзін раз, кладуць яго на стол і спяваюць:

Да спары, божа,
Да нашаму караваю.
Да злучы ж, божа,
Да нашу парачку —
Васілька з Ганулькаю.

Каравайнае цеста і сіла яго зліпання ў песнях атаясамліваюцца з маладымі, якія зводзяць «умесце», а таксама параўноўваюцца з «племечкам», што з'язджалася «ўмесцечка».

Каб надаць караваю круглую форму, вакол яго робяць абруч, а ўпрыгожанні з цеста прымацоўваюць драўлянымі шпількамі.

З Магілёва купцы едуць,
Залаты абруч вязуць
А на наш каравай кладуць,
Залатыя шпілечкі —
А на нашы шышачкі.

На Палессі шышкі робяць з галінак, абкручаных цестам. Шышкі ў караваі замацоўваюцца ваўнянымі чырвонымі ніткамі.

Ды бяжыць зайчык-райчык,
Нясе ў зубах ніці.
Нашто тыя ніці?
Каравай упавіці.

Каравай упрыгожваюць таксама фігуркамі ў выглядзе нябесных свяціл, сімвалы якіх узніклі яшчэ ў дагістарычны перыяд жыцця славян і складаюць значную частку каравайнай паэзіі.

У народным уяўленні каравай валодае незвычайнай сілай яшчэ і дзякуючы прысутнасці пры ім нябесных свяціл, якія прымаюць самы непасрэдны ўдзел у справах людзей.

Месяц у печы саджае,
Зоранька закладае,
Сонейка запякае.

У песнях каравай надзяляюць эпітэтамі «дзіўны», «ясны», «з залатымі веткамі», качаюць яго «на срэбры» і саджаюць «на золаце», мажуць «дравічным маслам», за якім ідуць да «новай клеці», «новага места».

Садзіць каравай у печ выбіралася «караваева пара» — прыгожая жанчына і кучаравы мужчына. А ў іншых песнях: «Кучаравы печ мяце, а ха額ласты саджае, харашуха папраўляе». Калі «кучаравы» нясе садзіць каравай у печ, то кружыцца з ім тройчы і спявае: «Караваю, мой раю, з табою

граю, на срэбры качаю, на злоце саджаю». Бывала, што і жанчыны («гу-батыя, зубатыя, тоўстыя, рылатыя» і г. д.) садзілі каравай у печ, а «ўда-лыя-прыўдалыя, харошыя-прыгожыя, красныя да харошыя ў печ заглядалі», каб «каравай не абпёкся, каб ён не абжогся».

Але часцей за ўсё садзіў каравай у печ мужчына, што павінна было азначаць акт перайімальнай магіі ўрадлівасці, які ўзмацняўся адпаведнымі «сімвалізуючымі і пастуліруючымі зачацце, чараўны рост і нара-скокамі, джэнне бога Каравая-Варапая як бога шлюбу»[4].

У каравайным абрадзе і суправаджаючых яго песнях захавалася многа сексуальна-фалічных элементаў старажытнага паходжання. Гэта пацвярджа-ецца самой формай каравая, яго ўпрыгожаннямі. Фігуркі на караваі супа-стаўляюцца з маладой (шышачкі, сонца, зорачкі, гусачкі) і маладым (ме-сяц, бочачкі). У аснове гэтага супастаўлення ляжыць думка аб перанясен-ні магічных уласцівасцей урадлівасці каравая на маладых. Як садзяць каравай, спяваюць: «Каравай рагоча ды да печы хоча, а печ рагоча — ка-раваю хоча. А прыпечак усміхаецца — караваю спадзяваецца. А лаўкі дры-гаюць, а вокны моргаюць». Такога характару песні змешчаны ў зборніках А. С. Дэмбавецкага і М. Федароўскага[5].

Пасадзіўшы каравай у печ, прысутныя выказваюць сваю радасць спе-вамі і скокамі з лапатай, а ў дзяжу, дзе было цеста, кладуць нажы або ставяць запаленыя свечкі. Дзяжу паднімаюць, кружацца і цалуюцца праз яе, што сімвалізуе каханне маладых. У каравайніц дзяжу выкупляе бацька або сват. За сваю работу каравайніцы просяць пачастунку: «Вазьмі, сват, баклагу, штоб пераганць смагу, схадзі па гарэлачку». Потым яны танцу-юць, пляскаюць у далоні і спяваюць жартоўныя і эратычныя песні, у якіх высмейваецца неахайнасць, гультайства каравайніц, што напіліся і пакралі цеста, заблудзіліся і дадому не папалі.

У час пячэння каравая яго пільнуе старшая каравайніца, а хлопцы, жартуючы, хочуць украсці яго.

Штоб нашага караваю
Ніхто не ўкраў
І нашых маладых
Ніхто не разлучыў.

Згодна з павер'ем, калі ўкрадуць нават кусочак каравая, у маладых не будзе дзяцей, а іх чакае разлука.

Каравай некалькі раз дастаюць з печы, змочваюць вадой, віном, півам,

---

[4] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 214.
[5] Дембовецкий А. С. Свадебные песни Могилевской губернии. Дополнение к 1-й книге «Опыт описания Могилевской губернии, к отделу «Свадебные песни». Могилев-на-Днепре, 1884; Federowski M. Lud białoruski. Pieśni frywolne i taneczne. Uzupełnienie do t. VI. Warszawa, 1960.

мажуць маслам, мёдам, яйкам, каб скарынка больш блішчэла і зрабілася мяккай.

Дух мне займае,
Час мяне пакрапіці
Студзёнай вадою...
Адваложаньку даці.

У песнях каравай, шышкі, печ, прыпечак просяць піць, бо напрацаваліся, стаміліся, сасмяглі. Ад вялікай гарачыні ў печы каравай «асмаліў сабе плечы» і просіць: «Дайце мне сыру, масла, каб маё цела згасла». У іншых песнях каравай не хоча выходзіць з печы, яму пагражаюць вострым мячом:

Штоб наш каравай спужаўся,
З печы на вечка сабраўся,
З вечкам у камору схаваўся.

Спечаны каравай кладуць на века дзяжы, пасыпанае хмелем або жытам, і пакрываюць белым абрусам. Сват або брат тройчы кружыцца з ім і спявае: «Караваю-раю-раю, я з табою пагуляю». Брат маладой кладзе крыху грошай каля каравая, якія застаюцца там да яго падзелу. Века з караваем ставяць на стол, а побач — сподак. Хто хацеў паглядзець на каравай і тым самым атрымаць частку яго цудадзейнай сілы, павінен быў пакласці на сподак некалькі манет:

Вы, прыяцелі, глядзіце
І па талеру кладзіце.
Па даляру, хоць па два,
Наша маладая не ўдава.

Каравай пякуць толькі для тых, хто першы раз уступае ў шлюб. Пасля выкупу каравая бацькам (братам або сватам) маладой брат або старшая каравайніца, прытанцоўваючы і спяваючы, нясуць яго ў клець або ў камору і кладуць на жыта, каб яно зрабілася ўрадлівым і перадало гэту ўласцівасць маладым:

Палажыце каравай у гаросе,
Каб нашым маладым павялося
. . . . . . . . . . . . . . . .
Да й паставім на жыце,
Дай, божа, маладзенькім
Добра пражыці.

Песням гэтага цыкла, як і іншым беларускім вясельным, характэрна наяўнасць канцоўкі-зычэння — шчырага пажадання маладым шчаслівага жыцця, багацця, дзяцей і г. д. Такі матыў часам складае змест усёй песні.

У песнях, прысвечаных караваю маладога, «каравай пытае ў перапечы, дзе дарожка да клеці». Яму раяць узяць «піражок, папірацца і да клеці дабірацца». Там, у клеці на палацях, ляжыць «сырок бяленькі — зяць

цешчы міленькі». Перад вынасам у клець каравай аздабляюць калінай, кветкамі яблыні, грушы, вішні, з каляровай паперы, барвенкам, рутай, мятай і г. д., а ў некаторых мясцовасцях гэта робяць на наступны дзень.

Ой, квяціце, квяціце,
Квяціце, станавіце,
Ой, чырвоны кveці,
Штоб любіліся дзеці.

Малады, едучы па маладую, вязе свой каравай. Па дарозе таксама спяваюць пра каравай, параўноўваюць яго з сонцам, месяцам:

Ой, сялом ідуць,
Сялом вецер вее.
Сялом вецер вее,
Збоку сонца грэе.

У іншых песнях бацька каравая — «ясны месячык», маці — «ясная зоранька», а, паколькі сам малады атаясамліваецца з караваем, «зоранька і месячык» — бацькі маладога.

Па прыездзе вясельнага поезда сват маладога ўваходзіць у сені да маладой, высока падняўшы над галавой каравай. Спяваючы, просяць вынесці каравай маладой.

Пакажыце, сваткі, каравай ваш,
Каравай ваш,
Мы забачым, ці такі, як наш,
Такі, як наш.
. . . . . . . . . .
Ці красён, ці вясёл?

Такім жа чынам сустракае яго сват маладой. Кожны з іх імкнецца падняць свой каравай вышэй, што сімвалізуе перавагу не толькі аднаго з маладых, але і іх радоў.

Ой, наш каравай вышшы,
Наш жанішок лепшы,
Наш і род дружшы.

Караваі маладых кладуць побач на века дзяжы, і сваты падымаюць яго ўверх, утвараючы як бы браму, пад якой цалуюцца сваякі маладых, а дружына маладога праз яе праходзіць у хату. Сваякі маладой спяваюць:

Чыя ж гэта радзіна
Пад караваем хадзіла?
То Сцяпана радзіна
Пад караваем хадзіла.

Гэты рытуал азначае, што маладыя злучыліся, а рады парадніліся. Каравай маладога дзеляць у нявесты перад яе ад'ездам да маладога, а яе

каравай — у хаце маладога ў канцы вяселля. Караваем надзяляюць кожнага вясельніка.

Калі мы каравай мясілі,
Тады мы радзіны не прасілі,
А будзем каравай дзяліці,
Будзем мы радзіну прасіці.

Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу трапнасць параўнання роду з коласам аўса, а членаў роду з мноствам зярнят.

Сейся, авёс ранні,
Прыбывай, родзе слаўны:
Дзядзюхны і цётухны,
Брацейкі і сястрыцы
Каравай дзяліці.

Экспазіцыя гэтай песні складае толькі адзін радок, а заключае ў сабе вельмі яркі і шырокі паэтычны малюнак. Такое ўдалае параўнанне тлумачыцца вострай назіральнасцю хлебароба над акаляючымі яго рэчамі, з якімі ён мае справу на працягу ўсяго жыцця. Падзел каравая лічыцца канцом вяселля. Таму маладая, не жадаючы расставацца са сваім дзявоцтвам, просіць бацьку (свата):

Не пачынай караваю,
Можа, я яшчэ пагуляю
На шырокай вуліцы
З харошымі хлопцамі,

на што хор маладога адказвае, што каравай так ужо доўга чакаў падзелу ў клеці, аж «зарасла сцежка травою, зялёнаю муравою». І далей хор спявае, што радня маладога малайцоў папросіць «гэту траву пакасіць, а дзевачак — у копачкі пакласці».

У копачкі пакладзём,
Сватнім канём аддадзём,
Маладзічку ад вас забяром.

Сам працэс падзелу каравая адбываецца па выпрацаванаму стагоддзямі рытуалу. Дзелячы каравай, старшы сват (стараста) сярэдзіну аддае маладым, «падэшву» (ніз каравая) музыкантам, астатнюю частку дзеліць паміж роднымі ў залежнасці ад ступені сваяцтва: першымі каравай атрымоўваюць бацькі, затым хросныя бацькі, родныя цёткі, дзядзькі і г. д. Рэшткі каравая раздаюць староннім, якія імкнуцца атрымаць хоць невялічкі кавалачак, каб затым пакласці яго ў сваё насеннае збожжа для атрымання, як лічылася, багатага ўраджаю.

Звычайна нават самага вялікага каравая не хапала на ўсіх.

Дружка, каравай падзеліш
І трое людзей загнявіш:

Адны — перадпячкане,
А другія — запячкане,
А трэція — за парогам.

Падзел каравая заканчваецца песнямі-падзякамі і заклёнамі-пажаданнямі.

Стараста вызвалёны —
Каравай падзялёны.
Дай жа, божа, добра лета,
Штоб радзіла нам жыта,
Ячмень і пшаніца
І ўсяка пашніца.

Каравайныя песні складаюць значную і характэрную частку беларускай вясельнай паэзіі. Яны суправаджаюць увесь абрад прыгатавання каравая, цесна звязаны з ім як функцыянальна, так і тэматычна. Паколькі каравай (хлеб) з'яўляецца вынікам працы земляроба, каравайныя песні шырока адлюстроўваюць працоўны і грамадскі быт беларускага селяніна, яго эстэтычныя ідэалы, народную міфалогію. Яны вызначаюцца лаканізмам, устойлівым зместам і формай. Каравайныя песні захавалі ў сабе шмат архаічных рыс. Асабліва гэта датычыцца заклінальных песень і формул, з дапамогай якіх у старажытныя часы чалавек імкнуўся ўздзейнічаць на звышнатуральныя сілы прыроды. Акрамя заклінальных, сярод каравайных вылучаюцца вялікія групы імператыўных і апавядальных песень. Пры дапамозе першых хор, згодна з існуючым этыкетам, кіруе абрадавым дзеяннем, а пры дапамозе другіх канстатуе, тлумачыць і каменціруе яго. Жартоўна-сатырычныя і велічальныя песні адлюстроўваюць этычныя нормы паводзін народа. Багацце і разнастайнасць жанравых тыпаў каравайных песень з'яўляюцца іх асноўнымі рысамі.

На Палессі, Гродзеншчыне і Беласточчыне разам з пячэннем каравая робяць яшчэ абрадавую «ёлку» (гільца, ельца, рызку), якая ўзыходзіць да веснавога культу расліннасці і сімвалізуе ўрадлівасць і дабрабыт земляроба. У вясельным абрадзе «ёлка» абазначае дзявоцтва, росквіт і яднанне маладой сям'і. У некаторых вясельных песнях апавядаецца, што «ёлачку» ўюць «з бярозы на сяле» і ўжо гатовую прыносяць у хату.

— Дзе ж вы ёлачку вілі?
— На сяле, на сяле.
— Дзе ж паставілі?
— На стале, на стале.

Тут «ёлачка» ўжо сімвалізуе самую маладую: «на стале стала — зазззяла, усіх родных сабрала».

Звычайна для віцця «ёлачкі» выкарыстоўваецца галінка елкі, ядлоўца, а на поўдні, дзе елка не расце,— галінка чарэшні, яблыні, вішні і г. д. Летам яе ўпрыгожвалі зелянінай і жывымі кветкамі (рутай, мятай, калінай), а зімой — штучнымі. Часам дабаўлялі і пер'е, стужкі.

З Магілёва купцы едуць,
Харошыя ленты вязуць
Да на нашу ёлачку кладуць.

Галінку ўтыкаюць у сярэдзіну спецыяльнай булкі хлеба, якая стаіць побач з караваем. «Ёлку» робяць як у маладой, так і ў маладога. Для яе віцця запрашаюць выключна маладых дзяўчат.

Не йдзіце, маладзіцы,
К нам ёлачку віці:
Саўём мы самі
З яснымі сакаламі,
З чорнымі галкамі,
З слічнымі паненкамі.

Прыступаючы да працы, дзяўчаты просяць благаславення ў бога, маці і бацькі «свайму дзіцяці ёлачку пачаці». Пасля таго як «ёлачку» саўюць і ўпрыгожаць, патрабуюць выкупу (пачастунку):

Да ці густа пшаніца на авіне?
Да ці ё гаспадар на дварэ?
Ці выкупіць ёлачку на стале?

Песні, якія выконваюцца ў час віцця «ёлачкі», у асноўным апавядальнага і імператыўнага характару з нязначным лірычным струменем. У іх каменціруецца працэс прыгатавання «ёлачкі» або гэта песні-запрашэнні ісці ў лес за ёю, упрыгожваць яе. На «ёлачцы» для маладой сват ад маладога вязе вяночак з руты або з мірта, звіты сястрой або сваячкай маладога (Гродзеншчына, Беласточчына). Пасля падзелу каравая ў канцы вяселля «ёлачку» разрываюць і кідаюць на ложак маладых. Сэнс гэтага абрадавага дзеяння забыты, але несумненна першапачаткова ён выконваў магічную функцыю плоднасці. На поўначы Беларусі, дзе абрад каравая, як мы ўжо адзначалі, вельмі кароткі і не суправаджаецца песнямі, «ёлачку» робяць у зборную суботу.

*Зборная субота*, асноўным рытуалам якой з'яўляецца віццё вянка,— гэта развітальны вечар маладой са сваімі сяброўкамі, апошні вечар яе дзявоцтва. Тэрмін, якім ён абазначаецца, мае вялікую колькасць варыянтаў: суборная субота, дзявічнік, паненскі вечар, вяночкі, дзявоцкія заручыны, заручыны, пірог, мёд, дзявічкі і інш. У маладога развітальны вечар больш кароткі і праходзіць менш урачыста, ды і адбываецца ён не паўсюдна.

Наогул абрад зборнай суботы бытуе не на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Як адметнай рысай вяселля паўднёвай часткі Беларусі з'яўляецца абрад каравая, так паўночнае беларускае вяселле вызначаецца развітасцю абраду зборнай суботы і багаццем яе песень. Адсутнічае зборная субота на частцы Магілёўшчыны, дзе нават не ведаюць яе назвы, і на Палессі, дзе сустракаем толькі фрагменты гэтага рытуалу, саміх песень зборнай суботы ў гэтых рэгіёнах не ведаюць.

З абрадам зборнай суботы звязан цэлы цыкл «зборных», або «суботніх», песень, вельмі сумных і жаласлівых, аб развітанні маладой з сяброўкамі, э бацькоўскім домам, яе вольным і бестурботным дзявочым жыццём. Змест іх вызначаецца драматызмам і глыбокім лірызмам, багаццем сімвалічных вобразаў. Песні зборнай суботы, выходзячы з іх зместу і функцыі ў вясельным абрадзе, падзяляюцца на наступныя групы: 1) маладая збірае дружак і просіць іх звіць вянок, 2) кветкі для вянка, 3) уюць вянок, 4) звілі вянок, 5) вянок коцяць па стале, 6) выкуп вянка, 7) маладая чакае вянка ад маладога, 8) малады прывозіць свой вянок, 9) нядоўга давядзецца маладой насіць вянок, 10) маладая развітваецца з дзявоцтвам, 11) як маладой называць бацькоў і радню маладога, 12) дружкі маладой робяць «ёлачку» і кветкі для дружыны маладога, 13) маладая частуе дружак.

Зборную суботу ў песнях называюць астатняй, бо яна з'яўляецца апошнім днём дзявоцтва маладой:

Астатня настала суботка,
Рана Ніначка пайшла на работку,
А з поўдня па сялу пахадзіла,
К сабе дзевачак папрасіла.

Дзяўчаты, запрошаныя віць вянок, просяць маладую паказаць ім «дарожку па кветкі» ў яе садок:

— Выйдзі, сястрыца, правадзі,
Нам дарожку пакажы.
— От вам, дзевачкі, дарожка
Пад вішнёвенькі садочак,
Пад зялёненькі гаёчак.

Пры кожным доме, дзе жыве дзяўчына, па існуючай на Беларусі традыцыі, абавязкова павінен быць «садок» (палісаднік, гародчык). Дзяўчына саджала ў сваім садочку ў асноўным тыя кветкі, якія былі неабходны для вянка,— руту, мяту, барвенак, мірт, каліну, ружу, кракос, лілею. Калі якіх-небудзь кветак не хапала ў садочку маладой, то яна ішла па іх з хлебам да суседзяў, якія давалі кветкі дзяўчыне толькі тады, калі яна была цнатлівай, бо ў адваротным выпадку, згодна э павер'ем, кветкі ў тым гародчыку ссохнуць. Наогул, сам садок маладой сімвалізаваў яе цнатлівасць, якую па традыцыі ахоўвалі брат і маці. Таму, калі дзяўчына страчвала яе, няслава была ў першую чаргу брату.

Няслава, брацятку, няслава:
На вянок руты не стала.
Не ўмеў садок гарадзіць,
Не сумеў руты пасадзіць.
Загарадзіў гароду куточак,
Пасадзіў рутачкі кусочак:
— Вот табе, сястрыца, вяночак.

У дзявочым садочку сярод іншых кветак рута з'яўлялася абавязковай раслінай, бо з руты рабілі маленькі вяночак — сімвал нявесты і яе дзявочай годнасці.

— Няслава, братка, няслава:
На вяночак руты не стала.
Давіце, дзевачкі, вянок ялоўцам,
Не быць табе, братка, малойцам.

У песнях зборнай суботы цэнтральнае месца адводзіцца руце, мяце, ружы, каліне, а таксама самому садочку. У кліматычных умовах Беларусі гэтыя кветкі патрабавалі догляду, каб узімку не памерзлі. Таму дзяўчына так старанна іх ахоўвала.

Былі лютыя марозы,
Не змарозілі мне рожы.
Пусцілі квеці пад клеці,
Зялёны лісток пад масток,
Маладзенькай Верачцы на вянок.

Акрамя вянчальнага вянка, з гэтых кветак вілі вянкі і насілі дзяўчаты ў час свят і розных гулянняў. Таму нявеста з такой журботай развітваецца са сваім садочкам і яго кветкамі, як са сваім дзявоцтвам. Яна «хадзіла, зёлачкі палівала, цяжка ўздыхала» і бедавала:

Мне вас болей не паліці,
З вас вяночак мне не звіці
Звіюць дзевачкі вяночак
З рутачкі, з ляleячкі,
З галубой паперачкі.

Падрыхтаваўшы кветкі для вянка, хор дзяўчат звяртаецца да маці, каб яна благаславіла віць вянок:

Благаславі, маці, вянкі віць
У гэтым доме вясёлым,
У сей сямейцы здаровай,
Год ад году вяселле,
Век ад веку здароўе.
Дай, божа, маладым добрую долю.

Такога роду песні па сваёй форме і зместу з'яўляюцца своеасаблівымі заклёнамі, якія часта заканчваюцца традыцыйнымі формуламі-пажаданнямі тыпу: «Дай, божа, маладым доўга жыць», «Дай, божа, усё дабро на два двары», «Дай, божа, добрай долі».

Благаславі, божа, вянок віць,
Нашым маладым доўга жыць:
Із суботы на нядзелю,
А з нядзелі на ўвесь век.

Даволі шмат песень-заклёнаў з формуламі-пажаданнямі выконвае хор дзяўчат у час «дзядзькавага (сватняга) пірага», дзе маладой жадаюць, «каб жыць павялося», «каб было жыці шчасліва», «каб было жыці салодка» і інш.

Акрамя песень-заклёнаў, у гэты час спяваюць прасякнутыя глыбокім жалем песні да маладой аб благаславенні ўсімі членамі сям'і віць вянок: «Маці благаслаўляіць — ручанькі заламляіць, татачка благаслаўляіць — ручачка ў ручках вяніць». Маладая просіць сяброўак віць вяночак «тугі, круты — віты, прыгожы, з трох кветак», каб такім жа моцным, неразлучным было жыццё маладых. Выбар «трох кветак» для вянка быў строга рэгламентаваны рытуалам: браліся тыя травы, якія лічыліся магічнымі (лекавымі).

Першая кветачка — ружачка,
Другая кветачка — міртачка,
Трэцяя кветачка — лілея,
Каб мая матуля родная памлела.

Кожная з кветак мае сваё сімвалічнае значэнне, звязанае з пэўнымі годнасцямі маладой. Так, ружа азначае каханне маладой, а лілея — яе дзявочасць. Нягледзячы на просьбу маладой звіць добры вянок, падружкі ўюць ёй вельмі калючы. І калі маладая спрабуе зняць яго, ён рукі коле.

Яленец коліць, галоўку клоніць да зямлі —
Адлучаецца млада Ганначка ад сям'і.

Калі ад дзявочага вяночка «дзевачкі галоўку паднімаюць, а вочкі весела пазіраюць», дык ад вясельнага вянка ў маладой «вочкі ўніз глядзяць, гарохам слёзы ляцяць». У сапраўднасці ж дзяўчына схіліла галоўку не таму, што церні колюць, як пяецца ў песні, а ад жалю і слёз. Наступны дыялог перадае гэты сумны настрой, у якім, па словах маладой, яна сама вінавата:

Ва ўсіх дзевачак з руты вяночак,
А ў маладой Зоські з пад'ялоўчыку.
— Ці табе, Зоська, красак не стала,
Ці часу не мела?
— Мне і красак стала,
І часу я мела,
А з пад'ялоўчыку я захацела.

Але песень, у якіх апавядаецца, што маладая выходзіць замуж па сваёй волі, мала. Пераважна маладая скардзіцца на свой род і маці, што аддаюць яе «недарослую», «маладую», «за нялюбага», «далёка», што «зрасціла невялікую косу», «не далі пагуляць яшчэ год», «без розуму ў чужыя людзі пусцілі» і г. д. Тут маладая выказвае пасіўны пратэст супраць насілля над яе воляй. Прычым пратэст гэты ўсвядомлены: маладая не верыць, што вінаваты ў гэтым таемныя сілы прыроды, зязюля, якая накукавала ёй яе жаночы лёс.

— Ой, да й на каго ж ты, Янка, жаль маеш?
Ці на мяне, зязюлю сівую,
Ці на сваю мамачку родную?
— Ой, да маю ж я жаль на ўвесь род,
А на родную мамачку наўпярод,
Што не дала пагуляць яшчэ год.

Значная група песень зборнай суботы апавядае аб тым, што маладой засталося нядоўга быць у маці («апошнюю ночку начуе»). Таму маці просіць дзяўчат не будзіць дачку, бо яна «скора пойдзе свякроўцы гадзіць», а «ў свякровачкі, то не ў матачкі — не даспіць». Песні зборнай суботы прасякнуты сумам маладой перад адыходам у чужую сям'ю, дзе ўжо не будзе таго прыволля, як у роднай маці. Вось чаму, сабраўшы сваіх сяброваk і сеўшы «вышэй за ўсіх», яна схіліла галоўку «ніжэй за ўсіх» і «думала думу больш за ўсіх», як вымушана будзе гадзіць чужой сям'і і як давядзецца свякроўку зваць мамкай, а

Яна тваёй мамаю не будзе,
Толькі сэрцу жаль будзе.
Але ад долі нікуды не ўцячэш,
Свякроўку мамкаю назавеш.

Дзяўчаты, «вянкі ўючы», раяць маладой паберагчы слёзы, бо

Будзеш плакаць у Іванькі жывучы,
Свёкравы парогі пераступая,
Свякрухі норавы перанімая.

Звіўшы вянок, дзяўчаты кладуць яго на пасыпаную жытам талерку і перадаюць маці. Хто-небудзь з блізкіх маладой — брат, бацька або сват — павінен «выкупіць» вянок. У некаторых мясцовасцях коцяць вянок па стале, яго прымае маці, і спяваюць:

Да пакацілі па стале,
Па новенькім абрусе.
Каціся, вяночак, каціся,
Мамцы ў ручкі валіся.

Маці адказвае, што вянок яна не можа ўзяць:

З жалю ручак не ўздыму,
А за слёзкамі не бачу,
Цябе, дачушка, утрачу.

Маладая просіць маці развіць вянок, каб ёй хоць яшчэ трошкі пабыць дома. Маці ж іэноў адказвае:

Мне, дачушка, вяночак не развіць,
Табе, дзіцятка, тут не жыць.

Звычайна маладой робяць два вянкі: адзін вялікі з розных кветак, зеляніны, стужак, пер'я, а другі маленькі з руты, які ўюць на пярсцёнку і прышпільваюць маладой да касы або «на плат белы», калі яна сядзіць на пасадзе. Акрамя вянка, у зборную суботу дзяўчаты робяць таксама кветкі з паперы, стужак і руты, прызначаныя для маладога і яго дружак. Кветкі прышпільваюць ім да шапак або кашуль, за што атрымліваюць выкуп.

У некаторых мясцовасцях на захадзе Беларусі сват маладога вёз маладой маленькі вяночак, які вісеў на «ёлачцы» (галінцы ядлоўца). У больш позні час малады купляў для маладой і вялікі вянок, пра які спяваецца многа песень. У іх вельмі дэталёва апісваецца, з чаго быў зроблен вянок («з чыстага шоўку, з белай паперы» і інш.), дзе быў набыты маладым:

Я ўчора на таргу бываў,
Я ж табе вяночак старгаваў,
Хоць не руцвяны — пярловы,
Ён табе да шлюбу гатовы.
А не гэтых садоў красачкі,
А не гэтых ільноў нітачкі —
А турэцкіх садоў красачкі,
Чырвоных ядвабаў нітачкі.

Гэты вянок сімвалізуе разлуку маладой з сяброўкамі, якія ўгаворваюць яе не браць вянок ад маладога, бо

Гэты вяночак атручаны,
Ад тваіх дзяўчат адлучаны.
. . . . . . . . . .
Гэты вяночак з розных цвет,
Завяжыць табе, маладой, свет.
. . . . . . . . . .
Гэты вяночак — ашука
І з айцом і маткай разлука.

У зборную суботу маладую садзяць на пасад (дзяжу або зэдлік, засланыя кажухом), расчэсваюць ёй валасы і ў апошні раз заплятаюць адну касу, якую расплятаюць у нядзелю.

Сягоння ў нас паненскі
Вечар настаець,
Паследні раз млода Манечка
Коску запляцець.

Замужам яна павінна будзе заплятаць валасы ў дзве касы або проста закручваць іх і хаваць пад чапец або хусту.

Пляці, пляці русу косу ў адзін рад —
У нядзелю рана пасадзяць цябе на пасад.

Вытокі абраду зборнай суботы і яе песень ляжаць у першабытным абрадзе ініцыяцыі, які непасрэдна звязан з цыклам беларускай веснавой

абраднасці, што пацвярджаецца і веснавой абраднасцю балгар, сербаў і харватаў. Веснавыя і вясельныя абрады і песні вызначаюцца агульнасцю іх аксесуараў — дрэўца («ёлачка»), вянок, букецік кветак, касцюм і інш.— і матрыманіяльна-эратычным зместам, звязаным з урадлівасцю і ідэяй размнажэння. Гэты абрад паходзіць з эпохі матрыярхату, калі равеснікі аднаго роду і аднаго палавога ўзросту складалі асобныя арганізацыі, і пераход іх членаў з адной узроставай групы ў другую суправаджаўся пэўнымі рытуаламі. Рэлікты гэтых рытуалаў, калі маладую «з дзявочага колачка вылучаюць», знаходзім у песнях зборнай суботы. Напрыклад: «Выйду з дзявочага раду і сяду ў жаночы рад», «з дзевачак выйшла», «з дзявочага стану выйшла» і г. д.

Паслухайце, дзеўкі, дзе галубка гудзе,
Там маладая Марына дзявоцтва здае:
— Наце вам, дзяўчаты, дзявоцтва мае.
. . . . . . . . . . .
Я пайду сяду ў жаночым раду,
У жаночым раду з жонкамі на параду.

У другой песні дзяўчаты пытаюць маладую: «Ты ад нас ідзеш, які нам выкуп (дар) прышлеш?» Маладая адказвае, што дасць ім «вяночка з расіцаю, мёд-віно з шкляніцаю» або: «Прышлю вяночак для дзевачак, для сваіх верных кумпаначак» ці: «У панядзелак з расою прышлю вяночак з красою». Вяночак як сімвал свайго дзявоцтва («красаты») яна аддае таму дзявочаму колу, з якога выходзіць.

Такія ж рэшткі старажытнага абраду выкупу маладой з дзявоцкай грамады знаходзім і ў рытуале развітальнага частавання яе сяброўак у суботу напярэдадні вяселля. Гэты пачастунак, які называецца «дзядзькавым», або «сватнім, пірагом», радзей — «мёдам», звычайна прывозіць ад маладога яго дзядзька (брат маці, які адыгрываў галоўную ролю ў сям'і эпохі матрыярхату).

Уступіла шэра вутачка на парог,
Папрасіла млода Рэнечка на пірог.
— Уступіла на які парог? — На хатні.
— Папрасіла на які пірог? — На сватні.

У час застолля дзяўчаты спяваюць шмат песень развітальнага характару, у якіх апавядаецца аб расставанні з «дзявоцкім пагуляннем, паненскім красаваннем, кавалерскім жартаваннем да й вяночкам руцвяным»:

Хоць і будзеш гуляці —
Не ў руцвяным вяночку,
Не ў дзявочым станочку.

Для маладой мінаецца ўсё — «дзявоцкія смехі, спевы, гулі, мыслі, вячоркі». Зборная субота заканчваецца развітаннем маладой са сваімі сяброўкамі «не на адну ноч, а на ўвесь век».

Ужо мы, дзеванька, ідзем,
Табе дабранач даем.
Не той дабранач, што на нач,
Да той дабранач, што на ўвесь век.

Песні зборнай суботы ў параўнанні з каравайнымі вызначаюцца глыбінёй лірызму, на аснове якога выпрацоўваецца своеасаблівая вобразная мова для выражэння псіхічнага стану герояў (маладой, яе маці, сябровак). Адной з прыкмет паэтычнасці мовы гэтых песень з'яўляецца сімволіка (вянок — сімвал дзявочасці, замужжа і інш., кветачкі-пралесачкі — дружачкі, белая бяроза — сама маладая і г. д.). Для песень зборнай суботы характэрны зачын з паўторамі тыпу «Зборная субота, зборная» і даволі часта — прыпеў: «Рута ж яе зялёна, у тры радочкі саджона». Асабліва характэрным для песень зборнай суботы з'яўляецца тыпалагічная блізкасць іх экспазіцый, якія складаюць цэлыя варыянтныя гнёзды. Гэта — «Зборная суботка настала, млода Манечка ўсіх падружачак сабрала», «Сягоння ў нас паненскі вечар настаець», «За сеньмі, сеньмі ў зялёнай руце», «За гарою рута, за гарою», «Ішла дзевачка ў поле, несла красачкі ў прыполе», «Ой, зелен, зелен садочак», «Падмецен садочак, падмецен, зялёнай рутай аплецен» і інш. За экспазіцыяй, якая мае ў асноўным апавядальны характар, ідзе развіты маналог, радзей — дыялог. Кампазіцыя разглядаемых песень будуецца нярэдка па прынцыпу вылучэння адзінкавага з раду падобных або блізкіх асоб, жывых істот, з'яў, дзеянняў, рэчаў і г. д. Найбольш пашыраным тут з'яўляецца прыём вылучэння галоўнага персанажа, яго стану і дзеяння і супрацьпастаўленне астатнім асобам гэтага роду. Так, у песнях спяваецца: «А ўсім дзевачкам па вяночку, адной Ганцы вянка нет», «Ішлі дзевачкі су палянкі. Ідучы, бегучы, краскі рвалі. Адна наша Хадорка па задочку йдзець і красак не рвець», «Пасадзіла дзевачак усіх у рад, сама села выша ўсіх, скланіла галоўку ніжа ўсіх» і г. д. З дапамогай такога ж кампазіцыйнага прыёму вылучэння пэўнага персанажа з раду іншых (не менш трох) асоб падаецца вобраз маладога. У песні апавядаецца, што руты (каліны) не хапіла на вянок. Раяць паслаць па руту (каліну) матульку, але яна стара, затым татульку, але ён «пайшоў, руты не найшоў». І толькі малады прыносіць руту: «Міленькі ідзець, рутаньку нясець». У іншых песнях маладая ўець вянок. Яе клічуць бацька, матка, падружкі, але яна не адзываецца. І толькі калі прыходзіць малады, яна ідзе за ім. Такая кампазіцыя ўласціва цэлай групе песень зборнай суботы і з іншымі сюжэтамі.

У суботу з вечара да позняй ночы з'язджаецца радня маладой: «З суботы на нядзелю — гадзіна, збіраецца Марыськіна радзіна». Маладая звяртаецца да зорак і месяца, каб яны асвятлялі дарогу яе роду.

Хадзіла Марыська па сваім двару,
Прасіла месяца, ясную зару:
— Зорачка ясная, пасвяці да дня,
Пакуль жа збярэцца ўся мая радня.

На поўначы і захадзе Беларусі зборная субота, як каравай на яе поўдні, з'яўляецца заканчэннем падрыхтоўчага перыяду і пачаткам вяселля.

Вяночак — да ўсё зеллейка,
Пачынайся ж да вяселлейка.
Вяночак — рута-мятачка,
Весяліся ж гэта хатачка.

Уласна вяселле пачынаецца ў нядзелю, якую часта называюць першым днём вяселля. Цэнтральным абрадам гэтага этапа з'яўляецца пасад.

З пачаткам вяселля звязаны наступныя тэматычныя групы песень: 1) зачынаюць вяселле, 2) прыбіраюць маладую, 3) расплятаюць і чэшуць касу маладой, 4) пара маладым на пасад, 5) брат вядзе маладую на пасад, 6) маладыя ідуць на пасад, 7) маладая сядзіць на пасадзе, 8) маладыя збіраюцца да шлюбу, 9) маладыя кланяюцца ўсім прысутным, 10) рыхтуюць коні ехаць да шлюбу, 11) ад'езд да шлюбу.

Калі сабраліся госці і прыйшлі музыкі, свацц累 ад імя маладой просяць «татачку выйсці на хатачку і пачаць вяселлейка, развесяліць усё племейка». І далей спяваюць:

Вам, музыкам, заіграці,
Пускай дружыну гуляці.
Дружына гуляць хоча,
Дзевачкі спяваць будуць,
А я ціханька пасяджу
І на дружыну пагляджу.

Музыкі пачынаюць іграць толькі пасля бацькавага благаславення пачаць вяселле. На Міншчыне вяселле часта адкрывае маці маладой рытуальным пачынальным танцам. На Гродзеншчыне гэты танец выконвае бацька разам з маці.

Вясёлы бацька, маці,
Чом не йдзеш танцаваці,
Госці разважаці?
І сам не йдзеш,
І гасцей не вядзеш.

У некаторых мясцовасцях вяселле пачынае, паводле звычаю, не бацька, а сват — дзядзька («вясельны бацька»).

Сватушка, сватушка,
Свадзебны бацюшка,
Благаславі етаму дзіцяці
Вяселле заіграці
І раду запеці.

Роля дзядзькі (брата маці) і брата маладой, якія ў вясельнай абраднасці займаюць галоўнае месца ў кіраванні справамі роду, узыходзіць да матрыярхату. Асабліва яна прыкметна на гэтым этапе вяселля. Як адзначае

М. М. Нікольскі, наогул «у аснове беларускай вясельнай абраднасці ляжаць звычаі і норавы мацярынскай эпохі»[6].

На Віцебшчыне, Смаленшчыне і месцамі на Гродзеншчыне вяселле пачыналася як у маладой, так і маладога так званым стаўбовым абрадам, які выконваў «стаўбовы пачынальнік» («запявала»), часцей за ўсё ім быў мужчына. Малады садзіцца за стол, а «стаўбовы», узяўшы ў рукі дзве булачкі, лезе на слуп або палок каля печы і просіць благаславення «раду спець, вяселле пачаць» або «Кузьму гукаць». Стукаючы булкамі адна аб другую, ён пяе «Кузьму-Дзям'яна», або «Раду», «Божу-божаньку», «Баслаў, божа», а прысутныя падхопліваюць. Часта «стаўбовы» выконвае яе рэчытатывам. Праспяваўшы сваю «песню», пачынальнік кідае булачкі дзецям, што тоўпяцца ля парога. Стаўбоваму падносяць выпіць і закусіць, частуюцца за сталом і ўсе вясельнікі. Пасля прамовы (песні) «стаўбовага» вяселле лічыцца пачатым. У некаторых мясцовасцях Смаленшчыны стаўбовы абрад з песняй «Ты, святы Кузьма-Дзям'ян» выконваўся ў час саджэння каравая ў печ[7].

Стаўбовы абрад адбываўся пры ўдзеле ўсяго роду і ўзнік ён, як мяркуе М. М. Нікольскі, «магчыма, на аснове родаабшчыннага быту, склаўся ў сваю гістарычную форму, якая дажыла да пачатку XX ст., на аснове сельскага абшчыннага быту з абшчынным землеўладаннем»[8].

У маладой стаўбовы абрад адбываўся перад або пасля прыезду жаніха, затым наступаў рытуал злучэння (звядзення) маладых — грамадзянскі шлюб. У стаўбовым абрадзе бачым таксама рэшткі культу продкаў і хатняга ачага, якія былі вельмі развіты і пашыраны на Беларусі, асабліва ў абрадзе вяселля. Аб гэтым сведчыць сядзенне стаўбовага каля печы, кіданне ім пірагоў у парог, зварот да духа продкаў — «божанькі» («жытняга божанькі», «жытняй бабы», «жыценя» і інш.), увасабленнем якога з'яўляецца жытні сноп, што ставяць на покуці, дзе садзяць маладых. На захадзе Беларусі гэта месца пасыпаюць зернем і спяваюць:

А ў нядзельку рана-параненьку,<br>
А ў нашага свата запахана ляда,<br>
Запахана ляда, засеяна жыта.<br>
Радзі, божа, жыта коласам каласіста,<br>
Коласам каласіста, ядром ядраніста.

Тут яскрава выступае факт радавой міфалогіі, якой вядомы вобраз багоў-продкаў, вытворцаў хлеба. М. М. Нікольскі лічыць, што «ў стаўбовай песні пад імем «маці прачыстай» выступае бабка-прамаці, абагатвора-

---

[6] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 51.

[7] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник, ч. II. СПб., 1893, с. 195—196.

[8] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 146.

ная роданачальніца мацярынскай эпохі».[9] Бог-продак першапачаткова лічыўся замацавальнікам шлюбнага саюзу. Паступова ўзнікла ўяўленне аб спецыяльных багах шлюбу, вядомых беларускай міфалогіі і вясельным песням, як Сулука і інш. У хрысціянскую эпоху назвы гэтых багоў былі заменены імёнамі персанажаў хрысціянскага пантэона — Іллі, Міколы, Ягора, Лукі, Уласа, Мікіты, Апанаса і інш. Як вядома, падобная замена адбылася таксама ў земляробчай міфалогіі і абраднасці. Матывы некаторых стаўбовых песень пераклікаюцца з матывамі валачобных песень, у якіх гавораць аб хрысціянскіх святых, замяніўшых язычніцкіх апекуноў земляробства.

У некаторых стаўбовых песнях гэтыя апекуны дапамагаюць сваім маладым:

Мікіта-папутчык конікаў братаіць,
Пад крыльцо падводзіць, младзенцаў садзіць.
Хванасій-Уласій стаіць у варот,
Варота атвараець, рабоў праважаець.

У стаўбовых песнях таксама захаваліся рудыменты старажытных народных уяўленняў, у якіх антрапамарфізаваліся з'явы прыроды. Так, Ілюшанька благаслаўляецца ў сваіх бацькоў, як

Благаслаўляўся ясен месяц
У свайго краснага соўнышка.

Продкі атаясамліваюцца з хмарай, што таксама назіраецца ў сірочых песнях, а маладая параўноўваецца з сонцам, тычынай, малады — з месяцам, хмелем і г. д. Кожная стаўбовая песня змяшчае ў сабе заклінальную формулу, накіраваную да Кузьмы-Дэям'яна, Лукі з просьбай скаваць вяселле «крэпка-накрэпка», «вечна-навечна», якое б «сонцам не рассушыла і дажджом не размачыла, і ветрам не развеяла», каб яно было «на чатыры доленькі (грані, раданькі)»: «у полі — ураджаю, у хлеве — прыплоду, сыноў-пахароў, дочак-жнеечак, доўгі век», і каб «хлеб-соль радзілася, жывачіна пладзілася, на свет да й на любоў, на добрае здароўе».

Першапачаткова гэтыя кароткія формулы-заклёны існавалі як самастойныя творы, у далейшым яны былі распеты народам і набылі эпічную форму. Яшчэ П. В. Шэйн заўважыў, што «стаўбовая песня рэльефна вылучаецца з усяго шырокага цыкла вясельных абрадавых песень..., заслугоўвае самай пільнай увагі як вучоных-этнографаў» [10], так і фальклорыстаў, мовазнаўцаў і гісторыкаў культуры.

Але далёка не ўсюды на Беларусі вяселле пачыналася стаўбовым абрадам. Акрамя бацькоўскага рытуальнага танца, аб якім мы ўжо гавары-

[9] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 152.

[10] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1890, с. 702.

лі, у шмат якіх месцах вяселле адкрывалася проста невялікімі пачынальнымі песнямі, дзе таксама выказваліся пажаданні маладым долі, шчасця і багацця:

Да чыя гэта хата
Калінаю вытыркана,
Малінаю высыпана?
А наўкола зеллейка,
Пасярод вяселлейка,
А наўкола сыр і масла,
Пасярод доля і шчасце.

Галінкі каліны, якімі ўпрыгожвалі хату перад вяселлем, сімвалізавалі прыгажосць, цнатлівасць, сталасць маладой. Вобраз каліны — адзін з самых распаўсюджаных і сэнсава шматгранных у беларускіх вясельных песнях і абрадах. Не менш распаўсюджаны ў іх вобразы руты, зелля (а таксама дрэў, зерня, насення і г. д.), якія здаўна з'яўляліся сімвалам плоднасці, урадлівасці і заможнасці.

Ой, у гародцы, на ярай рутцы
Рассцілаецца зелле,
А ў нашай маладзенькай Маруткі
Зачынаецца вяселле.

Народнае ўяўленне аб шчасці непарыўна звязвалася з плёнам у гаспадарцы і шматлікім патомствам. Бяздзетнасць у народзе лічылася самым вялікім няшчасцем. Таму ў заклінальных песнях бога-продка прасілі, каб урадлівасць сышла не толькі на нявестку, але і на жыта, грэчку і г. д.

У пачынальных вясельных песнях адлюстраваны таксама сацыяльна-эканамічнае становішча сялян, іх светапогляд і нават выпрацаваны стагоддзямі этыкет. Так, дачка пытае ў маці, якую радзіну дзе садзіць, бо звычай патрабаваў улічваць ступень роднасці, а з узмацненнем класавага грамадства бралася пад увагу і матэрыяльнае становішча вясельнікаў. Маці раіць: «Садзі ўсю радзіначку — і бедную і багатую, і далёкую і блізкую».

Багатую на куце садзяць,
Бедную — у запечак.
Багатым мёд-віно даюць,
А бедным — гарэлачку.
Багатая лі напітачку,
Бедная лі парадачку.
Багатая — піць-есці,
Бедная — раду весці.

У іншых жа песнях у першую чаргу ўлічваецца ступень сваяцкасці.

Пасля рытуальных пачынальных цырымоній бальшанкі (дружкі) вялі маладую ў клець, камору або ў суседнюю хату прыбраць яе ў новае святочнае адзенне, упрыгожыць вянком. У XX ст. маладую пачалі ўжо апра-

нацъ у доўгую белую сукенку і фату. І ў больш позніх песнях выразна заўважаецца замена «кашулькі з белага кужалю» сукенкай.

Вобраз нявесты ў песнях падаецца ў плане фальклорнай ідэалізацыі з выкарыстаннем шматлікіх мастацкіх сродкаў, уласцівых традыцыйнай народнай паэтыцы. Маладая да шлюбу прыбіраецца, «расою ўмываецца», «касою (кветкамі, лісточкамі, красою) уціраецца». Раса, якая сімвалізуе слёзы маладой, надзелена ўзмацняльнымі эпітэтамі «мокрая», «студзёная», «росенькая», а сама маладая параўноўваецца з усхваляванай пчолкай, з плаваючай качачкай.

Каля новага двара
То не пчолка гула,—
То Ніначка плакала.
З руты расу збірала,
Расою ўмывалася,
Касою ўціралася.

Адзенне ж маладой у песнях апісваецца ў рэалістычным плане. Яна просіць матку прынесці «шлюбны ўбор»: «руцвяны (ружовы) вяночак, залаты персцянёчак, ветачку, шаўковы (кованы) пояс, кашульку, вышывану, нову (маёву) сукенку, ядвабны каснік, ружовы істужкі, белы платочак». У час прыбірання нявесты дзяўчаты спяваюць многа песень элегічнага зместу, у якіх ад імя маладой папракаюцца бацькі, што так рана выдаюць яе замуж, што яна не паспела яшчэ знасіць у іх «маёвай сукенкі, лісавай шубы, тонкай кашулі, з руты вяночка, залатога пярсцёначка», якія ёй «справілі». Маці ў сваім адказе сцвярджае, што «знасіла ўжо і не адну», але «са сваёй злосці» яе «даброцці забыла».

Прыбіралі маладую ў каморы або ў суседней хаце праз вуліцу, «каб маладая не тужыла па дому». Яе садзілі на дзяжу або на ўслон, пакрыты вывернутым кажухом, валасы заплятаалі стужкамі (часам касу маладой расплятаалі). Цяпер часта зэдлік або дзяжу не пакрываюць кажухом, а кароткія валасы маладой перавязваюць стужкай. У знак удзячнасці маладая кладзе ў дзяжу дзяўчатам цукеркі. На галаву маладой бальшанкі надзяваюць вялікі вянок з папяровых кветак, упрыгожаны барвенкам, рутай, міртам, а маленькі вяночак прышпіляе да валасоў або фаты маці, калі маладая ўжо сядзіць на пасадзе. У гэты час спяваюць многа жаласлівых песень, а маладая плача.

*Пасад*, або пасаг, нявесты і жаніха належыць да адметнай беларускай вясельнай абраднасці. У іншых славянскіх народаў гэты абрад невыразны і пераважна зліваецца з іншымі абрадамі. У беларусаў ён з'яўляецца цэнтральнай і «важнейшай часткай вясельнага рытуалу» і «не знаходзіць сабе аналогій ні ў славянскім, ні наогул арыйскім вяселлі і можа быць, відаць, прызнаным арыгінальным праяўленнем бытавой дзейнасці беларускага народа» [11].

[11] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи, т. 1. Киев, 1909, с. 97, 103.

Абрад пасада прыкметна вылучаецца сярод іншых абрадаў беларускага вяселля, прыцягвае ўвагу сваім глыбокім псіхалагізмам, непаўторнасцю эмацыянальнага стану і настрою маладой і выконваецца з асаблівым эфектам і ўрачыстасцю. Але ўрачыстасць гэта сумная, бо маладая развітваецца з дзявоцтвам і роднымі. Рытуал робіць вялікае ўражанне нават на староннiх гледачоў, асабліва жанчын, якіх збіраецца многа. У гэты момант значна ўзрастае роля хору ў кіраванні ўсімі дзеяннямі, бо ўсхваляваныя сваякі і блізкія маладых маглі прапусціць які-небудзь важны рытуал.

Нявесту і жаніха саджалі на пасад толькі ў выпадку захавання імі цнатлівасці. Згодна з народным павер'ем, калі сесці не цнатлівым, то не будзе ні ў чым шчасця, а ўсяму роду «вялікая няслава». Таму маладая просіць унесці дзяжу:

Нясіце дзежачку хлебную,
Вядзіце мамачку родную.
. . . . . . . . . . .
Хлебная дзежачка для славы,
Родная мамачка, благаславі.

Пасад — старажытны і складаны абрад, які захаваў у сабе рэшткі першапачатковай рэлігіі славян (пакланенне хатняму ачагу, душам продкаў, галоўнаму богу — апекуну земляробства), а таксама «перажыткі ўзроставых ініцыяцый..., прымеркаваных к дасягненню паўналецця» [12].

Пасад фактычна ўключаў у сябе тры асобныя абрады. Гэта — уласна саджэнне на дзяжу, пакрытую кажухом, падстрыганне або падпальванне валасоў маладога і маладой і пакрыванне галавы маладой. Кожны з гэтых абрадаў меў сваё кола дзеянняў, павер'яў і прыкмет, якія належаць не толькі спецыяльна пасаднаму рытуалу, але паўтараюцца і на іншых этапах вяселля.

На працягу ўсяго беларускага вясельнага абраду адбываецца ўвогуле тры тыпы пасада (якія адрозніваюцца як па рытуалу, так і па значэнню): а) пасад маладой і пасад маладога перад шлюбам, б) іх сумесны пасад пасля шлюбу ў сувязі з абрадам злучэння (звядзення) маладых і в) пасад маладых у розныя часы — у час завівання, а таксама (у некаторых мясцовасцях) на заручыны і ў зборную суботу. У кожным асобным выпадку абрад пасада меў сваё значэнне. Перад шлюбам і ў зборную суботу пасад сімвалізуе прызнанне сталасці маладога і маладой і іх здольнасці як членаў грамадства стварыць новую сям'ю. Сумесны пасад у час заручын і пасля звядзення санкцыяніраваў шлюб у прысутнасці ўсяго роду. Пасад маладой пасля шлюбу ў час завівання абазначае змену маладой свайго дзявоцкага стану на жаночы. Усе пералічаныя тыпы пасада маюць не столькі магічнае, колькі сацыяльна-прававое значэнне. Пасад жаніха вядомы толькі ў беларускім вяселлі. Ва ўкраінскім вяселлі практыкаваўся толькі скарочаны абрад пасада нявесты, а ў рускім знаходзім «рэшткі па-

[12] Токарев С. А. Ранние формы религии и их развитие. М., 1964, с. 233.

добнага абраду і прытым не асноўнага, а дадатковага яго варыянта»[13]. Так, у рускіх маладых саджаюць не на дзяжу, пакрытую кажухом, а проста на кут у час застолля без выканання спецыяльных рытуалаў.

Пасад жаніха ў беларускім вяселлі адбываўся або ўвечары, напярэдадні шлюбу, або ўдзень, перад ад'ездам да маладой, каб ехаць да вянца. Сабраўшы дружыну, жаніх ішоў прасіць суседзяў яго «благаславіць на пасад пасадзіць і да шлюбу выправіць». Павячэраўшы, усе выходзяць з-за стала, ставяць стол пасярод хаты, дзе раней быў ачаг. Пачынаецца цырымонія пасада, усе дзеянні якога суправаджаюцца песнямі сваццяў і дружак. Брат маладога або яго нежанаты сваяк, трымаючыся за адзін край хустачкі ці ручніка, а другі край падаўшы жаніху, абводзяць яго тройчы па сонцу вакол стала. Жаніх тройчы кланяецца покуці, ушанаванне якой захавалася з часоў язычніцтва. Пазней пад уплывам хрысціянства на покуці размясціліся абразы святых і быў уведзен абрад благаславення і малітвеных зваротаў да іх. Маладога вакол стала суправаджала яго дружына («полк»).

Калясом сонейка з гары ідзе,
Калясом яснае з гары ідзе.
Полкам малады на пасад ідзе,
Полкам Івашка на пасад ідзе.

Ушанаванне сонца і месяца ў якасці божастваў — апекуноў шлюбу было характэрным для язычніцтва. Сімвалы нябесных свяціл і з'яў прыроды былі самымі раннімі ў абрадавай паэтыцы і ўзніклі на аснове міфалагічных уяўленняў, якія адносіліся да стадыі дагістарычнага перыяду жыцця славян. Звычайна месяц сімвалізаваў жаніха, сонца — нявесту, хоць нярэдка сустракаюцца адваротныя ўяўленні, як у прыведзенай вышэй песні. Падобна сонцу, якое ідзе па кругу з усходу на захад, ходзіць вакол стала і малады.

Сват, падняўшы чарку, тройчы паўтарае: «Просім ад бога ласкі, ад айца, ад маткі. Панове суседзі, панове прыяцелі, благаславіце маладому дзяжу ўнесці». Прысутныя адказваюць: «Божа, благаславі». Хор, які, па сутнасці, кіруе ўсім рытуалам пасада, напамінае ўдзельнікам вяселля аб самых дробных яго элементах. Маладога саджаюць на пакрытую вывернутым кажухом дзяжу, якую ставяць на посцілку яркага колеру, або саджаюць на падушку, якую кладуць на лаву на покуці.

Ляцелі гусі-лебедзі чэраз сад,
Клікнулі маладога Іванку на пасад.
— Засцель чырвоны колер, то пайду,
Палажы кажух, то й сяду.

Малады трымае ў гэты момант у руках поўны кубак вады, што сімвалізуе пладавітасць. Рытуал саджэння на дзяжу звязан з бытам земля-

[13] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 107.

робчай патрыярхальнай эпохі. Пакрыванне ж кажухом узыходзіць да старажытных татэмістычных вераванняў. Раней слалі на падлозе шкуру звера-татэма, лічачы, што малады, які сядзе на яе, атрымае сілу гэтай жывёлы і, такім чынам, забяспечыць сабе ўдачу. Рэшткі гэтых вераванняў дайшлі да нашых дзён у выглядзе віншавання маладых не голай рукой, а праз крысо ці насоўку. Брат тройчы абводзіць маладога вакол дзяжы і пад песню «Як жаніх сеў на пасад» саджае яго на дзяжу, звяртаючыся да грамады з просьбай благаславіць «маладому косы застрыгчы».

Падай, мацяньку, грабянца
Расчасаць косаньку да вянца...
Што ж нам сёння трэба? —
Свечачкі васкавыя,
Ножнічкі залатыя.
Свечачкі зажыгаюць,
Ножнічкі застрыгаюць.

Цырымонія заканчваецца лёгкім падпальваннем валасоў маладога накрыж (на ілбе, патыліцы і каля вушэй), якую пачынае брат і працягваюць па чарзе ўсе хлопцы. Валасы падпальвалі грамнічнай свечкай, агонь для якой выкрасалі:

Беце, беце белы камень,
Агню даставайце, маладых застрыгайце.

Да крэмня звярталіся са спецыяльнай песняй-заклінаннем, якая ўзыходзіць да старажытнай эпохі:

Ой, крамяню, крамяню,
Да дай нам агню
Свечы запаліці,
Маладых падсмаліці.

Рытуал застрыгання ў старажытнасці, відаць, не адносіўся да ўласна вясельнага абраду, а з'яўляўся папярэднім выпрабаваннем, якое давала права на ўступленне ў шлюб наогул. Абрад «пастрыгі» быў вядомы і іншым славянам, хоць цырымонія застрыгання жаніха як частка вясельнага абраду ў XIX ст. не назіраецца ў вяселлях рускіх і ўкраінцаў [14]. Першапачатковы сэнс застрыгання маладога захавала песня:

Пастрыгайся, Яначка,
З рабяцкага стану
Да ў мужыцкую славу.

Пасля абраду падпальвання валасоў малады кланяецца ўсім прысутным і бацькам, якія благаслаўляюць яго хлебам, соллю і абразом у дарогу да маладой.

---

[14] Здоровега Н. І. Нариси народної весільної обрядовості на Україні. Київ, 1974, с. 94.

Пасад нявесты перад вянцом толькі знешне мае пэўнае падабенства да пасада жаніха. Па сутнасці, гэта два самастойныя абрады, розныя па свайму паходжанню і функцыянальнаму прызначэнню. І праводзіўся пасад нявесты больш урачыста і з большай колькасцю песень.

Пасля таго як падружкі прыбралі нявесту, яе брат вядзе на пасад такім жа чынам, як і маладога. Усе дзеянні і атрыбуты пасада — абход вакол дзяжы, сама дзяжа, вывернуты кажух, хлеб, пірог, бярозавая галінка, вада — сродкі прадуцыруючай магіі, прызначаныя стымуляваць дастатак і патомства новай сям'і.

У некаторых раёнах Брэсцкай і Гродзенскай абласцей нявесту вялі саджаць на засланую кажухом лаву брат або родны дзядзька (матчын брат) за ручнік, прывязаны да рукі. Гэты доўгі ручнік, які адыгрываў важную абрадавую ролю, адмыслова ткала і вышывала сама нявеста.

Брат сястру на пасад вядзе,
Ручнікам сцежку мяце,
Шоўкам падмятае,
Золатам пасыпае.

Рытуал мяцення «сцежкі», «дарожкі», якому адводзіцца значнае месца ў беларускіх вясельных песнях,— сімвал светлай дарогі, шчаслівага лёсу, што жадае маладой яе радня. Сенцы, па якіх брат вядзе прыбраную маладую з каморы ў хату, высцілаюцца палатном, посцілкамі, палавіком. Гэта падкрэслівала ўрачыстасць моманту і, апрача таго, служыла адным са сродкаў зычэння маладой багацця.

Разслалася баваўніца па сенях,
Разслалася кружастая па новых,
Тады ведзена маладая Параска на пасад.

Ідучы праз жывы калідор людзей, маладая кланяецца ўсім, «і старым і малым, кожнаму да долу», бо «старэнькія будуць благаслаўляць, а малыя будуць шчасце даваць».

Пасад быў, бадай, самым драматычным момантам у вясельным рытуале. Маладая рыдае да знясілення, лье слёзы, «як боб», яны — «крупен жэмчуг», «цякуць ручаём», «разбіваюць камень» і г. д.

Дробныя слёзы пакаціліся
Да на зямлю палі,
Крэмні разбілі,
Пясок размылі.

На пасадзе брат расплятае касу маладой, расчэсвае яе і, аддаўшы стужкі-ўплёты малодшай сястры, падпальвае валасы маладой.

Мне брат косаньку расчасаў,
Дзе мае ўплёты падзяваў:

Чы на Дунай-мора папускаў,
Чы меншай сястрыцы дараваў?

У песнях пра расплятанне касы шмат пяецца пра ўплёты і грабянцы, якія атаясамліваюцца з самой касой. У выніку такога метанімічнага пераносу ўплёты сімвалізуюць дзяўчыну. Таму пакінутыя дома ўплёты маці «згорне, к сэрцу прыгорне». Расплятанне касы, важны элемент вясельнай абраднасці, праходзіла вельмі ўрачыста. Яно азначала пераход маладой дзяўчыны ў стан жанчыны. Рытуал расплятання і часання касы маладой выконваецца на працягу вяселля некалькі раз, пачынаючы з заручын, калі маладой першы раз распускалі валасы, і канчаючы завіваннем маладой пасля першай шлюбнай ночы. Маладая ходзіць з распушчанымі валасамі ад заручын да зборнай суботы. Гэты рытуал звязан з вялікай колькасцю глыбока лірычных і паэтычных песень, багатых сімволікай і глыбокім абрадавым зместам. Колькі пачуцця і перажывання ў радках аб каснічку «з залатых нітачак», які маладая пляла яшчэ маленькай пастушкай і страціла на заручынах:

Я яго спляла, валы пасучы,
Я яго згубіла, ваду несучы.

І гэтыя радкі змяшчаюць у сабе пэўную сімволіку вясельнага абраду: падаць сватам вады, тое што і згубіць каснічок,— гэта значыць згадзіцца выйсці замуж. Каса лічылася найвышэйшай адзнакай дзяўчыны, яе красы і цнатлівасці. Дзявочай касой ганарыўся ўвесь род дзяўчыны. Таму ён так усхвалявана развітваўся з красою маладой. У суботу позна вечарам або ў нядзелю раніцой, калі збярэцца ўся радня, маладая разам з дружкамі хадзіла вакол сваёй радні з заплеценымі яркім каснічком у адну касу валасамі і «красавалася», «лялеяла». Радня ж любавалася і шкадавала яе касы, развітвалася з ёю:

Няхай жа цяпер руса каса лялеіць,
Няхай жа цяпер твая радзінка жалеіць.

З распушчанымі валасамі маладая едзе да шлюбу. Расплятанне, застрыганне, падпальванне і выкуп касы азначала авалоданне ёю. Купіць дзявочую касу — тое ж, што і купіць самую дзяўчыну. Доўгія валасы ў старажытныя часы служылі адзнакай свабоды, а страта валасоў жанчынай значыла страту ёю волі. Замужняя жанчына не мела права насіць доўгіх валасоў. У народнай паэзіі страта касы азначае страту дзявоцтва, цнатлівасці, таму нявеста так шануе сваю касу. У песні спяваецца, што са стратай дзявоцкай касы «палавіна красы адбудзе». Плач дзяўчыны па касе мае глыбока паэтычны характар. Яна плача, бядуе па ёй таму, што «ўся краса, уся краса — каса».

Каса ў песнях антрапамарфізуецца: нявеста звяртаецца да яе з вялікай пяшчотай і любоўю, як да жывой істоты, расказвае, як многа гадоў яе старанна даглядала: мыла, часала, упрыгожвала «шаўковымі дарагімі

уплётамі», а «за адзін двень згубіла». Са стратай касы (г. зн. волі, дзявоцтва) дзяўчына губляе павагу, пашану, пяшчоту і ласку родных, бо «дзявічая краса — ўсяму роду прыкраса».

Жаль будзе, жаль да Лукерцы коскі,
Што не будзе яна ранепька ўставаці
Да косачкі часаці.
Хоць будзе часаці, ды не будзе плесці,
Хоць будзе плесці, ды не будзе чэсці.

Сваю касу дзяўчына шкадуе больш, чым бацькоў, разлука з ёю цяжэй за расставанне з маці, бацькам. Маладая думае, што бацькі прымушаюць яе «распусціць па белых плечыках русу косу (бел жэмчуг)» таму, што яна чымсьці разгневала іх. Але і бацькі шкадуюць касы, бо страта яе — разлука з дачкой. Брата свайго маладая называе «татарынам», «чужаніцаю» за тое, што ён «разарыў яе косаньку, разліў яе слёзаньку», і шле яму праклён, які ў народзе лічыцца самым страшным:

Раскінь, божа, братняе жыта
Па полю па каласочку,
Як ён растрапаў косаньку
Па плечыках па валасочку.

Не спадзяваючыся на лепшае будучае, дзяўчына даражыць мінулым. Яна не ведае, што будзе з яе касою (воляй, красою) пасля шлюбу: «Ці будзе такава, як у бацькі была». Апынуўшыся ў залежнасці ад мужа, маладая страчвае волю, красу, а з пераходам у чужую сям'ю яна вымушана будзе пазнаць «жаноцкае гора».

Песні аб расплятанні дзявоцкай касы вызначаюцца вялікай лірычнасцю, маюць форму ўнутранага маналога-разважання, які часта пераходзіць у дыялог. Тут у застылую ўмоўнасць абрадавага фальклору шырокай плынню ўліваецца суб'ектыўнае пачуццё галоўных персанажаў вясельнага дзеяння. У большасці песень пра касу лірызм і эмацыянальнасць бяруць верх над нормамі і патрабаваннямі рытуалу, якія пераважаюць у цыкле песень каравайных і «саджэння на кажух».

Заключнай часткай пасада з'яўляецца абрад пакрывання галавы маладой хустай, ручніком або куском палатна. У розных частках Беларусі выконваюцца асобныя элементы гэтага абраду. Так, у Барысаўскім раёне нявесту пакрываюць хустай, калі вядуць на пасад, у Віцебскай жа вобласці яна пакрываецца хустай у час галашэння. Маладая накрываецца хустай, калі едзе да шлюбу (Слуцкі, Віцебскі і іншыя раёны Беларусі). У XX ст. хуста замяняецца фатой. Пакрытая галава маладой — сімвал згоды на шлюб, адзнака замужняй жанчыны. Звычай забараняў замужняй жанчыне выходзіць на вуліцу з непакрытай галавой.

Пасля пасада бацькі, што сядзяць з абразом каля стала, на якім пакладзены хлеб-соль і авёс або хмель, благаслаўляюць маладую. Яна абхо-

дзіць усіх прысутных, атрымліваючы і ад іх благаславенне. Адначасова спяваецца многа жаласлівых развітальных песень.

Абрад благаславення з абразом узнік пад уплывам хрысціянства, замяніўшы існаваўшае раней пакланенне покуці: «Ой, куце, мой куце, бламяні ўшы існаваўшае раней пакланенне покуці: «Ой, куце, мой куце, благаславі мяне». Пасля благаславення дружкі (шаферкі) займаюць месцы побач з маладой. Малады ж, прыехаўшы па маладую, садзіцца са сваёй дружынай на лаўку па другі бок стала. У некаторых мясцовасцях у гэты час адбываюцца зводзіны, або шлюбавіны, але часцей шлюбавіны бываюць пасля вянчання. Песні, што спяваюцца ў гэты час, прыспешваюць маладых да шлюбу, бо «там іх ужо чакаюць, царкаўку адмыкаюць, алтары засцілаюць, ясны свечы запаляюць, вянцы раскладаюць». Або:

— Да не лён, мамачка, да не лён,
Да ўжо беленькі кужалец.
— Час табе, дзевачка, пад вянец.

Маладая з маладым і ўсім вясельным поездам выходзяць з хаты. Маладая садзіцца на першы воз з дзвюма сваімі дружкамі, а брат — за фурмана. Малады са сваімі дружкамі едзе на другім возе або вярхом на кані. Вупраж упрыгожваецца стужкамі, кветкамі, да дугі прывязваецца ручнік, на шыі каня — званочкі-шархуны. Маці маладой накрываецца вывернутым кажухом, бярэ ў прыпол аўса, у міску — вады, некалькі розгаў, запальвае грамнічную свечку і абходзіць вясельны поезд, кропячы ўсіх вадой і пасыпаючы аўсом, іншы раз даючы яго коням. У гэты час спяваюць:

Крапі, маці, коні,
Прасі бога волі,
Каб конь схадзіў,
Каб воз звазіў
Да божага дома.

На гэтым этапе вяселля большасць абрадавых дзеянняў і песень мелі магічнае значэнне і былі скіраваны на тое, каб шчаслівай была дарога. Тут асабліва вылучаецца вялікая колькасць песень пра коней. Некалі гэтыя песні, відаць, былі свайго роду заклінальнымі на бяспечную і шчаслівую дарогу. Сваццця спявае, звяртаючыся да каня:

Ой, коню, мой коню сівы,
Да ці чуешся на сілу,
Да ці давязеш княгіню?

Бацьку просяць, каб даў добрых, адмысловых коней, бо ад гэтага нібы залежала будучыня маладых; маладая павінна была ехаць на кабыле, а малады на жарабцы. Важным быў і выбар масці каня, бо кожная з іх мела пэўны сімвалічны сэнс. Так, конь «пляснівай» масці спрыяў шчаслівай дарозе:

Пад маладога — гнядога,
Пад брата яго — варанога,
Пад сватачак — пляснiва,
Штоб была дарога шчаслiва.

У песнях усхваляецца незвычайная, чарадзейная сiла коней:

Назад конi ступаюць,
Баравое зелле капаюць:
У баравым лясочку сядзела,
У залатым катлочку кiпела.

Яны здольны сваiмi капытамi змесцi з дарогi любых ворагаў, каб маладыя ўдачна даехалi да шлюбу.

Не стойце, варогi,
Да на маёй дароге,
Бо нашы конi строгi,
Да патопчуць вам ногi
Вострымi астрожкамi,
Залатымi падкоўкамi.

З вясельнымi коньмi было звязана i мноства павер'яў i прыкмет. Верылi, напрыклад, што калi ў дарозе парвецца збруя або паравернецца воз, нават калi спатыкнецца конь, то здарыцца няшчасце. Як вядома, конь на Беларусi меў вялiкае гаспадарчае значэнне, таму заняў такое вiднае месца ў народных абрадах, вераваннях i вуснай паэтычнай творчасцi.

Калi вясельны поезд выязджае з двара, вароты адчыняе бацька або мацi, якiя i благаслаўляюць дарогу да шлюбу («пераходзяць дарогу», «каб была дарога шчаслiва», «каб дарожка роўнай была, а дачушка дольнай была»). Сама прырода засцерагала маладых:

Месячык дарогу асвецiць,
Сам вецер варотачкi адчынiць.

У больш позні час «заступнiкамi» маладых выступаюць ужо хрысцiянскi бог i святыя.

Сваццi ад iмя мацi просяць:

Лiхiя людзi, сыдзiце,
Добрыя людзi, глядзiце,
Куды маё дзiця паедзе.

Пры выездзе з панадворка ў варотах запальваюць салому або хмель, выконваючы магiчны ачышчальны абрад. Праз агонь праязджае вясельны поезд. У гэты час спяваюць:

Да гары, хмелю, да гары,
Штоб не пераходзiлi дарогi варогi.

«Варогаў» запужвалі, прасілі, задобрывалі іх. Маладая ў час язды стаяла, пакуль не праедуць вёску, і ўсім сустрэчным кланялася, што з'яўлялася перасцерагаючым дзеяннем, а пазней — пажаданнем сваім сяброўкам хутчэй выходзіць замуж.

Пасадныя песні вызначаюцца невялікай колькасцю сюжэтаў пры багацці лакальных варыянтаў, якія ў асноўным адлюстроўваюць рытуальныя адрозненні. Значную колькасць іх складаюць імператыўныя песні, што тлумачыцца вялікай роллю хора ў кіраванні абрадавым дзеяннем. Кампазіцыя большасці пасадных песень складаецца з невялікай экспазіцыі часта сімвалічнага зместу і разгорнутага маналога, радзей — дыялога. Сярод пасадных вылучаецца цэлая група песень з двухчасткавай кампазіцыяй, пабудаванай на аснове псіхалагічнага паралелізму. Як і ў песнях абрадаў каравая і зборнай суботы, тут маецца група заклінальных песень, галоўнай мэтай якіх было пры дапамозе сілы слова падпарадкаваць чалавеку прыроду, лёс, долю, каб забяспечыць сямейны дабрабыт, шчаслівае і доўгае жыццё. Некалі яны складалі аснову ўсёй вясельнай паэзіі. У запісах XIX ст. заклінальныя песні не маюць ужо першаснага значэння, бо набылі бытавы характар і выконваюцца па традыцыі. Яны, па сутнасці, пазбаўлены міфалагічнасці і звязаны са стыхійна-матэрыялістычным светапоглядам сялян, іх рэалістычнымі патрэбамі і бытам.

Л. А. МАЛАШ

# ЗАПРАШАЮЦЬ РОД І СУСЕДАК НА КАРАВАЙ

## 1

Выйду на гуліцу,
Гляну на гараньку,
Гукну я да радочку:
— Радочку мой родненькі,
Прыбывай да мяне,
Да майго дзіцяці
Каравай рашчыняці.
Каравайнічкі прышлі,
Так як зораньк зышлі.
Каравайніцы красны,
Так як зораньк ясны.
Ой, харошы каравай, харошы,
Бо харошы каравайніцы гібалі.

## 2

Злятайцеся, сакалы,*
Да ўсе з чужой стараны.
Да збірайцеся род к роду,
Да старыя мужы, на параду,
Маладыя маладзічкі, к караваю.
Да старым мужам мёд-віно піць,
Маладым маладзічкам
Каравай учыняць.

## 3

Сабірайся, род, к роду,
А старыя мужы, на параду,
Маладыя маладзіцы, к караваю,

* Кожны радок, акрамя двух апошніх, паўтараецца.

Красныя дзевачкі, ка саду,
А старыя мужы раду радзіць,
Маладыя маладзіцы каравай мясіць,
Красныя дзевачкі песні пець.

4

Збірайся, родзе,
Да к беленькаму караваю,
Старыя бабы, для парадку,
Маладыя маладзіцы, песні пець,
Удалыя малойцы, каравай печ.

5

Із суботанькі на нядзельку гадзіна,
Сабралася ўся Любіна радзіна,
І знесла ж яна тры пуды мукі на каравай,—
Хваліць бога, вялікі будзе наш каравай,
Шчаслівa будзе наша Любачка.

Із суботанькі на нядзелю гадзіна,
Сабралася ўся Любіна радзіна,
І знесла яна тры гарцы солі на каравай,—
Хваліць бога, салон будзе наш каравай,
Шчасліва будзе наша Любачка.

Із суботы на нядзелю гадзіна,
Сабралася ўся Любіна радзіна,
І знесла яна тры капы яец на каравай,—
Хваліць бога, будзе красіў наш каравай,
Шчасліва будзе наша Любачка.

6

А ў пятніцу па вутрушку
Сабіралася Іванава ўся радня,
Прывазілі тры вазы суччa на каравай,
Тры пуды мукі на каравай,
Тры пуды солі на каравай,

Тры сотні яец на каравай.
Слава богу, рагат наш будзець каравай,
Слава богу, вялік наш будзець каравай,
Слава богу, маслен наш будзець каравай,
Слава богу, солен наш будзець каравай,
Слава богу, ясен наш будзець каравай.

## 7

Суботухна нядзелюхне гадзіла,
Сабралася Маланкіна радзіма —
Прыехала сем дзядзек ды на каравай,
Знязлі, звязлі сем пуд мукі ды на каравай —
Вялік будзець, прыгож будзець ды наш каравай.

Суботухна нядзелюхне гадзіла,
Сабралася Маланкіна радзіма —
Прыехала сем цётак ды на каравай,
Знязлі, звязлі сем пуд масла ды на каравай —
Маслен будзець, прыгож будзець ды наш каравай.

Суботухна нядзелюхне гадзіла,
Сабралася Маланкіна радзіма —
Прыехала сем братоў ды на каравай,
Знязлі, звязлі сем пуд солі ды на каравай—
Солен будзець, прыгож будзець ды наш каравай.

Суботухна нядзелюхне гадзіла,
Сабралася Маланкіна радзіма —
Прыехала сем сясцёр ды на каравай,
Знязлі, звязлі семсот яец ды на каравай —
Жовет будзець, прыгож будзець ды наш каравай.

## 8

А ў полі каліна, каліна,
Як сабралася Гапанькіна радзіна,
А прывязлі сем пуд мукі да на каравай.
Хвала табе, божа! *
Вялік будзець наш каравай.

* Першы радок рэфрэна паўтараецца.

А ў полі каліна, каліна,
Як сабралася Гапанькіна радзіна,
А прывязлі сем пуд масла да на каравай.
Хвала табе, божа!
Жыран будзець наш каравай.

А ў полі каліна, каліна,
Як сабралася Гапанькіна радзіна,
А прывязлі сем пуд солі да на каравай.
Хвала табе, божа!
Солен будзець наш каравай.

А ў полі каліна, каліна,
Як сабралася Гапанькіна радзіна,
А прывязлі сем коп яец да на каравай.
Хвала табе, божа!
Жовет будзець наш каравай.

## 9

Ой, золата, золата Марыся,
Ой, пахадзі па двару сціхенька.

Ой, пахадзі па двару сціхенька
І ўкланіся свайму баценьку знізенька.

А няхай баценька па сялу паходзіць,
А няхай ён жоначак папросіць.

А няхай жоначкі каравая ізробяць
І, зрабіўшы, ў красну печ усадзяць.

## 10

Ой, па сяле белы лебедзік лятае. (2)
То не лебедзік лятае —
То Ганначчын баценька
Каравайнічкі збірае.

Ой, па сяле бела лябёдка лятае. (2)
То не лябёдка лятае —

То яе маценька
Каравайнічкі збірае:

— Збірайцеся, каравайнічкі, да роду,
Давядзіце гэты божы дар да ладу.

## 11

Пад акошачкам да цяцеранька лятала,
Да дзевачкі маці каравайначкі склікала:
— Ой, жаночкі да суседачкі, прашу вас,
Каб вы прыйшлі на гадзіначку да нас.
Да прыдзіце на гадзіначку пасядзеці,
Да майму дзіцяці каравай згібаці.
Да ляцела цяцеранька да не ўчора — цяперанька,
Летучы гаварыла: — Зорначкі палічыла.
Ясны зорначкі, ясны,
Каравайначкі красны.

## 12

А чыя гэта маці,
А чыя гэта маці а па вуліцы ходзіць?

А па вуліцы ходзіць,
А па вуліцы ходзіць, а ў мяцеліцу бродзіць?

А ў мяцеліцу бродзіць,
А ў мяцеліцу бродзіць, а ў суседачак просіць:

— А суседачкі мае,
А суседачкі мае, а хадзіце ж вы ка мне.

А хадзіце ж вы ка мне,
А хадзіце ж вы ка мне, а к майму дзіцяці.

А к майму дзіцяці,
А к майму дзіцяці каравай учыняці.

Каравай учыняці,
Каравай учыняці ручкамі бяленькімі.

Ручкамі бяленькімі,
Ручкамі бяленькімі, персня́мі залаценькімі.

## 13

Чый жа то бацюхна
Па юланцы ходзіць,
Накрыж ручкі носіць
І суседачак просіць:
— Да суседачкі мае,
Да хадзіце ж вы ка мне,
К майму дзіцяці
Каравая згібаці,
З кветкамі, з перапёлкамі,
З дарагімі ды макоўкамі.

## 14

Благаславі, маці,
Свайму дзіцяці
Каравай начаці.
Чыя то матулька
Па вуліцы ходзіць,
Суседак просіць:
— Суседачкі мае,
Хадзіце ж вы ка мне,
К майму дзіцяці
Каравай начаці,
Ручкамі бяленькімі,
Персмямі залаценькімі.
На золаце качаці,
На серабры саджаці,
Шаўковым памялом месці,
Залатой лапаткай несці.

## 15

Чыя гэта мамка (2)
Па вуліцы ходзіць?

Па вуліцы ходзіць,
Суседачак просіць:

— Суседачкі мае, (2)
А хадзіце ж вы ка мне.

А не ка мне — (2)
К дзіцятачцы мае.

Пасабіце каравай учыняці,
Каравай учыняці.

Пасабілі учынілі,
Пасабіце й замясіці.

Пасабілі замясілі,
Пасабіце й ўсадзіці.

Пасабілі усадзілі,
Пасабіце і выняці.

## 16

— Ой, чыя жа то матанька
Каравайначкі збірае,
Шоўкавае зарукаўечка
За пояс затыкае?

— То, жаніхна, мая матанька
Каравайначкі збірае,
Шоўкавае зарукаўечка
За пояс затыкае.

## 17

Да чыя ж гэта маці,
Да па вуліцы ходзіць?

Да па вуліцы ходзіць,
Да суседачак просіць:

— Да суседачкі ж мае,
Да хадзіце ж ка мне.

Да хадзіце ж ка мне,
Да к майму дзіцяці.

А ў майго дзіцяці
Сам бог караваю меся,

Сам бог караваю меся,
Прачыстая свецяя.

Ангелы ваду носяць,
Прачыстую і бога просяць.

Прачыстую і бога просяць
За старога да за малога.

За старога да за малога,
За Федзечку за маладога.

## 18

Пайду я к Дунаю
Да стану для краю,
Стану думаці,
Стану гадаці,
Што за дзела рабіці:
З Дунаю ваду насіці
Да каравай мясіці,
Ручкамі, пярсцёнкамі
З маладымі да лябёдкамі.
Адарчын бацюхна
Да па сенечках ходзіць,
Да ў руках сітца носіць,
Да суседачак просіць:
— Да суседачкі ж мае,
Увайдзіце вы ка мне,
Да не ка мне — к майму караваю,
Каравай гібаці.
Першага да раджонага,
А другога да суджонага.
Раджонага да Адаркі,
Суджонага да Іванькі.

## 19

Тадорчына матка *
Па вуліцы ходзіць.

Па вуліцы ходзіць
Да суседачак просіць:

— Суседачкі мае,
А хадзіце ж вы ка мне.

А хадзіце ж вы ка мне,
А не ка мне — к дзіцяці.

А не ка мне — к дзіцяці
Каравай учыняці,

Ручкамі бяленькімі,
Пéрсценькамі залаценькімі.

Мілыя суседачкі,
Ці вы дзетак не маце?

Ці вы дзетак не маце,
Што ка мне не бываце?

Каб вы дзеткі мелі,
Каб вы ка мне прыспелі.

## 20

Марусін бацюхна
Да па юланьках ходзіць,
Да суседачак просіць:
— Да хадзіце ка мне,
Не ка мне —
А к майму дзіцяці
Каравай згібаці.
Хадзіце, згібемо
Да вяселле зрабемо,
Каравай ў печ усадземо.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 21

А чыё ж гэта жыта,
А чыё ж гэта жыта ў трубы павілося,
У трубы павілося, на каравай згадзілося?
А чыя гэта мамка,
А чыя гэта мамка чаравічкі стаптала,
Чаравічкі стаптала да па вуліцы ходзя?
А па вуліцы ходзя, а суседачак прося:
— А суседачкі мае,
А суседачкі мае, а хадзіце ж вы ка мне.
А хадзіце ж вы ка мне каравай учыняці,
Каравай учыняці, вяселле пачынаці.

## 22

Яначкава матка
Усю ночку не спала.

Усю ночку не спала —
Трое чаравічак стаптала.

Па суседзях хадзіла,
Суседзяў прасіла:

— Суседачкі мае,
Хадзіце ка мне,

Не ка мне —
К майму дзіцяці.

К майму дзіцяці
Каравай рашчыняці.

Каравай рашчыніць,
Дзіцё маё благаславіць.

Добраю часінаю,
Доляю шчасліваю.

## 23

Да чыя то матанька
Каравайнічкі збірае
Па месяцу і па зорачках,
І па яснаму сонцу?

## 24

Із-за горак-горачак,
Там свяціла зорачак.

Там не зорачак свяціла —
Там дзевачка хадзіла.

[Там дзевачка хадзіла,]
Дзевачак будзіла:

— Дзевачкі мае, сястрыцы,
Не спіце вы позненька.

Не спіце вы позненька,
Устаньце вы раненька.

Устаньце вы раненька,
Мне работу зрабіце.

Мне работу зрабіце —
Каравай замясіце.

Каравай замясіце,
Мне вяночак савіце.

Мне вяночак савіце,
Да шлюбу мяне выпраўце.

## 25

Па двару маладая Матронка пахаджала,
Свайго каравая не даглядала.
Паздароў майго баценька,

То мой каравай дагледжан будзе,
І замешан будзе, і згібян будзе.
Мае сястронкі пасаджаюць жонкі,
Мае сястронкі пасаджаюць зоркі,
А мае суседкі пасаджаюць кветкі.

## 26

Да чэраз поле да шырокае,
Да рана, рана.*
Да чэраз леты залаценькія
Да ішлі-прайшлі каравайнічкі,
А за імі малада дзевачка:
— Да ка мне, ка мне, каравайнічкі,
Ка мне на двор, к ойцу за стол.
Да дзевак лава, ойцу слава,
Ойцу слава, матцы лепшая.

## 27

Гарою высокаю,
Дарогаю шырокаю
Там ішлі каравайніцы
І пыталіся сяла
Да Таццянкінага двара:
— Там жа нам запачыці,
Каравай ізрабіці,
Бочку піва выпіці
І барылку гарэлкі.

## 28

Цераз поле да шырокае,
Цераз места да вялікае
Туды б ішлі каравайніцы,
А слуцкія мяшчаначкі,
Няслі муку пшанічную.
Яны ідучы да гаварылі:
— Станьмо мы да паслухаймо,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Дзе музычанькі іграюць,
Там яны каравай пякуць
Ручкамі да бяленькімі,
Перснямі залаценькімі.

## 29

Туды ішлі каравайначкі,*
Неслі муку да пшанічную.

Неслі муку да пшанічную,
Бралі ваду да крынічную.

— Станьмо, паслухаймо,
Дзе музычанькі граюць.

Дзе музычанькі граюць,
Малодачкі каравай маюць.

Да й у нашай дзевачкі
Да музычанькі граюць.

Да музычанькі граюць,
Малодачкі каравай маюць.

## 30

Цераз поле сцежачка, **
Цераз мора кладачка.
Туды ішла да прачыстая
Да пыталася сяла,
Янкавага двара:
— Казалі, у яго да надобейка —
Зіначкіна вяселлейка.
Я ж буду да парадніца,
Старшая каравайніца.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.
** Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

## 31

Ішлі, ішлі гуланькаю жоначкі,
Неслі, неслі па місцы мукі на каравай,—
Моцны божа, вялікі будзе каравай.

Ішлі, ішлі гуланькаю жоначкі,
Неслі, неслі па кварце масла на каравай,—
Моцны божа, смачны будзе каравай.

Ішлі, ішлі гуланькаю жоначкі,
Неслі, неслі па копе яец на каравай,—
Моцны божа, жоўты будзе каравай.

Ішлі, ішлі гуланькаю жоначкі,
Неслі, неслі па кварце солі на каравай,—
Моцны божа, салёны будзе каравай.

Ішлі, ішлі гуланькаю жоначкі,
Неслі, неслі па фунту цукру на каравай,—
Моцны божа, салодкі будзе каравай.

## 32

Ой, ішлі, ішлі каравайнічкі гарою,
Ой, няслі, няслі па місцы мукі з сабою.

Ой, ішлі, ішлі каравайнічкі гарою,
Ой, няслі, няслі па капе яец з сабою.

Ой, ішлі, ішлі каравайнічкі гарою,
Ой, няслі, няслі па пуду масла з сабою.

Ой, ішлі, ішлі каравайнічкі гарою,
Ой, няслі, няслі па гарцу аўса з сабою.

Ой, каб бог нам даў, каб каравай смачны,
Ой, каб бог нам даў, каб каравай вялікі.

## 33

Ой, караваю, караваю,
Мне да цябе кошту трэба:
Корац мукі пшанічнай,
Цэбар вады крынічнай,
Фаску масла яравых кароў,
Капу яец маладых курэй,
Гарнец солі лядовай,
Гарнец руты зялёнай,
Корч каліны чырвонай.

## 34

Караваю, божы дару,
Многа да цябе трэба:
Гарнец мукі пшанічнай,
Цэбар вады крынічнай.
Да нашае хаты, да нашае хаты
Трэба памяла і лапаты.

## 35

Каравайнічык-пачынальнічык,
Да не стой у запечку,
Да выйдзі на хатачку,
Да збяры грамадачку:
Жанок і дзевачак
І жалосных музычкаў.
Хай музычкі зайграюць,
Хай хлопчыкі пагуляюць,
А дзевачкі паспяваюць.

## 36

Каравайнічкі-пачынайнічкі,
Ды не стойце ў запечку,
Да выйдзіце на хатачку,
Да пачніце вяселлейка,
Вяселлейка вясёлае:

Дзевачкі — у песенькі,
Музычкі — у скрыпачкі,
А мамачка — ў мыселькі.

### 37

Караваю-мураваю,
Да не стой у запечку.

Да не стой у запечку,
Да выходзь на хатачку.

Цябе дзеўкі мясіць будуць,
А хлопчыкі садзіць будуць.

Да зачні вяселлейка,
Каб музычкі зайгралі.

Каб музычкі зайгралі,
Дзевачкі заспявалі.

Дзевачкі заспявалі,
Хлопчыкі пагулялі.

### 38

Караваю, караваю,
Вяселле зачынаю,
Дружыначку сабіраю.
Умная-разумная,
Слаўная, багатая.

### 39

Караваю, мой раю,
Вяселлейка зачынаю.
Вяселлейка вясёлае,
Прыборнае, харошае.

## 40

Караваю, мой раю,
Вяселле пачынаю.

З шчасцяю і з доляю,
Шчаслівай гадзінаю.

Шчаслівай гадзінаю,
З вялікай дружынаю.

## 41

Караваю, караваю,
Васэлюнька зачынаю.
Васэлюнька зачынаю,
Усіх гуляць запрашаю.

## 42

— Папытаймося, да жоначкі,
Волеччынага да бацюхна,
Ці павяліць нам, да каравайначкам,
Усей дом да весяліць.

— Весяліся, пчоланька,
Да на яблыньку летучы.
Весяліцеся, каравайначкі,
Усё й мёд і віно п'ючы.

Мы Волечку гадавалі,
Госпада бога прахалі,
А цяпер вялю і бласлаўлю
Усей дом да весяліць.

# РАШЧЫНЯЮЦЬ КАРАВАЙ

## 43

Тройца па царкве хадзіла,
Спаса за ручку вадзіла.
— Прачыстая маці,
Прыйдзі к нашай хаце
Вяселле зачынаці,
Каравай рашчыняці.

## 44

Пайду я к Дунаю,
Стану, падумаю,
Дзе мне ваду браці
Каравай рашчыняці.

[Дзе мне ваду браці
Каравай рашчыняці.]
Бяру ваду крынічную,
Сею муку пшанічную.

Сыйдзі, божа, з неба,
Цяпер ты нам трэба:
Памагаў замысляці —
Памажы рашчыняці.

## 45

Благаславіце, людзі,
Блізкія суседзі,
Гэтаму дзіцяці
Каравай учыняці,
Ручкамі бяленькімі,
Персцянямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі.

## 46

Дай жа божа, каб каравай
Харошы ззыйшоў,
Каб доля Тацянкі (Іванка)
Была добра.

## 47

Стаўце дзяжу цісовую,
Нясіце ваду крынічную,
Сыпце муку пшанічную.

## 48

Заслужлівы жоны,
Ставайце да каравая,
А вы, удавіцы,
Спаўняйце паўніцы.

## 49

Сабірайцеся, каравайначкі, усе пяць,
Сабраўшыся, сабе служачку найміце,
Наняўшы, па вінаград пашліце,
Той вінаград у каравай уліце.
Той каравай, як вінаград, зрасцецца,
А нашай маладой на добры лад кладзецца.

## 50

Стаяла святліца (2)
Вокнамі ды на вуліцу.
— Што ў той жа святліцы? (2)
— Маладыя маладзіцы,
Да ўсе харошыя каравайніцы.
Не шкода ж ім даці (3)
Каравай учыняці.

## 51

Старшая каравайніца —
Залатая зарукаўніца.
Не стыдна ж ей дацъ
Каравай учыняць.
Дай бог нашаму караваю
У дзяжы спор,
А ў печы падход.

## 52

Да ў нашае каравайніцы
Сінія запаясачкі,
Запаясачкі.

Сінія запаясачкі,
Чырвоныя закаўрашачкі,
Закаўрашачкі.

Чырвоныя закаўрашачкі.
Не шкода ёй даці
І даці.

Да не шкода ёй даці
Каравай учыняці,
Учыняці.

## 53

Караваю, мой раю,
Я ж цябе і ўчыняю.

Я ж цябе і ўчыняю,
Я ж цябе і мясіць буду.

Я ж цябе і мясіць буду,
З печы вынімаць буду.

З печы вынімаць буду
І вадой паліваць буду.

У дарогу ў шчаслівую
Па дзевачку па красную.

## 54

— Адкуль каравайніцы? *
Ці з Міра, ці з Нясвіжа?

Ці з Міра, ці з Нясвіжа,
Ці з Языльскага сяла?

Адкуль да ваду бралі
Каравай рашчынялі?

— Ні з Міра, ні з Нясвіжа,
Но з Языльскага сяла.

З калодзежа да ваду бралі
Каравай рашчынялі.

## 55

— Адкуль вы, каравайнічкі?
Ці з Міра, ці з Нясвіжа,
Ці з ксянжацкага двара,
Ці з задзвейскага сяла?
— Ні з Міра, ні з Нясвіжа,
[Ні з ксянжацкага двара,]
А з задзвейскага сяла.

## 56

— Да адкуль, каравайніцы,
Да адкуль, маладзенькія?
— Мы з сяла сялянaчкі,
А з месца мяшчаначкі.

## 57

— Адкуль, каравайніцы,*
Адкуль да ваду бралі?

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Адкуль да ваду бралі
Каравай рашчынялі?

Ці з Дунаю, ці з возера,
Ці з віннага да калодзезя?

— Ні з Дунаю, ні з возера,
А з віннага да калодзезя.

## 58

А ў нядзелечку рана,
А ў нядзелечку рана
Сіне мора калыхалася.
Сіне мора калыхалася,
Сіне мора калыхалася.
Там Марылька ваду брала,
Там Марылька ваду брала.
Там Марылька ваду брала
Каравай учыняці.
Каравай учыняці,
Каравай учыняці —
Сваіх гасцей частаваці.

## 59

Маладая Валечка
З сямі азёр ваду брала,
З сямі азёр ваду брала,
Каравай учыняла.
— А мой жа ты караваю,
Ды я ж цябе учыняю.
Каравай на прыпечку ўеццца,
Каравай на прыпечку ўеццца —
Аж у засланку б'еццца.

## 60

Паслухай, Ленaчка,
Што на небе зазвінела.

Што на небе зазвінела —
Янгелы да ключы бралі.

Янгелы да ключы бралі
Да дзяжу адмыкалі.

Да дзяжу адмыкалі,
Каравай учынялі.

Наш каравай, як калясо,
Учыніўся харашо.

Кругом караваю кветкі,
Каб любіліся дзеткі.

## 61

Я ж была каравайнічка,
Я ж умела каравай рашчыняць,
Ручкамі да бяленькімі,
Перснямі залаценькімі.

## 62

Да й узыйдзі, месячык, узыйдзі,
Да нашага караваю паглядзі.

Да нашага караваю паглядзі,
Ці хароша маладзіца рашчыняла.

Ці хароша маладзіца рашчыняла,
Ці хораша госпада памінала.

## 63

Ляцелі птушачкі з раю,
Пыталіся ў каравая:
— Ці ўжо каравай учынялі,
Чаму нас, птушачак, не ждалі?
Мы б к таму часу прыбылі,

Шчасце-долю прыняслі,
Шчаслівую гадзіну
Нашаму сужаньку-чалядзіну.

### 64

Ляцелі гусачкі кала гаю,*
Ой, пыталіся караваю:
— Ці ўжо вы каравай учынілі?
Вы ж ба нас, гусачак, папрасілі,
Мы ж ба вам каравай замясілі
Сваімі дзюбкамі войстрымі,
Сваімі лапкамі белымі.

### 65

Мы дзела зрабілі — *
Каравай учынілі.
Наш каравай, як у поясе,
Учыніўся хóраша.
Кругом караваю квеці,
Каб любіліся дзеці.

### 66

Біты караваю густа,
Пад белюхна хуста,
Месяцам акружоны,
Зорамі асадзоны.

Расці, расці, каравай,
Выша печы медзяной,
Выша столі залатой,
Выша Гандзі маладой.

---

* Кожны радок паўтараецца.

# СУКАЮЦЬ СВЕЧКІ

## 67

Ой, дзе пайшла ды дзе забарылася
Іванчына мамка?
Няхай пойдзе ў камору
Ды прынясе вошчачку
Ды Іванку на свечачку.

Ой, дзе пайшла ды дзе забарылася
Іванчына мамка?
Няхай пойдзе ў камору
Ды прынясе кужалёчку
Ды Іванку на свечачку.

## 68

Прачыстая маці
Хадзі к нам да хаты
Вошчачку таптаці,
Свечачак сукаці,
Сей дом асвяціці,
Каравай замясіці.

## 69

Паляціце, пчолачкі,*
Ў зялёныя дубровач[кі].

Прынясіце вошчачку
Марусьцы на свечач[ку].

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

### 70

Тры брацці свячу сукалі,
Тры зеллейка ірвалі.
Першае зелле з руты,
Другое зелле з мяты,
Трэцяе зелле — кведі,
Каб любіліся дзеці.
Тройца па цэркве хадзіла,
Іспаса за ручку вадзіла.
— Іспас, іспас, хадзі да нас
Свечачку сукаць.

### 71

Ой, я свечку сучу,
Тры зелля кладу:
Руту, мяту і барвінок
І ўсякія кветкі,
Штоб любіліся дзеткі.

## МЕСЯЦЬ КАРАВАЙ, ЁН ПАДЫХОДЗІЦЬ

### 72

Падыходзь, падыходзь, наш каравай,
З дубовай дзежкі дно выбівай.
Калі будзеш выбіваці,
То будзем цябе гібаці.

### 73

Не ўленкайся, дзеванька,
Твой каравай да падыходзіць,
З дзяжы века падымае —
Твая доля прыбывае.

### 74

А на небе месячык узышоў,
У дзяжы каравай падышоў.
А будзем мамачку прасіці,
Каб пазвала каравай мясіці.

### 75

На небе месячык узышоў,*
Да ў дзяжы каравай падышоў.
Да наверх вечачка падымае,
Ён к сабе маладак прызывае:
— Устаньце, маладкі, не сядзіце,
Да памыйце ручкі бяленька,
Замясіце каравай харашэнька,
Каб наш каравай красен быў,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Каб наш малады шчасен быў,
Каб быў здаровы, як вада,
Каб быў вясёлы, як вясна.

## 76

Пайду я да Дунаю,
Стану і падумаю,
Ой, як мне дзеяці:
Чы муку сеяці,
Чы ваду насіці?
Час каравай мясіці.

## 77

Благаславі, божа,
Благаславі, божа, прачыстая гожа
І ацец і маці караваю гіба(ці).

## 78

Ты сступ, божа, з неба,
Як нам цябе трэба.
Памагаў рашчыніць,
Памагай замясіць
Ручкамі бяленькімі,
Персьнямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі.

## 79

Тупы-тупы кола дзежачкі,
Радзі, божа, сыраежачкі.
Чы сыраежкі браці,
Чы каравай агібаці?

## 80

Чэраз новыя сені
Да й гусанькі ляцелі.
І летучы пыталі:
— Чы караваю згібалі?
— Яшчэ ж не згібалі:
Цётанькі дажыдалі.

## 81

Ой, быстрая рэчанька Дунаёк,
Прыбі, прыбі бочку мукі да краю
І к нашаму дзіўнаму караваю.

## 82

Ой, у малойчыка да ў дварэ
Да стаіць кузня малявана,
Да ў той кузні кавалі куюць
Да бачкі акоўваюць.
Бачэчкі да жалезныя,
Абручкі месяндзовыя,
А гваздзікі сталёвыя.

## 83

Не цячы, бочачка, не цячы,
Яшчэ наш каравай не ў пячы.*
Як будзем каравай саджаці,
Тады будзем бочачку качаці.

## 84

Увайдзі, Грысю,
Да ўлей вады ў місу:
Нам ручкі памыці
Да каравай мясіці.

*Кожны наступны радок паўтараецца.

## 85

Прыплынь, Дунаеньку,
Да нашага беражэньку,
Будзема рукі мыці,
Будзема каравай рабіці.
Ой, знаю я, знаю,
Што ў том караваю:
З сямёх крыніц вадзіца,
З сямёх поль пшаніца,
Сем коп яец
І дражджэй гарнец.
Наш пышны караваец!

## 86

Ой, знаці, знаці ды разгадаці,*
Што ў гэтым караваі

Тры вядры вады
Сцюдзёна-крынічнай,

Тры пуды мукі
Пітлёвай пшанічнай,

Тры паскі масла
Да ўсё рыжых кароў,

Тры капы яец
Да ўсё рабых курэй.

## 87

Не ўгадае.
Ніхто не ўгадае,
Што ў нашым караваі,
Караваі.
Што ў нашым караваі
А з сямі палёў пшаніца,
Пшаніца.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

А з сямі палёў пшаніца,
З сямі крыніц вадзіца,
Вадзіца.
З сямі крыніц вадзіца,
З сямі кароў масла,
Масла.
З сямі кароў масла,
А яец паўтараста.

## 88

Ох, знаю я, знаю,
Што ў гэтым караваю

Тры бочкі, тры бочкі
Да пшанічнай мукі,

А тры фаскі, тры фаскі
Дравічнага масла,

Тры капы, тры капы
Маладых курэй яец.

## 89

Каб я знала, каб я ведала,
Да што ў тваім каравал
Да тры вядры * крынічнай вадзіцы,
Да тры пуды пшанічнай мучыцы,
Да тры фаскі дравічага масла,
Да тры капы перапялічных яек,
Да два фунты загранічнае солі.

## 90

Ніхто не ўгадае,
Што ў нашым каравалі

* Першая палавіна кожнага наступнага радка паўтараецца тройчы.

Сямі азёр вада,
Васьмі прудоў мука,

Дзевяці кароў масла,
А яец паўтараста.

А пятая мая сіла
Каравай замясіла.

## 91

Ніхто таго не ўгадае (не знае),
Што ў нашым караваю
З трох нівак пшаніца,
З трох крыніц вадзіца,
Ярых пчолак мядок.

## 92

Ніхто не ўвазнае,
Што ў нашым караваі

З трох рэчак вадзіца,
З трох бочак мучыца,

З трох каровак масла,
Штоб було цела красна,

З трох курак яечка
Памазаць вяршэчка.

## 93

Ніхто не ўгадае,
Што ў нашым караваі
Сямі кулёў мука,
Сямі кароў масла,
Сямі крыніц вада.
Сямі курыц яйцы
У нашым каравайцы.

94

Дзіва нам дзіўное
Таму караваю дзіўному:

Мора вады ўнасілі,
Бочку мукі ўмясілі,

Сем коп яец пабілі,
Паску масла ўлажылі,

Тры фунты шапрану —
Можна есці хоць пану.

95

Ніхто не ўгадае,
Што ў нашым караваі

Лучыначка (свечачка) пагасілася,
Цяля з хвастом умясілася.

Цяля было нелапое,
Да на лета на другое.

Цяля было кұртатае,
Да на лета на пятае.

Цяля было бясхвостае,
Да на лета на шостае.

96

Да ў саду месяц свеціць,
Сам бог каравай месіць,
А прачыстая свеціць,
Ангелы ваду носяць,
Хрыстос палівае,
Хустай пакрывае.

## 97

Сам бог каравай месіць,
Прачыстая памагае,
Вадзіцы падлівае,
Мучыцы падсыпае.

## 98

У саду веџце вісіць,*
Сам бог каравай месіць,
Анёлы ваду носяць,
Прачыстую просяць:
— Прачыстая маці,
Хадзі нам памагаці
Каравай мясіці.

## 99

У саду голле вісіць,
Сам бог каравай месіць,
А прачыстая маці
Прышла памагаці,
А анёлы прышлі
На пагулянне,
А ўсе святыя людзі добрыя —
На спамаганне.

## 100

Ва саду голля вісяць,
Сам бог каравай месіць,
Прачыстая ваду носіць,
Анёлы муку сыплюць,
А панна Мар'я качае,
Месяц у печ саджае,
Зоранька закладае,
Сонейка запякае.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 101

У саду галлё вісіць,
Сам бог каравай месіць,
А анёлы прыступаюць,
Шышкамі прыкрываюць.

## 102

У дубовай дзежачцы каравай месяць,
Няўжо ж то каравай? — То божы дар,
То Ганначкіна заслужанька.

Заслужоны ў баценькі
Не за рочак, не за два,
Не за дзве нядзеленькі —
З малай дзяцінанькі.

## 103

Да на віру, да на вірочку,
Да на жоўтым пясочку
Да іграй, бобра, добра.
Да месяць каравай добра.
А месяць брат з сястрою,
А месяць з яснаю свячою.

## 104

А хто месіць каравай,
Таму, божа, памагай.
Братка месіць з сястрою
З швайцарскаю свячою.

## 105

Хто ж гіблe каравай,
Таму ж, божа, памагай.
Гіблe братка з сястрою

І з прачыстаю святою,
І з белымі ручкамі,
І персцянёчкамі з вочкамі.

## 106

Стукнула на дварэ,
Робяць каравай на стале.
— Рабі, брат з сястрою,
З трайчастаю свячою
Белымі ручанькамі,
Залатымі персямі.

## 107

Свеціць месяц на дварэ,
Гіблюць каравай на стале.
Гібле брат з сястрою
З прачыстаю святою.
— Удар, сястра, у далоні,
Каб далоні шчымелі,
Залатыя персні звінелі.

## 108

Да зялён явар на дварэ,
Гібаюць каравай на стале.
Да на явару пташачкі,
Каля караваю свашачкі.

## 109

Да зелен явар на дварэ,
А каравай гіблюць на стале.
А ў явара веце зялёнае,
А ў каравая — залатое.

## 110

Цяром рубяць пад акном,
Каравай гіблюць за сталом.
Каля цярома трасочкі,
Каля караваю дзявочкі,
Каля цярома дробныя,
Каля караваю родныя.

## 111

Каля месяца зорачкі,
Каля каравая жоначкі,
Каля месяца ясныя,
Каля каравая красныя.

## 112

А ў гародзе зелле,
За гародам вяселле.
А ў тым дому святы Ілля
Зачынае вяселле.

Сам бог па цэркве ходзіць,
Спаса за ручку водзіць
Да пытаецца:
— Хто той каравай лепіць?

Ці з сяла сялянка,
Ці з места мяшчанка,
Ці з Львова буймістрова?
Святая прачыстая!

— Ні з сяла сялянка,
Ні з места мяшчанка,
Но з Львова буймістрова.
Святая прачыстая!

## 113

Ніхто не ўгадае,
Хто ў нас каравай бгае.

З Магілёва — магілёвачка,
А з Быхава — быхавая,

А з Быхава — быхавая,
А з Азяран — вайтавая,

А з Азяран — вайтавая,
Тая у нас каравай бгае.

## 114

Да чыя то жана каравай мясіла?
Да сямі пастамі кішэні пашыла,
Усенька цеста ў кішэнь улажыла.

Сватня жана каравай мясіла
Да сямі пастамі кішэні пашыла,
Усенька цеста ў кішэнь улажыла.

## 115

Чыя ж гэта жынка
Каравай мясіла,
Шоўкам-золатам зарукавы шыла?
Якава жана каравай мясіла,
Шоўкам-золатам зарукавы шыла,
Шыла і шоўкам вышывала
І к гэтаму часу выгатаўляла.

## 116

Чыя жана каравай мясіла?
Шоўкам-золатам рукавы нашывала,
Кала каўнера белым паперам,
Кала забору чырвоным горам.

Сястра брату каравай б'е
Да беленькімі ручкамі,
Да беленькімі ручкамі,
Пярсцёнкамі з вочкамі.

## 117

А чые то сёстры
Белы каравай мясілі?
Залатое зарукаўейка
За пояс затыкалі.

Сужанькавы сёстры
Белы каравай мясілі,
Залатое зарукаўейка
За пояс затыкалі.

## 118

А чыя ж то жана
Каравай мясіла?
Сама яна румяна,
Шаўковыя рукава.

Вазьміце ж яе, пасадзіце ж яе
За цісовым сталом,
Частуйце яе, напойце яе
Салодкім мядом.

[Іванава] жана
Каравай мясіла.
Сама яна румяна,
Шаўковыя рукава.

Вазьміце ж яе, пасадзіце ж яе
За цісовым сталом,
Частуйце яе, паіце яе
Салодкім мядом.

## 119

Чыя б жана каравай мясіла,
Каравай мясіла да бога прасіла:
— Ой, дай жа, божа, што дзень — то свята,
Што нядзелю — то вяселле.

Каб я малада канапель не брала,
Каб маё лічанька да пылам не ўпала,
Да пылам не ўпала, не ўпылілася,
Каб я малада не ўтамілася.

## 120

Каравай мы мясілі,
А й суседзяў прасілі.
А мясілі, мясілі
Ножкамі і астрожкамі,
А ножкамі і астрожкамі,
Залатымі падкоўкамі.

## 121

Гарадзецкія жоны, дзе ў бога бывалі,
Харашо каравай сабгалі.
Каб наш каравай ясен быў,
А малады Іванька красен быў.

## 122

Каравайначкі-жоначкі
Харошы каравай гбалі:
У сярэдзіну месяц клалі,
Акола — зоранькамі,
Райскімі пташанькамі.

## 123

Жоначкі-каравайначкі,
Гбайце каравай, гбайце,
У кішэні не хавайце.
Наліха вам прышло —
У кішэні цеста 'зыйшло.

## 124

Хвалілася Хведарава жонка, (2)
Што ўмее каравай мясіць.

Аж яна салжыла, (2)
Караваю не ўмясіла.

## 125

Калі я каравай мясіла,
Тады я бога прасіла:
— Удайся, удайся, караваю,
Да пану богу на хвалу,
Добрым людзям на славу,
Нашым маладым на красу,
Нашай дзевачцы на красу.

## 126

Каравай мясілі,
Бога прасілі:
— Дай, божа, нашым маладым
Ды шчасця абаім.

## 127

Дунечка каравай мясіла
І ў бога долі прасіла:
— Ай, дай мне, божа, сем дзевяроў,
А заловушку — хоць адну.
А за дзевярамі паскачу,
За залоўкамі паплачу.

## 128

Манечка дзяжу мясіла,
У бога долі прасіла:
— А дай, божанька, сем дзевяроў,

А заловушкі ні адной.
За дзевярамі жыць будзеш,
За заловушкамі гніць будзеш.

## 129

А калі я каравай мясіла,*
Тады ў бога прасіла:
— Ой, дай, божа, сем дзевяроў,
А ніводнае залвіцы.

Ой, сем дзевяроў — красóта,
Й адна залва — сухота.
Ой, сем дзевяроў — піць падаваць,
Адна залва — ногі разуваць.

## 130

Да дзе пашоў, да дзе пашоў
Трахімаў ойчанька,
Узяўшы сокала ў рукі?

— Да пайдзі кала пшонкі,
Паганяй перапёлкі
З каласістай пшонкі.

— Шугі, шугі, перапёлкі,
З каласістай пшонкі,
Бо мне пшонкі многа трэба:

Да і на два караваі,
На райскія пташкі,
На сельскія дзеўкі.

## 131

— Малойчыкава маманька,
Не ўсядайся ў лавонькі.

* Кожны радок, акрамя двух апошніх, паўтарасцца.

Не ўсядайся ў лавонькі,
Не ўкідайся ў гадонькі.

Не ўкідайся ў гадонькі,
Да вазьмі сакала ў ручкі.

Да вазьмі сакала ў ручкі,
Да пайдзі кала пшоначкі.

Да пайдзі кала пшоначкі,
Пазганяй перапёлачкі.

— Шугі, шугі, перапёлачкі, на лугі,
Не псуйце мне пшоначкі.

Не псуйце мне пшоначкі,
Мне пшоначкі многа трэба:

Да на два караваі,
Да на два караваі,

На трэція — кветкі,
Каб злучыў бог нашыя дзеткі.

## 132

— Да дзеваччын войчанька,
Не ўсядайся ў лавачцы,
І да вазьмі сакала ў ручкі.

[І да вазьмі сакала ў ручкі]
Да пахадзі каля пшоначкі,
Да пагані перапёлачкі.

— Ой, кыш, кыш, перапёлачкі,
Не псуйце мае пшоначкі,
Бы мне пшонкі да многа трэба.

[Бы мне пшонкі да многа трэба:]
Да на тры да караваі
І на чацвёртыя — кветкі.

[І на чацвёртыя — кветкі,
І на чацвёртыя — кветкі.]
Злучы, божа, да мае дзеткі.

І адно дзіця да радзонае,
А другое дзіця суджонае.
Дзеванька — да радзонае,
Малойчык — да суджонае.

## 133

Годзі, годзі, пшаніца,
Сем лет у стозе стаяці,
Час цябе, пшаніца, пабраці
І з цябе каравая згібаці.

Пшанічка дробна, на ўсё спадобна:
Да пасеем — куркі грабуць,
На зыходзе гускі шчыплюць,
А з коласа каравай гіблюць.

## 134

Зарадзіла нам пшаніца, зарадзіла.
Цяпер мы тую пшаніцу сажнемо.

У густыя снапочкі звяжымо,
У вялікія копачкі зложымо.

Цяпер яе начнемо,
Аляксандры каравай спячэмо.

## 135

Ой ты, ярая пшанічанька,
Як на цябе аруць — валы равуць,
Як цябе сеюць — ветры веюць,
Як цябе валочуць — гусі шчыплюць,
А цяпер з цябе каравай гіблюць.

### 136

Яравая мая пшанічанька,
Як цябе сеюць — пташкі даўбуць,
Як ты ўзыходзіш — гусі шчыпаюць,
А цяпер — каравай рояць.

### 137

Ой ты, ярая пшанічанька,
Як цябе сеюць — вятры веюць,
І як валочаць да печы — мочаць,
А як дажынаюць, то спяваюць,
А цяпер з цябе каравай маюць.

### 138

А пшанічанька мая,
Непагоданька твая.

Ты ў полі стаяла,
Пагоданькі ждала.

Там цябе куркі шчыплюць,
А дзевачкі каравай гіблюць.

### 139

Выхвалялася дзеванька,
Што яе баценька багаты
Да сеяў пшаніцу ў навіне,
Выкладаў высокія сцірты на гумне —
Слаўны каравай у дзяжэ.

### 140

Да губатыя, да рылатыя
Каравай згібалі,
А ўдалыя да харошыя
За парогам стаялі.

## 141

Каравайначкі-пагібалначкі
Каравай згібалі,
А жанішка маладзенькага
У вочы не відалі.

— Уступі, уступі, малады жанішку,
У новую рыдзягоўку,
Пакланіся перад богам
І бацюхну тваяму.

І бацюхну тваяму,
І бацюхну тваяму
Да тым жоначкам-каравайначкам,
Што каравайчык згібалі.

## 142

Ляцелі гусачкі з-пад гаю,
А пыталіся ў нас караваю:
— Ці ўжо ж каравай замясілі?
Чаму ж нас, гусачак, не прасілі?
Мы б вам каравай замясілі
Сваімі дзюбкамі вострымі,
Сваімі лапкамі быстрымі.
На мора б у красачкі злятады,
Мы б вам каравай убралі,
Каб ваш каравай ясён быў,
Каб ваш жаніх вясёл быў.

## 143

Да ляцелі гусачкі з вырáю,*
Пыталіся ў малодак караваю:
— Ці ўжо ж каравай згібалі?
Мы б на мора па краскі злятады,
Мы ж бы вам каравай прыбралі,
Каб ваш каравай красен быў,

* Кожны радок паўтараецца.

Каб ваша дзевачка вясёла была.
Каб была вясёла, як вясна,
Каб была здарова, як вада,
Каб была багата, як зямля.
Да няма багачэй над зямлю,
Да няма здаравей над ваду,
Да няма весялей над вясну.

## 144

Хвала ж табе, божа,
Што мы дзела зрабілі —
Каравай замясілі
Ручкамі бяленькімі,
Персцямі залаценькімі.
Чатыры нажы ў дзяжы,
Пятая мая сіла
Каравай замясіла.
Да ўпала я ў дзела,
Цела маё ўпацела,
Гарэлачкі захацела,
Гарэлачкі-акавітачкі
Да для мяне, працавітачкі,
Гарэлачкі-лашчаначкі
Да для мяне, мяшчаначкі.

## 145

Дзякуй богу, што сваё дзела зрабіла
І каравай замясіла.

Для мяне, каравайначкі,—
Гарэліцы-пераварначкі.

Для мяне, працавітае,—
Гарэліцы мацавітае.

## 146

Падыходзь, караваю,
Вышай печы мураванай,
Вышай стоўба залатога,

Вышай Яся маладога.
Вышай печы крамяной,
Вышай маладонькі маладой.

## 147

На чыей гэта ніве
Жыта ў трубы павілося,
Жыта ў трубы павілося,
На каравай удалося?

На Пётрухнавай ніве
Жыта ў трубы павілося,
Жыта ў трубы павілося,
На каравай удалося.

А ў чыей гэта хаце
Каравай у дзяжы йграе,
Каравай у дзяжы йграе,
Века ўверх падымае?

У Пётрухнавай хаце
Каравай у дзяжы йграе,
Каравай у дзяжы йграе,
Века ўверх падымае.

## 148

На небе месячык вышаў,
У дзяжы каравай узышоў.
На дзяжы вечачка падымае,
Ён сабе каравайніц жадае.

— Дзе ж мае каравайніцы падзеліся?
На мяду гарэлкі напіліся,
На мяду гарэлкі напіліся,
Што на мяне, каравай, забыліся?

— Да мы мёд-гарэлку папілі,
А на цябе, каравай, не забылі.

# РЫХТУЮЦЬ ПЕЧ ДЛЯ КАРАВАЯ

## 149

А ў нашага свата баляць ногі і калені,
Што ў яго двары няма дроў ні палена.

## 150

Ой, у кузні кавалі куюць
Да новыя тапары робяць,
Дубовыя дровы сякуць
Да і ў печачкі кладуць.
Шаўковыя да дымы ідуць —
Там Марaччын каравай пякуць.

## 151

У суботу раненька
Забрэжцы ў печы паляць.

Забрэжцы ў печы паляць,
Шаўковыя дымы дымяць.

Шаўковы дымы дымяць.
Залатыя іскры лятуць.

Залатыя іскры лятуць —
Там Валечцы каравай пякуць.

Расці, расці, караваю,
Вышай печы мураванай,

Вышай печы мураванай
Для Валечкі маладой.

152

А ў нядзелю рана
Баяр'е ў печ'е запалілі
Да сырымі дравамі.
Ядвабныя дымы вышлі,
Як мне маладому
Каравай пяклі.

Наш каравай, як колеса,
Гусачкі, як кубачкі,
Як у лесе пралесачкі,
Як на небе зорачкі.

153

Затапілі баяры
Залатымі дравамі.
Шаўковыя дымы ідуць,
Дарагі тавар пякуць.

Ой, не ёсць то тавар —
То Манеччын каравай,
То Манеччын каравай,
То яе заслужанька.

Заслужыла ў баценькі
Не за рочак, не за два,
Не за рочак, не за два,
Не за дзве нядзелькі,

Не за дзве нядзелькі —
Яшчэ з малой дзяцінанькі.

154

Добрыя дровы ў печы паляцца,
Шаўковыя да дымы ідуць,
Ідуць.
Шаўковыя да дымы ідуць,
А ў Олечкі каравай пякуць,
Пякуць.
А ў Олечкі каравай пякуць.

## 155

Маладая Манечка,
Да твае пакосьнічкі
У двары агонь кладуць.

У двары агонь кладуць,
Манечцы каравай пякуць.

Яловыя дровы гараць,
Шаўковыя дымы дымяць.

Шаўковыя дымы дымяць,
Залатыя іскры скачуць.

## 156

Сабраліся каравайначкі ўсе пяць,
Сабраўшыся, сабе служачку нанялі,

Сабраўшыся, сабе служачку нанялі,
Да Бярэсця па віНаград паслалі.

Той вінаград пад каравай сцелецца,
Нашай Галечцы на доўгі век кладзецца.

## 157

Найстарэйшая каравайніца [няхай ідзе],
Няхай ідзе ў вішнёвы сад па вінаград.
На вінаградзе добра каравай ўдаецца,
Нашым дзецям на добры лад кладзецца.

## 158

Ой, пайду я,
Ой, пайду я пад ліпаньку,
Да й пайду я.

Да нашчыплю я,
Нашчыплю я ліпавага лісту,
Нашчыплю я.

Да й на тым лісту,
На тым лісту каравай спяку,
Да на тым лісту.

— Расці, каравай,
Ой, да расці, каравай, як ліпанька,
Расці каравай.

А голлечка,
Ой, голлечка, як дубнечка,
Ой, голлечка.

А шышачкі,
Ой, шышачкі, як зорачкі,
Ой, шышачкі.

## 159

Падайце залату лапату,
Засцяліце кляновы ліст,
Засцяліце кляновы ліст
Да саджайце каравай у печ.

Наш каравай, да як калясо,
Красачкі, да як кубачкі,
Як у лесе пралесачкі,
Як на небе ясны звёздачкі.

Падыходзь, падыходзь, караваю,
Да вышай печы мураванай,
Вышай сталба залатога,
Вышай князя маладога.

## 160

А дзе тая гаспадыня,
Што ў шубе?
Няхай стараецца да каравая
Кацюбы.

А дзе тая гаспадыня,
Што ў хаце?
Няхай яна стараецца да каравая
Лапаты.

Дзе Марысіны браццяʔ
Няхай кітаяў шукаюць
І ў печы вымятаюць.

Жоначкі-каравайначкі,
Час каравай садзіць.

## 161

О, дзе тая гаспадыня, што ў хацеʔ
Няхай шукае да каравая лапаты.

Дзе тая гаспадыня, што былаʔ
Няхай шукае да каравая памяла.

Дзе тая гаспадыня, што ў шубеʔ
Няхай шукае да каравая кацюбы.

Каторая зіргатая, то ў печ заглядаці.
Каторая тоўстая, то печ затуляці.

## 162

Дзе тая гаспадыня, што ў хацеʔ
Няхай глядзіць памельніка і лапаты —
Ужо час і пара каравай саджаці.
Вазьміце меч і рубайце печ,
Каб было добра і раскошна,
Каб каравай саджаці.

## 163

Ой, дайце нам свечкі,
Пайдземо да рэчкі
Памяла мачыці
Каравай садзіці.

## 164

Мяціце, хлопцы, чыста печ,
Каб вам бароды не галілі,
Каб вам бароды не галілі,
Каб вам вусоў не смалілі.

## 165

Гаварыла памяло, гаварыла,*
Што мяне вяселле згубіла,
Жаркія печы метучы,
Густыя караваі пекучы.

* Кожны радок паўтараецца.

# РОБЯЦЬ КАРАВАЙ І ШЫШКІ

## 166

На цісовым стале каравай гіблюць,
У канец стала Іванька стаіць.
Іванька стаіць, жоначак просіць:
— Вы, жоначкі-каравайначкі,
Рабіце каравай, та не мальце.
Мая радзіна бардзо вяліка,
А сяло, як места,
Каб было радзіны падзяліціся,
Нам, маладзенькім, падзівіціся.

## 167

Каравайнае цесцечка
Зліпала ўмесцечка.
Не само яно зліпала —
Хораша згібала.

А Кастульчына племянічка
З'язджалася ўмесцечка.
Не само яно з'язджала,
Калі хораша зазвала.

## 168

Каравайнае цеста,
Зліпайся ты ўместа.
Калі ты не злепішся,
То мы цябе палепім.

Палепім на пташачкі
Да падзелім на дзевачкі.
На пташачкі райскія,
На дзевачкі сельскія.

## 169

Пшанічнае цеста
Ляцела цераз места,
Села сабе на рыначку
У зялёным барвіначку.
Мы тое цеста злавілі,
Каравай зрабілі.

## 170

Караваю-раю, цесцечка,
Чатыры калені ўмесцечка.

Караваю-раю вялікі рос,
Малады Ясь да Мані ракам поўз.

## 171

Шышка з лускі,
Каравай з грэцкі —
Усё па-шляхецкі.

## 172

На дварэ месяц свеціць,
А ў хаце качкі лепяць.
Качкі з лускі, каравай з мякіны,
Бо так яго свахі зрабілі.

## 173

Колькі на небе зорачак —
То на караваі шышачак,
Як на небе ясныя —
Так на караваі красныя.

## 174

Ай, на нашым каравai
Усе птушачкі, што ў раі.
А на наш каравай прыляталі,
Райскія песенькі спявалі.

## 175

Паехаў малады да места,
Прывёз перчыку да цеста.
Будземо пташачкі ляпіці,
З перчаньку вочкі рабіці.

## 176

Ой, жаночкі мае, красачкі,
Папячыце нам ясачкі.
Нашы ручкі забалелі,
Караваю захацелі.

## 177

З Магілёва купцы едуць,
Залаты абруч вязуць.

Залаты абруч вязуць,
На наш каравай кладуць.

Сем фунтаў шафрану —
К караваю прыправу.

Яшчэ ж к таму дражджэй,
Каб хадзіў каравай барджэй.

Тры сыры скрышылі,
Каравай пакрасілі.

Нам гарэлку давалі,
Сырамі частавалі.

## 178

З горада купцы едуць,
Залаты абруч вязуць
Ды на наш каравай кладуць.
А на нашы шышачкі —
Залатыя шпілечкі.

## 179

Ішоў каравай па масту,
Па масту.

Сустрэў каравайка старасту,
Старасту.

— Хто ж табе, каравайка, шышкі ляпіў,
Шышкі ляпіў?

— Ой, ляпілі шышачкі дзевачкі,
Дзевачкі.

Ой, спявалі песенькі жоначкі,
Жоначкі.

## 180

Да спары, божа,
Да нашаму караваю.
Да злучы ж, божа,
Да нашу парачку —
Івана з Марыськай.

## 181

Харошы каравай, харошы,
Бо харошыя каравай гібалі.

*Другія дзяўчаты адказваюць:*

Ой, пузаты каравай, пузаты,
Бо пузатыя каравайнічкі гібалі.

## 182

Наш каравай харошы, харошы,
Бо харошыя каравайначкі гібалі.

Бо харошыя каравайначкі гібалі,
Пад каравай срэбра-злота сыпалі.

## 183

Хваліцца бога, што мы дзела зрабілі,
Каравай пакачалі,
Гарэлачкі ды не кушалі.
Гарэлачкі ды налівачкі
Ды для мяне, працавітачкі.

## САДЗЯЦЬ КАРАВАЙ У ПЕЧ

### 184

А лаўкі дрыгаюць,
А вокны моргаюць.
Печ наша рагоча,
А бо караваю хоча.

### 185

Ой, печка рагоча —
Караваеньку хоча,
А прыпечак свішча —
Караваеньку ішча.

### 186

Печ наша рагоча —
Караваю хоча,
А прыпечак заліваецца —
Караваю спадзяваецца.

### 187

Стогне печка, стогне,
А прыпечак рагоча,
А прыпечак рагоча —
Сабе шышачак хоча.

### 188

Ззяе печка, ззяе —
Караваю чакае.
Прыпечак рагоча —
Караваю хоча.

## 189

Прыпечак сакоча, (2)
А печ караваю хоча.

А вы, панове, знайце, (2)
К караваю паспяшайце.

## 190

Гожа печка, гожа,
Як чырвона рожа.
Не жаль караваю даці,
Бо ўмее запякаці.

## 191

Каравай рагоча —
Ён да печы хоча.
Вы, малойцы, дбайце,
Сосну зрубайце,
Загнет закладайце.

## 192

Кухарка-матка,
Завіхайся гладка.
Каравай рагоча
Да да печы хоча,
А печ рагоча —
Каравай хоча.

## 193

Саступ, божа, з неба,
Як нам цяпер трэба:
Памагаў замясіць,
Памажы ж і ўсадзіць

Ручкамі бяленькімі,
Перснямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі.

## 194

Зляталіся пташачкі
На чырвону каліну,
На салодку маліну.
— Не сядзіце, пташачкі, не сядзіце,
Вазьміце малiначку абламіце.
[Вазьміце маліначку абламіце,]
Сабе ягадкі бярыце.

Да збірайся, род, к роду,
Да старыя бабкі, на параду,
Маладыя малодачкі, к караваю.
— Не сядзіце, малодачкі, не сядзіце,
Вазьміце каравай усадзіце.
[Вазьміце каравай усадзіце,]
Сабе гарэлачкі зарабіце.

## 195

Хадзіла Олечка па двору,
Кланялася да бацьку да долу:

— Да паедзь, мой бацюхна, да бору,
Да прывязі сасонку з сабою.

Да стаяла сасонка кілька лет,
Да сячыце, рубайце да на загнет.

Да сячыце, рубайце да на загнет,
Каб наш загнецік ясны быў.

Каб наш загнецік ясны быў,
Каб наша Олечка багата была.

Каб така багата, як зямля,
Каб така здарова, як вада.

Каб така здарова, як вада,
Каб така вясёла, як вясна.

Каб така вясёла, як вясна,
Каб така чырвона, як вішня.

## 196

Ох вы, хлопцы,
Мілыя малойцы,
Пабярыце тапорцы
Да ідзіце ў лясок.
Адрубіце ясянок
А й вязіце ў гумно,
Пасячыце на загнет,
Каб наш каравай ясен быў,
Каб наш Сямёнка красен быў.
А ясен каравай, ясненек,
А красен Сямёнка, красненек.

## 197

Стаяла сосанька кілька лет,
Рубайце яе на загнет,
Каб нам каравай чырвоны быў
На ўсю печ,
А малода Матронка весела
На ўвесь век.

## 198

Стаяла бяроза сорак лет,*
Рубіце яе пад загнет,
Пякіце на ёй каравай,
Штоб наш каравай красен быў,
Штоб наш Васечка весел быў.
Красен каравай шышкамі,
Весел Васечка з дружкамі,
Усё з маладзенькімі свашачкамі.

---

* Кожны радок паўтарaецца.

### 199

Ляжала сасонка колькі лет,
Рубайце яе на загнет,

Штоб наш загнет ясен быў,
Штоб наш каравай красен быў,

Ой, красен каравай шышкамі,
Ой, ясна Адарка дружкамі.

### 200

Стаяла сасна сорак лет,
Валіце ж яе пад загнет.
Ламайце суччайка і кладзіце ў печ,
А на тым суччайку будзем каравай печ.

— Пячыся, каравай, пальчыкамі —
Не гуляць табе больш з мальчыкамі,
Пячыся, каравай, ветачкамі —
Не гуляць табе з дзевачкамі.

### 201

Як зажурыцца маладая Гарпіначка
Ды й па дарозе едучы,
Пад сасонкай стаячы.
— Сасонка мая із бору,
Рубайце яе да долу
І вязіце яе дадому.
Ды й каліце на загнет,
Загнетуйце каравай.

### 202

Да бору, малойцы, да бору,
Да бярыце сякеркі з сабою,
Рубайце сосну да долу.
Стаяла сосенка кілька лет,

Зрубалі яе на загнет,
Каб наш загнет ясен быў,
Каб наш каравай красен быў.

## 203

Стаяла ліпушка сорак лет,
Рубіце яе, кладзіце яе на загнет —
На тым загнеце каравай печ.
Не ўмела Параскута хлеба печ,
Не папала ў печ, ды пад печ.

## 204

Да стаяла сасонка восем лет,
Парубайце яе на загнет,
Штоб наш загнет ясен быў,
Штоб наш каравай красен быў.
— Дзе ж пайшоў жаніхоў бацюхна?
Няхай увойдзе, няхай стане,
Няхай увойдзе, няхай стане,
Да няхай стане блізка к караваю.
Сваім дзеткам долі дае,
Сваім дзеткам долі дае:
Перваму да раджонаму,
Перваму да раджонаму,
А другому да суджонаму.
— У мяне Іванька, у мяне Іванька —
Дзіця маё параджонае,
Дзіця маё параджонае,
А Адарка — дзіця маё да суджонае.

## 205

— Да Трахімаў ойчанька,
Чаму не стаіш блізка караваю?
Чаму не дзяржыш трайчатай свечкі?
— Ой, я стаю, ой, я стаю
Блізка караваю.
Ой, я прашу, ой, я прашу

Свайму дзіцяці долі.
Калі будзе добрая доля,
То давай табе божа.
А калі будзе ліхая,
То ах, мой божа.

## 206

— Пара, пара каравай садзіць.
— Яшчэ не пара, трэба згадзіць.
Пашла Агатка бацьку прасіць,
Каб прыйшоў благаславіць.

## 207

Начынаецца, развіваецца
У гародзе зелле,
У гародзе зелле,
А ў Марысі вяселле.

Ходзіць певень па хаце,
У печ заглядае,
Хвастом вымятае,
Хвастом вымятае.

Час каравай саджаці.

## 208

А ў нашай печы
Залатыя плечы,
А срэбныя крыла,
Штоб каравай укрыла.

А прыпадае
І ў печы заглядае.
— Жоначкі-каравайначкі,
Час каравай садзіці.

## 209

Караваева пара
Па прыпечку грала,
Пад печ заглядала,
Чы е ў печы месца
Караваеві сесці.
А ў нашай печы
Срэбныя плечы,
Арловыя крыла,
Штоб каравай гняціла.

## 210

Сякіце печ, рубіце печ —
Каравай у печ не лезіць,
А зяць к цешчы не едзіць.

## 211

Караваю, мой раю,
Кала цябе хораша іграю.

Караваю мой грэцкі,
Садзім цябе па-шляхецкі.

Караваю мой жытні,
Садзім цябе па-мужыцкі.

## 212

Дзевак лава — войцу слава.
— Паглядзі, войчанька,
Як то харашэнька,
Што я маладзенька.

## 213

Дзе сыноў лава,
Там ойцу слава.
Дзе дзявок лава,
Там матцы слава,
Рано, рано, рано.

## 214

Караваю, мой раю,
Я кала цябе іграю,
На золаце качаю,
На срэбры саджаю.

## 215

Караваю, мой раю,
Я табе пяю, іграю.
Красівыя мясілі,
Шчаслівыя садзілі.

## 216

Да ляцелі гусачкі, гаварылі:
— Мы ж тут ключы ўранілі.
Хто гэтыя ключы найдзе,
Да ў гэтым гаду замуж пойдзе.

## 217

Кучаравы печ мяце,
Пузаты качае,
А багаты саджае.
Няхай бог яму памагае.

## 218

Тоўстая ў печ саджала,
А зубатая зазірала,
А чарнявая сардэчная,
Із печы выймала.

## 219

Губатыя, лупатыя
Каравай учынялі.
Гарбатыя, зубатыя
У печ саджалі.
А харошыя-прыгожыя
У печ заглядалі.

## 220

Губатая да рылатая
Каравай саджае,
А ўдалая-прыўдалая
Да ў печ заглядае.

## 221

Губатая ўчыняла,
Рылатая мясіла,
А красная да харошая
У печ усадзіла.

## 222

А рылатыя, губатыя
Печ замяталі,
А харошыя-прыгожыя
Каравай саджалі.

## 223

Таўстуха мясіла,
А губатая садзіла,
Пышная да харошая
Да ў печ заглядала.

## 224

А губата мясіла,
А губата мясіла, а рылата саджала,
А красная да харошая да у печ зазірал[а].

## 225

Ой, каторая ўчыняла,
Галавою дзверы адчыняла,
А каторая мясіла,
У зубах ночвы насіла,
А красная, харошая
У печ усадзіла.

## 226

Смаркатыя, лупатыя
Загнет заграбаюць,
А румяныя, харошыя
Каравай саджаюць.

## 227

Гаспадынечку-вутка,
Варочайся хутка:
Ужо на дварэ вечар,
Каравай наш не печан.

## 228

Ой, вечар, вечар,
Каравай не спечан.
Маці маладой,
Як завіхнецца,
Каравай спячэцца.

## 229

Ой, матка-ютка,
Завіхайся хутка.
Матка завіхнула,
Каравай згарнула
І ў печ швырнула.

Скупы гаспадару,
Не стой за дзвярыма,
Выкаць бочку піва
І кварту гарэлкі,
Белы сыр на талерцы.

## 230

— Дзе ж ты, Сцяпанка, ваду браў,
Хто ж табе каравай рашчыняў?
— Ваду браў у крыніцы,
Рашчынялі каравай сястрыцы,
А мясіла хрышчона,
Саджала ў печ раджона.

## 231

Да не слухай, дзевачка,
Да не слухай дзевачка,
Да што ж людзі гавораць.
А паслухай, дзевачка,
А паслухай, дзевачка,
Што на небе забрашчала.
А янгалы да ключы бралі,

А янгалы да ключы бралі,
Да дзежачку адмыкалі.
Да дзежачку адмыкалі,
Да дзежачку адмыкалі,
Каравай у печ саджалі.
Каравай у печ саджалі,
Каравай у печ саджалі —
Усадзіўся да хораша.
Усадзіўся да хораша,
Усадзіўся да хораша,—
Кругом караваю квеці.
Кругом караваю квеці,
Кругом караваю квеці —
Каб любіліся дзеці,
Каб любіліся дзеці.

## 232

Дзякуем табе, божа,
Жэ наш каравай гожы,
Хораша спарадзілі
І ў печ усадзілі.

## 233

Да казалі да пра нас людзі,
Што з нас негадзяй будзе.
Аж мы і работніцы,
Аж мы і дасужніцы:
Мы ўсё дзела зрабілі
Ї каравай пасадзілі.

## 234

А хвала табе, божа,
Што мы дзела зрабілі,
Каравай учынілі,
Замясілі, усадзілі.

Замясілі, усадзілі
Ручанькамі да бяленькімі,
Персиямі залаценькімі,
Мыслямі дабрэнькімі.

## 235

Паскач, паскач, бобра,
Усадзі каравай добра.
Да брусок на брусочку,
Да на жоўтым пясочку,
З скрыпкамі, з цымбаламі,
З харошымі прыправамі.

## 236

Ой, насаты каравайніцы, насаты,
Што далі хлопцам з лапатаю скакаці.

## 237

Ой віце, хлопцы-смаркачы,
Ужо наш каравай у пячы.
Ужо мы каравай замясілі,
У печ усадзілі.
З лапатаю паскакалі,
Трэба, што б нам гарэлкі далі.

## 238

Ляцелі гусачкі з выраю
А пыталіся ў нас караваю:
— Ці ўжо каравай усадзілі,
Чаму нас, гусачак, не прасілі?
Мы б вам каравай усадзілі
І каравай прыбралі:
Сваімі лапка́мі спісалі.
Сваімі лапкамі дробнымі,
Сваімі дзюбкамі вострымі.

## 239

Да ляцелі гусачкі з раю,*
Пыталіся да караваю:

— Ці ўжо яго пасаджалі,
Чаму гусак не ждалі?

Чаму гусак не ждалі,
Мы б вам яго папісалі

Крылцамі да бяленькімі,
Перснямі залаценькімі.

## 240

Да ляцелі гусачкі з выраю,
Да пыталі гусачкі караваю:
— Ці ўжо каравайку пасаджалі,
Чаму ж нас, гусачак, не звалі?
То мы ж бы на мора зляталі,
Усякага зелля нарвалі,
Каб наш каравайка красен быў,
А каб наш Іванка шчасен быў.
Красен каравайка на ўвесь свет,
Шчасен наш Іванка на ўвесь век.

## 241

Ляцяць птушачкі із броду
Ды пытаюцца ўсяго народу:
— Да дзе нам узяць караваю?

Да дзе нам узяць караваю?
— Да ляціце, дзе хата з краю,
Там вазьміце караваю.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 242

А ў той дзяжы
Да тры нажы,
А чацвёрты
На дзяжы.
Цалуйцеся ж,
Мілуйцеся ж,
Малады.

## 243

— Хто ж у нас да дзяжу выкупіць,
Хто ж нам бочку мядочку дасць?
— Пятрусь да дзяжу выкупіць,
Пятрусь бочку мядочку дасць.

— Гаспадару багаты,
Мядзведзю камлаты,
Выкаць нам тую бочку,
Што стаіць у куточку.

[Выкаць нам тую бочку,
Што стаіць у куточку.]
Да табе несці маркотна,
А нам піць ахвотна.

Пятруська — гарэлачкі,
Мар'янка — закусачкі.
У нашага Пятруська
Да галоўка кудравая.

Кудзяркамі патрасе,
Нам гарэлкі прынясе.
Табе несці маркотна,
А нам піці ахвотна.

## 244

Гусанькі — не лябёданькі па сталу пахадзілі,
Жоначкі-каравайначкі каравай ўляпілі.
Мы стол абмываймо,

Мы стала не даймо,
Нех нас баценька просіць,
Піва, гарэлку носіць.

## 245

Каравы ручкі, каравы,
Дайце вадзіцы памыці.
Не тое вадзіцы, што ў крыніцы,
А тое вадзіцы, што ў бочцы.

## 246

Каравайначкі, мыйце ручкі
Да на вішаньку лейце,
Каб вішанькі радзіліся,
Дзетачкі любіліся.

## 247

Мылі ручкі, мылі,
У сад ваду насілі
Ды й на вішаньку лілі,
Каб вішанькі да радзіліся,
Каб дзеці да любіліся.

## 248

Падскоч, падскоч, рысю,
Да налі вады ў місу.
Будзем ручкі мыці,
А пад вішанькі ліці.
Да будуць вішанькі разлагацца,
А маладыя нашы любавацца.

## 249

Мы ж былі каравайначкі,*
Мы ж белы ручкі мылі.

Мы ж белы ручкі мылі,
У сад ваду ж насілі.

У сад ваду ж насілі,
Ціхі салавейкі будзілі.

— Ляці, ляці, салавей, з намі,
Дзе мы ваду ўлівалі.

## 250

Ідземо па саду-вінаграду,
Ад каравая ручанькі памылі.

Ідземо па саду-вінаграду,
Каб ручанькі адпачылі.

## 251

Дзе ж той дзеўся гаспадар?
Няхай нясе мёду жбан.
Мы ж яму дзела зрабілі —
Каравай у печ усадзілі.

## 252

Мы дзела зрабілі,
Мы дзела зрабілі —
Каравай у печ усадзілі.
А вы, старасты, знайце,
Нам гарэлачкі дайце.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Мы ж дзела зрабілі —
Да каравай усадзілі,
Цяпер жа мы ні ў сём, ні ў том.
Дайце ж нам нітак маток,
То мы будзем ніткі віці
Да й гарэлачку піці.
Гарэлачку саладзенькую
Да для мяне, маладзенькае.
Гарэлачку-шафраначку
Да для мяне, мяшчаначкі.

## КАРАВАЙ ПЯЧЭЦЦА

### 254

Удайся, удайся, каравай.
Чаму ж яму не ўдацца?
Багатыя ўчынялі,
Прыгожыя качалі,
Пузатыя саджалі.
Расці, расці, каравай,
Выша печы залатой,
Выша княгіні маладой,
Выша стаўба медзянога,
Выша князя маладога.

### 255

Расці, караваю,
Вышэй таго гаю,
Вышэй тае печы,
Што ўтрох можна легчы.

Расці, караваю,
Вышэй таго гаю
З туку залатога,
Вышэй Колі маладога.

### 256

Расці, каравай, расці,
Як хмель на тычыне,
А пшаніца на ніве.

Расці, каравай, расці
Да на гору дзівіся,
Да за яблынь бярыся.

А як будзе каравай расці,
То мы будзем каравай трасці.

## 257

Расці, расці, каравай,
Як наша Насця,
Прыгожы ды румяны,
Вялікі і харошы.

## 258

І ў печы каравай іграець (2)
І ў заслонку таўхаець.

І расці, мой каравай, расці (2)
І вышай печы цагляной,

І вышай печы цагляной,
Вышай столбу залатога.

Вышай столбу залатога, (2)
Вышай мяне, маладога.

## 259

— Дзе ж ты, дзеванька, ды ты пахаджаеш,
Чаму свайго каравая ды не даглядаеш?
— Быле маёй сястрыцы даў бог здароўе,
То ж мой каравай ды спечан будзе,
[Ды спечан будзе,] дагледжан будзе,
Да новай каморы ды вынесен будзе.

## 260

Каравайная пара
Да на покуце стала.

Да на покуце стала
Да й пачэсць паклала.

Да й пачэсць паклала
Да нашаму каравайку.

Станьмаце каля печы
Каравай сцярэгці.

Каравай сцярэгці,
Каб яго не спаліці.

Каб яго не спаліці,
Харашэнька спекці.



## 261

Стану я ў печы
Каравай глядзеці,
Каб ён не абпёкся,
Каб ён не абжогся,
Каб нам сорам не быў
Ад чужых людзей.

## 262

На прыпечку лой,
А ты, дурню, стой.
А ты вырачы вочы,
Штоб бачыў уночы.

## 263

Вокны нашы пасавушчыя,
Дзверы нашы парыпушчыя,
Печ наша на стаўбах стаіць,

Дзяжу нашу на руках носяць.
Ой, печэ наша, печэ,
Спячы наш каравай рэчэ,
Штоб нам не спаліці,
Увесь род абдзяліці.

## 264

Каравай у печы йграе,
Заслонку адбівае.
— Старшая каравайшчыца,
Не сядзі на заслоне.
Не сядзі на заслоне,
Сядзь жа ты каля печы
Каравай сцярэгчы:
Каб яго не спалілі,
Харашэнька ўгадзілі.
Харашэнька ўгадзілі,
Увесь род абдзялілі,
Як старога, так і малога.
Волечку абдзялілі
І Колечку маладога.

## 265

Караваю, мой раю,
Я ля цябе добра йграю
Із скрыпкамі, із дудкамі,
Штоб цябе не спаліці,
Увесь род абдзяліці.

## 266

Каравайніца ма́е,
У печ заглядае,
Штоб каравай не загарэўся,
Штоб малады не сварыўся.

## 267

Наш каравай у печы —
Грэйце, жанкі, плечы.

Печку засланіце,
Дзверы зачыніце,

Каб добра ён удаўся,
Каб усім спадабаўся.

Як малады Зосі,
Каб усім быў харошы.

## 268

Старшая каравайнічка,
Пастаў меншу ля пячы.
Пастаў меншу ля печы
Каравай сцярэгчы.

У нас хлопцы шутлівыя,
Каб з нас не накпілі,
Караваю не ўхапілі,
Нам сорама не зрабілі.

## 269

Старшая каравайніца,
Пастаў меншу кай пячы
Каравай сцерагчы:
Хлопчыкі да пахойчыкі
Хочуць нас згубіці —
Каравая ухваціці
І за парогам падзяліці.

## 270

Ой, не садзіся да на покуце,
Сядзь сабе на парозе,
Штоб хлопцы не пакпілі
Да й каравай не ўхапілі.

## 271

— Ой, дзе ж тая пайшла,
Што ў печ каравай нясла?
— Села на рог печы
Каравая сцярэгчы,
Штоб хлопцы не ўкралі
І за Дунай не задалі.
— Нашы хлопцы не такоўскі:
Каравая не ўкрадуць,
За Дунай не зададуць.

## 272

А ў нашае печы
Да шырокія плечы —
На ёй можна чатыром легці
Караваю сцярэгці,
Штоб нашага караваю
Ніхто не ўкраў
І нашых маладых
Ніхто не разлучаў.

## 273

Гіча каравай, гіча,
Каравайнічак кліча:
— Мае мілы каравайнічкі,
А дзе ж усе падзеліся,
Чы на мяду запіліся,
Што мяне забыліся?
— Мы на мяду запіліся,
Мы і каравая не забыліся.

## 274

Караваічу, караваічу
Каравайнічак клічá:
— Ой, дзе яны да падзеліся?

Ці на мяду да папіліся,
Ці на ляду да пабіліся?
Аб караваю да забыліся.

## 275

Гіча каравай, гіча,
Каравайніц кліча:
— Чы веце папіліся,
Чы веце паспаліся,
Што а мяне забыліся?
Або вы мяне з печы вымайце,
Або прыкрапляйце,
Або века давайце,
Бо мне жэшка сядзеці.

## 276

Кліча каравай, кліча:
— Ой, дзе ж мае каравайніцы?
Ці на мяду запіліся,
Ці на мяне забыліся?
— Ой, мы былі ў дзеле —
Цела наша папацела,
Гарэлачкі захацела,
Гарэлачкі паўшкляначкі
Каля мяне, мяшчаначкі.

## 277

Дзе нашы каравайніцы
Нап'яно папіліся,
Што аб нас забыліся?
Ужо нам спяваючы, аж дух занімае,
А ніхто і вадою не прыкрапляе.

## 278

Дзе ж мае каравайначкі,
Каравайначкі-нядбайначкі?

Знай, яны запіліся,
А мяне забыліся.

Дух мне занімае,
Час мяне закрапіці.

Час мяне закрапіці —
Адваложаньку даці.

Ой, харошы каравай, харошы,
Знаю, яго харошанькі рабілі.

Ой, удалы каравай, удалы,
Знаю, яго ўдалыя рабілі.

Ой, беленькі каравай, беленькі,
Знаю, яго беленькія рабілі.

Ой, чырвоны каравай, чырвоны,
Знаю, яго чырвоныя рабілі.

Ой, бяльматы каравай, бяльматы,
Знаю, яго бяльматыя рабілі.

Ой, няўдалы каравай, няўдалы,
Знаю, яго няўдалыя рабілі.

## 279

Падгарэў каравай у печы,
Да няма гарэлкі ў клеці.

Да няма гарэлачкі ў клеці,
А нечым каравай памачыці.

А нечым каравай памачыці,
Нечым каравайніц напаіці.

## 280

Да ў печы каравай рагоча —
Гарэлачкі хоча.

Прыпечак сакоча —
Гарэлачкі хоча.

## 281

А ў печы каравай іграе
Да ў заслонку таркае.
Да на яго часта пазіраюць,
Да зялёным віном паліваюць.

## 282

Падгарэў каравай у печы,
Ці далёка сцежка да клеці?

Ці далёка сцежка да клеці
Да ці е чым каравай памачыці?

Да ці е чым каравай памачыці,
Да ці е чым каравай напаіці?

## 283

Ой, пайдзіце, пабяжыце
Да й да новае клеці.

Ой, вазьміце, прынясіце
Дравінага масла

Памазаці, памазаці
Дзіўнага каравая.

## 284

Ой, у печы каравай іча,
Каравайначак кліча:
— Дзе ж нашы каравайначкі,
Вялікі мяшчаначкі?
Што ж мяне мясілі,
Харашанька радзілі
Ручкамі да бяленькімі,
Персня́мі залаценькімі.

## 285

Каравайніцы напіліся,
Каравай у печы забыліся.
Каравай у печы падрастае
І заслонку падымае.

## 286

Каравай у печы грае,
Заслонку адпірае.

А шышачкі хахочуць
Да ў рэшата хочуць.

А прыпечак насміхаецца,
Караваю дажыдаецца.

## 287

Караваю мой, караваю,
Я ля цябе харашо іграю
Ручкамі да бяленькімі,
Персня́мі залаценькімі.

Да шышачкі рагочуць —
Да ў рэшата хочуць.

## 288

А наша печка трасецца,
Каравай з печы просіцца:

— А вымайце ж мяне з печы,
Нясіце мяне да клеці,
Палажыце мяне на жыце,
Каб нашым маладым на жыцце,
На багацце і на доўгі век.

## 289

Караваю, да ты мой раю,*
Чым я цябе да й вымаю?

Рукамі да бяленькімі,
Кавенькамі да крывенькімі.

Караваю, да ты мой раю,
Усю радзіну да прызываю.

Уся радзіна, вы чуйце,
Падарачкі гатуйце.

## 290

Ты не туж, не плач, сапліваца,
Да ўжо твой шлюнцейка сабіраецца:

Лыкі дзярэць да кабылу пляцець,
Да кабылу пляцець, а салому сякець,

Каравай пякець, сена смажыць,
Сена смажыць, каравай мажыць.

## 291

Каравайначкі п'яны
Паймалі барана ў яме.
Каравай пякуць —
Дзеўкі хлопцаў трасуць.
Хлопцы маладой падарак нясуць,
Каб яна ім дзякавала
І перад імі плакала.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

# ВЫМАЮЦЬ КАРАВАЙ З ПЕЧЫ

## 292

Сыйдзі, божа, з неба,
А цяпер ты нам трэба:
Памагаў замысляці,
Памагаў учыняці,
Памагаў мясіці,
Памагаў садзіці,
Памажы і выняці.

## 293

Дайце нам меч,
Рассячом мы печ,
Вымем дзіўны каравай.
Час ужо вынімаці,
Пара ў клець хаваці.

## 294

Наша печка на ножках стаіць,
У нашай печцы каравай сядзіць.

Дзе ж тыя кавалі ходзяць,
Што да нас не прыходзяць?

Трэба печку расцінаці,
Каравая даставаці.

## 295

А дзе тыя кавалі,
Што етую печку кавалі?
Няхай яны йдуць, раскуюць,
Сабе золата пабяруць,
А наш каравай нам аддадуць.

## 296

Да дзе ж тыя кавалі,
Што гэтую печку кавалі?
Да няхай ідуць раскуюць —
Каравай з печы не лезе.
Бярыце меч, рубайце печ —
Каравай з печы не лезе.

## 297

Ой, дзе ж тыя кавалі,
Што стальныя сякеры?
Трэба печ рубаці,
Каравай вымаці.

## 298

Ой, дайце нам меч, меч
Ды разрубіць печ, печ,
Ды выняць каравай з печы,
Ды панесці да клеці.

## 299

— Дайце меч
Парубаць печ,
Каравай паглядзець:
Чы зрос, чы парос,
Чы будзе зачым весяліцца?

*Прыстаўніца адказвае:*

— Не бойцеся —
Зрос, парос,
Будзе зачым весяліцца.

## 300

Ой, дайце мне меч, меч,
Будзем рубіці печ, печ,
Будзем печ рубаці,
Каравай вынімаці.
Удалы каравайненька саджалі,
Ўдалы ўдаўся — дагары падняўся.

## 301

Ой, дайце мне меч, меч,
Парублю я печ, печ.
Нядобра ўчынілі —
Каравай засмалілі.

## 302

Хадзем жа мы да каваля,
А скуйма мы да востры меч,
Парубайма мы камяную печ.
— Адкуль каравайка ўбіраці?
— З печачкі да ў вечачка,
Да й паставім на жыце,
Дай, божа, маладым на жыцце.

## 303

Ой, пайду ж бо я да да каваля:
— Да скуй мне, каваленька, востры меч,
Да й прарубаю зверху печ,
Штоб наш каравай спужаўся,
З печы на вечка сабраўся,
З вечкам у камору схаваўся.

## 304

Каравай у печы йграе,*
Заслонкі адбівае.

---

* Першыя шэсць радкоў паўтараюцца.

А куды каравай панесці?
Панесці каравай да клеці
А пакласці на матчынай скрыні.
А няхай матчына сярдзечка радуецца,
Што на караваю шышачка сядзіць, як лебедзь.
А шышачка мая бялесенька,
Дочка мая мілесенька.
Ой, панесць, панесць да клеці
І пакласць, пакласць на бацькавай скрыні.
А няхай бацька радуецца,
Што на караваю шышачка сядзіць, як лебедзь.
А шышачка мая бялесенька,
Дочка мая мілесенька.

### 305

Запытаўся каравай у вясельнага кола:
— А дзе ж тая дарожанька ад печы да стола?
Чы баркунцом заросла, чы калінаю завісла?

### 306

У Львове гром грыміць,
У Сандаміру дождж.
— А скуль да нас наступаеш,
Наш святы караваю?
— Ям есць ад бога надолій
Чэраз анёлць засланы;
Наступаю на новы двары,
На цісовы сталы,
На льняны абрусы.

*Яс баценька выходзячы пытае:*

— Скуль да нас наступаеш,
Наш святы караваю?
— Ям есць ад бога надолій
Чэраз анёлць засланы;
Наступаю на новы двары,
На цісовы сталы,
На льняны абрусы.

## 307

Ой, выплыла, выплыла
Камора з-за мора,
Ой, вынесла, вынесла
Два корцы пшаніцы.

А ўсё ж бо то, а ўсё ж бо то
Нашаму караваю.
А ўсё ж бо то, а ўсё ж бо то
Нам усім на захвалу.

## 308

Чэсць табе, караваю,
З кахлёвай печы
На дубова века,
На жытняе калоссе,
На кружасці абруссе.

## 309

Жалаваўса каравай у печы,
Жалаваўса каравай у печы: — Насмаліў жа я плечы,
Каб мне сыр ды масла, то было б цела крас[на].

## 310

Палажылі каравай на стол —
Сталовыя ножкі зыбляцца,
Усе людзі дзівяцца,
Што ўдаўся наш каравай
Госпаду богу на хвалу,
Добрым людзям на славу.
Вы, добрыя людзі, глядзіце
І грошыкі нам кладзіце.

## 311

Малада дзеванька, уступі ў хатаньку,
Пакланіся сваяму бацeньку
І сваім каравайначкам,

Што хораш каравай спяклі:
Кала акылначку — шышачкі,
Пасярэдзіне — усё зерначкі,
Зверху — сыр і масла,
У сярэдзіне — доля й шчасце.

## 312

Аксенька, як твой каравай удаўся,
Залатым абручом абняўся,
Яснымі зоркамі абсеяўся,
Ясным месяцам засіяў,
Маладых дзетачак ажыдаў.

## 313

Слаўныя гаспадыні,
Як хлеб выраблялі,
Зацірку выбіралі.
То ж табе, Івасю, удача:
Твой каравай удаўся,
Срэбным абручом абняўся,
Залатымі шышачкамі абклаўся.

## 314

А дзе ж тая каравайнічка,
Што харошыя караваі пячэць:
Вокала — сыр да масла,
А ў сярэдзіне —доля да шчасце.

## 315

Я была каравайнічка,
Слаўная мяшчаначка.

Я ўмела каравай пячы,
Штоб яго не паджагчы.

На злоце качаці,
На серабры саджаці.

Шоўкавым памялом месці,
Залатой лапаткай несці.

## 316

Удаўся каравай, удаўся.
А чаму ж яму не ўдаціся:
Румяная учыняла,
А красівая мясіла,
А шчаслівая садзіла.

## 317

А чаму наш каравай
Чубаты ды рылаты?
Бо чубата ўчыняла,
А рылата мясіла,
А красна да хароша
У печ пасадзіла.

## 318

А ў нашага каравая
Нет ні брата, ні сястры
І ні сына, ні дачкі —
Толькі адна ладачка,
І то ў масле патанула,
Ножкамі трапянула.

## 319

— Караваю, караваю,
Чым ты красен?
— Ой, я красен,
Ой, я красен
Да півам мазан.

— Малады жанішку,
Малады жанішку,
Чым ты славен?
— Ой, я славен
Да родам-племенем,
Да родам-племенем,
Сваім бацюхнай.

## 320

— Звонкае дзерава
Ясень, клён.

— Да не я то звонен,—
Стрыжань мой.

— Слаўнае дзецянько
Іванька.

— Да не я то славен,—
Бацька мой:

Спёк каравай
На ўвесь стол.

## 321

Ой, у полі авёс-раса,
На стале каравай-краса.
Ой, красуйся, малады Йвашка,
[Ой, красуйся] ў сваго бацэнькі.

## 322

Ой, у лузе два стагі высокіх,
А на стале наш каравай яшчэ вышшы,
Вазьміце яго, схавайце,
[Штоб яго ніхто не відаў,]
Штоб яго ніхто не відаў,
Жэб сам гасподзь бог аглядаў.

### 323

Буйная пшанічанька на гнаі,
Харош каравай на стале.
Да шырокія скокі ў сарокі,
Доўгія ногі ў жураўля,
А вясёлыя песенькі ў салаўя.

### 324

Добра табе, Марцінка,
Што твой баценька багаты
Да родзіць пшаніца ў навіне,
Да каравайка на стале.

Сталовыя ножкі пагнуцца,
Да людзі караваю дзівяцца.
Сталовыя ножкі згібнулі,
Да людзі караваю здзівілі.

### 325

— А багат, дзевачка, татка твой,*
Густа пшаніца на ніве,
А высокі стагі на гумне,
Павышэй каравай на стале —
Сталовыя ножачкі зыблюцца,
З каравая людзі дзівяцца.
— А не дзівіцеся, суседзі,—
Сам бог па ніўю пахадзіў,
Ён гэтую пшоначку зурадзіў:
А ні гугалёчка, ні травы,
Толькі мне, маладзе, печ пірагі.

### 326

На цісовым стале,
На кружастым абрусе
Дарагі тавар стаіць.
Ой, гэта не тавар,
А Надзін каравай.

* Кожны радок паўтараецца.

То яе заслуганька,
Што ў баценькі заслужыла
Не за рачок, не за два,
Не за дзве нядзелькі,
А з малое дзяценькі.

## 327

На навенькаму дварэ,
На цісоваму стале
Дарагі тавар ляжыць.
Ой, не есць жа то тавар,
То Марусін каравай.
Заслужыла ў баценька
Ні за рок, ні за два,
Ні за адну гадзінаньку,—
А ж то за цэлы век.

## 328

Добра наша зямліца, *
А што радзіла пшаніца —
А ні кукалю, ні травы,
Гэтыя чорныя галаўні.
Хто гэту пшаніцу папалоў,
Той свае ручачкі пакалоў.
Манечка пшаніцу палола,
Яна свае ручачкі калола,
Чысценька пшаніцу палола.

## 329

Не віўся, хмелю, на ляску,
Радзі, божа, жыта на пяску.

Густа пшаніца на навіне —
Вышшы каравай на стале.

На тым караваю шышкі,
А ў тых шышачках птушачкі

Да пяюць песенькі дзіўноча,
Мы ў вас госцейкі даўнёча.

---

* Кожны радок паўтараецца.

# УБІРАЮЦЬ КАРАВАЙ

## 330

Загадзя дзеванька свашак пытае:
— Ой, свашкі, куды мы паедзем, куды заедзем?

Ой, свашкі, куды мы паедзем, куды заедзем?
— Міма гай зялёны, міма сад чырвоны.

[Міма гай зялёны, міма сад чырвоны,]
Ой, там станімо каліну ламаці.

Ой, там станімо каліну ламаці,
Каліну ламаці, у пучкі вязаці.

Каліну ламаці, у пучкі вязаці,
На вазы класці, да бацькі везці.

На вазы класці, да бацькі везці,
Да бацькі везці каравай квяціці.

Ой, чырвоныя квеці, штоб любіліся дзеці,
[Штоб любіліся дзеці] на пасадзе сядзеці.

## 331

— Ой, дзе ж тая й пашла,
Што каравай у печ нясла?

— Пашла ж яна ў вішнёў сад
Да й вішань щчыпаці.

Да на ей світа
Шоўкам шыта.

[Шоўкам шыта,]
Сабалямі падбіта.

Пашла яна ў вішнёў сад
Вішанек шчыпаці.

Заўтра прыдзе раненька
Каравай убіраці.

### 332

Як мы свайго каравая радзілі,
То ў бор па зелле хадзілі.

Адказаў зялёны бор размаю:
— Я вашага караваю не знаю.

Я вашага караваю не знаю,
Я вам зелейка не маю.

Ідзіце сабе ў вішнёвы сад па зелле
Да зрабіце сабе вяселле.

### 333

Ой, дайце нам свечкі,
Пайдзямо да рэчкі
Да каліны ламаці —
Каравай убіраці.

### 334

Свяці, месячэньку,
Яснаю зарою.
Дзе каравай убіраюць,
Вішні, як чарэшні,
Вінныя ягаданькі,
Райскія пташанькі.
Дзе каравай убіраюць,
Харашэнька спяваюць.

10. Зак. 2120

## 335

Зацвіла каліна
Не летам — зімою
Над тэю камораю,
Дзе каравай убіраюць.
Дзе каравай убіраюць,
Харашэнька спяваюць.

## 336

У нашай маладой сад зацвіў,
Сад зацвіў да яблычкі паспелі
Нашай маладзіцы к нядзелі.

## 337

У нашага сваточка
Пад акеначкам яблычка.
Ідзіце абламіце
Да каравай нарадзіце.

## 338

Надзечка прасіла:
— Загарадзі, баценьку, гародца
Ды насей, родненькі, барвінца.
Як будзем каравай убіраці,
То будзем барвінец ламаці.

## 339

— Куды выце, сястрыцы, хадзілі,
Што з грушоўнічку наламілі?
— Хадзілі, братаньку, у вішнёў сад
І на галаваньку ўсёй цвет спаў,
І на нашай галаваньцы зацвітаў.

## 340

Старшая каравайніца
Па-пад садам хадзіла,
Каліну ламала,
Каравай радзіла:
То ў руту, то ў мяту,
То ў чырвоны квеці.
То ў чырвоны квеці,
Штоб любіліся дзеці.
Ой, наш каравай вышшы,
Наш жанішок лепшы.
Ой, арэ і косіць,
У госпада бога просіць
Высокі стогі на гумне,
Яшчэ вышшы каравай на стале.

## 341

Захацела Маруся
З каліны вяночка.
І паслала яна баценька
За Дунай па каліну.

Баценька прыступае —
Каліна зацвітае.
Ой, каліна-маліна,
Няшчаснае зелле.

Ой, каліна-маліна,
Няшчаснае зелле,
Чом не паспела да майго баценька
На каравай-вяселле?

Ой, не паспела, не паспела,
Адна кветачка не дазрэла,
І тая дазравае,
На каравай паспявае.

## 342

Старшая каравайніца
Не ў бяседзе сядзела,—
Па падсаддзю хадзіла
Да й каліну ламіла,
Каравай квяціла.
Ой, квяціце, квяціце,
Квяціце, станавіце,
Ой, чырвоны кветі,
Штоб любіліся дзеці.

## 343

Ой, быстрая рэчанька Дунаю,
Прыбі, прыбі пучок чэрцу да краю
І к нашаму харошаму караваю.

Ой, быстрая рэчанька Дунаю,
Прыбі, прыбі пучок каліны да краю
І к нашаму харошаму караваю.

Ой, быстрая рэчанька Дунаю,
Прыбі, прыбі пучок ядлоўцу да краю
І к нашаму харошаму караваю.

## 344

— Ідзьце, сваццi, да Крукова,
А з Крукова да Львова
Па тыя малярчыкі,
Што харашо малююць,
Золатам гафтуюць.

— Не трэба нам малярчыкаў:
У нас харошчанскі жоначкі
Харашо каравай гафтуюць
Да кола зоранькамі,
Райскімі пташанькамі.

### 345

Караваю ж, наш раю,
Хто ж цябе і ўбярэ?

Убіралі цябе дзве дзевачкі,
Дзве дзевачкі-вычаначкі.

Чаравічкі казловыя,
Панчошкі шаўковыя.

Каравай праславіўся,
На стале паставіўся.

### 346

Ой, тры, тры каравайнічкі,
Ды ўсе тры каравай пяклі.
Ды з Вільні кветкі вязлі,
У Слоніме васкавалі,
На каравай пазлачалі.

### 347

— Караваю, караваю, хто цябе нарадзіў?
— Нарадзіла мяне пані каралева
Ручкамі бяленькімі, персямі залаценькімі.

— Караваю, караваю, каля цябе хораша іграюць
І з дудкамі, і з скрыпкамі,
І з харошымі малодкамі.

### 348

— Караваю мой румяны,
Ці богі цябе малявалі?
— Малявалі мяне жонушкі,
А качалі мяне дзевачкі,
А харошыя ўчынялі,
А прыгожыя мясілі,

А багатыя качалі,
А пузатыя саджалі.
— Расці, расці, каравай,
Выша князя маладога.
— Дайце мне пасажок падпірацца
А да клеці дабірацца.
А рагат я, багат,
А ў малыя дзверы не ўлезу,
Я ў вялікія — як шыю.

### 349

Караваю, мой караваю,
Я каля цябе іграю.

Я каля цябе іграю,
Я цябе прыбіраю:

Навокал — сыр і масла,
Пасярод — доля і шчасце.

### 350

Караваю, мой раю,
Я ж цябе прыбіраю
Ручкамі да бяленькімі,
Персннямі залаценькімі.

### 351

Караваю, мой раю,*
Я табе пяю, іграю.
За табою пагуляю,
Гарэлкі папіваю,
Караваю павідаю.

---

* Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

352

Удача, удача,
Як каравай удаўся,
Шырокім лісцем услаўся,
У чырвоныя кветкі ўбраўся.

353

Ой, добра нам там было,
Дзе тры дні каравай пяклі,
У Вільні да кветкі бралі,
У Варшаве да напой пілі.

354

Ды бяжыць зайчык-райчык,
Нясе ў зубах ніці.
— Нашто тыя ніці?
— Каравай упавіці.

355

Ужо ж цяпер аквяцілі.
Мядзведзю валахаты,
Гаспадару багаты,
Бойся прыступіці
Каравая выкупіці.

356

Ой, мядзведзю кашлаты,
Гаспадару багаты,
Ой, выкаць тую бочку,
Што ў свірне пры куточку,
Што ўлета не акісне,
А ўзіму не замерзне.
Ой, мядзведзіха кашлата,
Гаспадыня багата і г. д.

### 357

Ой, хто ў нас каравай выманіць?
Ой, хто ж нам бочку мядочку дасць?
Іванка-гаспадар у нас каравай выманіць,
І ён нам бочку мядочку дасць.
Гаспадар дасць гарэлачкі,
А гаспадыня дасць талерачкі.

### 358

Купчына й у акенечка таркае —
У дзеванькі каравай таргуе,
У маладзе каравай таргуе.
— Ой, таргуйце не таргуйце — не прадам.
Ой, як прыдзе мой баценька — так аддам.

### 359

Ой, дзе ж наш гаспадар дамавы?
Няхай выкупіць каравай дарагі.
А як не выкупіць, то й паламнімо,
Той й паламнімо і з'ямо
І дадому пайдзямо.

## ПЕРАНОСЯЦЬ КАРАВАЙ У КЛЕЦЬ

### 360

Прасіла дзеванька сваяго баценька:
— Захавай, баценька, каравай
Да новай каморы, да замчэстай скрыні.

Захавай, баценька, каравай,
Захавай, родненькі, каравай.

### 361

Абяцалася маці
Нам каморанньку даці,
Дзе каравай схаваці.

### 362

Запрагайце, закладайце
Валы і каровы,
Адправадзьмо, адправадзьмо
Каравай да каморы.

### 363

Наш каравай у рагожы —
Да няхай нясуць прыгожы.
Наш каравай у паперы —
Да няхай нясуць кавалеры.
Наш каравай у палаценцы —
Да няхай нясуць маладзенцы.

### 364

Высока сонейка, высока,
Занясём каравай далёка
Ды й паставім на жыце,
Дай, божа, маладзенькім
Добра пражыці.
Паставім на аўсе,
Дай, божа, як усім.
Паставім на сена,
Пражывіце шчасліва.

### 365

Вынялі каравай з бялёнай печы,
Вынеслі каравай да новай клеці,
Палажылі каравай на бацькавай скрыні.
На цісовенькім стале
Дарагі тавар ляжыць.
Гэта не дарагі тавар —
Гэта Матронін каравай,
Гэта яе заслужанька
У раднога баценькі.

### 366

Нясіце каравай, нясіце
Да ў жытнічку палажыце.

Не кладзіце каравай у жыце,
Палажыце каравай у гаросе.

Палажыце каравай у гаросе,
Каб нашым маладым павялося,

Бо наша маладая сярдзіта
А выкіне каравай із жыта.

## 367

Караваю, граю,
Каля цябе харашо іграем:
Із печачкі да й у вечачка,
Да да новае клеці,
Да цісовай да кравацi.

## 368

— Ой, чый то братайка
Пад караваем гуляе,
Да новай каморанькі
Дарожанькі пытае?

— Гэта Надзеччын братайка
Пад караваем гуляе,
Да новай каморанькі
Дарожанькі пытае.

## 369

— Чые ж то сястрыцы
Пад караваем скакалі?
— Маладога сястрыцы
Пад караваем скакалі
З квятамі, з касіцамі,
З чорнымі ачыцамі.

## 370

Пытаўся каравай пярэднічку:
— Ці ёсць сцежачка да клеці?
— Ты ж, караваю, не пытайся,
Вазьмі піражок, апірайся
І да клетанькі дабівайся,
Да і ў жытніку палажыся,
Маладому князю не скажыся.

## 371

Пытаўся каравай у перапечы:
— А куды сцежка да клеці?
— А ты, каравай-варапай,
Часта ў клеці бываеш,
Сцежкі-дарожкі пытаеш.
Вазьмі палку, папірайся,
Сам сцежкі ў клетку дабівайся.

## 372

А пытаўся каравай у перапечы:
— Куды тут сцежка да клéці?
— А ты, караваю, не пытайся,
Вазьмі піражок, папірайся.
А цераз парог, а цераз другі,
А цераз трэці — ў клеці.
— Палажыце яго на жыце,
Дай, божа, яго спажыці,
А нашым дзецям доўга пажыці.

## 373

Да пытаўся каравай у печы:
— Ці далёка сцежачка да клеці?
— Да сцежачка цераз пералаз,
Папытаймо яшчэ раз.

## 374

Пытаўся каравай у перапечы:
— Куды сцежка да клеці?
А я і рагат і багат —
У малыя дзверцы не ўлезу,
А ў вялікія — як шыю.

## 375

А не пытайся, каравай, у перапечы,*
А куды сцежка да клеці.
Не пытайся, каравай, не пытайся,
Вазьмі піражок, папірайся,
А ў клетачку дабівайся.

А ў клетачцы на паліцы
А ляжыць сырок бяленькі,
Ой, зяць цешчы міленькі.

## 376

Да пытаўся каравай у перапечы:
— Да чы е сцежачка да клеці?
— Ой, е сцежачка, да маленька,
Да на ёй муравачка зеляненька.
Да будземо музыкі наймаці,
Да будземо муравачку таптаці,
Караваю месца шукаці.

## 377

Папытайцеся ў перапечы:
— Ці далёка сцежка да печы?

— Зарасла сцежка муравою,
Шаўкавою травою.

— Мы хлопчыкаў прыпросім —
Тую траву пакосім.

Мы дзевачок прынаймём —
Тую траву паграбём.

---

* Кожны з першых чатырох радкоў паўтараецца.

Пытаўся каравай перапечы:
— Ці далёка сцежка да клеці?

— Да тая сцежка не мякkенька,
Да па ёй траўка зеляненька.

— Мы хлопчыкаў папросім
Да тую траўку пакосім.

Да тую траўку пакосім,
Чаравічкамі разносім.

## 379

Віце, сядухі, сядзелі,
Мы гора гаравалі —
Каравай да каморы схавалі.

## 380

А мы былі ў клеці,
А відзелі тры рэчы:
Сыру паліцы,
Піва піўніцы
І мёду шкляніцы.

# ЧАСТУЮЦЬ КАРАВАЙНІЦ

## 381

Не буга́енька ў жыце,
Не бугаенька ў полі —
Да цяліцы ў пшаніцы.
Наш жанішок маладзенькі,
Частуй каравайніцы.

## 382

Дзе ж наш гаспадар дзеўся,*
Ці ў клочча ўвярцеўся?

Трэба яму да сорам знаці —
Нам гарэлачку даці.

Я маладзіца, да не дзеўка,
Тудэм ішла, дзе гарэлка.

Пахне гарэлачка ў бочачцы —
Мне маладзенькай хочацца.

Дайце мне мерачку — я вып'ю,
Дайце другую — я й тую.

І трэцюю скаштую,
За чацвёртую дзянькую.

У мяне таго не купіць,
Дайце й пяту — буду піць.

Ён кудрамі патрасе,
Нам гарэлачкі прынясе.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

383

Усадзілі мяне ў дзела,
Аж лічка запацела.
Дайце ж мне гарэлачкі.
І дайце густа з перцам,
То я вып'ю з шчырым сэрцам.

384

Ой, папала ж я у дзела —
Мне чола запацела,
Гарэлачкі захацела.
На бога ж гляньце,
Хоць капельку дайце.

385

Скупая гаспадыня,
Пахадзі па святліцы
І пашукай па паліцы,
Чы тлустая гуска
Для нас на закуску,
Чы вялікі гаршчок кашы,
Чы пад'ядзяць каравайніцы нашы.

386

Слаўны наш караваю,
Скупы гаспадару,
Не стой за дзвярамі,
Нясі бочку піва,
Барылку гарэлкі
Для нашай дзеўкі.

387

Каравайніцы маладыя,
Ды не маладыя — медавыя.

Яны гарэлачкі ды не п'юць,
А салодкага мёду ждуць.

Хоць пчолачку замарыце,
Нам гарэлачку падсыціце.

### 388

Каравайніца не галодна:
Не п'е гарэлкі, што халодна.
Падкінь мядку, падсып жарку —
Будзе яна цяплюсенька,
Як мёд, саладзюсенька.

### 389

Да за караваю куса
Ўсю ночку таўкуся,
Да ні чаркі гарэлкі,
Ні краснай дзеўкі.

### 390

Дзякуймо маладзіцы
За тыя паляніцы
І за зялёнае віно,
І за добрыя ўжыткі.
— Вясельная маці,
Хадзі танцаваці,
Тупні на памосце,
Развесялі госці
Для сваёй любосці.

### 391

Дзякуем богу
Да й за дар божы,
Што ў гэтым дому
Гаспадар гожы.

Што пілі-елі,
Прыспарай, божа,
А з купы тачылі,
Прыспарай, божа.

## 392

Ой, як ішла на караваец
Да несла каробачку яец,
Перастрэлі мяне хлопцы
Да пабілі яйцы ў каробцы.
Што ж я буду, бедна, рабіці,
Чым я буду каравай масціці?
Да пайду я да Крамянца
Да купаваці яйца.
Па тры грошы плаціла,
Каравай змасціла.

## 393

Старшая свашка мала *
У караваі задрамала.

А вы, хлопцы, не глядзіце,
З караваю свашку цягніце

Ды ў кажух укруціце,
Ды ў запечку пасадзіце.

Наша цела запацела,
Гарэлачкі захацела.

## 394

Каравайніцы п'яны **
Усё цеста пакралі.
Усё цеста пакралі,
У кішэні пахавалі.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

Пашло наша цеста
На піва й на гарэлку.
На піва й на гарэлку,
На красную дзеўку.

## 395

А калі я каравай качала,*
Тады я жыватом крычала.
Ой, іскарка, іскарка
З прыпечка скакала
Да ў Евачкі пытала:
— О Евачка, Евачка,
Ці ў ласцы ты з маткай?
А калі ж бы ты не ў ласцы,
Дык твой каравай не ўдасца.
— Шкода было да етага дару,
Што падала да столу гаду:
А ні рук не памыла,
А ні бога не ўсхваліла.
— А я і ручкі мыла,
Я і бога хваліла.

## 396

Старшая каравайніца **
Паехала ў дровы.

І паехала ў дровы
На рабой карове.

Там яе сам бог караў —
Карову мядзведзь задраў.

Карову мядзведзь задраў —
Каравайніцу спужаў.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 397

Старшая каравайніца
Паехала ў лес па дровы.
Да тупою да сякераю,
Да сляпою да кабылаю
За пень зачапілася,
На калоду прабілася.

## 398

Старшая каравайначка
Да па полю гарцавала,
З зайчыкамі танцавала
І птушачкі цалавала.

## 399

Каравайніцы-сёстры,
А ў іх наскі вострьі.
А хто к ім прыткнецца,
Той мёду нап'ецца.

## 400

Каравайніцы-дружы
Цягаліся каля лужы.
Яны намачыліся,
У каравай папрасіліся.

Каравайніцы немы —
Усё цеста з дзяжы паелі.
Паелі, пакралі,
У кішэнь пахавалі.

## 401

Каравайнічкі немы —
Грэцкую муку елі
Ды мукою папыліліся,
Гасцюкамі падавіліся.

## 402

Каравайніцы немы —
Каля дзяжы муку елі.

Каля дзяжы муку елі,
У каравай убіліся.

Не жалейце белай рукі,
Каб не было на дне мукі.

Бо як на дне мука будзе,
Каравайніцам стыдна будзе.

## 403

Каторая каравай мясіла,
У бога долі прасіла,
А каторая каравай катала,
Тая жыватом крычала:

— Дай мне, божанька, сем дзевяроў,
А заловачку хоць адну.
З дзевярамі іду — смяюся,
А з залоўкай іду — бранюся.

## 404

А старшая каравайніца
Яна сабе гуску мала
Да ў чэраду праганяла:
— Гыля, гыля, гуска, ў чэраду
Да па самаму пераду.
І пастушку прыказала:
— Калі маю гуску ўтраціш,
Так сем коп заплаціш.

## 405

Старша каравайначка
Сама сабе да бяду шчаўпла:
На прыпечку да трыбух спякла.

## 406

І казалі, я гультай,— *
Аж я работніца:

Сем гадоў хвартух ткала,
Тры гады хвартух шыла.

Тры гады хвартух шыла,
На каравай спяшыла.

Пакуль каравай замясіла,
Я й хвартух свой знасіла.

## 407

Каравайніца-маці
Не ўмее жыта жаці,
Толькі ўмее па вяселлях хадзіці,
Караваі мясіці.

А ў гэтай маці кашулькі няма,
Пашла яна да суседачкі прасіці:
— А суседачка мая,
Ды пазыч мне кашульку.

А пазыч мне кашульку
Каравай замясіці.
Я каравай замяшу
І кашулю прынясу.

## 408

— А чыя жана не ўмее жыта жаці,—
Толькі ходзіць па вяселлейках каравай учыняці?

— [Пётрава] жана лянуецца жаці,
Толькі ходзіць па вяселлейках каравай учыняе.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 409

Каравайніца-красуля,
У яе тонкая кашуля.
Не сама яна выпрала,
Не сама яна выткала,
Не сама бела бяліла,
Не сама часта пашыла.

Пшонка тонка выпрала,
Жыта часта выткала,
Грэчка на рэчку насіла,
Гарох з рэчкі прыкаціў,
Сачыўка пашыла.
Яна ж, шэльма, знасіла.

## 410

У каравайніцы кашуля
Сто злотых каштуе.
Не сама яна зрабіла —
Пшонка тонка папрала,
Жыта густа паткала,
Грэчка на рэчку замчала,
Ячмень бела пабяліў,
А гарох у трубку завіў,
Крупы і сала пашыла,
На каравайніцу ўзлажыла.

## 411

Каравайніца-няраха,
Нямытая рубаха.
У апалодніку памыла,
Перад сопаўкай сушыла,
На вяселлейка спяшыла.
Тры дні сама не мылася,
У дзяжу ўбілася.

## 412

А дзе тая каравайніца,*
Што ў сераду каравай пякла?
Пякла, пякла ды сама ўцякла,
На парозе паваліласяя,
Караваем удавілася.

## 413

А хто каравай учыняў,
Каб той пад печчу начаваў, **
А хто каравай замясіў,
Каб ён пад печчу галасіў.

## 414

— Каравайніцы-мядзведзі,
Не начуйце у дзяжы.

Калі будзеце начаваці,
То зробіце па дзіцяці.

— А мы будзем нянькі наймаці
Да будзем дзеці калыхаці.

## 415

— Да чыя жона гожа,
Што зубамі ночаў гложа?
— Іванава жона гожа,
Яна зубамі ночаў гложа.

## 416

Ой вы, сванькі — сарокі, сарокі,
Спеклі каравай бязбокі, бязбокі.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожны наступны радок паўтараецца.

## 417

Каравайніца, як дрозд, скача,
А ў калысцы байструк плача.
— Ціха, ціха, байстручку,
Дам табе цеста ў ручку.

## 418

Ясна зорачка, ясна,
Каравайніца красна.
— А чаго яна красна?
— Гарэлачкі напілася,
Каля печы нагрэлася,
Тым яна зардзелася.

## 419

— Ой, старшая каравайначка ўпілася.
На каго ж яна, маладзенька, здалася?
Ой, хто яе да доманьку завядзе?
— Ой, што ж вам, каравайначкі, да таго?
Ой, е ў мяне міленькі для таго.
Ой, то ён мяне дадоманьку завядзе,
Ой, то ён мяне на ложу белу паложыць,
Ой, то ён мяне кітайкай надзене,
Ой, то ён мяне каханкай назаве.

## 420

За калодай за дубоваю
Там ляжалі рогі.
Там старшая каравайніца
Задрала ногі.
Да затым яна задзірала,
Што па поўнай выпівала.

За калодай за дубоваю
Там ляжалі зубы.
Там старшая каравайніца
Развешала губы.
Да затым яна развешала,
Што па поўнай выпівала.

## 421

Каравайніцы п'яны,*
Да ўсё цеста пакралі.

Да ўсё цеста пакралі
У пазуху да ў кішэню.

У пазуху да ў кішэню,
Сваім дзецям на вячэру.

Як на ліха пашло,
У кішэні цеста падышло.

У кішэні цеста падышло,
А кішэня адарвалася.

А кішэня адарвалася —
Я сарама набралася.

## 422

Каравайнічкі-зладзейкі
Пакралі цесцечка ў кішэнькі.

Наш каравайчык велькі рос,
А Яська да Манькі ракам поўз.

Нашы каравайнічкі-смяюшкі
Пакралі цесцечка ў хвартушкі.

## 423

Каравайніцы-п'яніцы
Да ўсё цеста пакралі,
Да ў кяшонкі паклалі.
Стала цеста бушаваці,
Стала кяшонкі распіраці.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 424

Каравайніцы з места
Пакралі ўсё цеста.
Яшчэ адна прышла з сяла
І тая ўкрала з цяля.

## 425

Каравайнічкі з места,
Не бярыце ў кішэні цеста,
Бо як ліха прыдзе,
Цеста ў кішэнях зыдзе.

## 426

Каравайніца п'яна
Ўсё цеста пакрала:
То ў торбу, то ў пазуху,
То ў лычную сумку.

## 427

— Каравайніцы п'яны
Усё цеста пакралі:
То ў мех, то ў кішэню,
То дзецям на вячэру.

*Каравайніцы адказваюць:*

— Мы ж цеста не кралі
І ў кішэні не бралі,
Дадому не хадзілі
І дзецям не насілі.

## 428

Каравайніцы немы —
Усё цеста паелі:
Хто ў рот, хто ў кішэню,
Дзецям на вячэру.

## 429

Каравайніцы з места (2)
Пакралі ўсё цеста,
І будзем іх калаціці, (2)
Цеста нахадзіці.

Каравайніца маладая (2)
Яна таго ўсё адбудзіць — (2)
Нам гарэлкі купіць.

## 430

Каравайніцы напіліся —
Караваю ў дзяжы забыліся,
Караваю-цестачка,
Залатое дэначка.

## 431

Свіння з'ела, зрыла,
Ямкі парабіла.
Каравайнічкі п'яны
Нажы паламалі.
А свіння начавала,
Сабе бульбы шукала.

## 432

Славен, славен [Іванка]
Папаіў жоначак.

Папаіў жоначак,—
Пагубілі жоначкі світачкі.

Зачнецца світаці,
Пашлем мужыкоў шукаці.

Шукаў, шукаў — не знайшоў,
Заплакаўшы, да й пайшоў.

## 433

Гібецеся, сені,
Дзе каравайначкі селі.

Не намнога яны селі —
На час, на гадзіначку,

На час, на гадзіначку,
На гэтую вечарыначку.

## 434

Каравайніцы, не расходзьцеся,
Сватачанькі, не расходзьцеся,
Бо дзяўчыны баценька
Будзе даром дарыці
Па паўненькай, па паўнюсенькай,
Па гусеньцы па бялюсенькай.

## 435

Перад вароты возера — відно дно,
Каравайнічкам да дадому не відно.
Зраўняй горы, даліны раўненька,
Каб было дадому відненька.

## 436

Старшая каравайнічка,
Глядзь у аконечка,
Чы высока сонечка на небе.
Як яшчэ рана — пагуляймо,
А як позна — разыйдзямося розна.

Казала лапата,
Што е ў кожнай хаце:
— Кожна свой дом мае,
Свайго мужа норавы знае.

## 437

Старшая каравайніца,
Да пасунься на лаве,
Адчыні да ваконейка,
Паглядзі да на сонейка,
Да ці рана, ці позна.
Да калі ж яшчэ рана —
Да пойдзем пагуляем,
А калі ж ужэ позна —
Да разойдземся розна.
Вып'ем да па кубачку,
Заўём да галубачку,
Да пасадзім на сані,
Да няхай едзе з намі,
Да няхай едзе з намі,
З пышнымі панамі.

## 438

Я ж была да на караваі,
Як пчолачка ў раі.
Там мяне частавалі
Віном зеляненькім,
Мядком саладзенькім.
Далі нам піць і есці
І лавачку сесці,
Цісовую краватачку
Да спатачкі легчы.

## 439

Зарадзіла пшаніца,*
Што конь капы ды не павязе,
Сват каравая ды не панясе.
— Запрагай, сватка, кабылку,
Вязі каравай да маладзенькай.

## 440

Ой, сялом ідуць,*
Сялом вецер вее,
Сялом вецер вее,
Збоку сонца грэе.

## 441

Зажурыўся каравай,
У каморы стоя:
— Самі п'еце, гуляеце,
А аба мне не дбаеце.

## 442

Папытайся, каравайка, у лапаты:
— Ці далёка сцежка да хаты?
[illegible]
— Цераз тын, цераз пералаз,
Папытай, каравайка, яшчэ раз.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 443

Ой, просіцца каравай
Із каморы да сяней,
Із сяней аж да хаты,
На цісовы столічак.

## 444

Каравай, ідзі з клеці
Да сядай на покуці,
Бяры сабе чарачку,
Налівай гарэлачку.

## 445

Ляці, ляці, каравай, з клеці,
Сядзь сабе на покуці
У зялёненькім жыце,
Дай бог маладым жыці.
На покуці каравай дзеляць,
А ў запечку месяць,
А на печы дзяцей цешаць.

## 446

Не стой, каравай, у жыце,
Годзе табе служыці.
Служыў у нядзелю,
Служыў у панядзелак,
Служыў у аўторак.

А ў аўторак — нажоў сорак,
Трэба цябе раздзяліці,
Трэба цябе раздзяліці,
На мір божы распусціці.

## 447

Букаты каравай, букаты,
Ідзе па сцежачцы да хаты.
Сюдою, каравай, сюдою,
Зарасла сцежка травою,
Зялёнай муравою.
Малайцоў папрасілі —
Гэту траву пакасілі.
А дзевачак пазавём —
У копачкі пакладзём.
У копачкі пакладзём,
Сватнім коням аддадзём.
Сватнім коням аддадзём,
Маладзічку ад вас забяром.

## 448

Нясіце каравай, нясіце,
Сваю маладую пакажыце.

Начавалі, прыбіралі
І ў што яе прыбралі?

Ці ў золата, ці ў атлас,
Ці ў такія сукні, як у нас?

Нясіце каравай, нясіце,
На століку палажыце.

У століку ножкі гіблюцца,
Людзі караваю дзівяцца.

## 449

Пакажэце, сваткі, каравай ваш,
Каравай ваш.

Мы забачым, ці такі, як наш,
Такі, як наш.

Наш каравай бялейшы, бялейшы,
Бялейшы.

Нашыя гускі пякнейшы, пякнейшы,
Пякнейшы.

Ці красён, ці вясёл?

## 450

— Чыя ж гэта радзіна
Пад караваем хадзіла?
— То Сцяпанкава радзіна
Пад караваем хадзіла.
Наш каравай высшы,
Наш і род дружшы.

## 451

Чыя ж то радзіна
Пад караваем хадзіла?
Пад караваем высокім,
Пад лістам шырокім.

## 452

— Чый, чый каравай выша?
— Наш, наш каравай выша.
— А чыя свечка яснее?
— Наша Аксенька краснее.

## 453

Ой, бярыце каравай, бярыце.
Ой, нясіце каравай, нясіце.

Палажыце каравай на арудзе —
У нашай маладой сын будзе.

Палажыце яго на стале —
Сталовыя ножкі гіблюцца,
Людзі з караваю дзівяцца.

Ой, дзівіце, не дзівіце —
Па даляру палажыце.

Па даляру, хоць па два:
Наша маладая не ўдава.

Наша маладая дзевачка,
Як у садзе кветачка.

А малады дзецючок,
Як у садзе гваздзічок.

## 454

Прыгож-харош наш каравай —
Госпаду богу на хвалу,
Нашым маладым на славу.

Палажылі каравай на стале —
Сталовыя ножкі гіблюцца,
Людзі з караваю дзівяцца.

— Сватка Мікалаю,
Ды не крой караваю:
Мы з гэтым караваем
Яшчэ ноч пагуляем.

## 455

Віўся каравай клубком
Пад зялёным дубком,

Да ў чысценькім полі,
Да на вараненькім коні.

Да яшчэ будзе віцца,
Як на месцы станавіцца.

## 456

— Вітай, вітай, святы караваю,
Вітай, вітай із божага дому.
Дзе ж ты быў, святы караваю?
Што ж ты відзеў з божую дару?
— Бываў жа ■ ў чыстым полі,
Стаяў жа я яраю пшаніцаю,
А цяпер стаю на цісоваму сталу,
А цяпер стаю на льняному абрусу.
Відаў жа я месяца з зарою,
Відаў жа я абое ясненькі.
Не есць то ясненькі месячэнька,
Но то мне еродненькі баценька.
Не есць то мне ясная зоранька,
Но то мне есць родная мацюнка.
Сядзяць сабе двое ўдалыя
І спаўняюць сабе поўненькі поўныя.
Сядзяць сабе ў новенькай святліцы,
Спаўняюць мёд-віно склянніцы.
Там яны ў золаце сядзяць
І мёд-віно спаўняюць.

## 457

— Вітай, караваю, із божага дару.
Дзе ж бываў, святы караваю,
Што ж відаў із божага дару?
— Стаяў жа я ў чыстым полі на ніве,
Відаў жа я жыта, пшаніцу
І ўсякую пашніцу.
А цяпер жа я стаю
На тым самым сталу
І на абрусові льняному,
А цяпер віджу баценька з матанькаю.
Ідуць ся ў новеньку святліцу
І спаўняюць мёду шкляніцу.

## 458

— Дзе ж ты бываў,
Што ты чуваў,
Святы караваю?

— Бываў жа я,
Чуваў жа я
Месяца з зарою.

— Не ёсць жа то,
Не ёсць жа то
Месяц з зарою,

А ёсць жа то,
А ёсць жа то
Іванка з жаною.

## 459

Калі мы каравай мясілі,
Тады мы радзіны не прасілі.
А будзем каравай дзяліць,
Будзем мы радзіну прасіць.

## 460

Сейся, авёс ранні,
Прыбывай, родзе слаўны:
Дзядзюхны і цёткі,
Брацейкі і сястрыцы
Каравай дзяліці.

## 461

Сыйдзі, божа, з неба,
Цяпер ты нам трэба:
Памагаў учыняці,
Памажы й замясіці,
Памагаў усадзіці,
Памажы й надзяліці.

## 462

Засвяці, божа, з раю
Нашаму караваю,
Штоб было віднесенька
Краяці драбнесенька,
Каб усіх абдзяліці,
Нікаго не ўкрыўдзіці,
Бо ў нас род вялікі,
А каравай невялікі.

## 463

Ой, у полі, полі вежа стаяла,
Муравана і малявана.
А ў той вежы дружачка ляжыць.
— Устань, дружаньку, не ляжы,
Палень-паляні,
Каравай падзялі.

## 464

— Рана, рана *, што ў лесе звінела?
— Не звінела — гаварыла.
— Ой, што яно гаварыла?
— Яно гаварыла, што за гарою новы двор.
— А што ў гэтым двары?
— А што ў сім двары вяселле.
— А што ў гэтым вяселлі?
— Стаіць столік цісовы.
— А што на тым століку?
— Ляжыць скацерць рубчаста.
— А што на той скацерці?
— Ляжыць каравай, божы дар.
— А што ў гэтым каравай ёсць?
— З сямі крыніц вадзіца.
— Што ў гэтым каравай ёсць?
— З сямі азёр соль.
— Што ў гэтым каравай ёсць?

* Рэфрэн «Рана, рана» паўтараецца перад кожным радком.

— З сямі палёў пшаніца.
— Што ў гэтым караваі ёсць?
— З сямі свінак саліца.
— Што ў гэтым караваі ёсць?
— З сямі каровак маслечка.
— Што ў гэтым караваі ёсць?
— З сямі раёў мядок.
— Да каму каравай кроіці?
— Свяцілцы каравай кроіці.
— А што мовіць свяцілка?
— Ой, я, братцы, не ўмею
Да яшчэ к таму і не смею:
Я ножыка не маю,
Сяго караваю не ўкраю.
— Каму каравай кроіці?
— Княжому каравай кроіці.
— Я, братцы, не ўмею
Да яшчэ к таму і не смею.
— Каму каравай кроіці?
— Старшай свасе каравай кроіці.
— А я, братцы, не ўмею
Да яшчэ к таму не смею.
— Каму каравай кроіці?
— Меншаму дружку каравай кроіці.
— Ой, што мовіць дружок?
— Я, братцы, не ўмею
Ды яшчэ к таму і не смею:
Я ножыка не маю,
Сяго караваю не ўкраю.
— Каму каравай кроіці?
— Сярэдняму дружку каравай кроіці.
— Ой, што мовіць дружайка?
— Я, братцы, не ўмею
Ды яшчэ к таму і не смею:
Сяго караваю не ўкрою.
— Каму каравай кроіці?
— Старшаму дружку каравай кроіці.
— А што мовіць дружайка?
— Ой, я, братцы, ахочы каравай кроіці,
Умею да яшчэ к таму і смею:
Ёсць у мяне ножык залаты,
Я к сяму дзелу ахвочы,
Мы сей каравай раскроім

Да на мір божы раздарым,
Да на мір божы раздарым,
На залатыя талеркі да нап'емся гарэлкі.

### 465

Да рана, рана *, нешта ў лесе звінела,
Не звінела — гаварыла.

Не звінела — гаварыла.
За гарою новы двор.

Да за гарою новы двор,
А што на том жа дварэ?

А што на том жа дварэ?
Да стаіць нова скам'іца.

Да стаіць нова скам'іца,
На скам'іцы скацерка.

На скам'іцы скацерка,
На скацерцы каравай.

На скацерцы каравай.
А што ў том караваі?

А што ў том караваі?
Да сямі нівак пшаніца.

Да сямі нівак пшаніца,
Да сямі крыніц вадзіца.

Да сямі крыніц вадзіца,
Да сямі сальніц сальніца.

Да сямі сальніц сальніца,
Да сямі курак яечка.

* Рэфрэн «Да рана, рана» паўтараецца перад кожным радком.

Да сямі курак яечка,
Да сямі дровак маслечка.

Да слухайце, баяры,
Катораму дружку кроіць?

Катораму дружку кроіць?
Младшаму дружку кроіць.

Младшы кажа: — Не ўмею,
Я й ножыка не маю.

Караваю не ўкрою,
Я й радзімы не абдзялю.

Катораму дружку кроіць?
Срэдняму дружку кроіць.

Срэдні кажа: — Не ўмею,
Я й ножыка не маю.

Караваю не ўкрою,
Я й радзімы не абдзялю.

Катораму дружку кроіць?
Старшаму дружку кроіць.

Старшы кажа: — Я ўмею,
Я й ножыка да й маю.

Я й ножыка да й маю,
Я й караваю украю.

Я й караваю укрою,
Я й радзіму абдзялю.

**466**

Манечка татку просіць:
— Не пачынай караваю.

Не пачынай караваю,
Можа, я яшчэ пагуляю

На шырокай вуліцы
З харошымі хлопцамі.

## 467

Дружку Мікалаю,
Не рэж караваю:
Не ты яго мясіў,
Не ты яго садзіў —
Мясілі свашачкі,
Садзілі маршалачкі.

## 468

Да дзяліце каравай, дзяліце,
Да сярэдзінку астаўце.

Да сярэдзінку астаўце,
Да на пяўчыцы астаўце.

Да на пяўчыцы астаўце,
Старым бабам не давайце,

Бо старыя бабы сакочуць,
Яны караваю не хочуць.

## 469

Караваю, маю,
Шышкі паламаю.
Шышкі паламаю
І ў карман пахаваю.

## 470

Дружка каравай крае,
Залаты ножык мае,
Срэбную талерачку

І шаўкову хусцінаньку.
Не шкода ей даці
Каравая пакраяці.

## 471

Дружко каравай крае,
Залаты ножык мае,
Срэбрану талерачку.
Лепша мая ручка,
Як тая талерачка.

## 472

Крае сват каравай, крае,
Залаты ножык мае,
На срэбную да талерачку,
На салодку да гарэлачку.

## 473

Дружко каравай крае,
Яму бог памагае,
Яму бог памагае.
Залаты ножык мае,
Срэбную талерачку —
Абсылаці радзіначку.

## 474

Дружка каравай крае,
Палавіну раскрадае:
За пазуху, то ў кішэню
Для дзеці на вячэру хавае.

## 475

Дружка каравай паразае,
То ў печ, то на печ пазірае.
А ў печы каплун пячоны,
А на печы часнок таўчоны.

## 476

Дружко да каравай рэжа,
Да за ім жана стаіць,
Да семера да дзяцей дзяржыць.
Да семера, да дзявяцера,
Да ўсіх да дзясяцера.

## 477

Дружко каравай крае,
А за ім да жана сядзіць,
Семера дзяцей дзяржыць.
Думаці-гадаці,
Чым дзеці гадаваці.

## 478

Дружко каравай рэжыць,*
Залаты ножык лосніць,
Жана сядзіць за плячамі
З семярымі дзяцямі.

## 479

Дружко каравай крае,
Залаты ножык мае.
То ў рот, то ў кішэню —
Усё дзецям на вячэру.

---

* Кожны радок паўтараецца.

480

Дружко каравай дзеле,
За ім да жана ходзе,
Семера дзетак за сабой водзе
Да ўсе з кашалямі.
Што й у рот, што й у кішэню,
Што б было на вячэру.

481

Дружко каравай кроіць,
Назад пазіраець —
Там яго да жана стаіць,
Семера дзяцей дзяржыць
Да ўсе з кашалямі —
Увесь каравай пабралі.

482

Маршалак каравай рэжа,
У яго з носа лезе.
Яго жонка лае,
Чаму носа не ўцірае.

Маршалак каравай крае,
Сам а сабе не дбае.
За нім жонка ходзіць,
Семера дзетак водзіць
І ўсе з кашалямі,
Як бахуры з тарбамі.

Маршалак каравай дзеліць,
Сам сабе не верыць:
То ў рот, то ў кішэньку,
Штоб пажывіці жонку.

*Маршалак адказвае:*

— Што вам за тое даці,
Што ўмееце брахаці?
Чы гароху місу,

Чы сабаку лысу,
Чы жменю ячменю,
Чы воўчу пячэню?

[*Яму адказваюць хорам*]:

— Мы гарох прымемо,
Вам сабаку адашлемо.
І ячмень вазьмемо,
Вам пячэню аддаемо.

## 483

Да дружка каравай рэжа,
Да з носа смаркач лезе.
Да падайце дзеркачышча,
Да падцерці да насішча.

## 484

Наш сватка каравай рэжа,
А з носа смаркач лезе.
Ох ты, сваха, не забывай,
Свату нос уцірай.

## 485

Дружко, каравай падзеліш
І трое людзей загневіш:
Адны — перадпячкане,
А другія — запячкане,
А трэція — за парогам.
У каўша залатая душа,
Быў на месце, просім тосты.
Дайце каравая і белага сала.

## 486

— Ой, караваю, караваю,
А хто цябе задумаў? *
— Задумаў мяне Іванка,
Ў чыстым полі аручы
Да пшаніцу сеючы.
— Зарадзі, божа, пшоначку
Да на маладую жоначку.

## 487

Каравай мой, караваю,
Ой, хто цябе задумаў?
Задумала цябе Надзечка,
У чыстым полі ходзячы,
Да пшанічку родзячы.
Урадзі, божа, пшаніцу
Да на мой каравай багаты.

## 488

Дзякуй сватам за каравай,
Кіслы, смачны, салёны,
У віннай дзяжы квашоны,
У залатой печы пячоны.

## 489

Дзякуй маладой, маладому
І табе, дружку,
За тваю ўслужку.
Дзякуй усем,
А каравай сам з'ем.

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

**490**

Дзякую наперад пану богу,
Айцу і матцы,
Маладой і маладому
І таму колу,
Што сядзіць ля столу,—
Невыборна, усім, пакорна.
Дзякуй за каравай,
За божы дар!

**491**

Стараста вызвалёны,
Каравай падзялёны.
Дай жа божа добра лета,
Штоб радзілася нам жыта,
Ячмень і пшаніца
І ўсякая пашніца.

# ПРОСЯЦЬ КАРАВАЯ

## 492

Наш сват каравай нясе
Ды кудрамі трасе.
Хоць трасі, хоць не трасі,—
Нам караваю дасі.

## 493

Сватка Мікалаю,
Дай нам караваю.

Не дасі караваю,
Мы твайго каня ўкрадзем.

Мы твайго каня ўкрадзем,
Да плота прывяжам,

Да плота прывяжам,
Будзеш пытаць — не скажам.

Павядзем у адрыну,
Адрэжам хвост і грыву.

Будзеш ехаць праз места,
Будуць людзі дзівіцца:

— Нам сказалі — сват багаты,
А ў яго конь куртаты.

## 494

Дружка-варапаю,
А дай нам караваю.

А не дасі караваю,
Мы ж тваўго каня ўкрадзем.

А прывяжам к елі,
Каб яго ваўкі з'елі.

## 495

Дай, сватка, караваю,
Бо я тваю жонку аблаю.
От на рынку, на таргу
Пад сявеньку падвярну.
Ды будзе яна трапятацца,
Ды будуць усе людзі смяяцца.

## 496

Спаймалі свата, спаймалі,
Ручніком звязалі.
Спаймалі над малаком,
Звязалі ручнічком.
Як не дасі караваю,
Тваю жонку аблаю
На кірмашу, на таргу,
Як будзе прадаваць качаргу.

## 497

Сваційка, мы табе раім:
Дай нам караваю.

Не дасі караваю —
Мы цябе аблаем.

Не дасі гарэлкі —
Прападуць авечкі.

Не дасі віна —
Падохне свіння.

## 498

Сванечка маладая,
Мы цябе даўно ждалі.
Мост масцілі,
Каб сванечка не ўпала,
Каравай не зламала,
Віна не разліла.

## 499

У нашага свата рыжа барада,
Яшчэ ў свата крывая нага.
У нашага свата крывая нага,
А яшчэ у свата лыса галава.
Ды рыжаю барадою печ мялі,
А крывою нагою жарграблі.
На лысай галаве боб малацілі
Да ў свата каравая прасілі.

## 500

Мы пшанічку палолі,
Ручкі накалолі.

У нас вочы не папоўскі,
Мы людзі не такоўскі.

Выце, маршалку, сорам знайце,
Нам каравая дайце.

## 501

Мы пшаніцу палолі
Ручкі пакалолі.
Павінны сваццi сорам знаці,
Нам каравая даці.

Мы пшанічаньку жалі,
Караваю не кушалі.
Павінны сваццi сорам знаці,
Нам каравая даці.

## 502

Дружаньку-галубаньку,
Дай нам хоць гусаньку.
Мы пшаніцу палолі,
Ручкі калолі,
Караваю не спыталі.

Сват каравай крае,
Залаты ножык мае,
Сярэбраную талерачку,
Правую ручаньку.

## 503

Дружка перапечку ўкраў,
Панёс па падлавічу хаваючы.
Казалі, сватоў мала,
Аж іх чорт нагнала,
Скрозь па паліцах іх
І па жартавіцах.

## 504

Сеў гаспадар у канцы стала,
У розе — гаспадыня.
Украяў гаспадар лусту хлеба,
Даў жонцы Марыне.

## 505

Ой, пойдзем да пана,
Занясем каравая,

Каравая пшанічнага
Для пана палітычнага.

Да й не вей, ветрэ, ў полі,
Да павей па святліцы.

Да павей па святліцы
І зруш макавіцы.

Макавіцы зазвінелі —
Нашы паны звесялелі.

## МАЛАДАЯ ЗБІРАЕ ДРУЖАК І ПРОСІЦЬ ІХ ЗВІЦЬ ВЯНОК

### 506

— Ой, сягоння субота.
Да прыбірайся, сэрдачка,
Каб быў стол засланы,
Каб быў яе род сабраны.
— Ёсць у мяне родны бацюхна,
Ён жа стол засцеле,
Ён мне род збярэ.

### 507

Ступлю я на каліну,
Гукну я на радзіну:
— Збірайся, радочку,
У суботу звечарочку,
У суботу позненька,
У нядзелю раненька
На новы двор,
За цісовы стол,
Да Марысі на вяселле.

### 508

Хадзіла Марыська па сваім двару,
Прасіла месяца, ясную зару:

— Зорачка ясная, прасвяці да дня,
Пакуль жа збярэцца ўся мая радня.

— Досыць жа я табе насвяцілася,
Пакуль ты ў мамачкі нахадзілася.

Досыць жа я табе насіялася,
Пакуль ты ў мамачкі нагулялася.

## 509

А ў суботаньку па няшпараньку гадзіну
Збіраецца Марысіна радзіна.

А Марыся свайго бацэньку пытае:
— Нашто ся то радзінанька збірае?

— Ой, на тое, маё дзіцятка, на тое,
Ой, на тваё вяселлечка слаўное,

Ой, на тваё гуляннечка пышное,
Ой, на твае нізкія ўклоны.

## 510

— Ці то той, матанька, вечарок,
Што збіраецца ўвесь радок?
Ці то тая, матанька, гадзіна,
Што збіраецца радзіна?

— Гэта той, дзіцятка, вечарок,
Што збіраецца ўвесь радок.
Гэта тая, дзіцятка, гадзіна,
Што збіраецца радзіна.

## 511

З суботы на нядзелю у гадзіну
Сабраў Нікіпарка сваю радзіну.

— Няхай мая радзіна збярэцца,
Хай маей гарэлкі нап'ецца.

Хай мая мілая радзіна пасядзіць,
Хай майго вяселля паглядзіць.

## 512

А Манечка суботку даждала,
Усю сваю радзінку пасазвала.

Манечка суботкі даждалася,
Уся яе радзінка сабралася.

## 513

— Збірайцеся, ўсе дзевачкі, ў суботку,*
Загадаець вам Рэнечка работку.
Загадаець з канца ў канец хадзіці,
Загадаець гібкія лаўкі насіці.

— Мы паносім гібкія лаўкі за ночку,
Мы увідзім заўтра Рэнечку ў вяночку.
Мы памяцём шыроку вулку да канца,
Мы выправім заўтра Рэнечку да вянца.

## 514

Зборная суботка, зборная,
Чорная сцежачка, чорная.
А хто гэту сцежку вытаптаў?
Малада Волечка ходзячы,
Усіх сваіх падружак просячы:
— Хадзіце, дзевачкі, хадзіце,
Із руты вяночак савіце
Да пакаціце па стале
У роднай мамачкі ў прыпале.
Заўтра прыедзе мой Мішачка да мяне,
Будзе глядзець на мой вяночак, на мяне.

## 515

Апаследнюю суботку
Знайшла Манечка работку —
Стала па хатках хадзіці,
Стала дзевачак прасіці:
— Прыдзіце, дзевачкі, прыдзіце,
Вы мне вяночак завіце.
— Прыдзем, Манечка, мы прыдзем,
Мы цябе дзевачкай не ўвідзім,
Мы цябе ад дзевачак адлучым,
А да жоначак прылучым.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 516

Астатняя настала суботка,*
Рана Нінка пайшла на работку,
А з паўдня па сялу хадзіла,
К сабе дзевачак прасіла:
— Ідзіце, дзевачкі, да мяне,
Звіце вяночак для мяне
Да з руты, з мяты, з лялеі
Да на багровай паперы,
На зялёненькай кітайцы
Ніначцы ў рукі падайце.

## 517

Што ж там за зелле, чорнае насенне?
Учора звечара яна яго сеяла,
А сёння рана паўзыходзіла.

Што ж там за праўда, маладая Сонечка?
Учора звечара па вуліцах хадзіла,
А сягоння рана яна дзевачак прасіла:

— Ой, дзевачкі мае, сястрыцы мае,
Паслужыце вы мне сёння дзень-субота.
Не дзела рабіць, а вяночкі віць,
Да вяночкі віць, да песенькі пець.

## 518

Хадзіла Галечка па сялу,
Збірала дзевачак на вянок:
— Дзевачкі-сястрыцы, прыдзіце,
Болей мяне дзевачкай не ўвідзіце.
— Галечка-сястрыца, прыдзем,
Болей цябе дзевачкай не ўвідзім.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 519

А Лідачка па сенях ходзіць
Падружачак просіць,
Падружачак просіць:

— Дзевачкі, мае падружкі,
Паслухайце мяне,
Хадзіце вы ка мне.

Савіце вы ж мне вяночак
Хоць на адзін вечарочак,
Хоць на адзін вечарочак.

У маём вечку вазьміце,
Золата не ўраніце,
Серабра не рассыпце.

У маім вечку вазьмілі,
Золата ўранілі,
Серабро рассыпалі.

## 520

— І а сягоння ў нас суборная суботка,*
А ці пароблена твая, Фанечка, работка?

Ці пакроены тваe, Фанечка, падаркі,
Ці пазбіраны тваe, Фанечка, бальшанкі?

— І пакроіла мая мамачка падаркі,
І пазбірала мая сястрыца бальшанкі.

## 521

— Ты, сівая зязюленька, **
Ці ўсе сады абкувал(а)?

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Ці ўсе сады абкувала,
Мо каторы абмінавал(а)?

— Толькі того абмінавала,
Ў катораму ноч начавал(а).

— Маладая Мар'ечка,
Ці ўсіх дзявок за дружак пабрал(а)?

Ці ўсіх дзявок за дружак пабрала,
Мо катору абмінавал(а)?

— Толькі тую абмінавала,
З катораю верненька гулял(а).

## 522

— Маладая Манечка,*
Чаго мы к табе прыйшлі,
Што ты нам за дар дасі?
— Да дзевачкі-сястрыцы,
Дам жа я вам дарочак:
З цвяткоў звіце вяночак,
Убярыце галоўку
У чужую старонку.

## 523

Зборная субота, зборная,
Чаму сцежачка чорная?
Вытаптаў Антачак ходзячы,
У садочак дзевачак просячы:
— У садочак, дзевачкі, у садочак
Ды савіце Марылі вяночак,
Хоць не руцяны — ружовы,
Абы хутка быў гатовы.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 524

Што я вас буду, мае дзевачкі, прасіці:
Хаця ж вы мне з руты вяночак савіце.

Я заўтра буду ў таты на куце сядзеці,
На мяне будуць усе людзі глядзеці.

## 525

Садзіцеся, дзяўчаткі, ў радочак,
Савіце ж мне руцвяненькі вяночак,

А каб добра веткі руты сядзелі,
А каб міла сваточкі ўсе глядзелі.

## 526

Віце, дзевачкі, вяночак,
Шчыпіце з руты цвяточак
Да ўвівайце ў вяночак —
І з руты, і з мяты, з лялеі.
Ой, віце, дзевачкі, віце,
Ой, віце, дзевачкі, не кпіце
Ды звіце вяночак, як зліце.

## 527

Сягоння ў нас суборная суботка,*
Млода Валечка ўсіх дзевачак сабрала,
А сабраўшы, за столічак саджала,
Пасадзіўшы, віці вяночак сказала:
— Віце, віце, мае дзевачкі, маленькі,
Да каб жа ён быў майму Юрачку міленькі.
Звіце, звіце, мае дзевачкі, для мяне,
Да каб не было ў чужой старане ганьбы мне.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 528

Куе зазулька, куе рабая,
Па бору лятаючы.

Плача Оленька маладзенькая,
Дзеванькі збіраючы:

— Дзеванькі мае, сястронкі мае,
Цяпер мне адгадзіце:

Із барвіночку, із зялёнага
Мне вяночак савіце.

Ой, як за каго, за абы каго
Барвінку не губіце.

Як за Коленьку маладзенькага,
Золатам убярыце.

— Пастаў, Оленька, кварту гарэлкі,
Саўем вянок табе.

— Пастаўлю кварту, пастаўлю яшчэ дзве,
Савіце вяночак мне.

## 529

Назбірала Олечка дзевачак
На зялёны вяночак,
А сама пашла ў камораньку
З баценькам гаварыці,
З родненькім гаварыці:
— Ой, мой баценька,
Ой, мой родненькі,
За каго ж мяне аддаеш?
Як за якога, за будзь-якога,
То й вярбіначку не псуйце,
А як за Колечку, за маладога,
То й золата не шкадуйце.

530

Ой, пасадзіла млода Каценька
Дзеванькі вянкі віці,
А сама пайшла да каморанькі
З баценькам гаварыці:

— Ой, ці ты знаеш, а мой баценька,
За каго мяне даеш?
Ой, ці за таго, каго я люблю,
То пайду ўбяруся.

Ой, ці за таго, каго я люблю,
То пайду убяруся.
А ці за таго, каго не люблю,
То пайду утаплюся.

— Ой, не тапіся, маё дзяцінка,
Бо ты душу загубіш.
О скажы, скажы шчыра праўданьку,
Каго ты верна любіш.

— Ох, яшчэ бы я, о мой баценька,
Нікога не любіла.
Хай бы я рочак, хай бы я другі
Дзяўчынай пахадзіла.

531

— Баліць галоўка мая,
Ніхто праўды не скажа,
Сама не знаю, не ведаю,
З кім мяне матка вяжа.

Няхай вяжа, няхай вяжа
Па сваёй добрай волі.
Як прыдзецца з нялюбым быці,—
Хоць з маста ды ў воду.

— Не тапіся, дзетка мае,
Бо ты душу загубіш.
Ой, скажы, скажы ўсю праўданьку,
Каго верненька любіш.

— Ой, рада была б, мая матка,
Нікога не любіці,
Каб яшчэ гадок, каб яшчэ другі
Дзеўкаю пабыці.

Дзеўкаю пабыўшы,—
Да людская пагаворка,
Замуж пайшоўшы за нялюбага,—
Бедная галоўка.

Дзеўкаю быўшы,—
Да людзі пасмяюцца,
Замуж пайшоўшы за нялюбага,—
Слёзкі разальюцца.

## 532

Зборная суботка настала,
Млода Ядзечка дзевак збірала.
Сабраўшы, у радочак садзіла.
— Пасядзьце, дзевачкі, у рад,
А я маладзенька паміж вас,
Складу я галоўку ніжэй вас.
Звіце мне вяночак з трох квят:
Першая вятачка — ружачка,
Другая квятачка — міртачка,
Трэцяя квятачка — лялея,
Каб па мне матуля родная памлела.

## 533

А дзевачкі, кампаначкі вы мае,
Пасядзіце за столікам у мяне.
Што я вас буду, мае дзевачкі, прасіць:
Памажыце з руты вяночка савіць.
Мне заўтра трэба мець галовачку ў злаце,
Мяне будуць круга століка вадзіць,
На мяне будуць чужыя людзі глядзець,
Як мая русая каса будзець лялець.

## 534

Зборная суботка настала,
Марылька дзевачак збірала.
— Пасядзьце, дзевачкі, усе ў рад.
Звіце мне вяночак з розных квят,
Каб мая галоўка лялела,
Каб па мне мамачка не млела.
Звіце мне вяночак маленькі,
Каб мне быў Ванечка міленькі.

## 535

Зборная суботка настала,
Ніначка дзевачак сабрала,
Сабраўшы, у радочак саджала.
Сама ж яна села паміж іх,
Скланіла галоўку ніжэй усіх:
— Дзевачкі, падружкі вы мае,
Звіце ж вы вяночак для мяне,
Бо гэты ж вяночак з руты-цвет,
Ён жа мне завяжыць белы свет.

## 536

Зборная суботка настала,
Млода Марылечка дзевак збірала.

Набраўшы дзевачак поўны двор,
Садзіла іх разам за поўны стол.

— Пасядзьце, дзевачкі, вы ўсе ў рад,
А я, маладзюшанька, вышэй вас.

А я, маладзюшанька, вышэй вас,
Скланю галовачку ніжэй вас.

Дзевачкі, сястрыцы вы мае,
Звіце ж вы вяночка для мяне

Не з руты, не з мяты — з лілеі,
Каб маё сэрцайка не млела.

14. Зак. 2120

То ж мае сэрцайка млець будзе,
То ж маёй матулі жаль будзе.

Уецца вяночак, уецца,—
Марысечка слёзкамі ліецца.

Яшчэ ёй вяночак не звілі,—
Толькі ёй жаласці задалі.

Усе кветачкі-пералесачкі зацвілі,—
Усе дзевачкі за столік паселі.

Яе матуля ўсю ночку не спала,
Пакуль белу сукенку дастала.

То месяцам, то зоркамі садзіла,
Каб яна ўсю дарогу свяціла.

## 537

Зборная суботка настала,*
Марыська дзевачак збірала.
Сабраўшы, ў радочак садзіла.
Сама села, малада, між іх,
Скланіла галоўку ніжэй ўсіх.
— Дзевачкі, сястрыцы вы мае,
Звіце ж вы вяночак для мяне,
Звіце ж вы вяночак з трох кветак:
Першая квятанька — рутанька,
Другая квятанька — мятанька,
Трэцяя квятанька — лялея,
Хай па мне матулька не млее.

## 538

Суботачка сыборная настала,
Млода дзевачка ўсіх падружак сабрала.
— Садзіцеся, мае дзевачкі, ў радочак,
Савіце мне, маладзенечкай, вяночак.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А як жа мне вяночка не будзіць,
Тады на вас, дзевачкі, жаль будзіць.
А я ж яго нямножачка панашу —
У аўторак прыданкамі адашлю.

### 539

Суботачка нядзелечкі даждала,
Млода Ніначка ўсіх дзевачак сабрала,
А сабраўшы, у радочак саджала.
— Садзіцеся, мае дзевачкі, у радочак
Да звіце ж мне, маладзюсенькай, вяночак.
Сама села, маладзюсенька, між іх
Да скланіла галовачку ніжа ўсіх.
— Няхай мая галовачка буяець,
Няхай за мной ўсе дзевачкі гуляюць,
Няхай мая галовачка лялееuь,
Няхай мяне ўсе хлопчыкі жалеюць.

### 540

Паследняя суботачка настала,
Маладая Галінка ўсіх сяброўак сабрала,
А сабраўшы, у радочак саджала.
Сама села, малада, між іх
І скланіла галоўку, малада, ніжа іх.
— Хай мая буйна галоўка буяе,
Хай мяне родная мамачка ўспамінае.
Хай мая буйна галоўка лялее,
Хай мяне ўся радня жалее.

### 541

Зборная суботка настала,
Ганулька дзевачак збірала.

Сабраўшы, за столік садзіла,
Ссадзіўшы, работу ім дала:

— Дзевачкі, сястрыцы вы мае,
Звіце ж вы вяночак для мяне.

Прышыйце вяночак да касы,
Каб мая галоўка ялела.

Каб мая галоўка ялела,
Каб мяне свякроўка жалела.

## 542

А зборная суботка настала,
Янечка дзевачкі сабрала,
Сабраўшы, у радочак саджала:
— Садзіцеся, дзевачкі, у радочак,
А я, маладзюсенька, паміж вас,
Скланю я галоўку ніжэй вас,
Вылію слязінку жарчэй вас,
Скажу яму слоўца вярней вас.

## 543

А зборна, зборна суботка,*
Збарней суботы нядзеля,
Збарней нядзелі Леначка:
Сабрала ўбор поўны двор,
Насадзіла падружак поўны стол,
А сама села вышэй усіх,
Схіліла галоўку ніжэй усіх,
Думала-гадала большы ўсіх.

## 544

Зборная суботка настала,
Зіначка ўсіх дзевачак сабрала.
Сабраўшы, у радочак саджала.
— Дзевачкі, кумпаначкі мае,
Звіце вяночак для мяне:
Я маладзенька была,
Я сабе вяночак не спляла.

---

* Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

## 545

Перабор, Валечка, перабор,
Сабрала дзевачак повен двор.

Сабрала дзевачак повен двор,
Хадзіла, прасіла ўсіх за стол:

— Сядзьце, дзевачкі, у радочак,
Звіце мне з руты вяночак.

З руты, з мяты, парловы,
Каб жа быў да шлюбу гатовы.

## 546

Суборная суботачка настала,
Малада Галечка ўсіх дзевачак сабрала,
А сабраўшы, ім работачку сказала:
— Садзіцеся, мае дзевачкі, у радочак,
Спляціце мне, маладзенькай, вяночак,
Мне з руты, з лілеі пахнючы,
А сабе з ялынцу калючы.

# КВЕТКІ ДЛЯ ВЯНКА

## 547

Ой, прыйшлі дзевачкі, прыйшлі,
Да не руту-мяту шчыпаці,
Да ў дзевачкі праўды пытаці:
— Да дзевачка, наша сястрыца,
Да скажы нам праўданьку:
З чаго табе вянок віці?
Да ці з руты, ці з мяты,
Ці з шалвеі, з лялеі,
Да ці з жоўтага кракосу
Да ў тваю да ў русу косу?
— Да дзевачкі, мае сястрыцы,
Ці вы самі не знаеце,
Што ў мяне пытаеце?
Ўсялякія краскі рвіце,
Мне, маладой, да вянок віце:
Да і з руты, і з мяты,
І з шалвеі, і з лялеі,
Да і з жоўтага кракосу
Да ў маю да ў русу косу.

## 548

— Размысляйся, дзеванька,
З чаго будзеш вянкі віць:
Ці з руты, ці з мяты,
Ці з чырвонае рожы?
— Веце, дзевачкі, з жоўтага кракосу
Да мне, маладзенькай, на косу.

## 549

У суботу ранenька дзевачкі сабраліся,
У маладой Валечкі пыталіся:

— Маладая Валечка, з чаго вяночак віць:
Ці з руты, ці з мяты, ці з усяго зелля?

— Ні з руты, ні з мяты — з усяго зелля,
З усяго зелля на ўсё вяселле.

## 550

У суботку вечарам дзевачкі збіраліся,
У маладой дзевачкі пыталіся:
— З чаго табе, дзевачка, вяночак звіці:
Ці з руты, ці з мяты, ці з чырвонай лялеі,
Ці з белага шоўку?
— Ні з руты, ні з мяты, ні з чырвонай лялеі,
А з белага шоўку дзевачцы на галоўку.

## 551

Сабраліся дзевачкі у хатку,
А божа наш, божа ў хатку.*
Пыталіся ў Маруські парадку:
— Да што будзем, Маруська, рабіці,
З чаго табе вяночак савіці:
Да ці з руты, ці з ружных цвяточкаў?
— Да савіце вяночак із руты,
Да савіце вяночак маленькі,
А каб жа быў наш Колечка міленькі.

## 552

А ў садзе, ў садзе ды тры садочкі,
А ў тых садочках ды тры цвяточкі.
Ў адным садочку рута ды мята —

* Рэфрэн «А божа наш, божа» паўтараецца з апошнім словам кожнага радка.

Рута ды мята мне не прыятна.
Ў другім садочку ружова рожа —
Ружова рожа мне не прыгожа.
Ў трэцім садочку сінь васілёчак —
Сінь васілёчак мне на вяночак.

### 553

Ляцеў вінаград цераз сад,
Рассыпаў пер'ейка на ўвесь сад.

Маладая Таццянка хадзіла,
Яна сваіх дзевачак прасіла:

— Дзевачкі мае, сястрыцы,
Вы гэта пер'ейка збярыце.

Вы гэта пер'ейка збярыце
Ды мне вяночак звіце,

Хоць не руцвяны — пярловы,
Каб быў да шлюбу гатовы.

### 554

Да й ляцеў гарнастай чэраз сад,
Раніў пер'ейка на ўвесь сад — у!

А вы, дзевачкі, збірайце перачкі,
Віце дзевачцы велечка — у!

Звілі велечка з бярозы,
Пайшлі, пайшлі дзевачкі цвярозы — у!

Звілі велечка з яблынькі,
Пайшлі нашы дзевачкі п'яненькі — у!

### 555

— Выйдзі, сястрыца, правядзі,
Нам дарожаньку пакажы.

— От вам, дзевачкі, дарожка
Пад вішнёвенькі садочак,
Пад зялёненькі гаёчак.

## 556

Былі лютыя маразы,
Не эмарозілі мне рожы.
Пусціла кveці пад клеці,
Зялёны лісток пад масток
Маладзенькай Верачцы на вянок.

## 557

Да каліна-маліна, божа, божа,*
Да не стой, распускайся,
У белы цвет убірайся.
Мне твайго цвету ж трэба,
Хоць нямножка — кусочак
Томачцы на вяночак.
Да хоць адну ветачку
Віцечку на кветачку.

## 558

Пад аконцам садочак,
Там Марынка хадзіла,
Зёлачкі палівала,
Цяжанька ўздыхала:
— Мне вас болей не паліці,
З вас вяночак мне не звіці.
Звіюць дзевачкі вяночак
З рутачкі, з ляleечкі,
З галубой папарачкі.

---

* Рэфрэн «Божа, божа» паўтараецца пасля кожнага радка.

559

А што ў нас сёння за дзіва стала —
За адзін дзянёчак вырас садочак.
Па тым садочку Светачка ходзіць,
Светачка ходзіць, з садам гамоніць:
— Чаму не вырас у маіх летах?
Хоць ты і вырас — чапаць не буду,
З цябе вяночак віці не буду.

560

Да каліна-маліна,
Да не стой, развівайся,
Белым цветам занімайся.
Нам твайго цвету трэба
Хоць на адзін вечарочак,
Зіначцы на вяночак.
Вянок будзе ляжаці,
Яна будзе сядзеці.
На яе, маладую,
Усе будуць глядзеці.

561

Зялёная руціца
Па гародзе круціцца.

Па гародзе круціцца,
Пад вароты коціцца.

Руціца незбіраная,
У вяночак незвіваная.

Трэба руціцу сабраць,
У вяночак пазвіваць.

562

— Чыя то рута там за ракою?
Зарасла ж яна ўсё й лебядою.

Чаму, Манечка, дзевак не просіш,
Дзевак не просіш, руты не поліш?

— Мае дзевачкі, мае сястрыцы,
Прыйшлі шутачкі — не да рутачкі.

Прыйшлі шутачкі — не да рутачкі,
Прыйшлі клетачкі — не да кветачкі.

Мае дзевачкі, мае сястрыцы,
Радзьце радачку, што мне рабіці.

Радзьце радачку, што мне рабіці,
Ці замуж ісці, ці дзеўкаю быці?

Замуж пайшоўшы — бедна галоўка,
Дзевачкай быўшы — людская абмоўка.

## 563

— Ой, чыя то рута-мята за гарою
Зарасла ўсякім зеллем, лебядою?
Ой, чаму ж ты, Васіліса, руты-мяты не спалола?
Хадзі, хадзі ты, Васіліса, руту-мяту палоці.
— Цяпер жа мне не да руткі, як узялі мяне смуткі,
Цяпер жа мне не да лебяды, як узяў Іван мае хлапаты,
Цяпер жа мне не да зелля, як вяселле,
Цяпер жа мне не да мяты — жаль маці.

## 564

— Чыя гэта да рутачка за ракою
Зарасла да забуяла, ой, лебядою?

Чаго, чаго, да Манечка, не палола
Ці ты свае белы ручанькі пакалола?

— А цяпер мне не да руты, не да лебяды:
Узялі маю галовачку, ой, журбы, хлапаты.

А што мне ж, да дзевачкі, думаць і гадаць,
Дзве рэчанькі перайсці, ой, трэцюю — Дунай.

Да я тыя дзве рэчанькі пешкі перайду,
Дзявоцкае красаты я, ой, нідзе не найду.

Дзявоцкае красаты я, ой, нідзе не найду,
Дзявоцка гуляннейка, ой, не забуду.

## 565

— За ракою, дзевачкі, за ракою
Да зарасла роза крапівою.
Папалеце, дзевачкі, папалеце,
Хоць сабе рожыцу забярэце.
— Да чаму ж ты, Ганначко, не палола?
— Не да розы, дзевачкі, не да розы,
Ужо мой Іванько ў дарозе,
Можа, яго конікі ў аблозе
Ды не пілі, не елі, мой божа.

## 566

— Чыя рутачка за гарою,
Зарасла яна ўсякай травою,
Усякай травою, усё й лебядою?
Чаго, дзевачка, руткі не полеш?
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Не да рутачкі мне, не да мяты:
Звязуць мяне скора з гэтай хатачкі,
З гэтай хатачкі ды ад роднай матачкі.

## 567

Пад гарою рута-мята, пад гарою,
Да й зарасла рута-мята лебядою.

— А чаго ж ты, Дунечка, не палола
Ці ты свае белы ручкі пакалола?

— Цяпер мне, дзевачкі, не да лебяды:
Ужо паехаў Васілёчак да й па чабаты,

Да й па тыя чаботы, па новыя,
Да й па тыя падкоўкі медзяныя.

## 568

— Дзе твае, Зіначка, кияты раслі,*
Дзе яны ў цябе зелянелі,
Што ад марозу не памерзлі,
Што ад сонейка не павялі?
Хто тваіх, Зіначка, кветак даглядаў,
Хто твае, Зіначка, кияты пашчыпаў,
Хто табе, Зіначка, у вяночак пазвіваў?
— Даглядала кветак матулька мая,
Палівала кияты сама малада,
Пашчыпалі кияты дзевачкі мае,
Звівалі ў вяночак кумпаначкі мае.

## 569

— Галенка малада, дзе цвяты брала,
Што цвяты ад дажджу не збуялі,
Што яны ад марозаў не павялі?
Галенка малада, хто цвяты паліваў твае?
Галенка малада, хто цвятоў даглядаў тваіх?
— Палівала, дзевачкі, родная мамка,
Даглядала, дзевачкі, сама малада.
— Галенка, хто цвяты пашчыпаў твае?
— Пашчыпаў, дзевачкі, міленькі мой,
Штодзянёк да мяне прыходзячы,
Па аднаму цвяточку прыносячы.

## 570

А ў суботу за ракою
Ходзіць Яначак з касою,
Косіць рутачку з расою.

---

* Кожны радок паўтараецца.

За ім матачка слядою:
— Яначак-дзіцятачка,
Не касі руты з расою,
Папрасі сваіх дзевачак —
Няхай пойдуць у садочак,
Сарвуць руты радочак
Маладзенькай на вяночак.

## 571

Ходзіць Манечка па полю,
Сее рутаньку з прыполу.

Рута ж яе зялёна,
У тры радочкі саджона.*

Вышаў Яська з расою,
Скасіў Рутаньку касою.

— А вы, дзяўчаты-сястрыцы,
Гэту рутаньку збярыце.

Вы гэту рутаньку збярыце,
Для мяне вяночак звіце.

## 572

У нядзелю рана
Раса напала,
А на той расе
Слядок харошы.

Дружчаткі кажуць:
— Куна хадзіла.
А хлопец кажа:
— Дзяўчо хадзіла.

Руту шчыпала
У садзе нясмела.

---
* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Сабрала дзевачак —
За сталом села.

— Дзевачкі-сястрыцы,
Віце вяночак,
Віце вяночак
На персцяночак.

— Дзевачка-сястрыца,
Руты не стала,
Руты не стала,
На вяночак мала.

— Віце вяночак
Хоць ялоўцамі:
Не буду хадзіць
Я з малойцамі.

Віце вяночак
Хоць з рамоначкамі:
Буду хадзіці
Я з малодачкамі.

## 573

Ой, вілі, вілі, да не давілі:
Руты мала стала.*
Мамачка ідзець, рутачку нясець
Вянок давіваці.

Ой, вілі, вілі, да не давілі:
Руты мала стала.
Татачка ідзець, рутачку нясець
Вянок давіваці.

Ой, вілі, вілі, да не давілі:
Руты мала стала.
Брацетка ідзець, рутачку нясець
Вянок давіваці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Ой, вілі, вілі, да не давілі:
Руты мала стала.
Сястрыца ідзець, рутачку нясець
Вянок давіваці.

Ой, вілі, вілі, да не давілі:
Руты мала стала.
Колечка ідзець, рутачку нясець
Вянок давіваці.

Ой, вілі, вілі, да ўжо давілі:
Руты досыць стала.

## 574

Ой, вілі, вілі, да не завілі,
Вяночак вілі,
Рутанькі мала стала.
— Пашлі, Марынка, сваю матульку,
Пашлі па рутаньку.
Матулька стара,
Руты не знала,
Мятачкі прынясла.
— Пашлі, Марынка, свайго татульку,
Пашлі па рутаньку.
Татулька пайшоў,
Руты не найшоў,
Брацiткаў прыносіць.
— Сваяго мілага пашлі па рутаньку.
Міленькі ідзець,
Рутаньку нясець,
Рутанькі давольна.
Ой, вілі, вілі,
Вяночак звілі,
Рутанькі хвацiла.

## 575

У садочку была, вяночак віла
А рутанькі мала стала.
Ідзе матулька, нясе рутанькі вяночак давіваць.
— Матулька родна, рута нягодна вянок давіваць.

*А далей паўтараецца тое ж, толькі «Ідзе татулька», «Ідзе сястрыца», «Ідзе братанька», «Ідзе цёценька», «Ідзе дзядзенька». І нарэшце:*

У садочку была, вяночак віла,
А рутанькі мала стала.
Ідзе Паўлачка, нясе руты вянок давіваць.
— Паўлачка родны, рутачка годна вянок давіваць.

## 576

Ой, Улянка маладзенька,
Недавіты вяночак.
Ускоч у садочак,
Нарэж кваточак,
То даўемо вяночак.

## 577

Няслава брацятку, няслава:
На вянок руты не стала.
Не ўмеў гароду гарадзіць,
Не сумеў руты пасадзіць.
Загарадзіў гароду куточак,
Пасадзіў рутачкі кусточак.
— Вот табе, сястрыца, вяночак.

## 578

Няслава дзевачцы, няслава:
На вянок руціцы не стала.

— На цябе, бальшанка, гнеў маю,
Што ўзяла падругу — не знаю:

Ні яна вяночак не саўе,
Ні яна песенькі не спяе.

Савіла вяночак не гладка,
Як спела песеньку, аж гадка.

## 579

— Няслава, братка, няслава:
На вяночак руты не стала.
— Давіце, дзевачкі, вянок ялоўцам.
— Не быць табе, братка, малойцам.
Ой, умная-разумная Марыська
Не ведала, што з розуму рабіці:
Застаўляла сырыя ламы паліці,
Застаўляла ды чорны мак сеяці.
— Расці, расці, ой, чорны мак, чырвоны цвет,
Бо мне маладой на вяночак руты нет.
— Было табе па кірмашах не хадзіці,
Было табе гародчык загарадзіці,
Было табе зялёнай руты насадзіці.

## 580

У гародзе мята, у садочку рута,
Няма каго паслаці руты-мяты нарваці:

Мамка старая, сястра малая,
Братка не знае — зверху зрывае.

Ёсць у мяне служка, старшая дружка,
Яна руты нарве і вяночак саўе.

Яна руты нарве і вяночак саўе,
Шоўкам абложыць, на галоўку ўзложыць.

## 581

Што ж там за зелле — з руты насенне?
Учора звячора яго сеялі,
А сёння рано яно паўсходзіло.
Што ж там за праўда маладой Манечкі?
Учора звячора па вуліцы хадзіла,
Па вуліцы хадзіла, дзевак прасіла:
— А дзевачкі мае, сястрыцы мае,
Паслужыце мне хоць дзень у нядзельку.
Да не жыто жаці — да руту шчыпаці,

Не дзело рабіці — да вяночак віці.
Да некаго паслаці да руты нарваці:
Мамка старая, сястрыца малая,
А братко не знае — да вяршкі зрывае.
Ёсць у мяне тры дружкі, яны мае служкі:
Саму меншу пашлю — да руціцы нарве,
Селядоршай скажу — да вяночак саўе,
Сама старша ўдобіць — на галоўку ўзложыць.

## 582

У гародзе мята, у садочку рута.
Няма каго паслаці руты наламаці:

Сястра маладая, а брат не ўнаровіць,
А брат не ўнаровіць да з галлём наломіць.

А ёсць у мяне дружачкі, то мае служачкі.
Яны мне ўнаровяць, без галля наломяць

І саўюць вяночак на адзін дзянёчак,
І буду насіці, і бога прасіці,

[І буду насіці, і бога прасіці,]
Каб гэтага знасіла і больш не прасіла.

## 583

Нет ні рутачкі, а ні мятачкі,
Няма з чаго вянка віць.*

— Пашлі, Ганулька, сваю матульку
У зялёны сад па рутачку.

Матулька стара, руты не знала,
Ядленцу наламала.

Ядленчык коліць, галоўку клоніць,
А божа ж мой міленькі.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

### 584

Хадзіла Дануся па двору,
Сеяла руту з прыполу.

Рута ж яе зялёна,
У тры радочкі саджона.*

— Прасі, Дануся, матулю,
Паможа збіраць рутаньку.

— Не буду прасіць-маліці,
Не будзе мяне ўбіраці.

— Прасі, Дануся, татулю,
Паможа збіраць рутаньку.

— Не буду прасіць-маліці,
Не будзе хлебам карміці.

— Прасі, Дануся, брацятку,
Паможа збіраць рутаньку.

— Не буду прасіць-маліці,
Не буду я з ім хадзіці.

— Прасі, Дануся, сястрыцаў,
Памогуць збіраць рутаньку.

— Не буду прасіць-маліці,
Не буду я з імі дружыці.

— Прасі, Дануся, Ясечку,
Паможа збіраць рутаньку.

— Ой, буду прасіць-маліці,
Бо будзе хлебам карміці.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 585

— Ох, рута-мята, дробнае зелле,
З кім цябе сашчыпнуці?
Хадзем, матачка, хадзем, родненька, з табою,
Сашчыпнем руты-мяты з расою.
— Да не магу, дзіцятка, да не магу,
Да я з жалю ручанек не зніму.

*Далей паўтараецца са зваротам да бацюшкі, сястрыцы. Нарэшце:*

— Ой, рута-мята, дробнае зелле,
З кім цябе сашчыпнуці?
Хадзем, брацейка, хадзем, родненькі, з табою,
Сашчыпнем руты-мяты з расою.
— Хоць жаль жа мне, сястрыца, ці не жаль,
То мушу ісці,
Трэба ж мне тваю русую косу
Расплясці.

## 586

Зажадала Ганначка калінавага вяночка,
Зажадала да й паслала падружкі
У цёмны бор па каліну,
У цёмны лес па маліну.

Падружкі прыбягаюць —
Каліна адцвітае,
Каліна адцвітае,
Маліна ападае.

То ж наша нядоленька,
Адцвіла калінанька,
Адцвіла калінанька,
Апала малінанька.

Адцвіла калінанька,
Апала малінанька.
Не з чаго вянка віці,
Не ў чым пахадзіці.

Не ў чым пахадзіці
Сей дзянёк да вечара,
Сюю ночку да світочку
У руцяным вяночку.

## 587

Ды зажадала дзевачка
З трох зелляў ды вяночка,
Ды з каліны цвяточка.

Пасылала свайго брацейку
У цёмны лес ды па каліну,
У шчыры бор па свізіну.

Яшчэ братка не даязджае,
Ужо каліна выцвітае,
А свізіна пасыхае.

— Сястрыца мая родная,
Не з чаго ды вянка звіць,
Трэба табе ў мяне быць.

— Ой, брацейка мой родненькі,
Ды й у полі чабору многа.
Я [redacted] чабору ды вянок саўю,
І такі ж я ды замуж пайду.

## 588

Каб я ведала, маладзенькая,
Сваю долечку горкую,
Я ж бы паслала свайго татачку
У даліну па каліну.
Вецер не вее, сонца не грэе —
Калінка не зрэе.

Каб я ведала, маладзенькая,
Сваю долечку горкую,
Я ж бы паслала сваю мамачку

У даліну па каліну.
Вецер не вее, сонца не грэе —
Калінка не зрэе.

Каб я ведала, маладзенькая,
Сваю долечку горкую,
Я ж бы паслала свайго мілага
У даліну па каліну.
Вецер павеяў, сонца прыгрэла —
Каліна сазрэла.

## 589

Маладая дзеванька свайго татачку просіць:
— Татачка мой родненькі, едзь у луг
Да па каліну, да па калінавы цвяточак,
Да мне, маладзенькай, на вяночак.
Татачка пад'язджае — каліначка адцвітае.
Татачка бліжэй, бліжэй — каліна вышэй, вышэй.
Нешчасліва гадзіна — адцвітае каліна.

*Тое ж паўтараецца да мамачкі, сястрыцы, брацікa. Заканчваецца так:*

Маладая дзеванька свайго дзяцінку просіць:
— Едзь у луг па каліну да па калінавы цвяточак,
Да мне, маладзенькай, на вяночак.
Дзяцінка пад'язджае — калінка зацвітае.
Дзяцінка бліжэй, бліжэй — калінка ніжэй, ніжэй.
Вот шчасліва гадзіна — расцвітае каліна.

## 590

Маладая Валечка
Зажадала вяночка,
Зажадала вяночка,
З калінкі лісточка.

Вот паслала татачку
У шчыры бор па калінку,
У ціхі луг па малінку.

Ужо і татачка прыходзіць,
Ён калінкі не прыносіць.

Вот паслала брацейку
У шчыры бор па калінку,
У ціхі луг па малінку.
Ужо і брацейка прыходзіць,
Ён калінкі не прыносіць.

Вот паслала Мішачку
У шчыры бор па калінку,
У ціхі луг па малінку.
Ужо і Мішачка прыходзіць,
Ён калінку прыносіць.

— Маладая Верачка,
Ужо шчаслівa гадзінка,
Ужо назрэла калінка,
Ужо і паспела малінка.
Быць жа табе ў вяночку,
У зялёных квяточках.

## 591

Зажадала Ганначка
Да калінавага вяночка:
— Да паедзь, мой бацюхна,
У даліну да па каліну.
Бацюхна прыязджае,
А калінанька не цвітае.

Зажадала Ганначка
Да калінавага вяночка:
— Да паедзь, мая матанька,
У даліну да па каліну.
Матанька прыязджае,
А калінанька не цвітае.

Зажадала Ганначка
Да калінавага вяночка:
— Паедзь, паедзь, мой Януська,
У даліну да па каліну.

Януська прыязджае —
І каліканька зацвітае.
Час і пара, і гадзінанька —
Зацвіла каліканька.

## 592

Ой, каб я знала да я ведала,
Што заручыны будуць,*
То паслала б я жа свайго бацюхну
У цёмны луг па каліну.
Да бацюхна пашоў, ўвесь луг абышоў
Да каліначкі не нашоў.
— Да дзіцятка ж маё, да не доля твая:
Быць табе без вяночка.
Ветрык не вее, сонца не грэе —
Да каліначка не спее.

Ой, каб я знала, маладзенькая,
Што заручыны будуць,
Ой, паслала б ■ свайго мілага
У цёмны луг па каліну.
Да міленькі пашоў, увесь луг абышоў
Да каліначкі наламаў.
— Да мілая ж мая, долечка твая:
Быць табе ў вяночку.
Ветрычак вее да сонейка грэе —
Да каліначка прыспее.

## 593

— А чаго вы, дзевачкі, седзіце?
Чаго сваей Танечкі да не ведзіце?
— Хадзі, хадзі, Танечка, за намі,
Саўём табе вяночак з пярламі.

— А нашто мне, дзевачкі, пярловы вянок,—
Ёсць у мяне Пецечка, ясны сакалок.
Ён жа мяне пад вянец падвядзе,
Ён жа маю косу русу запляце.

* Кожны другі і чацвёрты радок паўтараюцца.

## 594

Ой, гулі, гулі галубы,
Галубы.

Вакруг горада лятал і,
Ляталі,

На Аўдотчын жэмчуг напалі,
Напалі.

— Шугу, галубы, ва лугу,
Ва лугу,

Не клюйце маяго жамчугу,
Жамчугу.

А мой жамчужок на вянок,
На вянок,

Багрова красачка за платок,
За платок.

## 595

Па Раслаўльскім бальшаку,
Па калінавым масточку
Хадзілі-брадзілі галубы
Па каленачкі ў золаце,
А па забярсцень у серабры.
Ай, туды ехаў Піліпка.
— Шугі ў лугі, галубы,
Не клюйце мае зямчужкі,
А мне земчужок надабі,
А мне, малайцу, на цвяток,
Анісцы маёй на вянок.

## 596

— Вы, дзеванькі, сяброванькі мае,
Вы пойдзеце у зялёны сад,
Вы будзеце мне вянкі віці.

Ды хто ў маім садзе пабываў,
Ды хто толькі руту-мяту пашчыпаў?
— Ці будзеш з намі, Ганулька, дружыць
Ды ці будзеш наш вяночак насіць?
— Ды не буду з вамі, дзеванькі, дружыць,
Ды не буду ваш вяночак я насіць.

## 597

Вясёлы вечар субота,
Вясёлы вечар субота,
Збірала дзеванька пад вянкі,
Збірала й молада пад вянкі.
Садзіла й дзевачкі град у град,
Садзіла й дзевачкі град у град,
А сама села каля іх.
Ганула загадку лепшу ўсіх:
— Хто ў маім садочку рана быў,
Раннюю расіцу атрусіў,
Конікам барвенец агрануў?
Ой, адазваўся жанішок,
Ой, адазваўся малады:
— Я ў тваім садочку рана быў,
Раннюю расіцу атрусіў,
Зялёны барвенец агрануў.

## 598

— Пакінь, дзеванька, думаць-гадаці,
Пашлі дзевачак краскі рваці.
— Я не пазваляю — сама пазрываю.
Нарвала красак ў абедзьве жмені.
Ой, рвала, рвала ды праклінала:
— Да бадай вы, краскі, тут не радзілі,
Каб мае таварышкі сюды не хадзілі.
— Не кляні, дзеванька, не кляні, маладзенька,
Як будуць радзіці, то будзем хадзіці,
Як будуць зацвітаці, то будзем шчыпаці.
Не мы цябе аддаём, не твае кветкі,
Аддаюць цябе блізкія суседкі.

## 599

Святая нядзелька да святы дзянёчак —
Да нету, нету да дзевачкі ўдому.
Пайшла дзевачка ў агарод па кветкі,
Нарвала кветак у абедзве жменькі.
Яна іх рвала да ўсё праклінала:
— Бадай вы, кветачкі, тут не радзілі,
Каб мае падружкі тут не хадзілі.
— Не кляні, дзевачка, не кляні, маладая:
Як радзілі кветачкі, так радзіць будуць,
Як хадзілі падружкі, так хадзіць будуць.

## 600

— Маладзенькая дзевачка,
Дзе хадзіла-блудзіла?
— Я хадзіла-блудзіла
Ды па роўненькім полі.
Я шукала-пытала
Каменя залатога:
«Камень мой залаценькі,
Ды каб я цябе знайшла,
Я б цябе раскавала
На дробныя драбнушачкі —
Дзевачкам на стужачкі,
А сабе на вяночак,
На залаты персцянёчак».

## 601

Ішлі дзеванькі су палянкі,
Ідучы, бягучы краскі рвалі.
Адна наша Хадорка па задочку йдзець,
Па задочку йдзець і красак не рвець,
Па задочку йдзець і красак не рвець,
А ёй дзеванькі расспрашывалі:
— Што ж ты, Хадорка, па задочку ідзеш,
Па задочку йдзеш, красак не рвеш?
— Дзеванькі-сястрыцы, вы падумайце:
Звіўшы мне вяночак, не знасіць мне вяночак,
Не знасіць мне вяночак дзень да вячорак.

## 602

Хадзіла Манечка па бору,
Іскала вяночак з чабору.
Не знайшла вяночак—частачок.
— Ды заплач, Манечка, на часок,
Ды ў гародзе суша, палея расцвіла,
Пайшла Манечка віць вяночак — не звіла.

## 603

Во як дзевачкі з увішэння
І скачуць, і пляшуць,
І песні пяюць, і вянкі ўюць.
Толькі адна Васечка смутнёшанька.

Толькі адна Васечка смутнёшанька,
Ні скачыць, ні пляшыць
І вянкоў не ўець.
А ў яе дзевачкі пыталіся:

— На каго ты, Васечка, разгневалася,
Ці на нас, дзевачак-падружак?
— Не на вас, дзевачкі-падружачкі,
А на свайго татаньку ды на роднага.

## 604

Зялёны барвіночку,
Учора быў у гародцы,
А цяпер на талерцы,
А заўтра будзеш на галоўцы.

## 605

На дварэ хвіялачкі зацвіталі,
Усю гару высокую засцілалі.
Прасілася дзевачка:
— Пусці мяне, татухна, на тую гару,
Я сабе са бела цміна вяночак саўю,
З хрышчатага барвіначка хрэшчык нараджу
Да й я свайму Андрэечку ў падарак пашлю.

# УЮЦЬ ВЯНОК

## 606

— Ой, у руце, у руце да вянкі ўюць,
Там цябе, Насцечка, дзеванькі ждуць.
— Ой, няхай ждуць — не прыждуць,
Да такі мне вяночак ізаўюць,
Да русую косаньку расплятуць,
Да мяне да шлюбу адвядуць.
Русая косанька —па плячку,
А горкая слёзанька — па лічку.

## 607

Да сягоння да дзявічы вечар,
Да не будзем усю ноч спаці,
Да будзем свецы паліці,
Да дзеваньцы да вянок віці.

## 608

Зачынаем вянок віці, *
Хто ж будзе баславіці?

Матулька баслаўляець —
Рутачка ў ручках вянець.

Зачынаем вянок віці,
Хто ж будзець баславіці?

Татулька баслаўляець —
Рутачка ў ручках вянець.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Зачынаем вянок віці,
Хто ж будзець баславіці?

Сястрыца баслаўляець —
Рутачка ў ручках вянець.

Зачынаем вянок віці,
Хто ж будзець баславіці?

Брацейка баслаўляець —
Рутачка ў ручках вянець.

Начынаем вянок віці,
Хто ж будзе баславіці?

Дзевачкі — венчык віці,
Татка з мамкай — баславіці,
На пасад пасадзіці.

## 609

Зачынаем вянок віці,*
Хто ж будзіць блаславіці?
Мамачка бласлаўляіць —
Ручанькі заламляіць.
Татачка бласлаўляіць —
Цяжанька уздыхаіць.
Сястрычка бласлаўляіць —
Рожачка ў ручках вяніць.
Брацейка бласлаўляіць —
Рутачка ў ручках вяніць.

## 610

І памажы, божа, песні пець,
Багаславі, божа, вянкі віць
У гэтым доме вясёлым
У сёй сямейцы здаровай.
Год ад году вяселле,
Век ад веку здароўе.
Дай божа маладым добру долю.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 611

Не стой, божа, пад акном,
Да ідзі, божа, у хату.
Памажы, божа, вянкі віць,
Нашым маладым доўга жыць.
Памажы, божа, павіваць,
Нашым маладым панаваць.

## 612

Благаславі, божа, вянок віць,
Нашым маладым доўга жыць:
Із суботы на нядзелю,
А з нядзелі на ўвесь век.

## 613

Зборная суботка настала,*
Каруська дзевачак збірала.
Сабраўшы, у радочак саджала.
Сама села вышэй, вышэй усіх,
Скланіла галоўку ніжэй усіх,
Коскамі зямельку пакрыла,
Слёзкамі ложачкі абмыла.
Уся яе галоўка ў вяночку,
Ёсь яе радзімка ў радочку.
Уся яе галоўка ў квеце,
Ёсь яе радзімка на свеце.

## 614

У новай каморы наша Анютка заснула,*
Прыйшлі дзевачкі вяночак віць — не чула.
А як пойдуць яе дзевачкі будзіці,
Стане дзевачак яе мамачка прасіці:
— Не будзіце, мае дзевачкі, хай паспіць,
Няхай у мяне мая госціца пагасціць.
Нямножка будзець яна ў мяне гасціці,
Яна пойдзець сваей свякроўцы гадзіці.

* Кожны радок паўтараецца.

## 615

А ў гародзе зялёная рутанька зеляніць,
А пад рутаю маладая дзеванька доўга спіць.
Прыйшла яе меншая сястронка будзіць,
Ой, стала, стала матуленька стыдзіць:
— Ой, няхай, няхай маё дзіцятка прызасне,
Ой, няхай яно ў галаву розуму набярэ:
Яно пойдзе ў чужыя людзі далёка,
Ой, будзе будзіць чужая маці палёгка.

## 616

У новай каморы млода Тарэска заснула,
Прышлі дзяўчаткі вяночак віці —не чула.
Прышоў яе родны татуля будзіці:
— Устань, Тарэса, прышлі дзяўчаты вяночак віці.
— Мой татачка, мой родненькі, яшчэ пасплю,
Бо паследнюю ночку тут гашчу.

## 617

А ў гародзе зялёная рутанька сядзела,
А тую рутаньку маладая Ганначка палола.
Яна, полючы, да й цяжанька заснула.
Прыйшла да яе родна матанька будзіці,
За вялікай жаласцю не можа збудзіць:
— Ой, няхай жа маё роднае дзіця падаспіць,
Ой, няхай яна русу косу падрасціць,
Бо, як пойдзе ў чужыя людзі, не даспіць,
А яна тады русу косу ўкараціць.

## 618

Выйшла Волечка шчыпаці руту на вянок ды й заснула.
Прыйшла яе родна матанька — ды й не чула,
Прыйшла і стаіць гадзінку-другую — не будзіць:
— Няхай маё роднае дзіця яшчэ паспіць,
Бо ў свякровачкі — то не ў матачкі: не паспіць.
А ў свякровачкі — то не ў матачкі:
Русай косанькі не ўзрасціць.

## 619

Ёсць у полі грудочак,
Віла Ганулька вяночак,
Уючы вяночак, заснула.
Прыехаў Ясенька — не чула.
— Спі, Ганулька, здарова,
Не буду мовіць ні слова.

## 620

У чыстым полі стаіць сад,
А ў тым садочку — вінаград.
Там Матронка сцерагла,
А сцерагучы, заснула.
Прыехаў Цімошка — не чула.
— Спіць мае сэрданька цвёрданька.
Няхай папаспіць яшчэ болей:
Большая косанька падрасце
І бацяньку да жалю дабярэ.

## 621

Ой, у Слуцку, у Слуцку да на новым ганку
Ды каціла дзевачка чырвону кітайку.
Ды яна каціла — яе цёмна ночка захваціла,
Яна маладзенька заснула.
Прышла яе матачка — не чула.
— Дзе ж, маё дзіцятка, ды кітай падзела?
— Ды ў новай каморы вісіць на прабоі,
Хусткаю накрыта, слязьмі абліта.

## 622

Падай, матуля, іголку
І нітачку шоўку:
Будзем Рэнечцы вянок шыць —
Ей ужо дзеўкай не быць,
Ей ужо дзеўкай не быць,

Русай касы не насіць,
Русай касы не ўплятаці,
Па кірмашах не хадзіці,
Хлопчыкаў не звадзіці.

## 623

А дай, мамка, іголку *
І нітачку шоўку:

Прыйшлі дзеўкі вянок віць —
Досыць мне дзеўкай быць.

Прышпіляць сучочак
Апаследні разочак

Да буйнай галоўкі,
Да гарачай слёзкі.

## 624

А ў гародзе радзькоўе,
Радзькоўе.

Сястра сястры вянкі ўе,
Вянкі ўе

Беленькімі ручкамі,
Ручкамі.

Пярсцёначкі з вочкамі,
З вочкамі.

## 625

Ой, заселі, селі ў зялёнай руце,
Плача наша Зінечка да вяночак ўючы.
— Не плач, Зінечка, да вяночак ўючы,
Наплачашся, маладая, да за ім жывучы.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— Ой, не буду плакаць, дзеванькі, не буду,
Бо я вельмі рада, што замуж іду.
Ён за вядзерца, я за другое —
Прынясём вадзіцы ды разам абое.
Нальём у карытца на ўмыванейка,
Павесім ручнічок на ўціранейка.

Дай божа маладым добрую долю.

### 626

Заплакала Мар'ечка вяночкі ўючы,
Пачуў жа Іванечка коні пасучы.
— Не плач, Мар'ечка, вяночкі ўючы,
А наплачашся ты за мною жывучы,
За мною жывучы, ад бацькі ідучы.

### 627

Ой, у агародзе і ў зялёнай руце
Плакала дзеванька два вяночкі ўючы,
Да зачуў Казусь па коніка ідучы.
— Не плач, дзеванька, два вяночкі ўючы,
Наплачашся, маладзенька, за мною жывучы:
Поўныя куточкі стаяць пруточкаў,
Тыя пруточкі дубовыя
На твае плечы здаровыя.

### 628

Не плач, Мар'юхна, вяночкі ўючы,
Будзеш плакаці з Іванам жывучы,
Свёкравы парогі пераступая,
Свякрухі наровы пераніая.

### 629

Чэраз гуліцу вішнёў сад, вішнёў сад,
Там дзевачкі ўвесь лад, увесь лад,
Там дзевачкі вянкі ўюць, вянкі ўюць,

Павіўшы вянкі, гуляюць, гуляюць.
Там ідзе любы госць, любы госць,
Любы госцічак, наш малодчычак, наш малодчычак.
Здаля ехаў, шапку зняў, шапку зняў,
Бліжа пад'ехаў, ручку даў, ручку даў.
— Знаю, Олечка, гардуеш мною, гардуеш мною.
Я тваю гордасць збуду, збуду,
У свайго цесценькі на дворы, на дворы,
Шчэ й у новай каморы, каморы.

### 630

Ой, чуці, чуці ў зялёнай руце,
Плакала Наталка венечка ўючы.

Да зачуў Майсейка, па каня йдучы,
Па каня йдучы, каня вядучы.

Даў ёй «добры дзень», а яна не адказала,
Даў ёй другі, яна ні разу.

— Пастой, мудраю, пастой, хвастлаю,
Ўспамяну я табе ў бацькі на дварэ,
На вароным кане.

### 631

За сеньмі, сеньмі, ў зялёным зеллі,
Салавейка шчабеча.
— Цябе, дзевачка маладзенькая,
Твая мамачка кліча.
— Ой, няхай кліча, няхай не кліча —
Я к ёй не паспею:
Я кветачкі рву і вяночкі ўю
А к свайму вяселлю.
Шыю хустачку ды бяленькую,
Шоўкам вышываю,
Свайму хлопчыку маладзенькаму
Пад шлюб паспяшаю.

### 632

Ой, у гародзе ялавец,
Малада Кацярынка ўець вянец,
Да к ёй татулька паслы шлець,
Ой, божа, божа, паслы шлець.
— Яшчэ ж, татулька, не звіла,
Яшчэ да шлюбу не пара.

*Тое ж паўтараецца да маці, братоў, сясцёр. Заканчваецца так:*

Ой, у гародзе ялавец,
Малада Кацярынка ўець вянец,
Да к ёй Грышачка паслы шлець,
Ой, божа, божа, паслы шлець.
— Ужо ж я, Грышачка, вянец звіла,
Ужо нам да шлюбу час-пара.

### 633

У гародзе ялавец,
Наша Франечка ўець вянец,
Уючы вяночак, заснула,
Прышла мамачка — не чула.
— Устань, Франечка, досыць спаць,
Пара да шлюбу выязджаць.
— Не пара, мамка, не пара,
Яшчэ вяночка не звіла.

*Тое ж паўтараецца да татачкі, брацейкі, сястрыцы. Нарэшце:*

У гародзе ялавец,
Наша Франечка ўець вянец,
Уючы вяночак, заснула,
Прышоў Сідорка — пачула.
— Устань, Франечка, досыць спаць,
Ужо да шлюбу пара выязджаць.
— Пара, міленькі, пара,
Ужо вяночак я звіла.

## 634

Хадзіла Матруначка, ой, па полю
Ды віла сабе вянок, ой, з куколю.
За ею мамка йдзе:
— Ідзі, Матрун, ідзі, дзевачка, дадому.
— Шчэ, мая мамачка, не час, не пара:
Я шчэ вяночка сабе не звіла.

*Тое ж паўтараецца да таткі, браткі.*
*Заканчваецца так:*

Хадзіла Матруначка, ой, па полю
Ды віла сабе вяночак, ой, з куколю.
За ею Іван ідзе:
— Ідзі, Матрун, ідзі, дзевачка, дадому.
— Ужо, мой Іване, і час, і пара:
Я ўжо вяночак сабе і звіла.

## 635

Ой, хадзіла малада Грасыля па полю,
Сеяла рутаньку з прыполу.
Ой, прышла да яе маманька,
Прышла да яе родненька:
— Пакінь, пакінь, Грасыля, руту сеяць,
Бо табе час да шлюбу ехаць.
— Ой, не час жа і не пара,
Бо я з руты вяночка не звіла.

*Тое ж паўтараецца да татанькі, братанькі.*
*Заканчваецца так:*

Хадзіла малада Грасыля па полю,
Збірала рутаньку да прыполу.
Ой, прышоў да яе міленькі:
— Пакінь, пакінь, Грасыля, руту збіраць:
Час табе, Грасыля, да шлюбу ехаць.
— Ой, цяпер час і пара,
Бо я з руты вяночка звіла.

## 636

На рэчцы, рэчцы кладкі дзве,
Ды там дзевачка вянкі ўе.
Віўшы, павіўшы, уздыхне —
Родную мамку ўспамяне.
Ішла яе мамка беражком,
Клікала дзіцятка галаском:
— Ды падай, дзіцятко, ручку мне,
Ды падай, дзіцятко, абедзве.
— Не падам, мамачка, ручачкі,
Не падам, мамачка, ні аднае.
Лепей я на моры утану,
Ды не дастануся нікаму.
На рэчцы, рэчцы кладкі дзве,
Ды там дзевачка вянкі ўе.
Віўшы, павіўшы, уздыхне —
Свайго малойчыка ўспамяне.
Ішоў яе малойчык беражком
Ды клікаў дзевачку галаском:
— Ды падай, дзевачка, ручку мне,
Ды падай, дзевачка, абедзве.
— Ды падам, міленькі, ручачку,
Ды падам, міленькі, абедзве.
Ды я на моры не утану,
Ды я дастануся табе аднаму.

## 637

Хадзіла Манечка па траве,
Збірала цвяточкі на галаву,

Збірала цвяточкі вянок віць,
За ёй мамачка паслы шле,

Да за ёй мамачка паслы шле:
— Годзь табе, дачушка, вянкі віць,

Годзь табе, дачушка, вянкі віць,
Нам нямножка з табой быць.

Нам нямножка з табой быць,
І тое раненька ўставаць,

І тое раненька ўставаць
Маладога Іванечка дажыдаць.

## 638

За гарою Хвёклунька вянкі ўець,
За ёю матухна паслоў шлець:
— Хадзі, Хвёклунька, мёду піць.
— А не пайду, матухна, мёду піць,
Мёд мне піць — сухата,
А вянкі віць — красата.

За гарою Хвёклунька вянкі ўець,
За ёю Самуська паслоў шлець:
— Хадзі, Хвёклунька, вады піць.
— Пайду к табе, Самуська, вады піць,
З табою мне ваду піць — красата,
Без цябе вянкі віць — сухата.

## 639

А ў бару зязюля гняздо ўець,*
Да яе салавей песні пяець:
— Дос табе, зязюля, гняздо віць,
Нямножачка табе ў ім пабыць,
Першае вячэр'е кукаваць,
Другую ночачку начаваць,
Трэцяе раннейка вылятаць.

У святліцы дзевачка вянкі ўе,
Да яе жанішка пісьмы шле.
— Дос табе, дзевачка, вянок віць,
Нямножачка табе ў ім быць.
Першае вячэр'е пагуляць,
Другую ночачку начаваць,
Трэцяе раннейка выязджаць.

* Кожны радок паўтараецца.

## 640

Ай, за гарой Дунечка вянкі ўець,
За ёй матушка паслоў шлець:
— Пакідай, Дунечка, вянкі віць,
Хадзі са мною піва піць.

— Не пакіну, матушка, вяночкі віць,
Не пайду з табою піва піць,
Буду вяночак давіваць,
Свайго Ванечкі дажыдаць.

Ай, за гарой Дунечка вянкі ўець,
За ёй бацюшка паслоў шлець:
— Пакідай, Дунечка, вянкі віць,
Хадзі са мной мёду піць.

— Не пакіну, бацюшка, вяночкі віць,
Не пайду з табой мёду піць,
Буду вяночак давіваць,
Свайго Ванечкі дажыдаць.

Ай, за гарой Дунечка вянкі ўець,
За ёй Ванечка паслоў шлець:
— Пакідай, Дунечка, вянкі віць,
Хадзі са мной вады піць.

— Брошу, Ванечка, вянкі віць,
Іду з табой ваду піць.

## 641

Зборная наша субота,
Манечка падружкі збірала,
Садзіла яна іх радамі
За цісовымі сталамі,
А сама села найвышэй,
Скланіла галоўку найніжэй,
Мовіла словачка найцішэй,
Казала: — Я Ваню не люблю,
Я за Ваню не пайду.
Нажані, баценька, гарэлкі,
Намачы ячмень на солад,
Хай будзе солад гатовы.

### 642

Зборная сяя субота,
Сабрала дзеванька падружкі,
Пасадзіла рад у рад
І сама села на пасад.
Гадала гаданьку ціханька,
Казала: — Замуж не пайду,
Моладца я не люблю.
А ты, бацeньку, не зважай,
Мачы ячмень на солад,
Купі пшаніцы на каравай.

### 643

Сядзяць дзявочкі
Да й ў тры радочкі.
За імі не знаці
Дзеванькі ў хаце:
За плячыма коска,
А па лічаньку слёзка.
Непраўдзівая дзеванька:
Казала, замуж не пайду,
Вашага жаніха не люблю,
А ўжо ж у тыдзень паслы шлі.
— Не будзь, бацeньку, бяспечан,
Дзяржы піва ў каморы,
Ужо я была з жаніхом у размове.

### 644

Зборная суботка настала,
Зялёная рутанька на стале.

Дзевачка дружынаньку збірае,
Кругом свайго століка саджае.

Сама ж маладзенькая між усіх,
Скланіла галованьку ніжэй усіх.

Скланіла галованьку з касою,
Паліліся слёзанькі расою.

— Ці вы мне галованьку звяжыце,
Ці вы мне малойчыка прышліце.

— Мы звяжам галоўку вяночкам,
Прышлема малойчыка з цвяточкам.

## 645

Субота-нядзеля настае,
Зялёна рута на стале.

Іра дружыну збірае
Да навокал століка саджае.

Сама маладзенька между ўсіх,
Скланіла галоўку ніжа ўсіх.

Скланіла галоўку з касою,
Паліліся слёзы расою.

— Ці вы мне галоўку звяжыце,
Ці вы мне Валодзьку прышліце.

— Звяжам галоўку ручнічком,
Да прыедзе Валодзя са сватом.

Звяжам галоўку тасьмінаю,
Да прыедзе Валодзя з дружынаю.

Ой, плача Іра да плача,
Ад ойца ісці не хоча,

Бо ў ойца парогі нізенька,
А ў Валодзі парогі высока.

А ў Валодзі парогі высока
Да хадзіць па ваду далёка.

Зборная суботка настае,
Зялёная рутанька на стале.

Дзявіца дружыну збірае,
Навакола століка саджае.

Яна, маладзенька, паміж іх,
Скланіла галоўку ніжай усіх.

— Ці вы мне галоўку звяжыце,
Ці вы мне малойчыка прышліце.

Звязалі галоўку платочкам,
Прыслалі малойчыка з цвяточкам.

Сарока шчакоча, шчакоча,
З бору вылятаці не хоча.

А дзявіца ўсё плача і плача,
Ад матачкі ехаць не хоча.

А ў мамы парогі нізенька,
А ў мамы па ваду блізенька.

У свякроўкі парогі высока,
У свякроўкі па ваду далёка.

# ЗВІЛІ ВЯНОК

## 647

У гародчыку новенькаму
Стала рута зелянеці.

Звіла Марыся два вяночкі,
Не ўгадала, дзе іх дзеці.

Адзін вяночак — тры ярыя ружкі,
А другі — тры шалвеі.

З ярай ружкі — на тоўстую косу,
А з шалвеі — на плат белы.

З ярай ружкі — схаджу у баценькі,
А з шалвеі — схаджу ў свёкра.

## 648

Па полі хадзіла,
Ручкі, ножкі пабіла,
Пакуль вянец зрабіла,
Запамняла, дзе падзяла:
Ці ў мамуні на ложачку,
Ці ў татачкі на каленцах,
Ці ў брацейка пры шапачцы,
Ці ў сястрыцы пры касіцы?

## 649

Павілі вяночкі, павілі
Ні з руты, ні з мяты —
З шалвея, з дробных злачак,
З дробных злачак, з лілей.

## 650

А ўсе мы лужочкі выхадзілі,
А ўсю мы калінку выламалі:
Мы сваёй Ганначцы вяночак вілі.
Мы вілі вяночак, як лубачку,
На яе галовачку-любачку.

## 651

Калі была наша Манечка лянівa,
А сягоння ранюсенька ўстала,
А ўстаўшы, усіх дзевачак сабрала:

— А дзевачкі, паненачкі вы мае,
Сыдзіцеся, збярыцеся да мяне,
А савіце мне вяночак, маладзе.

Сабе звілі з руты-мяты, з лялеі,
А мне звілі з калючага яленцу.
Яленец коліць, галоўку клоніць нізéнька.

## 652

Суботачка суборная настала,
Млода Манечка ўсіх дзевачак сабрала,
А сабраўшы, у радочак саджала:
— Да пасядзьце, мае дзевачкі, ў радочак,

Савіце жа мне, моладзе, вяночак,
Да ці з руты, да ці з мірты пахнючы,
Ці з яленчыку калючы.
Сабе звілі з руты, з мяты пахнючы,
А мне звілі з яленчыку калючы.

## 653

Суборная суботачка настала,
Млода Ганначка ўсіх дзевачак сабрала,
А сабраўшы, у радочак саджала.
Сама села ўсіх дзевачак найвышэй,

Схіліла галовачку ўсіх дзевачак найніжэй:
— Вы, дзевачкі, вы, сястрыцы вы мае,
А вы звіце два вяночкі мне й сабе.
Сабе звілі з руты, з мяты, з лілеі,
А мне звілі з калючага яленцу.
Яленец коліць, галоўку клоніць да зямлі —
Адлучаецца млода Ганначка ад сям'і.

## 654

Сабірайцеся, мая радзінка, у суботку,
Загадаю вам, мая радзінка, работку:
Да садзіцеся, мая радзінка, у кружочак,
Да савійце мне, маладзюсенькай, вяночак.
Да сабе звілі з руты, лялеі, з мяты,
А мне звілі з калючага яленцу.
Яленчык коліць, галоўку клоніць нізенька.
Я пакланюся і татку, і мамцы нізенька,
І што яны мяне ні год, ні два расцілі,
Што яны ж мяне ў чужыя людзі пусцілі.

## 655

Суборная суботачка настала,*
Млода Рэнечка ўсіх дзевачак сабрала,
А сабраўшы, за столічак саджала:
— Сядзьце-пасядзьце, мае дзевачкі, ў радочак,
А савіце мне, маладзюсенькай, вяночак.
Сабе звілі з руты-мяты, лялеі,
А мне звілі з калючага яленцу.
Вашы галоўкі ад рутачкі лялеюць,
Мая галоўка ад яленчыку аж млеець.

## 656

Кумпаначкі, абманачкі вы мае,*
Ашукалі-абманулі вы мяне.
Казалі, зялёныя сады не цвітуць,
Казалі, з руты вяночка не віюць.

* Кожны радок паўтараецца.

Казалі, пойдзем у зялён сад гуляці,
А самі пайшлі зялёну руту ламаці.
Кумпаначкі, абманачкі вы мае,
Ашукалі-абманулі вы мяне.
Казалі, пойдзем за белы столік віно піць,
А самі пайшлі з зялёнай руты вянок віць.
Як зацвілі зялёны сады — аж бела,
А як звілі з руты вяночак — самлела.

## 657

Бальшаначкі, падманачкі вы мае,
Падманулі маладзенькую вы мяне.
Вы казалі, у сад пойдзем вянкі віць.
Сабе звілі з руты, з мяты, з лялеі,
А мне звілі з калючага яленцу.
А як вазьму ў ручкі — колецца,
Як налажу на галоўку — клоніцца.

## 658

Ай, дзевачкі, абманачкі вы мае,*
Абманулі, маладзенькую, вы мяне.
Вы казалі, зялёны сады не цвітуць,
Вы казалі, з руты вяночка не звіюць.
Як зацвілі зялёны сады — аж бела,
Ды як звілі з руты вяночак — самлела,
Сабе звілі з руты, з мяты, з лялеі,
А мне звілі з калючага ядленцу.
Ядленец коліць, галоўку клоніць да зямлі,
Пакланіся, млода Леначка, усей радні.

## 659

У суботу ўвечары, божа мой,*
Сабраліся й усе дзевачкі, божа мой,
Толькі нету ды маладой Анютачкі.
— Баярачкі, падманачкі вы мае,
Падманулі й сызманулі вы мяне.
Вы казалі, пойдзем у зялёны сад вянкі віць.

* Кожны радок паўтараецца.

Сабе звілі з руты, з мяты, з лялеі,
А мне звілі й з калючага ядленцу.
Ядленчык коліць, галоўку клоніць да зямлі.
— А ты, Анютка, пакланіся ўсёй радні,
Ні старога, ні малога не міні.
А ў старога й долі многа — табе дасць,
А ў малога шчасця многа — табе дасць.

## 660

— І баярачкі-абманачкі тут ёсць,*
Падманілі, падгаварылі вы мяне.
Сказалі, пойдзем у зялёненькі садочак,
І сказалі, саўем і табе вяночак.
І сабе звілі з руты, з мяты, з лілейцу,
І а мне звілі з калючага яленцу,
А яленец коліць, галоўку клоніць да зямлі.
— І пакланіся, Алачка, да да далочка ўсёй радні,
Сваёй мамачцы, сваёй родненькай найніжэй,
Бо яна ў цябе за ўсю радню найбліжэй.
Яна ж цябе маленькую ўзрасціла,
А ўзрасціўшы, у чужыя людзі пусціла.

## 661

Вы, дзевачкі-сястрычкі, спадманулі мяне
Учора звячора. **
Сказалі, пойдзем у зялёны сады вянкі віць.
Сабе звілі з руты-мяты і з пахучых цвяткоў,
А мне з калючага ялынцу.
Ялынец коліць, галоўку клоніць.
Вашы вяночкі галоўкі паднімаюць,
Вочкі весела пазіраюць,
А мае вочкі ўніз глядзяць,
Гарохам слёзы ляцяць.

## 662

Баярачкі, вы спадманачкі мае,
Спадманулі маладзеньку вы мяне.

* Кожны радок паўтараецца.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Казалі, пойдзем у садочак вянкі віць,
А ты пойдзеш у новую каморку чапец шыць.
Мы пойдзем у садочак вянкі давіваць,
А ты пойдзеш у нову каморку чапец дашываць.
Сабе звілі з руты-мяты, з лялеі,
А мне звілі з калючага ельнічку.
Ельнічак коліць, галоўку клоніць да зямлі.

### 663

Баярачкі, абманачкі вы мае,*
Абманілі і здрадзілі вы мяне.
Самі казалі, пайдзём у зелен сад гуляць,
Самі казалі, будзем табе й сабе цвяты рваць,
Самі казалі, будзем сабе й табе вянкі віць.
Сабе звілі то з розачкі, то з мяты,
А мне звілі з калючага яленцу.
Яленец коліць, галоўку клоніць, божа мой,
Яленец шчыпліць, а слёзкі сыплюць Надзенькі.

### 664

Баярачкі, спадманачкі вы мае,
Да спадманулі маладзенькую вы мяне.
Казалі, пойдзем ў зялён сад гуляці,
Мне ж, маладзенькай, калысачку люляці.

Баярачкі, спадманачкі вы мае,
Спадманулі, маладзенькую, вы мяне.
Казалі, пойдзем ў зялён сад вянкі віць,
Я ж, маладзенькая, за калысачкай слёзкі ліць.

Баярачкі, спадманачкі вы мае,
Да спадманулі маладзенькую вы мяне.
Казалі, пойдзем на ўдалых молайцаў глядзеці,
Я ж, маладзенька, з старым удома сядзеці.

### 665

Паселі дзявочкі да ў тры радочкі,
Ой, рана, рана, да ў тры радочкі, **

* Кожны радок паўтараецца.
** Рэфрэн «Ой рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Да ў тры радочкі, да ў чытыры.
Да ў сіх дзевачак з руты вяночак,
А ў маладой Мар'ечкі з пад'ялоўцу.
— Ці ты, Мар'ечка, часу не мела,
Ці ты красак не знала?
— Я часу мела, я краскі знала,
З пад'ялоўцу спадабала.

## 666

А пайду я ў зялёны садочак,*
А сарву я з руты-мяты цвяточак
Да саўю я свайму брацятку вяночак.
Звіўшы вяночак, сама сяду ля яго,
Сеўшы ля яго, спытаюся я ў яго:
— Да хто табе гэты вяночак увіваў?
— Да ўвівала святая прачыстая,
Прышпіляла мая родная сястра.

## 667

Кала замор'я сінія краскі цвіцелі,
Кала застолля любыя госці сядзелі.
А ва ўсіх гасцей кунні шубкі надзеты,
А ў нашай дзіцяткі вяночак на галоўцы.
— Хто ж табе гэты вяночак савіваў?
— Савівала мне вяночак мамухна,
У царкоўцы на прыстоле седзячы,
То золата, то серабра садзячы.
Сярод вянка яснае ўзор'е садзіла,
Штоб яно ей дарожаньку свяціла:
А яна ж паедзіць на сваю пераменную жысь.

## 668

— На кім у нас круты-віты вяночак?
— На Кацярынушцы круты-віты вяночак.
— Хто ж ёй віў круты-віты вяночак?
— Савівала ёй прачыстая мацер,

* Кожны радок паўтараецца.

У касцёле на прыстоле седзячы,
У вакошачка гледзячы,
То зорушку, то звёздачку садзячы.
Яна золатам, яна серабром павівала,
На Кацярынчыну галоўку ўскладала.
Пасярод вянка красна сонейка ўзышло,
Ясны месяц усю дарожаньку асвяціў.

## 669

Да на гары сінія васількі цвіцелі,*
За столікам любыя госці сядзелі.
На сім, на тым з руты вяночак звіты,
На Іванечку, круці-вярці, лепш за ўсіх.
— Хто табе, Іванька, гэты вяночак савіваў?
— Савівалі вяночак сястрыцы мае родныя,
У цёмнай ночы пры яснай свячы седзячы.
Месячык і зорачкі ўвілі,
Каб Іваньку дарожачку свяцілі.

## 670

На тым, на сім круты-віты вяночак.
— А хто яго, гэты вяночак, увіваў?
— Увівала яго родная сястрыца,
Пры цёмнай ночцы, пры яснай свечцы сядзючы.
Ды вакол усё звяздою ўвівала,
У сярэдзіну заранlandачку ўвінула:
— Свяці, свяці, заранічка, да канца,
Каб заехаў цёмнай ночкай да вянца.

## 671

Прасіліся маладзіцы
У дзевачак вянок віці.
А дзевачкі адказалі:
— Звілі мы вянок самі
З маладымі малайцамі
За цісовымі сталамі.

* Кожны радок паўтараецца.

## КОЦЯЦЬ ВЯНОК ПА СТАЛЕ

### 672

Суборная суботачка настала,
Млода Манечка ўсіх дзевачак сабрала,

А сабраўшы, за столічак садзіла,
Пасадзіўшы, па рутачцы дзяліла:

— Ой, віце, віце, мае дзевачкі, вяночак,
А звіўшы, па століку каціце,

Роднай матулі на ручанькі кладзіце.
— Прымі, мамачка, вяночак, зялёнай руты цвяточак.

— Ой, не прыму, маё дзіцятка, не прыму,
На тое цябе замуж аддаю.

### 673

А ў нядзелю раненька
Звілі вяночак зеляненькі.

Рута ж яе зялёна,
У тры радочкі садзона.*

І пакацілі па стале,
Па бялюсенькім абрусе.

— Кацiся, вяночак, кацiся,
Матулі ў ручкі ўвалiся.

— Выйдзі, матуля, з каморы,
Прымі вяночак зялёны.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

— Не выйду, дзіця, не выйду,
За слёзанькамі не ўвіжу.

За слёзанькамі не ўвіжу,
За музыкантамі не ўчую.

### 674

Зборная суботка настала,
Алеся дружынку збірала.
Назбірала поўны двор,
Насадзіла поўны стол.
— Устаньце, дзяўчаткі, усе зараз,
А я, маладая, паміж вас.
Станьце, дзяўчаткі, у радочак,
Звіце Алесі вяночак.
Вілі вяночак, вілі,
Па белым стале каціла.
— Каціся, вяночак, па стале, каціся,
Матулі ў ручкі зваліся.
— Выйдзі, матуля, з каморы,
Прыймі вяночак зялёны.
— Ой, не выйду, не выйду,
За слёзкамі сцежкі не ўвіджу,
За музыкантамі не чую.

### 675

Звіўшы вяночак,
Па стале пакаціла
Сваей матушцы
На белыя ручкі.
— Перайма, матушка,
Мой руцвяны вяночак.
— Не пераймy, дачушка, не пераймy,
З жаласці ручак не ўзніму:
Цябе, маладую, выдаю
У чужую старану,
Не да роднага татушкі —
Да да мілага свёкаркі,

Да да мілага свёкаркі
І да ліхой свякроўкі.
Будзець цябе ранюсенька будзіць,
Будзець цябе па улачкам судзіць.
Як ты ў мяне, дачушка, работнічка была,
Ранюсенька ўставала і сямеечку будзіла,
А як у свякроўкі застала,
Так і гультайкай стала.

## 676

А ў суботачку позненька *
Вілі дзевачкі вяночак.
Вілі дзевачкі вяночак
З зялёнай руты цвяточак
Да пакацілі па стале,
Па бялюсенькім абрусе.
— Кацiся, венчык, кацiся,
Мамцы на ручкі ўзваліся.
— Падыйдзі, мамка, падыйдзі,
На ручкі венчык пераймі.
— Маё дзіцятка, не магу,
А ў жыцці ручак не ўздыму,
А за слёзцамі не ўбачу,
Што цябе, дзіцятка, утрачу.

## 677

Да ў нядзельку раненька
Звілі Марыльцы вяночак
Да з руты, з мяты, з красачак
Да пакацілі па стале,
Па тонкім белым палатне.
— Кацiся, вяночак зялёны
Аж да новенькай каморы,
Маёй мамачцы на ногі.
— Выйдзі, мамачка, з каморы,
Падымі вяночак зялёны.
— Не выйду, дзіцятка, не выйду,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Бо з жалю ручак не ўздыму:
Цябе, маладую, выдаю
Да на чужую старану,
Да не ў багатую хату,
Да не ў вясёлую сям'ю.

## 678

Да ў суботу звячор'я *
Пайшла Сонечка ў садочак
Да звіла сабе вяночак,
Да з руты, з мяты цвяточак,

Да пакаціла па стале,
Да па беленькім абрусе.
— Кацібся, венчык, каціся,
Маме на ручкі зваліся.

— Пераймай, мамка, вяночак
Да з руты, з мяты цвяточак.
— Не магу, дочка, не магу,
Ад жалю ручак не ўздыму:

Я цябе замуж аддаю
Да ў чужую старану,
Да за чужога дзіцяці,
Ён будзець ручкі ламаці.

## 679

Ішла Евачка із поля,*
Нясла красачкі ў прыполе,
А віла вяночак пры столе,
А звіўшы, вянок пакаціла
Усё й па століку цісовым,
Усё й па абрусіку бялёвым.
— Каціся, мой вяночак, з столу далоў,
А ўдарся мамцы ў ножкі чалом.
— А падай, мамулька, венчык мой.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Рада б, дачушка, падаці,—
За баярамі не прайду,
За музыкамі не чую,
А за слёзкамі не віджу,
А за жалю ручак не ўздыму,
Што я цябе моладу аддаю.

## 680

Ой, зелен, зелен садочак,*
Зелен Рэнечкі вяночак.

Мы пакацілі па скам'і,
Паддалі жалю ўсёй радні,

А роднай мамцы найгорай,
Што гадавала найболей,

Што гадавала-расціла,
Ў чужыя людзі пусціла.

## 681

Савілі вяночак, савілі,
Па століку пакацілі.
— Каціся, вяночак, каціся,
Мамцы на ручкі зваліся.
— Падыдзі, мамачка, падыдзі,
Прынімі вяночак, прынімі.
— Не пайду, дзіцятка, не пайду,
Бо я сваіх ручак не ўзніму,
Ды што цябе замуж аддаю.
Савілі вяночак, савілі,
Па століку пакацілі.
— Каціся, вяночак, каціся,
Татку на рукі зваліся.
— Падыдзі, татачка, падыдзі,
Прынімі вяночак, прынімі.
— Падыду, дзіцятка, падыду,
Бо я свае ручкі уздыму,
Бо я цябе замуж аддаю.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 682

А ішла Зіначка з поля,
Несла красачкі ў прыполе,
Звіла вяночак пры столе,
А як пакаціла па скам'і —
Задала жалю ўсёй сям'і,
Не так сям'і, як матульцы.
— Дачушка мая мілая,
Дзе ты красачкі шчыпала?
— Шчыпала красачкі ў садочку,
Павесь, матулька, ў церамочку,
Няхай павісіць да нядзелькі.
А ў нядзельку музыка зайграе
І мае бальшаначкі запяюць.
А тады, матулька, прынясі
І на маю галоўку пакладзі.

## 683

Ішла Альжбетка з поля,
Несла красачкі ў прыполе,
Віла вяночак пры столе.
Пакаціла вяночак па скам'і,
Задала жаласці ўсёй сям'і,
Да не так жа сям'і, як мамцы.
— Падай, мамухна, венчык мой,
— Не падам, дзетка, не падам:
З жаласці ручак не падыму,
З клопату галоўкі не схіну.

## 684

Ішла Ганначка з поля,
Несла кветачкі ў прыполе,
Віла вяночак пры столе
Ды пры беленькім абрусе,
Ды пакаціла па стале.
— Каціся, вяночак, каціся,
Мамачцы ў ручкі зваліся.
— Ой, вазьмі, мамачка, вяночак —
Апошні ў цябе дзянёчак.

Ой, вазьмі яго ды разві
І ўсім дзевачкам падзялі:
Каму кветачку, каму дзве,
А мне, моладзе, ні адной,
А мне, моладзе, жаль будзе —
У мяне вяночка не будзе.

685

Вяночак — да ўсё зеллейка,
Пачынайся ж, да вяселлейка.
Вяночак — рута-мятачка,
Весяліся ж, гэта хатачка.
Павілі вяночак, павілі,
Па століку пакацілі,
Па століку па цясовым,
Па абрусіку шаўковым.
— Кацiся, вяночак, у парожак,
Маёй мамачцы да ножак.
— Падымі, мамачка, падымі.
— Не падыму, дзіцятка, не падыму,
Бо я сваіх ручак не ўздыму.

686

Зелен, зелен садочак,
Звіла дзевачка вяночак,

Пакаціла па стале,
Па тонкім белым абрусе.

— Кацiся, вянец, у канец,
Маей мамачцы ў прыпалец.

— Развi, мамачка, ён доўгi,
Я пагуляю яшчэ трохi.

Развi, мамачка, вяночак,
Я пагуляю гадочак.

— А мне вяночка не развiць,
Табе, маладой, ў мяне не быць.

## 687

Ой, зелен, зелен садочак,
Звілі дзевачкі вяночак,
Звілі вяночак пры стале,
Ой, да пакацілі па стале.
— Каціся, вяночак, у канец,
Роднай мамачцы ў прыпалец.
— Развi, мамачка, вяночак
Хаця на адзін гадочак.
— Не магу, дачушка, не магу,
Я з жаласці рук не падыму,
Аддаю цябе я, маладу,
Як белы камень у ваду.
— Як белы камень утоніць,
Тады мяне мамачка ўспомніць.

## 688

У суботку вечарок
Звіла дзевачка з руты вянок

Ды пакаціла па стале,
Па тонкім белым абрусе.

— Кацiся, вянец, у канец,
Маёй мамачцы ў прыпалец.

— Развi, мамачка, вяночак,
Пабуду ў цябе гадочак.

Развi, мамачка, трошачку,
Пераначую ў цябе ночачку.

— Мне, дачушачка, вяночка не развіць,
Табе, дзіцятка, тут не жыць.

## 689

Сягоння суботка, святы дзянёчак,
Звілі дзевачцы з руты вяночак.
Ой, вілі, вілі, ўсё гаварылі:

— Мой ты вяночак, мой ты руцвяны,
Сёння — зялёны, а заўтра звянеш,
Маёй мамачцы сэрца разжаліш.
Ды і пакацілі па стале,
Па тонкім белым абрусе.
— Кацiся, венчык, кацiся,
Мамачцы на ручкі зваліся.
— Мамачка, венчык перайміі,
Ой, божа, божа, перайміі,
А пераняўшы, распляці,
Ой, божа, божа, распляці.

## 690

— Як табе, Валечка, не плакаць: *
Да звілі вяночак, як лапаць,
Да пакацілі ўсе па стале.
— Матулька, венчык прыймай,
Мне на галоўку ўскладай.

## 691

Зборная суботка настала,
Маладая дзевачак вітала.

Сабрала яна іх поўны двор
І садзіла яна ўсіх за стол.

— Дзевачкі, сястрыцы вы мае,
Звіце ж вы вяночак для мяне

Ні з руты, ні з мірты, а з лілеї,
Каб маё сэрцанька не млела.

Квяцілі вяночак, квяцілі,
Па белым стале кацілі.

— Вяночак, кацiся,
Матулі ў рукі валіся.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Выйдзі ты, матуля, з каморы,
Прымі вяночак зялёны.

Матуля вяночак прыймае
І ўсіх гасцей вітае.

## 692

Звінела камора, звінела,
Дзе млода Марылечка сядзела,

Русую косу часала,
Белую сукенку наклала.

Наклала вяночак на коскі,
Пальюцца з яе вочак слёзкі.

— Не жыла на свеце такой я,
Не была кветачкай святочнай.

Выйдзі, матуля, з каморы,
Прымі вяночак зялёны,

Прымі вяночак зялёны,
У тры радочкі сплецёны.

Матуля вяночак прымае.
Салодкім віном вітае.

## 693

А ў нядзелю ранелька
Звілі вяночак зялёны.

Рута млодай зялёна,
У тры радочкі саджона.*

І пакацілі па стале,
Па бялюсенькім абрусе.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Кацiся, вяночак, кацiся,
Матулi ў ручкi валiся.

Выйдзi, матуля з каморы,
Прымi вяночак зялёны.

— Каму вяночак прымацi,
Чырвоным вiном вiтацi?

— А за вяночак дзянькуем,
Чырвоным вiном трахтуем.

## 694

У агародзе залёная рута
З жоўтымi красачкамi.

— Ой, выдзi, выдзi, родная матка,
З поўнымi кубачкамi.

Прымi мяне, маладзенькую,
З маiмi дружачкамi.

За думанькамi, за гуданькамi
Кубачка да не пабрала,

За слёзанькамi да за дробнымi
Прывету да не дазнала.

## 695

Кацiўся вянок па сталу
Ды й на Галiну галаву.
Стала Галечка кланяцца —
Вянок з галавы валiцца.
— Падай, мамачка, вяночак,
Апошнi ў цябе дзянёчак.

## ВЫКУПЛЯЮЦЬ ВЯНОК

### 696

Шчаслівая субота настала,
Верачка дзевачак сабрала,
Пазасадаўляла радамі
Па-за цісовымі сталамі,
А сама стала ў край стала
І стала думаці-гадаці,
Што за той вяночак ім даці.
— Тры кварты гарэлкі ад дзеўкі,
Яшчэ гарнец піва піўнога
Ад твайго брацікa роднага.

### 697

Савілі мы вяночак
З зялёнае руты, з красачок.
Некаму вяночка прыняці,
Трэба за мілым пасдаці.

Пакацілі мы да бацюшкі,
Бацюшка не прымае,
Бацюшка не прымае,
К матачцы адсылае.

Матачка не прымае,
К брацітку адсылае.
Брацітка не прымае,
К сястрыцы адсылае.

Сястрыца не прымае,
К міламу адсылае.
Мілы прынімае,
Другам называе.

## 698

Павілі вяночкі, павілі,
Няма каму іх забраці.
Дзе ж той маршалак падзеўся,
Ці не ў кудзелю звярцеўся?

## 699

Ой, чы ёсць ясны месяц на зары,
Ой, чы ёсць гаспадар на двары,
Чы выкупіць елечка на стале?
Штоб наш каравай ясен быў,
Штоб наш малады красен быў.

## 700

Падступі, жанішок, падступі,
Гэты вяночак выкупі.
Як не выкупіш, то прадамо,
А табе пакушаці не дамо.

## 701

Чаму, малойчык, дзеўкам барыша не прывёз?
Мы ўчора вяночак вілі,
Мы вілі вяночак з лялеі,
Табе яе аддаць жалелі.

Мы вілі вяночак аж да дня,
Не думай, што табе будзе задарма.
Табе будзе кветачка звавяна,
Каб напаіў дзевачак дап'яна.

## 702

Звілі вяночак з барвінку,
Нясі, малады, гарэлку.
Як не выкупіш — не дадзім,
А расшыем — прададзім.

### 703

Скупы дружачка, скупы,
Што вяночкаў не купіць.
Што вяночак, то асьмачок,
А той зялёны — шастачок.

### 704

У полі крыніца,
Каля крыніцы пашніца.
Цяпер паням-дружачкам
Пагуляці гадзіцца.

## МАЛАДАЯ ЧАКАЕ ВЯНОК АД МАЛАДОГА

### 705

Кукавала зязюлька,
Седзячы ў садочку:

— Божухна-збавіцелю,
Калі гэта лета будзець?

Плакала малада Люцэйка
У святліцы седзячы:

— Божухна, мой збавіцелю,
Калі гэта госці будуць?

Ні ў косачку шнурочка,
Ні на галоўку вяночка.

### 706

Шчабятала чачотка,
На кусточку седзячы:
— Божа мой міласцівы,
Дзе маё лецейка дзелася?
І дзе ж маё цёплае?
Ні на кусціку расіцы,
Ні пад кусцікам травіцы.
Плакала Дар'ечка,
У бацькі за сталом седзячы:
— Божа мой міласцівы,
Дзе ж мая краса дзелася?
І дзе ж мая дзявоцкая?
Ні на галоўцы вяночка,
Ні ў косачцы шнурочка,
Няма майго мілага дружочка.

## 707

У суботку позна тужыць, бядуець Ганнушка:
Недзе дастаці, чым галовачку прыбраці.
Пашла Ганнушка к сіняму мору, к беражку.
Плывець турак чарнюсенькі па моры,
Нясець венчык руцвяненькі на ўборы.
— Такі-сякі турак на моры,
Ды дай жа мне руцвяны венчык на ўборы.
Дам я табе нізенькія ўклоны
Ды за твае харошыя прыборы.

## 708

Разжалілася каліна,
Напроціў сонейка стоячы:
— Жаль жа мне, сонейка, на цябе,
Што па ўсім дзярэўям цвет белы,
А на мне, каліне, цвету нет.
— Ой, пажджы, каліна, пятроўкі,
То будзе на табе цвет белы,
Яшчэ чырвоныя ягадкі.
Ой, расплакалася Ніначка,
Напроціў баценька седзячы:
— Жаль мне, баценька, на цябе,
Што на ўсіх дзевачках вянкі ёсць,
А на мне, маладой, вянка нет.
— Ой, пажджы, Ніначка, нядзелькі,
Прыедзе Іванка на кані,
Прывязе вяночак ён табе,
Яшчэ й галубую кітайку.

## 709

За сеньмі, сеньмі сасна гарэла,
Ветрам шумела.

А там Янічка кубачкі мыла,
Вянка забыла.

Што каму ехаць па той вяночак.
Брацітка кажа:

— Я не паеду — конь мой не куты,
Сам не абуты.

Рыгорка кажа: — Я сам паеду —
Конь мой каваны,

Я сам прыбраны, конь мой падкуты,
Я сам абуты.

## 710

Ой, у бару, ў бару сосна гарэла,
Там дзеванька сосну тушыла,
Сосну тушыла, вяночак струсіла.
А хто ж пойдзе да па той вяночак?
Да староста мовіць: — Я не пайду —
Мой конь не ўбраны, не падкаваны,
На гару не збяжыць, на рэнец не ступіць.
Ён таго вяночка з места не зрушыць.
Да жанішок мовіць: — Я сам пайду —
Мой конь убраны, падкаваны,
На гару збяжыць, на рэнэц ступіць.
Ён таго вяночка з места зрушыць.

## 711

Ай, борам, борам сасна шумела,
Не так шумела, як зазвінела.
Млада Ганулька кубачкі мыла,
Кубачкі мыла, вянец забыла.
— Каго паслаці па мой вяночак?
Брацітка кажа:— Я не паеду,
Я не паеду — каней не здзержу.
Ой, борам, борам сасна шумела,
Не так шумела, як зазвінела.
Млада Ганулька кубачкі мыла,
Кубачкі мыла, вянец забыла.
— Каго паслаці па мой вяночак?
Генечка кажа: — Я й сам паеду,
Я й сам паеду — каней я здзержу.

712

Малада Танечка
Да свайго татку просіць:
— Да татачка радзіменькі,
Да запражы коніка,
Да з'ездзі ў гарадочак
Да па мой жа вяночак.
Я яго старгавала,
Да не забрала.
Татачка адказаўся:
— Да Томачка-дзіцятка,
Я й коніка не маю,
Я й коніка не маю,
Я й дарожкі не знаю,
Я й дарожкі не знаю,
Твой вяночак не пазнаю.

Віцечка адклікнуўся:
— Да я й сам паеду,
Я й коніка маю,
Я й дарожку знаю,
Я й дарожку знаю,
Я й твой вяночак пазнаю:
Не руцяны — пяровы,
На галоўку гатовы.

713

Ды ў бару, бару елі гарэлі,
Не так гарэлі, як зелянелі.
Там Надзечка вянкі віла,
Ды віла, віла ды й палажыла,
Не так палажыла, як прызабыла.
Ды каму ехаць ў барок па вянок?
Татульку ехаць ў барок па вянок.
Татулька кажыць: — Коней не маю,
Коней не маю, вянкоў не знаю.
Ды ў полі, полі елі гарэлі,
Не так гарэлі, як зелянелі.
Там Надзечка вянкі віла,
Ды віла, віла ды й палажыла,

Не так палажыла, як прызабыла.
Каму ехаць у поле па вяночак?
Валодзьку ехаць у поле па вяночак.
Валодзька кажыць: — Я каня маю,
Я каня маю, я вянкі знаю.

## 714

Ой, у моры на дне,
Ранам-рана.*
Там свашанька да бялілася,
Ручкі мыла, персня забыла.
Да каму ж ехаць у мора па персцень?
Да старасце ехаць у мора за перснем.

Ой, у моры на дне
Маладая Алёнка ручкі мыла,
Ручкі мыла да персня забыла.
Да каму ж ехаць у мора па персцень?
Да старасце ехаць у мора за перснем.

## 715

— Ой, заржы, заржы, мой сівы коню,
Дарогаю бегучы.

Ой, ці ўчуе мая дзяўчына,
З руткі вяночак ўючы?

Скора ўчула, скора пазнала,
Што мой Ясенька ідзе:

— Ой, мой Ясенька, мае каханне,
Сталася мне прыгода:

Была я ўвіла пару вяночкаў,
І то забрала быстра вода.

— Мая Касюлю, мае каханне,
Не фрасуйся ты тому.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Маю я, маю пару лебядзёў,
Пашлю я па вяночкі.

Лебядзі плывуць, вяночкі тонуць,
А быстра вада гарне.

Ой, патрацiла, мая дзівулю,
Свае вяночкі марне.

— Страціў ты, Ясю, страціў, нябожа,
Коніка варанога,

А я не страчу, маладзенькая,
Вяночка руцянога.

# МАЛАДЫ ПРЫВОЗІЦЬ СВОЙ ВЯНОК

## 716

Ці ўспадзяешся, конь вараны, на бягу,
Ці ўзвязеш дзевачку на гару,
На тую гару крутую,
Пад тую бярозу белую?
Ай, там дзевачкі вянкі ўюць,
Між сабой мядкі п'юць.
А ўсім дзявочкам па вяночку,
Адной Ганке вянка нет.
Як зачуў-пачуў Ванечка:
— Не журысь, Ганачка, не журысь,
А [redacted] ўчора на торгу пабываў,
Я ж табе вяночак старгаваў
Із руты, із мяты, із лялеі,
Із беленькае паперы.
Сонца грэе — лялее,
Ветрыкі павеюць — не звеюць,
І дожджыкі пойдуць — не змочаць.

## 717

Заклапацілась Дунечка,
Што рана зіма настала,
Сняжком рутанька завяла,
Не з чага маладзе вянка звіць.
Как зачуў-пачуў Ванечка:
— Не клапаціся, Дунечка,
Учора была пятнічанька, таргоў дзень,
Я ў тым таржочку прабываў,
Я ж табе вяночак старгаваў
Із руты, із мяты, із лялею,
Яшчэ з беленькай паперы,
Яшчэ з тоненькай трубачкі
На тваю галоўку-любачку.

Ветрык павеець — не звеець,
Дожджык пойдзець — не змочыць,
Падружкі сымуць — аддадуць,
Галоўку склоніць — не зроніць.

## 718

Заклапацілася Наталля,
Што рана зіма настала,
Што не з чага маладзе вянка звіць,
А ні звіць, ні купіць,
Прыходзіцца маладзе так хадзіць.
Як зачуў жа Іванька:
— Не клапаціся, Наталля,
Я ўчора на таргу пабываў,
Табе вяночак старгаваў
А з руты, з мяты, з белае паперы.
Мамухна глянець — не абвянець,
Дожджыкі пойдуць — не змочаць,
Сонейка ўзойдзе — не абвянець,
Чужыя ўзглянуць — абвянець.

## 719

Да журылася дзевачка,
Што рана зімачка настала,
Сняжком рутачка запала,
Не з чага маладзе вянка віць,
А ні на галовачку ўзлажыць.
А зачуў жа тое сужанька:
— Ой, не журыся, дзевачка,
Я ўчора на таргу бываў,
Я ж табе вяночак старгаваў,
Хоць не руцвяны — пярловы,
Ён табе да шлюбу гатовы.
А не гэтых садоў красачкі,
А не гэтых ільноў нітачкі,
А турэцкіх садоў красачкі,
Чырвоных ядвабаў нітачкі.

## 720

Зажурылася дзевачка,
Што зарання зіма стала,

Што зарання зіма стала,
Снегам рута запала,

Няма з чаго вяночка звіць:
А ні з руты, а ні з мяты,

А ні з руты, а ні з мяты,
Ні з чырвонай лілеі.

Адазваўся Колечка:
— Не журыся, Сонечка,

Я учора ў Вільні быў,
Я табе вянок купіў

Не з руты, не з мяты,
Не з чырвонай лілеі.

Не з чырвонай лілеі,
А з белай паперы.

А з белай паперы,
Каб на галоўку адзелі.

## 721

Учора з вячора мароз быў,
Ой, рана, рана, мароз быў,*
Сягоння з рана інейка.
А пала-пала інейка
На Яначкаву каморку,
На Валеччыну галоўку.
Забедавала дзяўчынка,
Што рана зімка настала,
Яе рутачка завяла.

---

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Як пачуў жа Янaчка:
— Ды не бядуй ты, Валечка,
Я учора ў Вільні пабываў,
Табе вяночак старгаваў
Ды на кардовай бумажцы,
Ды на чырвонай кітайцы,
Валечцы ў ручкі падайце.
А ветры веюць — не звеюць,
А сонца паліць — не спаліць,
Ён да галоўкі пристаніць.

## 722

Забедавала дзевачка,
Што рана зіма лягла,

Сняжком руту замяла
І на вяночак не стала.

Адазваўся малады малойчык:
— Не бядуй, дзевачка, не бядуй.

Я учора ў Вільні быў,
Я табе вяночак купіў

Не з руты, не з мяты,
Але з чыстага шоўку.

Але з чыстага шоўку,
Табе, дзевачка, на галоўку.

## 723

Затужыла дзеванька,
Што рана зіманька настала,
Сняжком рутанька запала,
Не з чага маладзе вянка звіць.
Зачуў жа то яе сужанька:
— Не тужы, не бядуй, дзеванька,
Я ўчора на таргу пабываў,
Я табе вяночак старгаваў
З руты, з мяты, з шалфею,

З чырвонае каліны,
З салодкае маліны.
Чырвона калінка — сужанька,
Салодка маліна — дзеванька.

## 724

У лузе каліна гаварыла:
— А чаму ка мне Мар'юшка не хадзіла,
Чаму ж мяне, каліну, не ламала,
Чаму з мяне вяночак не звіла?
Ай, быўшы летца да мінецца,
Мяне, каліны, не будзець,
Табе ж, Мар'юшка, жаль будзець,
Што ў цябе вяночка не будзець.
А ўчуў-услышаў Іванька:
— Не клапаціся, Мар'юшка,
Я ж учора на торгу пабываў,
Руцвяны вяночак таргаваў;
Ён з руты, з мяты сувіван,
Із чырвонай каліны,
Із салодкай маліны.
Чырвоная каліна — Мар'юшка,
Салодкая маліна — Іванька.

## 725

А зажурылася Галечка,
Што рана зімачка напала,
Сняжком рутачка запала.
Ні руты, ні мяты, ні лялеі,
А ні беленькае паперы,
А ні чырвонае каліны,
А ні зялёнае барвіны.
А зачуў жа тое Сенька:
— Ой, не журыся, Галечка,
Я ўчора на таргу быў,
Я ж табе вяночак старгаваў
А з руты, з мяты і з лялеі,
І з беленькае паперы,
А з чырвонае каліны,
І з зялёнае барвіны.

726

Марылька бедавала,
Што рана зіма стала,
Рута снегам запала,
З нечага вянка звіці,
К галоўцы прышпіліці.
Яначка ў Вільні быў,
Марыльцы вянок купіў,
Вянок з белага цвету,
Марыльцы аж давеку.

727

Калі наш Сяргейка панок быў,
А ў Ельню ехаў — вянок віў,
А з Ельні ехаў — давіваў,
Выносіў на базар — прадаваў.
Куплялі дзевачкі — ён не аддаваў,
Ён сваей Ніначцы дарма аддаў.
— Насі, мая Ніначка, не знасі,
Вечарам дзевачкам аддасі.
Дзевачкі вяночак разаўюць
І па красачцы разбяруць.

728

Ой, наш Грышачка панок быў,
Ён у Кіеве вянок віў,
А ў Магілёве маляваў,
Сваей Марынцы дараваў.
— Я вас, дзевачкі, не дару,
Адну Марынку падару.
Ды ён жа ёй не абы-як даў —
Нізка пакланіўся і шапачку зняў.

729

Раслі садочкі ды ў тры радочкі,
Ды ніхто ў тым садзе не бываў,
Толькі мой міленькі пабываў,

Там белыя ружы ён зрываў
Ды ўсю дарожку вянок віў, звіваў,
А ўехаўшы ў сяло, ён прадаваў.
Таргавалі дзевачкі — ён не прадаў,
А сваёй жа міленькай так аддаў.
— Да на табе, міленькая, вяночак,
Ды панасі ты яго дзянёчак,
Да вечара на галоўцы панасі,
А вечарам дружачкам аддасі.
Яны твой вяночак разаўюць,
А нам з табой песенек напяюць.

### 730

Наш Казімір паніч быў,
У Магілёве вянок віў,
Вазіў да Вільна пазлаціць,
А ў Смургонях прадаваў,
Сваей Мар'янцы дараваў.

— Насі, Мар'янка, здарова,
Не скажу табе ні слова.
Ні яго ветрык не звее,
Ні яго дождажык не абмочыць.

Ветрык павее — злялее,
Дождажык пакропіць — краснее.

### 731

Ой, тоненька сосенка, тоненька,
Затым яна тоненька, што ў бару.

Затым яна тоненька, што ў бару,
Да служыў Ванечка каралю.

Да служыў ён, служыў, платы не браў,
Да па садзе хадзіў, краскі рваў.

Да па садзе хадзіў, краскі рваў,
А дарогай ішоў, вянкі віў.

А дарогай ішоў, вянкі віў,
А ў паўдарогі павіваў.

А ў паўдарогі павіваў,
Купавалі дзевачкі — не прадаў.

Купавалі дзевачкі — не прадаў,
А сваёй Марусьцы так аддаў.

— Вот табе, Маруська, першы дар,
На каберцы станеш — другі дам.

Хоць не руцвяны — парловы,
На тваю галоўку гатовы.

Ветрык павее — не звяне,
Дождж ык пакрэпіць — не змочыць.

Дождж ык пакрэпіць — не змочыць,
Маладая Маруська не зносіць.

## 732

Мёд-віно ручаём цячэ,
Колечка ялавец сячэ.

Колечка ялавец сячэ,
Ніначцы ён вянок нясе.

— Ніначка й маладзенькая,
Не глядзі, што яловенькі.

Не глядзі, што яловенькі,
Абы быў зялёненькі.

Не глядзі, што калюшчанькі,
Абы быў пахушчанькі.

## 733

У агародзе два васілёчкі,
Абодва сінюсенькі.
У нашай Анечкі два вяночкі,
Абодва раўнюсенькі.

Адзін вяночак дзевачкі звілі,
То з руты і з мяты,
Другі вяночак Валодзька прыслаў
З чырвоненькай рожы.

Пахнючая мята вельмі багата —
Насіць я не буду,
Чырвоная рожа вельмі прыгожа —
Я ёю красіць буду.

### 734

Пакаціў Ясюленька
Свой руцвяны вянушак
Па стале па цісовым,
Па белым абрусе
Для маладой Касюленькі.

### 735

Дзянькуе, маршалочак,
За руцвяны вяночак.
У нашай панны маладой
Ёсць свой садочак.
Пашла Верачка ў садочак,
Звіла вяночак
Не з руты, не ■ мяты —
З белай лялеі.
Наша пані млода
Усю ноч не спала,
Усю ноч не спала,
Руцвянага вянца ждала,
Не так вянца,
Як младзенца.
Не так младзенца —
Шчырага сэрца.
Я вянок прэзентую,
За вянок дзянькую.

## 736

Прыехаў падручнік маладзенькі,
Прывёз вяночак зеляненькі.

— А ты, нявеста, не спяшайся,
За гэты вяночак не хапайся.

Гэты вяночак атручоны,
Ад тваіх дзяўчат адлучоны.

## 737

Прыехалі сваты-махляры,
Махляры.

Прывезлі вяночак з крапівы,
З крапівы.

— Маладая Манечка, дагадайся,
Дагадайся.

За гэты вяночак не хапайся,
Не хапайся.

Бо гэты вяночак зарэнчоны,
Зарэнчоны.

Ад дзяўчат адлучоны,
Адлучоны.

## 738

Прыехалі кавалеры,
Палажылі венчык на талеры.

— А ты, Ніначка, не спяшайся,
За гэты венчык не хватайся,

Бо гэты венчык з розных цвет,
Завяжыць табе, маладой, свет.

## 739

Наехалі сваты-шынберы,
Шынберы.

Пакацілі вяночак па талеры,
Па талеры.

— А ты, Верачка, дагадайся,
Дагадайся,

А гэты венчык ашука,
Ашука —

І з атцом і мамкай разлука,
Разлука.

## 740

Прыехалі госці
Ды з чужой валосці,
Ды навезлі нам зелля
Ды з траякіх земляў.
Што на трох землях росла,
На талерачку ўзошла,
На талерачцыззяе,
На галовачцы звяне,
На талерачцы блісне,
На галовачцы звісне.

## 741

Ды наехалі госці
Ды з чужой валосці,
Ды навезлі нам зелля,
Што блізка зямлі расло.
Што блізка зямлі расло,
На талерачку ўзышло.
На талерачцы ззяе,
На галовачцы звяне.
На талерачцы ясна,
На галовачцы шчасна.

## 742

Не радавайся, Галечка,
Што гэты вечар вясёлы,
Што гэты венчык пярловы.
Гэта ж не венчык — адманшчык:
Ён жа ад дзевачак адманіць,
Ён жа да жоначак прыманіць,
У панядзелак — ад дзевак,
А ў аўторак — да жонак.

## 743

Падмяцён садочак, падмяцён,
Наўкола руціцаю абвядзён.

Ніхто ў тым садочку не бываў,
Малады Ванечка ў карты граў.

Малады Ванечка ў карты граў,
Ён сабе дзевачку намаўляў:

— Вот пойдзем, дзевачка, ў мой садочак,
Дам табе руціцы на вяночак.

— Я ў твой садочак не пайду,
З тваіх рук руціцы не вазьму.

Ёсць у маёй мамы свой садок,
Дасць мне руціцы на вянок.

## 744

А ў полі, у полі сад мяцён,
Кругом рутачкай абвядзён.
Ніхто ў тым садзе не бываў,
Молад Пецечка ў скрыпку йграў,
К сабе Танечку падзываў:
— Хадзі, мілая, у мой сад,
У маім садзе вішань шмат.
— Я ў твой садочак не пайду,

Я тваіх вішанек не люблю.
Твае вішанькі горкія,
Твая радзінка гордая,
Твая мамачка злосная.

### 745

На гары садочак памяцён,
Зялёнаю рутаю апляцён,

Зялёнаю рутаю апляцён,
Чырвонаю рожаю заквяцён.

— Хто ў тым садочку пабываў?
— Малады суджанка ў карты граў.

Малады суджанка ў карты граў
Да сабе дзевачку падмаўляў:

— За мною дзеванька, за мною,
Будзеш мне, маладому, жаною.

Будзеш мне, маладому, жаною,
Да маёй матушцы слугою.

Будзеш мне, маладому, пасцель слаць,
А маёй матушцы кросны ткаць.

Будзеш мне, маладому,— мякенька,
А маёй матушцы — часценька.

Будзеш мне, маладому,— бяленька,
А маёй матушцы — міленька.

### 746

Ну ды вумная-разумная Ніначка:
Па павуціне сіняе мора перайшла.
Перайшоўшы, на сцежачку прысела,
Пасядзеўшы, тры думачкі задумала:
Адна думачка — краснай паненкай не быці,
А другая — у татулькі не жыці,
А трэцяя — з руты вяночак ізвіці.

## 747

У агародцы рутка,
Астанься, Кандратку, тутка.
Бу́дземо вянкі віці,
З табою гаварыці.

## 748

Кала саду зялёнага, кала забору высокага
Там салавейка аблятае, на сад зялёны паглядае,
Дзе яго галубка гнездзейка ў̄е.
— Ой ты, сізая галубка, савей сабе на каліне,
А мне, салавейку, на даліне.
Кала саду зялёнага, кала забору высокага
Там Іван аб'язджае, на сад зялёны паглядае,
Дзе яго Маўрачка вяночак ў̄е.
— Ой ты, маладая да Маўрачка, савей сабе з пярламі,
А мне, маладому, з сакаламі.

## 749

Ой, што ў саду звінела,
Ой, што ў весялым?

Паніч паненку намавяў,
Залаты персцень дараваў,

Залаты персцень дараваў,
А яна яму — вяночак руцвяны.

— Куды, Ясеньку, паедзеш,
Не затрацъ майго вяночка,

Бо як вяночак затраціш,
То да майго бацанькі не трапіш,

Да майго бацанькі на двор,
Да мяне, маладой, за стол.

Ай, па бору дарожанька ляжала,
Туды ехаў старэшанек старычок,
Прывязаў каня к зялёнаму дубу,
А сам пашоў зязюлюшку слухаць.
Мне не й тыя зязюлечкі кукуюць,
Ажно свашкі каравай пякуць,
Каравай пякуць, песні пяюць.

Ай, па бору дарожанька ляжала,
Туды ехаў маладьі Пятрушка,
Прывязаў каня к зялёнаму дубу,
А сам пашоў зязюлечак слухаць.
Мне не й тыя зязюлечкі кукуюць,
Ажно дзеўкі вяночкі уюць,
Вяночкі ўюць, песні пяюць.

## НЯДОЎГА ПРЫЙДЗЕЦЦА МАЛАДОЙ НАСІЦЬ ВЯНОК

### 751

Сягоння субота,
Сьвяты дзянёчак,*
Звілі мы для Тані
З мірты вяночак.

— Мой ты вяночак,
Мой ты мірцяны,
Сягоння зялёны,
А заўтра звянеш,

Маёй мамачцы
Сэрца зажаліш,
А мамачка
Бедаваць будзе.

«Дзе маё дзіцятка?» —
Гаварыці будзе
Ці па цёмным лесе
Хадзіці будзе.

Ці па цёмным лесе
Хадзіці будзе,
Салавейкаў-пташкаў
Будзіці будзе?

Салавейкі-пташкі,
Дробныя странаткі,
Завядзіце ж мяне
Да маёй вы хаткі.

Завядзіце ж мяне
Да маёй вы хаткі,
Да маёй хаткі,
Да маёй роднае маткі.

* Кожны другі радок паўтараецца.

752

Сягоння нядзелька,
Святы дзянёчак,
Саўём дзевачцы
З руты вяночак.

— Мой ты вяночак,
Мой ты зялёны,
Ты сёння зелен,
А заўтра звянеш.

Ты сёння зелен,
А заўтра звянеш.
Ты маёй мамачцы
Сэрца разжаліш,

Бо мая мамачка
Бедаваць будзе:
— Дзе маё дзіцятка
Начаваці будзе,

Ці ў цёмным лесе,
Ці ў роўным полі?
— Ні ў цёмным лесе,
Ні ў роўным полі,

У сваёй свякроўкі
У новай каморы,
У новай каморы
З мілым, харошым.

753

Нямножка венчыку на сцяне вісець,
Эй, на сцяне вісець.

Нямножка мне з дзеўкамі пагуляць,
Эй, з дзеўкамі пагуляць.

Як прыдуць свашачкі да не жаласлівыя,
Эй, не жаласлівыя,

Расплятуць маю косачку па шырокіх плячах,
Эй, па шырокіх плячах,

Разальюць мае слёзанькі па румяну ліцу,
Эй, па румяну ліцу.

## 754

Сягоння нядзелька,
Святы дзянёчак,
Звілі дзяўчыне
З руты вяночак.*

Сягоння звілі,
А заўтра завяне,
А заўтра завяне,
Як на шлюбе стане.

— Глядзі ты, дзяўчына,
Каб не ашукацца:
Будзе табе гора,
Бо не ў роднай маткі.

Трэба позна легчы,
А раненька ўстаці
І ўсю сямейку
Трэба абуджаці.

Бо ў матулі дачушка,
Як у боры птушка:
Куды захацела,
Туды паляцела.

Там дзевярочак —
Не родны браточак.
Ён да дзіцяці
Будзе, як звярочак.

Там залвіца —
Не родная сястрыца.

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца.

Яна да дзіцяці
Будзе, як звярыца.

Там свякроўка —
Не родна матуля.
Як ты захварэеш,
Цябе не прытуліць.

### 755

— Падыдзі, дзевачка, да стала,—
Бальшанка вяночак савіла.

— Не пайду, дзевачкі, да стала,
Пайду мамачку прасіць.

Пайду мамачку прасіць:
— Пазволь мне вяночак насіць.

— Сягодня, дзіцятка, панасі,
А заўтра дзевачкам аддасі.

### 756

Хадзіла дзевачка па бару,
Савіла вяночак з чабару.

Яна сваю мамачку прасіла,
Каб гэты вяночак знасіла.

— Сягоння, Манечка, панасі,
А заўтра дзевачкам аддасі.

Дзевачкі вяночак разаўюць
І па адной кветачцы разнясуць.

— А мне, маладзенькай, жаль будзе,
Што майго вяночка не будзе.

## 757

Хадзіла Валечка па полю
Да віла вяночак з куколю,
Да прасіла ў мамачкі дзянёчка
Да панасіць гэтага вяночка.
— Ой, прасі, дачушка, не прасі,
Яшчэ гэты вяночак панасі,
А ўвечары дружачкам аддасі.
А ўвечары дружачкі разаўюць
Да на стале кветачкі пакладуць,
Да дробныя слёзачкі разальюць.

## 758

Ой, хадзіла дзевачка па полю
Да й віла сабе вяночак із куколю,

Да й віла сабе вяночак, да й прасіла:
— Штоб я етага вяночка й знасіла.

Ой, дзевачкі, рада б я пабываці,
Да не хочыць стара маці гадаваці.

Да не хочыць стара маці гадаваці,
Да не хочыць стары бацька адзяваці.

## 759

Хадзіла Манечка па бару,
Віла вяночак з чабару.

За ёй дзевачкі хадзілі,
Яе вяночка прасілі.

— Не дам вяночка нікому,
Панясу вяночак ў камору.

Панясу вяночак ў камору,
А вы ж прыдзіце памерце,

Хай мая мамка паглядзіць,
Аж яе сэрца звяніць:

— Дзе ж маё дзіцятачка,
Уся яе пакрасачка,

Усё яе красаванне,
Дзявоцкае расставанне.

## 760

Суборны дзянёчак, субота,
Субота.
Суборнейшая Ганначка,
Ганначка.

Сабрала дзевачак сабе ўсіх,
Сабе ўсіх.
Сама села да паміж іх,
Паміж іх.

Да думае думачку больш за ўсіх,
Больш за ўсіх.
— Што ты сабе, Ганначка, думаеш,
Думаеш?

Што ты сабе, Ганначка, думаеш,
Думаеш?
З кім ты сваю мамку кідаеш,
Кідаеш?

— Я думаю думачку такую,
Такую:
Я з сваёй мамкай не звякую,
Не звякую.

Я думаю думачку: так і быць,
Так і быць,
Мне з сваёю мамкаю век не быць,
Век не быць.

## 761

Ой, у гародзе зялёна рута сядзела,
З тае рутачкі віла дзевачка вяночак,
А ў тым вяночку ўсё кветачкі лічыла,
Колькі гадочкаў сваёй матачцы служыла.

— Ой, яшчэ туды адну кветачку прылучу,
Яшчэ гадочак сваёй матачцы паслужу.
— Ой, з богам, з богам, маё дзіцятка, ад мяне,
Ёсць у мяне ды малодшая за цябе.

## 762

Гдзе наша маладая,
Што з руты вянка ажыдае?
У агарод ідзе,
Кветкі рве,
З агароду йдзе
Вянкі ўе.
Звіўшы вяночак,
Усё кветачкі лічыла,
Колькі ў бацькі
Лецечкаў служыла.
— Яшчэ к вяночку адну кветачку
Прылажу,
Яшчэ ў бацюшкі адно лецечка
Паслужу.
— З богам, з богам, маё дзіцятка,
Ад мяне,
Пералетую гэта лецечка
Без цябе.

## 763

Хадзіла дзевачка па полю,
Віла вяночкі з куколю.

Вяночкі віла, кветкі лічыла,
Колькі ў свайго татачкі гадоў паслужыла.

— Яшчэ адну кветачку далучу,
Яшчэ ў свайго татачкі паслужу.

— З богам, з богам, дзіцятка, ад мяне,
Перабуду лецейка без цябе.

Тады была міла, як работу рабіла.
А цяпер няміла, бо вяночак звіла.

## 764

Суборная суботачка настае,
Маладая Настачка вянкі ўе,
А ўе, ўе вянкі і ўздыхае.
— Чаго, Настачка, цяжка ўздыхаеш?
На каго, Настачка, жаль маеш?
— А маю жаль я на усіх,
На родную мамку больш за ўсіх,
Што аддае замуж маладу,
Як белы камень у ваду.
Як белы камень утоне —
Тады мяне мамачка ўспомне.

## 765

Хадзіла Янка па полю,
Сабірала вяночак з куколю.
Звіўшы вяночак, легла спаць,
Прыляцела зязюленька кукаваць.
— Ой, ды не кукуй зязюля, я не сплю,
З вялікага жалю галоўку не падніму.
— Ой, ды й на каго ж ты, Янка, жаль маеш,
Ці на мяне, зязюлю сівую,
Ці на сваю мамачку родную?
— Ой, ды маю ж я жаль на ўвесь род,
А на родную мамачку наўпярод,
Што не дала пагуляць яшчэ з год.

## 766

У агародзе вішанька, у саду — дзве,
Цвілі яны харашэнька абедзве,
А на іх лісцейка рабое,
Харошыя маладыя абое.
У полі, у полі ядлавец,
Да віла дзевачка там вянец,
Да звіла венчык, заснула,
Прыляцела зязюлька, не чула.
Стала зязюлька каваці,
Да начала дзевачка плакаць.
Стала ў яе зязюлька пытаці:
— На каго, дзевачка, жаль маеш,
Ці ты на каго чужога,
Ці на свайго ойчанька старога?
— Я ні на каго чужога,
На свайго ойчанька старога,
Што далёка замуж аддае,
Да за семдзесят міль пад Люблец
І не вяліць мне часта ў госцях быць.

## 767

Зелен, зелен да ялавец,
Да савіла дзевачка з руты вянец,
А звіўшы венчык, плакала.
Прыляцела зязюлька, кавала:
— Да чаго ж, дзевачка, так плачаш?
Да на каго ж, малада, жаль маеш?
— Ой, плачу я, зязюлька, на свой род,
Што не далі пагуляць яшчэ год.
Далёка замуж выдаюць,
Велькага пасага не даюць.

## 768

Гуляла дзевачка ды па полю,
Звіла сабе вяночак ды з куколю.
Звіўшы вяночак, стала плакаці.
Прыляцела зязюля, стала кукаваці.

— Чаго, дзевачка, чаго плачаш?
На каго, дзевачка, абіду маеш?
— Маю, маю абіду на ўвесь род,
А на родную мамку наўпярод:
У лузе каліна ды з цвяткамі —
Не дала мне пагуляці ды з дзяўкамі,
У лузе каліна ды з расою —
Не дала мне пагуляці ды з касою.

## 769

Субота — нядзеля як адзін дзянёчак.
Ой, рана, рана, як адзін дзянёчак.*
Маладая Манечка віла з руты вяночак.
Яна віла, віла да ўсё й гаварыла:
— Я табе, матуля, цяпер няміла,
Тады была міла, як кашулькі мыла.
Тады была слаўна, як пасцельку слала.

## 770

Сягоння суботка,
Святы дзянёчак,
Саўем дзевачцы
З руты вяночак.
Ой, вілі, вілі,
Усё гаварылі:
— Ой ты, вяночак,
Мой ты руцяны,
Сягоння залаты,
А заўтра завянеш.
— Ой, чым я табе,
Мамачка, няміла?
Ці я работкі
Шчыра не рабіла,
Ці разам абеда
Не сабедала,
Ці разам вячэркі
Не вячэрала?

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага наступнага радка.

## 771

Сягоння суботка, святы дзянёчак,
Віла Галінка з руты вяночак.
Ой, віла, віла, ўсё гаварыла:
— Я табе, матулька, цяпер няміла,
Я табе, матулька, шчыра рабіла,
Табе пасцельку перасцілала,
Табе кашулькі перамывала.

## 772

Сягоння субота, святы дзянёчак,
Віла дзевачка з руты вяночак.
Ой, віла, віла, ўсё гаварыла:
— Я табе, мамачка, шчыра рабіла,
Прышла нядзелька — стала няміла.
Стала табе міла зятняя гарэлка,
Зятняя гарэлка, зятнія падаркі.
Зятняя гарэлка стаяці будзе,
Зятнія падаркі ляжаці будуць.
Ты мной, мамачка, пасылаць не будзеш,
Будзе пасылаці чужая маці.
А ты будзеш, мамка́, слёзкі праліваці,
Слёзкі праліваці, мяне ўспамінаці.

## 773

Сягоння суботка, мілы дзянёчак,
Віла дзевачка з руты вяночак.

Ой, віла, віла, усё й гаварыла:
— Чым сваёй мамачцы цяпер няміла?

Чым сваёй мамачцы цяпер няміла,
Ці я работкі шчыра не рабіла?

Позна клалася, рана ўставала,
На тваю работку не забывала,

Лучынку паліла, сямейку будзіла,
Пасцельку слала, піць падавала.

Дзевачкі вілі, вілі, гаварылі:
— Не зімаваць табе, рутачка, у садочку,

Не зімаваць табе, рутачка, у садочку,
А зімаваць табе, рутачка, у вяночку,

Не векаваць табе, дзевачка, у мамкі,
А векаваць табе, дзевачка, у свякроўкі.

# МАЛАДАЯ РАЗВІТВАЕЦЦА З ДЗЯВОЦТВАМ

## 774

Сягоння ў нас паненскі вечар настаець,
Паследні раз млода Манечка коску запляцець.

Не будзець яе русая каса буяці,
Не будзець яна з дзевачкамі гуляці.

Ой, злялела русая каса да канца,
Аджалела яе мамачка да вянца.

## 775

Ды й у нас сягоння паненскі вечар настаець,*
І наша дзяўчына русу косу распляцець,
І папусціць яе па белых плечках буяці.
— Не буду болей з вамі, дзевачкі, гуляці.
Не буду болей па кірмашыках хадзіці
І не буду болей нашых мальчыкаў любіці.
Ды адбуяла русая каса, адбуяла,
Ды адгуляла маладая дзяўчына, адгуляла.
Няхай жа цяпер русая каса лялеіць,
Няхай жа цябе твая радзінка жалеіць.

## 776

Сягоння ў нас паненскі вечар настаець,
Паследні раз Гэлечка коску запляцець.
Пусціць коску па плечачках буяці —
Будуць за ёй дзевачкі гуляці.
Пусціць коску па плечачках лялеці —
Будуць па ёй хлопчыкі аж млеці.

---

* Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

## 777

У нас сягоння паненскі вечар настае,
Наша дзевачка русую касу запляце.
Пляці, пляці русую касу ў тры рады —
Адгуляла ў сваёй мамуленькі ўсе гады.
Пляці, пляці русую касу ў адзін рад —
У нядзельку рана пасадзяць цябе на пасад.
Будзе цябе твая мамуленька дарыці,
Будзе табе шчасця-долі прасіці.

## 778

Сягоння ў нас паненскі вечар настаець,*
А паследні раз Рэнечка коску запляцець,
А заплёўшы, па белых плечыках папусціць.
— Няхай мая русая каса буяець,
Няхай па мне млоды Ўладзечка аж вянець.
А няхай мая русая каса лялееець,
А няхай па мне млоды Ўладзечка аж млеець.

## 779

— У што, млода дачушка, удалася?
Роўна пояса ў золата ўвілася,
Пусціла касу па шаўковым паясу.
Няхай па касе буйны вецярок павее,
Няхай па табе твая мамачка памлее.
— Не млей, не млей, мая мамачка, у дамочку,
Яшчэ прывязуць тваю дачушку ў вяночку.
Яшчэ яна ў вас сені, хату пярэйдзя,
Яшчэ яна ў вас вячэраць папрося.
Яшчэ яна ў вас русую касу пачэша,
Цябе, мамачка, старэнькую пацеша.

## 780

— Ды ў каго ж ты, наша сястрыца, ўдалася?
Ды па пояс у золата ўвілася,
Пусціла касу па залатым паясў.

* Кожны радок паўтараецца.

— Няхай мая руса касіца буяець,
Няхай за мной мая радзінка гуляець.
Няхай мая русая коска ляleeць,
Цяпер мяне родная мамка жалеець.
Адбуяла русая коска, адбуяла,
Адгуляла я ў цябе, мамка, адгуляла.
Адлялела русая коска, адлялела,
Аджалела родная мамка, аджалела.

781

Там на моры, на сінім азёры
Малады сужанька на лябёдачак страляець
Да із-пад правай рукі на дзевачку ўзіраець:
— Як ні глядзі, а дзевачка ўдалася:
Што кован пояс, у шчыра злата ўлілася,
Пусціла касу па кованаму паясу.
— Няхай мая каса ў полі з вятрамі іграець,
Няхай мой бацюшка па маёй касе ўздыхаець.
Няхай жа каса ў полі з ветрам ляleeць,
Няхай жа бацюшка па маёй касе жалеець.

782

У каго ж наша Мар'юшка ўдалася?
Па пояс у золата ўлілася,
А па плечы ў чыстае серабро.
А дай, божа, на два двары ўсё дабро.

783

А ў гародзе кубкамі рожа вілася.
— У каго ж ты, млода Таклюська, удалася?
Па паясочак у золата ўвілася,
Пусціла касу па залатому паясу.
— Няхай мая русая касіца ляleeць,
Няхай мяне матулька жалеець.
А ўжо мая руса касіца адлялела,
А ўжо мяне матулька аджалела.
Лялела каса, лялела руса сем нядзель,
Жалела матулька адзін дзень.

## 784

А на моры, на сіненькім азёры
Там Ванечка гўсак-лябёдак страляе,
Ён на Зіначку быстрымі вочкамі міргае.
— У каго, ў каго, мая Зіначка, ўдалася?
Ці ты ўдалася у роднага татульку,
Ці ты ўдалася у родную матульку?
— А я ўдалася у родную сястрыцу,
Я ўвілася у русую касіцу.
Пушчу я касу па залаценькім паясу.
Няхай мая русая коска лялеець,
Няхай мяне родная матуля жалеець.
Адлялела руса коска роўна плеч,
Аджалела мяне матуленька на ўвесь век.

## 785

Да ў полі бела бярозка стаяла,*
Пад той бярозкай Маруся коску часала.
— Няхай мая русая каса лялеець,
Няхай мяне мая мамачка жалеець.
Палялеець мая косачка — не будзець,
Пажалеець мяне мамачка й забудзець.
Палялее мая косачка сем нядзель,
Забудзецца мяне мамачка за адзін дзень.

## 786

— А ў каго ж ты, млода Валечка, ўдалася,
Што ў такое золата ўвілася?

— Я ўдалася не ў татачку, не ў радню,
А ўдалася сваёй мамачцы на бяду.

Няхай мая руса касіца лялеець,
Няхай па мне родная мамачка памлееець.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 787

Сцялю кладачку цераз быструю рэчку, я й пайду.
Правядзі мяне, мая мамачка, я й сяду.
Распушчу косы па чырвонаму поясу,
Няхай мая русая каса лялее,
Няхай мяне мамачка шкадуе.
Няхай мяне далёка не аддае,
Няхай мяне дома трымае.

## 788

Ай, цёмная, ай, нявідная ночанька,
Ай, вумная, ай, разумная Марусенька,
Ай, пусціла, ай, касу па кованаму паясу:
— Няхай каса да па ветру камянее,
Няхай мяне мой татачка жалее,
Няхай мяне ў чужыначку не аддасць.
Ай, у чужыне я не ўмею хадзіці,
Ай, не ўмею чужому айцу служыці.
Пайду ціхенька — так мне людзі скажуць, баюся,
Пайду ціханька — людзі скажуць, лянюся.
— Ты, маё дзіцятка, не пышыся, карыся,
Ай, скажуць людзі: «Добрага роду дзяціна».

## 789

Ой, чуць будзе, чуць, дзе змовінкі п'юць,
Скрыпкі-дудачкі ўсю ночку гудуць.
Маладой Марыначцы спаць не даюць.
— Паслухайце, парабочкі, дзе галубчык гудзе,
Там маладзы Іванка парабоцтва здае:
— Наце вам, хлопчыкі, парабоцтва мае,
Дзе будзеце піць і гуляць, памінайце мяне.

Ой, чуць будзе, чуць, дзе змовінкі п'юць,
Скрыпкі-дудачкі ўсю ночку гудуць,
Маладой Марыначцы спакою не даюць.
— Паслухайце, дзеўкі, дзе галубка гудзе,
Там маладая Марына дзявоцтва здае:
— Наце вам, дзяўчыны, дзявоцтва мае,
Дзе будзеце піць і гуляць, памінайце мяне.

## 790

Ой, у бару, у бару, там галубка гудзе,
Ой, там, там дзевачкі гуляннейка ідзе.
— Наце, дзевачкі, гуляннейка маё,
Я пайду сяду ў жаночым раду,
У жаночым раду, з жонкамі на параду.

Ой, там, у бару, галубочак гудзе,
Ой, там хлопчык гуляннейка здае:
— Наце, хлопчыкі, гуляннейка маё,
А я ж пайду сяду ў мужчынскім раду,
У мужчынскім раду сабе на параду.

## 791

Ой, падыдзі, млода Галінка, да столу,*
Да дай, да дай сваім дзевачкам гонору.

Чаму, чаму, млода Галінка, не ясі,
Каму, каму сваю красату аддасі?

Выпі, выпі хоць чарачку сыціцы,
Аддай, аддай сваё гуляннейка сястрыцы.

Выпі, выпі хоць чарачку гарэлкі,
Аддай, аддай сваё гуляннейка на дзеўкі.

Выпі, выпі хоць чарачку мядочку,
Аддай, аддай гулянне браточку.

А дзе твая маёвая сукенка,
Апаследні вечарок паненка.

## 792

За лес, за лес яснае сонца заходзіць,
Твая красата, наша Люсечка, праходзіць.

Ды не ўмела сваёй красаты шанаваць,
Не захацела з дзевачкамі пагуляць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

### 793

Чыя то рутанька каля саду стаяла,
Расіцаю прыпала?

Ой, найшлі дзеўкі, найшлі,
Сталі рутку шчыпаці.

Сталі рутку шчыпаці,
Олечцы вянкі віці.

— Олечка, ад нас ідзеш,
Што ты нам за дар прышлеш?

— Ой, прышлю я вам дару,
Дару немалога:

Вяночка з расіцаю,
Мёд-віно з шкляніцаю.

### 794

— Ой ты, Олечка, ад нас, ад нас,
Калі прыбудзеш да нас, да нас?

— Я ў нядзельку ранком, ранком
Прышлю вяночак сватком, сватком.

Прышлю вяночак для дзявочак,
Для сваіх верных кумпаночак,

З каторымі я пахаджала,
Мёд-гарэланьку папівала.

Трэба будзе не пахаджаці,
Мёд-гарэлку не папіваці.

### 795

Ой, чаго вы, дзеўкі, прышлі,*
Да ці мяне глядзеці?

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Да ці мяне глядзеці,
Ці вяночак прасіці?

Я заўтра да вянок прышлю
Да баценька із расою.

Да баценька із расою,
Да дзевачак із красою.

## 796

— Маладая Наталачка ад нас, ад нас,
Што ты нам за дары аддаш, аддаш?

— Я ў аўторак ранюсенька
Прышлю вяночак да дзевачак,

Прышлю вяночак да дзевачак,
Да сваіх, да мілых кампаначак,

Што я з імі пахаджала,
Ціху мову размаўляла,

Белае лічыка ўмывала,
Косу русу часала.

Цяпер я не буду з вамі пахаджаці,
Ціхай мовы размаўляці,

Белае лічыка ўмываці,
Косу русу часаці.

## 797

— Манечка ад нас ідзець,
Што ж яна нам за дар прышлець?
— У панядзелак з расою
Прышлю вяночак з красою.
Вы ж яго не насіце,
А ў каморы павесьце.

Няхай мая мамка гляніць,
Тады ж яна ўся завяніць:
«Дзе ж маё дзіцятачка?
Уся яе тут пакрасачка».

## 798

Пад ганкам музычанькі граюць,
Пад ганкам дзеванькі гуляюць.
— Гуляйце, дзеванькі, гуляйце,
Ужо маё гулянне мінае,
Ужо Івашка вяночак знімае,
Коніку на грываньку кладзе,
Бацэньку на славаньку вязе.

## 799

— Ой, рута-мята, дробныя базінкі,
Спамінайце мяне, дзевачкі,
Што ў бога гадзінкі.
— Як руту шчыпалі,
Цябе спаміналі,
Як вяночкі вілі,
То цябе забылі.

## 800

А што ў новенькай святліцы *
Расставаліся сястрыцы:
— Волечка, наша сястрыца,
А лучшы было не знацца,
Як нам з табою расстацца.
А лучшы было не радзіцца,
Як нам з табою разлучыцца.
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
А ідзіце ж вы па ваду,
Нарвіце красак на ляду,
Прыбярыце ж мяне, маладу.

* Кожны радок паўтараецца.

## 801

Каціліся іглiцы з паліцы —
Пакідаюць дзевачку сястрыцы:
— Сястрыца, наша падружка,
Валешай нам было не знацца,
Як цяпер з табой расстацца.

## 802

Як жа нам не жаль цябе,
Зіначка, наша сястрыца:
Разам у ягадкі хадзілі,
У адну судзінку збіралі,
Адной мамачцы давалі,
На адной калодзе сядзелі,
З адной лустачкі хлеб елі.

## 803

Цяпер мяне вяліка бяда абняла,*
Што я сваю падружачку абняла.
З кім я буду па кірмашыках хадзіці,
З кім я буду карагод дзевак вадзіці?
— Ты ж на мяне, мая падружка, не глядзі,—
Як хадзіла па кірмашыках, так хадзі,
Як вадзіла карагод дзевак, так вадзі.

## 804

Жаль-пражаль, маладая Зіначка, нам цябе,
Не будзе ў нас кунпаначкі над цябе.

Дзе мы хадзілі, кунпавалі з табою,
Пазарастаюць тыя сцяжынкі травою.

Як мы з табой па вячорках хадзілі,
Як мы з табой роўна хлопчыкаў любілі,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Як мы з табой па ягадкі хадзілі,
Як мы з табой з адной галінкі шчыпалі.

Як мы з табой з адной галінкі шчыпалі,
Як мы з табой у адзін кубачак ссыпалі.

Не будзеш сядзець із дзевачкамі ў кружочку,
Не будзеш піць із хлопчыкамі мядочку,
Будзеш плакаць паціхусеньку ў куточку.

## 805

Суборная суботачка настала,
Наша Насцечка ўсіх дзевачак сабрала.
А сабраўшы, у радочак саджала.
Сама села ў крэслечку паміж іх,
Скланіла галоўку ніжэй іх,
Падумала думачку проці іх:
— А мае ж вы дзевачкі-сястрыцы,
А мне ж пара з вамі разлучыцца.
Без мяне кветачкі вам шчыпаці,
Без мяне вяночкі віць-павіваці,
Без мяне ў карагодзіку вам скакаці.

## 806

Зборная суботка настала,
Ганулька дзяўчат збірала,
Сабраўшы, у радочак саджала.
Сама села, малада, вышэй усіх,
Скланіла галоўку ніжэй усіх.
— Дабранач, дзяўчаты, дабранач
Не на адну ночку — на ўвесь век.

## 807

Як мы дзевачцы вянок вілі,
Дык мы ўсе садкі схадзілі.
Выламалі каліначку з расою —
Разлука дзевачцы з касою.
Выламалі каліначку з цвяткамі —
Разлука дзевачцы з дзяўкамі.

— Ужо ж табе, дзевачка, не тое —
Не пляці косачку удвое.
Было плесці ў чатыры рады,
Было быць у бацечкі чатыры гады.

## 808

Ужо мы, дзеванько, ідземо,
Табе дабранач даемо,
Не той дабранач, што на ноч,
Ды той дабранач, што на ўвесь век,
Пусціла славу на ўвесь свет.

## 809

Зялёна ляшчына,
Жоўты арэшкі.
Бывайце здаровы,
Мае таварышкі.

Я з вамі была,
Я з вамі расла,
Вы ж дзевачкамі,
А я замуж пашла.

Выце дзевачкамі
Будзеце гуляці,
А я замуж пашла,
Буду гараваці.

## 810

Учыніла дзевачка вялікую славу,
Насадзіла дружачак да цэлую лаву.*
Кавалеры ходзяць да ручачкі ломяць:
— Да чаму мы, братцы, за сябе не бралі,—
Маладую дзевачку ў чужы край аддалі.
У чужы край аддалі, у чужыя людзі,
Хто ж яе, маладзенькай, шкадаваці будзе?

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Ды не пашкадуе ні ацец, ні маці,
Ні ацец, ні маці да ні родны братка,
Толька пашкадуе малады хлопчычак:
Яна за вядзерца, а ён за другое.
— Да пойдам па ваду да разам абое.
Ён сваё прынясе, па маё падыдзе,
А мне, маладзенькай, да шмат лягчэй будзе.
Прынясём вадзіцы да сядзем абедаць.
Ён за ложачку, а я за слёзачку,
Да ён за кусочак, а я ў куточак.

## 811

У садзе вішня да да долу звісла,*
Малада Леначка з дзевак вышла.
Дзевачкі ходзяць, яны лялеюць,
Маладой Леначкі крэпка жалеюць.
Хлопчыкі ходзяць, ручачкі ломяць:
— Божа мой мілы, што мы зрабілі,
Маладу Леначку у людзі пусцілі.

## 812

Да не жаль табе, Маруська,
Свайго вечара вечарога,

Свайго вечара вечарога
Да й вяночка руцянога.

Дзеўкі пойдуць на вулку гуляць,
А ты, малада,— дзеці калыхаць.

Дзеўкі будуць вянкі віць,
А ты, малада,— чэпчыкі шыць.

## 813

— Падумай сабе, наша Надзечка,
Ці не жаль табе паненскага прыбору,
Ці не жаль табе дзявоцкага паходу?
— Не тужыце, мае дзевачкі, вы па мне.

* Кожны радок паўтараецца.

Як я сваіх дзевярочкаў пажаню,
Як я сваіх заловак замуж пааддаю,
Тады з вамі, мае дзевачкі, гуляць пайду.
— Хоць і пойдзеш, цябе прымаці не будзем,
Хоць і прымем, з табою гукаці не будзем,
Хоць гукаці будзем, вернага слоўца не скажам.

## 814

Ці не жаль табе, дзевачка,
Ды дзявоцкага пагуляння,

Дзявоцкага пагуляння,
Кавалерскага жартавання!

Пойдуць дзевачкі на вулку гуляць,
А ты, маладзенька, ў каморку спаць.

Будуць дзевачкі гулі-гулі,
А ты, маладзенька, люлі-люлі.

Пойдуць дзевачкі вянкі віць,
А ты, маладзенька, чапкі шыць.

Пойдуць дзевачкі па ягодкі,
А ты, маладзенька, да работкі.

## 815

Маладая Лёнечка,
Ці не жаль табе будзе

Дзявоцкага пагуляння,
Паненкавага красавання?

Дзеўкі пойдуць гуляючы,
А ты, млода, гукаючы.

Дзеўкі пойдуць у лес гуляць,
А ты, млода, у клетку спаць.

Дзеўкі будуць вянкі віць,
А ты, млода, чапкі шыць.

## 816

Ці не жаль табе, дзевачка,
А дзявацкага пагуляння,

А дзявацкага пагуляння,
А рабяцкага жартавання?

А дзевачкі йдуць у вішнёў сад,
А ты, маладзенька, на пасад.

А дзевачкі йдуць вянкі віць,
А ты, маладзенька, чапцы шыць.

А дзевачкі йдуць у таночак,
А ты, маладзенька, у садочак.

## 817

— Ці не жаль табе, дзевачка,
Да дзявочага стану?
Дзевачкі ідуць, два вяночкі ўюць,
А з цябе да й той здымаюць.
— А я ў дзевачак папрашу
Да да вечара панашу.

## 818

Ці табе, дзевачка, жалю не будзе?
Усе дзевачкі гуляці будуць,—

Ты, маладая, сядзеці будзеш,
Будзеш сядзеці, ручкі ламаці,

Ручкі ламаці, цяжка ўздыхаці:
— А мой божачка, нядоля стала,

А мой божачка, нядоля стала,
Уся мая красата навек звяла.

## 819

Ці не будзеш, Галечка, жалкаваці,
Як мы будзем на вуліцу, ой, выбягаці?

Як мы будзем на вуліцу, ой, выбягаці
Да пад тваё акенечка, ой, падбягаці,

Да пад тваё акенечка, ой, падбягаці,
Да ў твае мацёнкі ўсё пытаці:

— Ой, ці дома Галечка, ці нямае?
Няхай выйдзе на вуліцу, ой, пагуляе.

— Ой, няма да Галечкі і не будзе,
Бо забралі нашу Галю, ой, чужы людзі,

Бо забралі да Галечку аж давеку.
Гадзі, гадзі, да Галечка, ой, чалавеку.

## 820

Ай ты, белая бяроза,
Будзе табе прыгода,
Прыгодачка — злы мароз.
Марозік змарозіць,
А ветрык лісток абаб'е,
Аж на мора занясе.
Маладая дзяўчына,
Будзе табе прыгода,
Прыгодачка — злы мужык.
З дзевачкамі разлучыць
І да жанок прылучыць.
Дзеўкі будуць гуляці,
А ты будзеш плакаці.
Дзеўкі пойдуць на вулку,
А ты пойдзеш за люльку.
Дзеўкі будуць гуляці,
А ты будзеш люляці.
Дзеўкі будуць піва піць,
А ты будзеш слёзкі ліць.

## 821

Ды ў суботку вечарам
Вілі Сонечцы вяночак.

Ой, вілі, вілі й усё гаварылі,
Што ўжо Сонечка ды не дзевачка.

Не будзеш, Сонечка, ужо па вуліцы хадзіць,
А будзеш, Сонечка, Мішачку гадзіць.

Пасцелеш пасцельку — ён пераправе,
Выйдзеш на вуліцу — скоса гляне.

## 822

У суботаньку — вясёлы дзянёк,
Плятуць маладой вянок.

Дзевачкі сядзяць, кветкі раўняюць,
Хлопчыкі ў карты граюць.

Не йдзі, малада, у чужое сяло,
Табе будзе невесяло.

Там суседачкі вельмі судлівы,
Цябе будуць судзіці.

Там дарожанькі не траплівы,
Ты там будзеш блудзіці.

Не йдзі, малада, у чужое сяло,
Табе будзе невесяло.

## 823

Як выйду я за вароты,
Рассыплю я карты.
Ды ўжо, ужо мінуліся
Дзявочыя жарты.

Як выйду я на вулачку,
Рассыплю я вішні.
Ды ўжо, ужо мінуліся
Дзявочыя мыслі.

Як выйду я на вулачку,
Рассыплю я дулі.
Ды ўжо, ужо мінуліся
Дзявочыя гулі.

Як я выйду за вароты,
Рассыплю арэшкі.
Ды ўжо, ужо мінуліся
Дзявочыя смешкі.

## 824

Ішла Янечка, ішла малада,
Раскідала карты.
Кідай, Янечка, кідай, малада, –
Дзявоцкія жарты.
Ішла Янечка, ішла малада,
Рассыпала вішні.
Кідай, Янечка, кідай, малада,
Дзявоцкія мыслі.
Картачкі падняць, вішанькі сабраць —
Янечка нагнецца.
Ой, знай, Янечка, ой, знай, малада,
Усё тваё мінецца.

## 825

Выйшла Ніначка за варотанькі,
Рассыпала дрова.
Ужо мінаецца, ужо мінулася
Дзявоцкая мова.*

Выйшла Ніначка за варотанькі,
Рассыпала карты.
Ужо мінаюцца, ужо мінуліся
Дзявоцкія жарты.

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца.

Выйшла Ніначка за варотанькі,
Рассыпала арэхі.
Ужо мінаюцца, ужо мінуліся
Дзявоцкія смехі.

Выйшла Ніначка за варотанькі,
Рассыпала слівы.
Ужо мінаюцца, ужо мінуліся
Дзявоцкія спевы.

Выйшла Ніначка за варотанькі,
Рассыпала гуллі.
Ужо мінаюцца, ужо мінуліся
Дзявоцкія гулі.

### 826

Вышла Манечка за варотачкі,
Рассыпала жар, жар.
Ці табе, Манечка,
Дзявоцтва не жаль?

Вышла Манечка за варотачкі,
Рассыпала бульбы.
Ужо канчаюцца, ужо мінаюцца
Дзявоцкія гульбы.

Вышла Манечка за варотачкі,
Рассыпала арэшкі.
Ужо канчаюцца, ужо мінаюцца
Дзявоцкія смешкі.

Вышла Манечка за варотачкі,
Рассыпала карты.
Ужо канчаюцца, ужо мінаюцца
Дзявоцкія жарты.

### 827

Аўдотачка сваю матушку
За вароты высылала:
— Ты выйдзі-тка, мая матушка,
За новыя вароты.

Рассыпаны, мая матушка,
Чырвоныя іглы.
— А мінаюцца табе,
Дзетачка Аўдотачка,
Усе дзявочыя ігры.

Аўдотачка сваю матушку,
За вароты высылала:
— Ты выйдзі-тка, мая матушка,
За новыя вароты.
Рассыпаны, мая матушка,
Усё чырвоныя персні.
— А мінуцца табе, дзетачка,
Усе дзявочыя песні.

Аўдотачка сваю матушку
За вароты высылала:
— Ты выйдзі-тка, мая матушка,
За новыя вароты,
А рассыпаны, мая матушка,
Усё чырвоныя карты.
— Да мінуцца табе, дзетачка,
Усе дзявочыя жарты.

### 828

Па сіняму мору
Плаваюць качоры —
Ужо тване, Марыся,
Праходзяць вячоры.

Па сіняму моры
Плаваюць уцяты —
Ужо тваe, Іване,
Праходзяць дзяўчаты.

### 829

Да старое бёрда, да старое бёрда,
Да новыя нічальніцы.
Да мінаюцца, малада дзяўчынка,
Усе ж тваe ды вечарніцы.

Да стары свіран, да стары свіран,
Да новае будаванейка.
Да мінаецца, маладая дзяўчынка,
Усё ж тваё ды гулянейка.

З кім гуляла, жартавала,
Сама таго да не відала.
З каго кпіла, смяялася,
Сама таму ды папалася.

Да цераз свой двор, да цераз свой двор
Да па воду хадзіла,
Ой, не даў мне бог, не судзіў мне бог,
Да каго ж я любіла.

## 830

Старое бёрда, старое бёрда
Да новыя набільніцы.
Ой, мінаюцца, да маладая Ганначка,
Дзявочыя да вечарніцы.

Кудзельку шмыгнеш, калыбельку махнеш
Да некалі пагуляць будзе.
Сама па вадзіцу — дзіця за спадніцу
Да некалі пагуляць будзе.

## 831

Суборная суботка настала,
Малада Маня дзевачак збірала,

Дзевачак збірала,
У радочак стаўляла:

— Пастаньце, ўсе дзевачкі, у рад,
А я, маладзенька,— на пасад,

Белыя ручкі ломячы,
Дробныя слёзкі ронячы.

А за ёю матуля,
За ёй родная:

— Чаго плачаш, чаго плачаш,
Манечка маладая?

— Як жа мне не плакаць,
Дробных слёзак не ліць:

Ужо дзевачкай не быць,
Вяночка не насіць.

— Сядзь сабе ля дзевачак,
Зві сабе вяночак.

— Дзевачкі сядзяць,
На мяне глядзяць

І не паглядаюць,
З колачка вылучаюць.

## 832

А ў суботу ціхі вечар настаець,
Матулечка дачку замуж аддаець.
— Адгуляла, млода Анечка, адгуляла,
Была табе ўся нядзелька павольна,
Было глядзець на таткава падвор'е.
— А не было ж мне ні дзянёчка павольна,
Не паглядзела на таткава падвор'е:
Панядзелак белыя хусты ўшывала,
Ва аўторак баярачак прасіла,
У сераду чорныя ляды паліла,
А ў чэцвер вінаграда садзіла,
А ў пятніцу зялёну руту сеяла.
Расці, расці, зялёна рута, як лянок,
Каб паспела лепш к субоце на вянок.

## 833

Сядзьце, дзевачкі, у адзін рад,
Пейце песенькі ў адзін лад.
Ці піць гарэлку, ці не піць,
Ці аддаць дзевачку, ці не аддаць?

Да пашла дзевачка-сястрыца,
Мы з ёй у ягадкі хадзілі,
З адной ветачкі шчыпалі,
У адну лубачку ссыпалі.

## 834

Зборная суботка настала,
Настачка дзевачак збірала
Да ў тры радочкі саджала.
Сама ж яна села между іх
І думачку думала больш за іх:
— Мае дзяўчаткі-сястрыцы,
Радзьце радачку, што мне рабіці:
Ці замуж ісці, ці дзевачкай быці?
Замуж пайшоўшы,— бедная галоўка,
А замуж не йшоўшы,— людская абмоўка.

## 835

Вясну-лета была сасонка зялёна,
А пад восень стала сасонка жаўцеці.
Сталі на яе ўсякія птушкі ляцеці,
Ды й сталі з яе ягадкі клявапі.

Усю нядзельку была Ганулька вясёла,
А ў суботу стала Ганулька смутненька.
Сталі да яе ейны падружкі схадзіцца,
Ды й сталі ж яны за белы столік садзіцца.

Ды й сталі ж яны за белы столік садзіцца,
Ды й стала наша Ганулька плакаці:
— Ды й кожнаму дзераўцу бог лісточак даў,
А мне, маладзенькай, бог долі не даў.

Зборная суботка настала,*
Раечка дзевачак сабрала,
Ай, паставіла ў шарок,
А пасадзіла за сталок,
А сама села выша ўсіх,
Скланіла галоўку ніжа ўсіх.
— Дзевачкі мае, сястрыцы,
Напала на мяне цемната.
Дзе ж мая дзеецца красата?
За табой, Мішачка, за табой,
За тваей буйной галавой.

* Кожны радок паўтараецца.

# ЯК МАЛАДОЙ ЗВАЦЬ БАЦЬКОЎ І РАДНЮ МАЛАДОГА

## 837

Сягоння суботка настала,
Васіліначка дзевачак сабрала,
У тры радочкі саджала,
І сама села между іх,
І думала думачку больш за іх:
Не знала свёкарку — трэба знаць,
Не звала татачкам — трэба зваць.
Не знала свякроўку — трэба знаць,
Не звала мамачкай — трэба зваць.
Не знала вятроўку — трэба знаць,
Не звала вятроўкай — трэба зваць.

## 838

Два кані, два валы раку плылі: *
— Цяжка ж нам, чатыром, раку плысці,
Цяжалей Ганульцы ад мамкі йсці.
Як пайсці, як ступіць у чужу хатачку,
Як назваць свякроўку роднай мамачкай?
Назваўшы мамулькай, — не мамка мне,
Назваўшы свякроўкай,— няслава мне.

## 839

Сінія аблокі на Дунай пашлі.*
Ай, наша Танюша на думах сядзіць,
Думаець Танюшка думу крэпкую:
Як тут быць, як тут быць — у чужы людзі ісці,
Як тут стаць, як тут стаць — свёкра бацькам назваць,
Свякроўку, свякроўку — роднай маманькай,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Дзевяроў-сакалоў — родным брацікам,
Заловак-лябёдак — роднай сястрыцай.
Прыпаду, малада да сырой зямлі,
Я й свёкра назаву родным татанькам,
Свякроўку назаву роднай маманькай,
Дзевяроў-сакалоў — родным брацікам,
Заловак-лябёдак — роднай сястрыцай.

## 840

Зборная суботка настала,
Марылька дзевачак сабрала.

Сабраўшы, у радочак саджала.
Сама ўсіх вышэй засядала.

Скланіла галоўку ўсіх ніжэй,
Думала думку ўсіх мацней.

— Не думай, Марылька, не думай,
Маладой галоўкі не займай.

— Як мне, маладзенькай, не думаць:
Не знала свякроўкі — буду знаць.

Не знала свякроўкі — буду знаць,
Сама не ведаю, як назваць.

Назваўшы мамачкай,— жалюся,
Назваці свякроўкай — баюся.

— Марылька, ад долі не ўцячэш,
Свякроўку ты мамкай назавеш.

## 841

Зборная суботка настала.
А Лорачка дзевачак сабрала.

А Лорачка дзевачак сабрала
І ўсіх у радочак пасаджала.

Сама ж яна села вышэй усіх,
Скланіла галоўку ніжэй усіх.

— Не думай, Лорачка, не думай, не гадай —
Перайдзі рэчачку Дунай.

— А як мне, маладзенькай, не гадаць:
Не ведала свякроўкі — трэба знаць.

Назаві свякроўкай — не будзе любіць,
Назаві мамачкай — жаль будзе.

Назаві мамачкай — смяецца,
Назаві свякроўкай — надзьмецца.

## 842

Не думай, Анечка, не гадай,*
Завязуць цябе за Дунай.
Не знала Дунаю — будзеш знаць,
Не брала вадзіцу — будзеш браць,
Не знала свякроўку — будзеш знаць,
Не звала мамулькай — будзеш зваць.

## 843

Нязбор нядзеля настала,*
Рыпіна падружак сабрала,
Па-за століку пасаджала,
А сама села вышэй усіх,
Сагнула галоўку ніжэй усіх,
Думала думу боле ўсіх:
Чым мне свёкра назваці,
А свякровушку гукнуці?
Назаву свёкра бацькаю,
А свякровушку маткаю.
А тым я ліха не буду,
Свайго розуму не збуду,
Свайго мілога не згняўлю.

---

* Кожны радок паўтарасцца.

## 844

Ой, зборная субота,
А збарней суботы нядзеля,
А збарней нядзелі Танечка.
Сабрала сабор у таткаў двор,
Выбрала дружачак на выбор.
Пасадзіла дружачак высока,
Ай, сама села вышэй ўсіх,
Задумала думачку лучшэй усіх:
Чым мне свёкарку назваці?
Назаву я свёкарку татачкам,
А свякрушачку — мамачкай,
А дзеярочка — браточкам,
А залавіцу — сястрыцай,
Так не будзем з ёй сварыцца.

## 845

Ды была субота зборненька,
А нядзеля яшчэ збарнейша.*

Маладзенька дружачкі збірала
Ды наўкруг століка саджала.

Ды саджала дружачкі высока,
А сама села вышэй усіх.

А сама села вышэй усіх
Ды думала-гадала больш за ўсіх.

— Не думай, маладзенька, не гадай,
Пераедзеш рэчаньку й Дунай.

— Як жа мне, дружанькі, не думаць:
Ды я не знала свякроўкі — трэба знаць.

Не знала свякроўкі — трэба знаць,
Ды скажыце, дружанькі, як назваць.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Назвала б я маменькай — не будзе,
Адно майму сэрданьку жаль будзе.

Назвала б цётанька — не залюбіць,
Выйдзе на вуліцу — абсудзіць.

## 846

Зборна, зборна субота,
А яшчэ збарней нядзеля.
Дзевачка дружачак сабірала —
Із сяла брала сялянак,
А із горада — мяшчанак,
Із панскага двара — паненак.
Пасаджала высока,
А сама села выша ўсіх,
Задумала думачку горш усіх:
Як мне к свёкарку прыстаці,
Свёкарку бацюшкай назваці?
Лістом па двару пасцялю,
Свёкарку бацюшкам назаву.
Тым я ліха не буду,
Я ж сабе добрасці дабуду.

## 847

З поля, з поля ветры дзьмуць,
З чужой воласці госці йдуць.

Ніхто тых гасцей не пазнаў,
Адна Валечка пазнала.

Адна Валечка пазнала,
Гасцей усіх у хатачку пазвала.

Пасадзіла за сталом,
А сама села вышы ўсіх,

Скланіла галоўку ніжа ўсіх.
Думала-гадала болей усіх:

Чым мне па двару паслаці,
Як мне свякроўку пазваці?

Лістам па двару пасцялю,
Свякроўку мамачкай назаву.

Тым жа я ліха не буду,
Я сабе добрасці дабуду.

Тым жа я ліха не стану,
Я сабе добрасці дастану.

## 848

— Не сядзі, маладая, параздумайся,
Пусці думушкі па галовушцы:
Як пайсці, паступіць ў чужу сямейку,
Як назваць, папрасіць чужую мамухну,
Як назваць, папрасіць чужога татухну?
— Неахвота татанькай назваць,
Неахвота маманькай назваць.
Свёкрам назваць — худая славушка,
Свякроўкай назваць — дурна славушка.
Калі ж не зваць роднай матулькай,
Калі ж не зваць родным татанькай,
Яны мяне судзіць будуць:
«Мая нявестка санлівая, драмлівая,
За вадой ідзець — вёдры коцяцца,
А ваду нясець — самаваліцца».

## 849

Зборніца субота, зборніца,
Збарней суботы нядзеля.

Сабрала субор повен двор,
Сабрала субор таткаў двор.

Сабрала субор таткаў двор,
Пасадзіла дружачак на выбор.

Пасадзіла дружачак на выбор,
А сама села вышы ўсіх.

А сама села вышы ўсіх,
Схіліла галоўку ніжы ўсіх.

Схіліла галоўку ніжы ўсіх,
Надумала думачак большы ўсіх.

Надумала думачак большы ўсіх:
Чым мне свёкарку назваці?

Лістом па двару пасцялю,
Свёкарку татачкам назаву,

Свёкарку татачкам назаву,
А свякрушачку — мамачкай,

А свякрушачку — мамачкай,
А дзевярочка — браточкам,

А дзевярочка — браточкам,
А залвіцу — сястрыцай.

## 850

А з бору, з бору травачкі,
Збірала дзевачка дружачкі,
Сабрала збор у бацькаў двор,
Насадзіла дружачак круг сябе,
А сама села вышай іх.
Надумала думачку больш за ўсіх:
Як мне ў рыдзельку ўступіці,
Як мне свякроўку назваці?
Ступлю я ў рыдзельку ножкай,
Назаву свякроўку маткай.

## ДРУЖКІ МАЛАДОЙ РОБЯЦЬ ЁЛАЧКУ І КВЕТКІ ДЛЯ ДРУЖЫНЫ МАЛАДОГА

### 851

На рэчцы, рэчцы селязенька ўецца.
У таго селязня чатыры касы,
Чатыры касы ды два галасы.
Зачула, завідзела маладая нявеста:
— Ох, калі б бы мне ды тыя чатыры касы,
Чатыры касы ды два галасы,
Я б іх шоўкам папляла і златам паліла,
Жаніху за шапку ўпляла.

### 852

Пайду з гары ў чыста поле.
У чыстым полі трава расце,
Трава расце шаўковая,
Цвятуць цвяты ружовыя.
Сарву цвяток, саўю вянок
Свайму дружку на галовушку.

### 853

А ў новым гародзе
Нічога не родзіць.
Толькі зарадзіла
Чырвона каліна.
І за тою вадою,
За быстраю ракою
Нельга спасылаці
Каліны наламаці.

Дзевачка ў бацюшкі
Дасужая была —
І Дунай пераплыла,

Каліны наламала
Сабе на вяночак,
Суджаньку на цвяточак,
Сабе за бумажачку,
А суджаньку за магерачку.

## 854

Сватове, да Колку
Па залату йголку,
Па едвабну нітачку
Прышыці кветачку
К зялёнаму барвіначку.

## 855

Калі кветачку прышывалі,
Залатую іголачку зламалі.

Ды на шапачцы калпачок,
Кладзі, хлопчычак, траячок.

Калі жаль траячка,
Не твая будзець шапачка.

## 856

Паглянь, зяцю, на мяне,
Я харашэйшы за цябе.
Ой, е ў мяне каўпак шыты,
Да няма каму налажыці.
Да на мне шапка із бабра,
Выкідай, зяцю, паўрубля.

## 857

Да падайце голку
І маточак шоўку
Да прышыць кветачку
Да маладому дзяцінку.

Да голачка гнецца,
А нітачка рвецца,
Маладая дзевачка
Хараша смяецца.

## 858

— Ай, дай, мамка, іголку,*
А ў іголку шоўку.

А ў іголку шоўку
Кветку прышпіляць.

Кветку прышпіляць
К зялёнай кітайцы.

К зялёнай кітайцы
Ды к дзяцінкавай шапцы.

— Не смееце і не ўмееце
Ка мне прыступіці.

Ка мне прыступіці,
Са мной гаварыці:

Я ж войтава дочка,
Я з Кіева швачка.

Я з Кіева швачка
Кветку прышпіляла.

Кветку прышпіляла
І па талеру брала.

Па талеру залатога
Ад князя маладога.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 859

Падайце мне голку
І нітачку шоўку
Прышыці кветачку
К зялёнаму барвіначку.
Шыла ж я шыла
Да й голку зламіла.
Дружка скача.
Да чаго яна хоча?
Хоча паўзалатога
Ад князя маладога.

## 860

Пайду я да Колку,
Куплю голку і шоўку
Прышыці вяночка
З зялёнага барвіночка.

Я ў нядзельку шыла,
Можа, я саграшыла.
Хацела зарабіці,
Штоб было за што піці.

## 861

Паглядзі, Пятрочак, на мяне,
Лепшы я казак за цябе:
Не смеш, не ўмеш прыступіць
Шапкі прышыць.

## 862

Благаслаўлялась Сашачка
Свайму роднаму татачку:
— Благаславі, мой татачка,
Мне елачку віці.

## 863

Тройца па цэркве хадзіла,
Спаса за руку вадзіла:
— Ой, Спасу, мой Спасу,
Хадзі ка мне ў хату
Елечак давіваць,
Песеньку дапяваць.

## 864

Не йдзіце, маладзіцы,
К нам ёлачку віць,
Саўём мы самі
З яснымі сакаламі,
[З краснымі панічамі,]
З чорнымі галкамі,
З слічнымі панначкамі.

## 865

Ляцеў гарнасад чэраз сад,
Нараняў пер'ечак на ўвесь сад.

Да збірайце, дзевачкі, пер'ечкі,
Завівайце хлопчыку елачкі

З руты, з мяты, з яліны,
З чырвоныя каліны.

## 866

Ляцела галачка із бору,
Ой, нясла ягаду чырвону.
Калі тая ягада паспее,
І к нашым елечкам прыспее.

## 867

З Магілёва купцы едуць,*
Харошыя ленты вязуць.

Харошыя ленты вязуць
Да на нашу елку кладуць.

Наша елка не звяне,
Як золата ззяе.

Як золат персцень на руцэ,
Так наша елачка на куце.

Як золат персцень шаруюць,
Так нашу елачку шануюць.

## 868

Ой ты, ёлачка,
Зялёная іголачка,
У бару стаяла — шумела,
Дарогаю ішла — звінела,
У сені зайшла — гаварыла,
У хату зайшла — зашумела,
На стале стала — заззяла,
Усіх родных сабрала.

## 869

Ой, ёлка, ёлка кудравая,
У бару стаяла — шумела.
Мы цябе, ёлачку, ссякалі,
Красныя сапагі тапталі.

Ой, ёлка, ёлка кудравая,
У бару стаяла — шумела,
У бару стаяла — шумела,
Дарогаю ішла — звінела.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Дарогаю ішла — звінела,
На дварэ стала — завяла,
На дварэ стала — завяла,
У сенечкі зашла — застрала,

У сенечкі зашла — застрала,
У хатаньку зашла — заззяла,
У хатаньку зашла — заззяла
Да к сабе дзевачку прызвала.

## 870

Да ўсе мы лугі выхадзілі,
Да ўсю мы каліну выламалі.

Не мусілі дзевачцы елкі звіць
Да з руты, з мяты, з яліны,

Да з чырвонае каліны,
Усё з чырвонае каліны.

А вілі мы елачку на сяле,
Паставілі ў татачкі на стале.

Так наша елка на стале,
Як золат персцень на руцэ.

Так нашу елачку шануюць,
Як золат персцень шаруюць.

## 871

Навілі дзевачкі елачкі
Да ўвесь шчыры бор выхадзілі,
Чырвоную калінычку выламілі.
Да ўсё хлопчыку Іваньку елцы вілі
Із руты-мяты, із яліны,
Із чырвонае каліны.

## 872

Вілі велейка кубком
Пад зялёненькім дубком.
Самі сабе дзіваваліся,
Што харашо нагуляліся.

## 873

Скакала ёлачка па масту,
Сустрэла яна старасту́.
— Хто ж цябе, ёлачка, прыбіраў?
— Прыбіралі мяне дзевачкі,
Рэпкаўскія дзевачкі.
— Й дзе вы ў бога бывалі,
Што хораша ёлачку ўбралі?

## 874

Адчыняйце дзверы —
Да нясуць дзеўкі елі.
Адчыняй дарагія —
Да нясуць залатыя.
— Дзе ж елку вілі?
— На сяле, на сяле.
— Дзе ж паставілі?
— На стале, на стале.
— Ды на якім стале?
— На цісовым, на цісовым.
— Ды на якой скацерцы?
— На шаўковай, на шаўковай.

## 875

Да ці густа пшаніца
На ввіне?
Да ці ё гаспадар
На дварэ?
Ці выкупе елачку
На стале?

## 876

Я па ельнічку хадзіла,
Свае ножанькі таміла.
Сем пар чобат істаптала,
Пакуль ёлку спадабал(а).

## 877

Звалі нас елец віць,
Казалі, мёд-віно піць.

Аж яны падманілі
Ды вадой напаілі.

Не даеце нам гарэлкі,
Паскідаем лoжкі і тарэлкі.

## 878

Вілі, вілі елечкі з бярозы,
Пайшлі нашы дзевачкі цвярозы.
Вілі, вілі елечкі із мяты,
Пайшлі нашы дзевачкі із хаты.

## МАЛАДАЯ ЧАСТУЕ ДРУЖАК

### 879

А ў полі вінная студня,*
Там маладая Марылька віно чарпала,
Віно чарпала, дзевак паіла.
— Піце, дзевачкі, не разлівайце,
Маю мамачку не нарушайце.
Не сына жэніць, не нявестку бярэць,
А мяне, маладу, замуж аддаець.

### 880

Ой, сені, сені, студня вінная,*
Ой, там Верачка віно чарпала,
Віно чарпала, дзевак саджала.
— Піце, дзевачкі, не разлівайце,
Майму татачку не дакучайце.
А мой татачка ў вялікай бядзе,
У вялікай бядзе па мне, маладзе.

### 881

За лесам, лесам вінны калодзесь,*
Млода Марылька віно тачыла,
Віно тачыла, дзевак паіла.
— Піце, дзевачкі, каб напіліся,
На мяне, малоду, не забыліся.
Піце, дзевачкі, не разлівайце,
Маёй мамачцы не дакучайце.
Маёй мамачцы і так дакука,
І так дакука, са мной разлука.

### 882

А ў бары, бары сасна гарэла,*
Там наша Галечка вадзіцу грэла,
Вадзіцу грэла, кубачкі мыла,
Кубачкі мыла, дзевак паіла.
— Піце, дзевачкі, не разлівайце,

* Кожны радок паўтараецца.

Маёй мамачцы не дакучайце.
Маёй мамачцы і так дакука —
З дачушкай роднай навек разлука.

### 883

Са дзявоцкага вечара *
З Вашкам кабыла спрэжана.
Пакуль дзевачкі пагулялі,
З Вашкам кабылу аглядалі,
У карманы маслы хавалі,
Сваім дзевачкам давалі.

### 884

Уступіла шэра вутачка на парог,*
Папрасіла млода Рэнечка на пірог.
Уступіла на які парог? — На хатні.
Папрасіла на які пірог? — На сватні.
— Дзякуй, Рэнечка, за пірог,
Што мы пад'елі ўчатырох,
Дзякуй, Рэнечка, за піва,
Мы напіліся на дзіва.

### 885

Дзякуй табе, Люсечка, за пірог,*
Што мы павячэралі ўдвох.
Елі, елі — засталося,
Каб табе жыцъ павялося.

### 886

Дзякуй, Ніначка, за мядок,
Што пасядзелі ў радок.
Дзякуй, Ніначка, за піва,
Каб было жыці шчасліва!
Дзякуй, Ніначка, за водку,
Каб было жыці салодка!
Дзякуй, Ніначка, за пірог,
Каб у жыцці бог памог!
Дзякуй, Ніначка, за ўсё,
Каб у жыцці павязло!

---
* Кожны радок паўтараецца.

# ЗАЧЫНАЮЦЬ ВЯСЕЛЛЕ

## 887

— Ды ўжо на двары вялікая зара,*
У цябе, Зіначка, парадку няма.

А твая вулачка не мяцёная
Да твая косачка не пляцёная.

Тваё лічанька не ўмыванае
Да твая дружынка не збіраная.

— Ун ідзе брацейка, дружынку збярэць,
Ун баярачкі ідуць, коску заплятуць,

Ун падкосьнічкі вадзіцу нясуць,
Я сабе, малада, лічанька ўмыю.

— Не мыйся, Зіначка, ключавой вадой,
Памыйся, Зіначка, гарачай слязой.

## 888

Ой, пара, пара вяселле пачынаці,
Пашла Манечка суседзяў збіраці.
— Цётачкі-суседачкі, прыдзіце,
За сабой дзевачак вядзіце.
Дзевачкі-сястрычкі, прыдзіце,
За сабой хлопчыкаў вядзіце.
Хлопчыкі-браточкі, прыдзіце,
За сабою музыку нясіце.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 889

— Маладая Волечка,
Прасі свайго татачку:

«Татачка мой родненькі,
Да збірай пляменнейка,

Да збірай пляменнейка,
Зачынай вяселлейка,

Вам, музыкам, заіграці,
Пускай дружыну гуляці.

Дружына гуляць хоча,
Дзевачкі спяваць будуць.

Я ціханька пасяджу
І на дружынку пагляджу».

## 890

А ў нядзелю раненька
Манечка ля вакна сядзела,
І часалася, і ўмывалася,
І у мамкі пыталася:
— Парай, парай, родна мамачка,
Каго ж будзем у сняданачках садзіць?
— Абы былі твае сястрыцы здаровы —
Яны будуць у сняданачкі гатовы.
А ў нядзелю раненька
Манечка ля вакна сядзела,
І часалася, і ўмывалася,
І у таткі пыталася:
— Парай, парай, родны татачка,
Каго будзем у вячэрнічках садзіць?
— Абы былі твае братцы здаровы —
Яны будуць на вячэраньку гатовы.
А ў нядзелю раненька
Манечка ля вакна сядзела,
І часалася, і ўмывалася,

І ў сястрыцы пыталася:
— Парай, парай, родна сястрыца,
Каго будзем у прыданачках адпраўляць?
— Абы былі твае цётачкі здаровы —
Яны будуць у прыданачкі гатовы.

## 891

А ў садочку салавей свішча,*
У каморы адзываецца,
Да ў каморы адзываецца.
Там Ніначка прыбіраецца,
Там Ніначка прыбіраецца,
У таткі, у мамкі пытаецца:
— Мамка-татка мае родныя,
Якіх жа мне сватоў садзіць?
— Да дачушка-маліначка,
Садзі сваю радзіначку,
І блізкую, і далёкую,
І бедную, і багатую.
А багатая піць-гуляць будзе,
А бедная уздыхаць будзе.
А багатая нагуляецца,
А бедная наўздыхаецца.

## 892

З суботы на нядзелечку
Не бярэ сон дзевачку.
Пайшла яна ў каморачку,
Прылажыла галовачку
К цясоваму аконачку.
Стала яна думку думаць:
Якую дружыначку браць?
Пабяру дружыначку —
Усю сваю радзімачку,
Блізкую і далёкую,
Бедную і багатую.

* Кожны радок паўтараецца.

Багатая дарыць будзе,
Бедная благаславіць будзе.
Багатая — сыр і масла,
Бедная — долю-шчасце.

## 893

— Маладая Манечка,
Да не стой у запечку.

Да не стой у запечку,
Да выйдзі на хатачку.

Да выйдзі на хатачку,
Пакланіся свайму татачку:

«Татачка мой родненькі,
Зачынай вяселлейка,

Зачынай вяселлейка,
Дружына гуляць хоча,

А я, маладая,— пасядзець
І на дружыну паглядзець».

## 894

— Маладая Манечка,
Да не стой за дзвярыма,
Да ўвайдзі ў хатачку,
Пакланіся татачку,
Прыступіся блізенька,
Пакланіся нізенька:
«Татачка мой родненькі,
Начынай вяселлейка,
Начынай вяселлейка
Да разжаль маё сэрданька».
— Манечка, дзіця маё,
Да разжалю, разжалю,
І на воз сядаючы,
Да з двара з'язджаючы.

### 895

— Маладая Марылька,
Не стой у запечку,
Не стой у запечку,
А выйдзі на хатачку,
Папрасі свайго татачку:
«Татачка мой родненькі,
Пачынай вяселлейка,
Развесялі ўсё племейка,
Пусці дружыну гуляці,
І старую, і малую,
І мяне, маладую».
— Маладая Марыська,
Што тваё за вяселлейка,
Што музыкі не граюць,
А дзевачкі не спяваюць,
Малойчыкі не гуляюць?

### 896

Маладзенькі малойчык,
Прасі свайго татачку,
Каб пачаў вяселле
Ціхае, спакойнае,
Добрае, вясёлае,
Каб музыкі зайгралі,
А дзевачкі загулялі.

### 897

Маладая Мар'ечка,
Папрасі сваіх родных,
Папрасі сваіх родных,
Каб зачалі васэлюнька.

А чы гэта рой роіцца,
Чы васэле зачынаецца?
А не гэта рой роіцца,
Васэле зачынаецца.

## 898

Вясёлы бацька-маці,
Чом не йдзеш танцаваці,
Госці разважаці?
І сам не ідзеш,
Госці не вядзеш.

## 899

Пазволь, пазволь, пане гаспадару,
Павіленькі зайграці.
Няхай пойдзе бацька і маці
Паціху пагуляці,
Скуравы патаптаці
Гострымі гаструшкамі,
Залатымі падкоўкамі.

## 900

Лейце вадзіцы на хмялец,
Развядзі, баценьку, нам танец.
Ты (імя жаніха або нявесты), дагадайся ,
Сваіх падружак папрасі,
Свайго бацьку вымяні.

## 901

Да ў нядзелечку рана
Да прышлі дзеўкі, прышлі,
Да не руту шчыпаці,
Да ў Манечкі пытаці,
Не ў яе — у яе мамачкі,
Да ці павяліць, да ці пазволіць
Песеньку заспяваці
Маладому дзіцяці.
— Успявайце, дзевачкі,
Маладыя да малодачкі.
На то ж мы яе гадавалі,
Каб музыкі ігралі,
Каб сваточкі гукалі,
Каб дзевачкі успявалі.

## 902

Маладзенькая Маруська,
Што тваё за вяселле,
Што музыкі не іграюць,
Дзевачкі не спяваюць?
Маладзенькая Маруська,
Перайдзі хату, сені,
Падзі к татку на калені,
Прасі свайго татачку,
Каб дазволіў музыкам зайграці,
Дзевачкам паспяваці,
Малойчыкам пагуляці.
Дзевачкі — у песенькі,
Малойчыкі — у танчыкі.

## 903

Папытаймося ў Маруські
Да ў Маруськінай мамачкі,
Да ці пазволіць, да ці павяліць
Да песеньку спява(ці).

— Я Маруську гадавала,
Госпада бога прахала,
А штоб мае да суседачкі
Да песенькі спява(лі).

## 904

Папытаемся ж Колечкі
Да Колеччынай мамачкі,
Ой, ці звяліць, ці благаславіць
Да вяселле спяваці.

Як мы Колечку гадавалі,
Госпада бога прахалі,
Ой, што яго, да маладога,
Да вяселлечка даждалі.

## 905

— Папытайцеся ў дзевачкі
Да ў дзявоцкай матачкі,
Ці пазволіць нам, суседачкам,
Песеньку заспяваці.

— Я ж пана бога прасіла,
Як свае дзіцятка расціла,
А цяпер прашу вас, суседачкі,
Песенькі заспявайце.

## 906

Дазваляліся дзеванькі
У Марысінай матанькі,
Ой, чы скажа, чы пазволіць
Вяселле заспяваці.

— Спявайце, дзеванькі, спявайце,
І вы, маладзіцы, зачынайце.
Не год, не два мы таго ждалі —
Марысю гадавалі.

## 907

А скідайце вішнёвыя шапачкі
Ды пытайцеся ў Манеччынай мамачкі,
Ці дазволе рана музыку іграць,
А ці дазволе рана дзевачкам пяяць,
А ці дазволе рана з хлопцамі гуляць.

## 908

А й грайце, грайце, музыкі,
Спявайце, дзевачкі,
На то мы бога прасілі,
Маладую Аўдульку ўзрасцілі.

## 909

Ды расступіся, увесь народ,
Хай разводзяць карагод.
Хай хлопчыкі не стаяць,
Яны ж хочуць пагуляць.
Зайграйце, музыкі, зайграйце,
Усе ў радочкі пастаньце.

## 910

Што за бяседа, што не вясёла,
Зачым так?

Што за музычка, што не йграе,
Зачым так?

Што за піва, што не п'янае,
Зачым так?

## 911

Чаму музыка не грае? —
Ці смыка не мае,
Ці скрыпка згарэла,
Ці музыка здурэла.
Сталы мае цісовыя,
Абрусы мае кружовыя,
Не за рок я вас паткала,
А ў хвіліну разаслала.

## 912

А сягоння у нас скрасенне,*
Пачынаецца Любіна вяселле.

Да ўжо пара й столікі засцілаць,
Да ўжо пара й чарачкі наліваць.

Да ўжо пара й скрыпачкам іграць,
Да ўжо пара й дзевачкам пяяць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 913

З суботы на нядзелечку
Пачыналі вяселлейка,—
То ў скрыпкі, то ў дудачкі,
Жоначкі ў далоначкі,
Дзевачкі ў песенькі.

## 914

Цяпер жа нам гульня,
Калі сабралась уся радня.

Сабраўся наш увесь род,
Будзем жа мы піць мёд.

## 915

Садзіся, радзіначка,*
Бедная, багатая.

Багатую на куце садзяць,
Бедную — у запечак.

Багатым мёд-віно даюць,
А бедным — гарэлачку.

Багатыя — ля напітачку,
Бедныя — ля парадачку.

Багатыя — піці-есці,
Бедныя — раду весці.

## 916

Каля тыну, тыну трасачкі,
Каля караваю гусачкі.

Каля тыну, тыну дробныя,
Каля караваю буйныя.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Сабраўся род да пляме́нечка
Да нашага пана на вяселлечка.

Наш пан усіх прымае,
А свой род за сталы саджае.

## 917

Сягоння ў нас ад пана бога скрасенне,*
І пачынаецца нашай Людачкі вяселле.
І начні, божа, скончы, божа, у радасці,
І злучы Людачку з нашым Васечкам у любасці.

## 918

А ў нас сягоння ад пана богаваскрасенне,*
Зачынаецца ў Іванькі вяселле.
І а дай божа і Машачкіна згуляці,
І судзі, божа, і Васількава даждаці.
А хмель з аўсом звіваецца, ай, божа,
І пара людзей злучаецца, дай божа.

## 919

Да благаславі, божа, песню запець
У гэтым доме вясёлым
Да й за абрусам шаўковым,
Да за гэтым кубачкам поўным,
Да за гэтым віном зеляненькім,
Да за гэтым дзіцем маладзенькім.

## 920

Развіваецца, складаецца
Рута-зеллейка,
Зачынаецца ў божы час
У дзеванькі вяселлейка.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Божа, гадзі ды жыта радзі,
А бацюшка, благаславі.
Увайдзі, божа, і ўступі, божа,
Нашаму пачатачку.
Дай, божа, долю, дай, божа, шчасце
Нашаму дзіцятачку.
— Тады ўвайшоў, тады я ўступіў,
Як яно радзілася,
Тады долю даў, тады шчасце даў,
Як яно хрысцілася.

## 921

А ў нядзельку рана-параненьку,
Баславі, божа, прачыстая маці,
Песеньку запеці, вяселле зайграці.
А ў нядзельку рана-параненьку,
А ў нашага свата запахана ляда,
Запахана ляда, засеяна жыта.
Радзі, божа, жыта коласам каласіста,
Коласам каласіста, зярном ядраніста.
А ў нядзельку рана-параненьку,
Наша Кацярынка мала
Каб стоячы жала.

А ў нядзельку рана-параненьку,
А ў нашага свата запахана ляда,
Запахана ляда, засеяна грэчка.
Радзі, божа, грэчку ад стала да прыпечку.
А ў нядзельку рана-параненьку,
Наш Міхайлачка хваслііў,
Седзячы грэчку касіў.

## 922

Да прыстань, божа, прыстань
Да да нашага да пачатачку,
Што мы яго пачынаем,
Пана бога звелічаем.
Да прачыстая маці
Абяцала долю даці
Да Зосеньцы-дзіцяці.

Да доля ж мая, доля,
Калі будзеш добрая,
То садзіся са мною,
А калі будзеш якая,
То з быстраю вадою,
Не спатыкайся са мною.

## 923

А хто, хто
Па двару ходзіць? *

Гэта Маніна маці
Па двару ходзіць.

Па двару ходзіць,
З богам гаворыць:

— Божухна, божухна,
Я дачку аддаю.

Я дачку аддаю,
А ты ж ка мне прыдзі.

А ты ж ка мне прыдзі
І шчасцем нагрaдзі.

— А сам не пайду,
Анёлаў прышлю.

Анёлы прыляцяць
І шчасцем нагрaдзяць.

Шчасцем нагрaдзяць
І харошаю доляю.

## 924

Ой, да нас, госпад бог, ой, да нас,
Зачынаецца ў нас вяселлейка ў добры час.
Дай, божа, маладым добрую долю.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

Дай, божа, у добры час начаці,
А ў лепшы яшчэ й канчаці.
Дай, божа, маладым добрую долю.

## 925

Ой, у гародцы, на ярай рутцы
Рассцілаецца зелле,*

А ў нашай маладзенькае Марутকі
Зачынаецца вяселле.

Ой, бог ёй дае,
Баценька памагае,

Яшчэ к таму, яшчэ к таму
Радзіна прыставае.

— Радзіна мая блізка, далёка,
Стань жа мне да памогі.

Суседзі мае блізкі, далёкі,
Давайце мне рады.

## 926

Рассцілаецца, развіваецца ў новым гародцы зелле,
У новым гародцы зелле.
Начынаецца, развіваецца ў Валюні вяселле,
І ў Валюні вяселле.
Бог начынае, бог памагае, баценька дакладае,
Баценька дакладае.
А чаго няма, чаго не будзе,— баценька раздабудзе,
Баценька раздабудзе.

## 927

Зляцелі да два анелы з неба,
Селі-палі на Антонава ваконца,
А з ваконца на Настулькіну галоўку.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Спыталі, спрасілі ў краснай дзевачкі:
— Ці багаславіла цябе матулька, малада?
— Тады мяне родна матулька баславіла,
Як яна мяне, малюсеньку, спарадзіла,
А спарадзіўшы, з сырой зямелькі ўзняла,
А ўзняўшы, у тонкі пялюшкі спавіла,
А спавіўшы, кумам на ручкі падала,
А падаўшы, госпада бога прасіла:
«Багаславі, божа, ету дзіцяцю да хросту,
А з хросту багаславі, божа, да росту,
Ад росту багаславі, божа, да вянца,
А ад вянца багаславі, божа, да жыцця».

## 928

Сватушка, сватушка,
Свадзебны бацюшка,
Благаславі етаму дзіцяці
Вяселле зайграці
І раду запеці.

## 929

Сватушка, сватушка,
Свадзебны бацюшка,
Благаславі за тваім сталом сесць,
Хлеба-солі з'есць,
Стакан водкі выпіць.

## 930

Мір хрышчон, дом свяшчон.
Стучалі-гручалі, мае песенькі ўслыхалі,
На гэты час памаўчалі.
У гэтым доміку, як у божым райку:
Есць бацька і матка, і сёстры, і брацця,
Дудкі-гудкі, жонкі-галубкі,
Сабраныя, прыезжыя,
Бліжнія, прыхожыя.
Каго бог прылучыў,

Каго кабылка вязла,
Каго мамка нясла
На гэту вясёлую бяседу.
Ціхая бяседа пералецела,*
Божая раданька пералецела
Праз тын, праз тын да на вуліцу,
Праз тын, праз тын да ў бажніцу.

### 931

Грым-пагрым,
Ціхая бяседа, вясёлая хата.
Благаслáвіце нашаму дзіцяці
Песню пачаці.
Жоначкі-белагаловачкі,
Дзевачкі-чарнабрывачкі,
Благаслáвіце.
Мужычкі-каласавічкі,
Госцікі прыхожыя,
Благаслáвіце.
Бліжнія прыхожыя,
Дальнія прыезджыя,
Благаслáвіце.
Сем год пад лаўкай валяўся,
Гэтай свадзьбы дажыдаўся.
Тры гады пад печкай катаўся,
А ўсё гэтай свадзьбы дажыдаўся.
Ты, святы Кузьма-Дзям'ян,
Ды скуй жа нам свадзебку.
Ды святый жа Лука,
Салучы нам гэту пару
Ды на тры долінкі:
Ды первая долінка —
Ды ў полі ўраджаю,
А другая долінка —
У хлевы прыплоды,
А трэцюю долінку —
На сыноў на пахароў,
Чацвертая долінка —
На дочак на жнеечак.

---

* У гэтым месцы спявак спыняецца і, трымаючы ў руках піражкі, пляскае імі.

## 932

Сем лет пацеў,
На гэту свадзьбу хацеў.
Сем лет на печцы валяўся,
На гэту свадзьбу спадзяваўся.
Пакуль на стоўб узлез,
Дык увесь аблез.
Бабы лён трапалі —
Кастрыны ў рот папалі.
Дайце вінца піці,
У роце памачыці.
Вы, градкі — длінныя парадкі,
А вы, паліцы — памашчніцы,
Госцікі сабраныя, сазваныя,
Каго кабылка прывязла,
Каго матка прынясла,
А хто сам прышоў,
Памагіце, благаславіце
Маладой княгіне песню пачаці.
За гэтым разам,
За другім разам,
За трэцім разам
Памагіце песню пачаці.
Вы, святыя Кузьма-Дзям'ян,
Скуй жа нам свадзебку
На чатыры раданькі:
Первая раданька —
На жыццё на багатае,
На жыццё на багатае,
На доўгі век;
Другая раданька —
На сыноў-пахароў;
Трэцяя раданька —
На дочак, на жнеечак.

## 933

Как у цераме у новенькім
Не яры воск топіцца —
Яры свечы цеплюцца.
Там маладзы Іллюшанька

Богу моліцца.
Баслаўляўся Іллюшанька
У свайго роднага бацюшкі,
Яшчэ ў роднай матушкі.
Баслаўляўся ясен месяц
У свайго краснага соўнышка
На заранку вячэрнюю.
Баслаўляўся Іллюшанька
Па суджоную ехаць,
Па тую суджоную,
Па Параскоўю маладую.
Баслаўлялась Парасковенька
У свайго роднага бацюшкі,
Яшчэ ў роднай матушкі:
— Ох вы, цётушкі, дзядзюшкі,
Сястрыцы, братчыцы,
Уж вы, госці зазваныя,
Суседзі прыбліжнія,
Благаславіце мяне
Раным-раненька,
На ўсходзе солнышка,
На закаце месяца
Са маладым Іллюшанькай
Ка божай цэркаўцы,
У божай цэркві пабываці,
Залаты персні мяняці.
Як з-за бору з-за шчырага,
Із-за мора з-за сіняга
Сахадзіла грозна туча.
Са той са тучушкі
Выкачалась тры воблачка.
Са тых са воблачкаў
Выпадала парошанька.
Там ляжыць тры дарожанькі.
Па первай дарожаньцы
Там шоў сам Сус Хрыстос.
Па другой дарожаньцы
Там ішла маць прачыстая,
Па трэцяй дарожаньцы
Там ішоў Кузьма-Дзям'ян,
А на ўстрэчу — Іллюшанька
З маладой Параскоўенькай.
Стрэўшысь, шапку зняў:

— Ты, святы Кузьма-Дзям'ян,
Зайдзі на свадзьбу к нам,
Скуй нам свадзебку
Крэпка-накрэпка,
Вечна-навечна
На чатыры гранюшкі:
Каб першая гранюшка,
Штоб хлеб-соль радзілась,
А другая гранюшка —
Жывацінка пладзілась,
Трэцця гранюшка —
На савет да й на любоў,
Чацвёртая гранюшка —
На добрыя здароўя.
Божая рада сперaлёгываецъ:
— Радуйся сэрдачка Філіпава.
— Тады маё сэрдачка радавалася,
Як гэта чада зараджалася,
Цяпер маё сэрдачка радасней таго,
Як маё чадзіка за стол села.

## 934

*Стаўбавы:*

Госці зазваныя, запрошаныя,
разрашыце свадзьбу завесць!

*Госці:*

Пажалуста!

Што з-за лесу, лесу цёмнага,*
Што й лі садзіку зялёнага,
Там ляжала тры дарожанькі,
Там ляжала тры шыроканькіх.
Што й па первай па дарожаньцы,
Што й па первай, па шыроканькай,
Там ішла маць прачыстая.
Па другой па дарожаньцы,

* Кожны радок паўтараецца.

Па другой, па шыроканькай,
Там ішоў ды й сам гасподзь.
Што й па трэцяй па дарожаньцы,
Што й па трэцяй, па шыроканькай,
Там ішоў Кузьма-Дзям'ян.
Ён ішоў ды на свадзебку,
Ён ішоў ды й на Нінкіну.
Ты, святы Кузьма-Дзям'ян,
Ты і скуй нам свадзебку,
Ты і скуй крэпка-накрэпка,
То й на тры ды й на гранішкі:
То й на первую гранішку
На сыноў ды на пахараў;
На другую на гранішку
На дачок ды й на лучшах жа;
То й на трэцяю гранішку
На савет ды й на доўгі век.

### 935

Госцікі сабраныя-сазваныя,
Каго кабылка прывязла,
Каго матка прынясла,
Пазвольце нам песеньку начаць,
У скрыпкі, у дудкі зайграць.
А святы Кузьма-Дзям'ян,
Скуй нам свадзебку.
Салучы, божа, гэтых дзетак:
Аднаго раджонага,
Другога суджонага.

### 936

Ты, святы, ты, Кузьма-Дзям'ян,
Скуй нам свадзьбу, свадзьбу крэпкую,
Крэпкую, даўгавечную,
На тры грані да на чатыры:
Первая грань на любоў, на савет,
Другая грань да й на доўгі век,
Трэцяя грань да й на хлеб, на соль,
Чацвёртая — да й на дзетушак.

## 937

Окала Іванава двара пралеглі тры дарожанькі.
Пааднэй дарожаньцы шла маць прачыстая.
Яна парадзіла, даўно благаславіла.
Па другой — Лука з Лучыцаю.
Злучы нам свадзебку Няфёдаву са Сцепанідаю.
Па трэцяй дарожаньцы шоў Кузьма з Дзям'янушкай.
Кузьма-Дзям'ян, скуй нам свадзебку.

## 938

Святы Кузьма-бацюшка,
Божа маё. *
А скуй ты нам свадзебку
Вечную-даўгавечную.
Прачыстая матка па двару ходзіць
І ў руках свячу носіць.
Святы Мікола каней спасаець,
Святы Ягор'я кароў спасаець,
А святы Апанас увесь скот зганяець.

## 939

Святы Кузьма-бацюшка,
Божа мой, божа мой.*
Прачыстая матушка,
Зайграй нам свадзебку,
Звядзі ж ты нашых дружачак
І младзенцаў Мар'ю з Іванам.
І дай жа ім бог на свадзьбу, на савет
Да на доўгі век,
На сыноў-арлоў,
На дачок-вышывалак.
Святы жа Ягоры
У полі гуляець.
Святы жа Андроній
Яму памагаець.
Мікіта-папутчык

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Конікаў братаець,
Пад крыльцо падводзіць,
Младзенцаў садзіць.
Хванасій-Уласій
Стаіць у варот,
Вароты адтвараець,
Рабоў праважаець:
— Едзьце жа вы, рабушкі,
Да ка бож'ю храму,
К вянчальнаму вянцу,
К залатому храсту.
Святы жа Міколушка
Па крылечку ходзіць,
Ключы ў руках носіць,
Замкі адпіраець,
Дзверы раствараець.
Прачыстая мацер
Сама выхадзіла,
Сама выхадзіла
Рабоў састракала,
Пеляною ўкрывала,
Доляй надзяляла.
Вазьміце ж вы рабушак
За правыя рукі.
Пастаўце вы рабушак
На правую старонку,
На адзіную доску
І дайце ж вы рабушкам
Вобам па свечцы
Ва правую ручку.
Сам Сус Хрыстос
Свадзьбу вянчаець,
На кольцы мяняець,
Вянцы надзяваець.

### 940

Вой, святы Кузьма-Дзям'ян,
Ты прыдзі да нас на свадзебку,
Ты вазьмі залаты ключы,
Адамкні нутраныя замкі

Да вазьмі залаты малаты
І скуй нам свадзебку,
Двух маладзён ва адно месцечка,
Да маладую Хрысціну і маладога Івана.

## 941

Босла, божанька,
Свадзьбу іграць-заігрываць,
Свадзьбу іграць Васілёву,
Піва піць Азарава,
Зеляно віно ды Фёдарава.
Благаславі-ка, божанька,
Двух маладых умесцечка звесці:
Первы маладзён Васілюшка,
Друга малада да Мар'юшка.
Ты, святы Лука божы,
Салучы нам свадзебку.
Святы Кузьма-Дзям'ян,
Прыхадзі на свадзьбу к нам
Са сваей са кузенкай.
Скуй нам свадзьбу крэпкую,
Крэпка, крэпка-накрэпка,
Вечна-навечна,
Штобы сонцам не рассушыла
І дожджам не размачыла,
І ветрам штобы не развеяла.
Людзі судзяць,
Божанька, *
Не рассудзяць.
Сонца сушыць,
Не рассушыць.
Дожджам мочыць,
Не размочыць.
Ветрам дуець,
Не раздуець.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага наступнага радка.

## 942

Ай, святы Кузьма-Дзям'ян,*
Ты іскуй нам свадзебку
Вечную-даўгавечную.
Ветранькі не раздуюць,
Дожджанькі не размочаць,
Люданькі не размовяць.

## 943

Ой, благаславі, божа, лей-ля-лі.
Ой, Кузьму і Дзям'яна, ой, ладу маю.
Злучы, божа, умесце, лей-ля-лі,
Ой, двух маладых, ой, ладу маю,
Двух успаёных і ускармлёных, лей-ля-лі.

Ой, добрыя людзі, а вы не размоўце, ой, ладу маю.
Ой, добрыя пташкі, а вы не раскуйце, лей-ля-лі,
Ой, быстрыя рэкі, а вы не размыйце, ой, ладу маю,
Ой, буйныя ветры, а вы не развейце, лей-ля-лі.

А вам, добрым людзям, і хлеб і соль на стол, ой, ладу маю,
А вам, добрым пташкам, круты беражочкі, ой, ладу маю,
А вам, буйным ветрам, усё чыста полюшка, лей-ля-лі.

## 944

Блаславі, божа,
Божанька, **
Свадзьбу іграці
Двум маладзёным,
Двум благаславёным,
Двум параджоным.
Першы моладзец —
Князь малады Іван,
Другі моладзец —
Княгіня Таццяна.
Святы Лука,

* Кожны радок паўтараецца.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Будзь да нас на свадзьбу
І злучы нам свадзьбу
Моцна, вечна
І даўгавечна.
Святы Кузьма,
Будзь да нас на свадзьбу
І скуй нам свадзьбу
Моцна, вечна
І даўгавечна.
Віўся-павіўся
Хмель са тычынкай,
Дуб з бярозай,
Вярба з клёнам.
Віўся Іван
Са сваей Тацянай —
Ручка з ручкай,
Ножка з ножкай.
Сонца грэець
І не разагрэець.
Вецер веець
І не развеець.
Месяц сіяець
І не рассіяець.
Луны луняць
І не разлуняць,
Суды судзяць
І не рассудзяць.
Людзі гавораць
І не разгавораць.
Дай божа
Многія лета,
Многія лета
Бацьку з маткай на радасць,
Добрым людзям на завісць.

**945**

У нас сягоння ночачка-пералётачка:
Пераляцела божа рада цераз хатачку,
Цераз гэту хатачку свянцоную,
Цераз нашу бяседачку вясёлую.
— Радавайся, Александрынка, тваё сэрцайка!

— Тады маё сэрцайка радавалася,
Як у мяне дзіцятка гадавалася.
А як маё дзіцятка заручылася —
Цяпер маё сэрцайка заташнілася.

## 946

—Благаславі, ацец-маці,
Вяселле сыграці.
— Тады я благаслаўляла,
Як я нараджала.
Тады ёй долю давала,
Як яе спавівала.

— Радуйся, сардэчка мамухніна,*
Чуючы вяселле дачухніна.
— Тады маё сардэчка радавалася,
Як маё чадухна нараджалася.
Цяпер маё сардэчка ныець, ныець,
Як мая чадухна выець, выець.
Цяпер маё сардэчка пад лёд пашло,
Як мая чадухна за стол пашла.

## 947

Божа радасць пералянула
Праз чыю рыдзельку?
Татулькаву.
Радуйся, сэрданька татулькава,
Ды спраўляй вяселле Кастулькава,
Ды спраўляй, благаслаўляй ды выпраўляй.

Божа радасць пералянула
Праз чыю рыдзельку?
Матулькаву.
Радуйся, сэрданька матулькава,
Ды спраўляй вяселле Кастулькава,
Ды спраўляй, благаслаўляй і выпраўляй.

---

* Кожны наступны радок паўтараецца.

## 948

Рада божа праляцела
Цераз гэту рыдзельку ўмяцёную,
Цераз гэту бяседу вясёлую.
— Радавайся, сярдзечанька Маруськіна,
Спраўляючы вяселлейка Іванкава.
— Тады маё сярдзечка радавалася,
Як маё дзіцяця гадавалася.
Тады маё сярдзечка ўлякнулася,
Як маё дзіцяця скланілася.

## 949

А сёння божухна пералёнуў
Цераз гэту будынінку свянцоную,
Цераз гэта дзіцятка гадаванае.
Як гэта дзіцятка гадавалася,
Дык сэрца мамчына радавалася.
Як гэта дзіцятка пакланілася,
Дык сэрца мамчына зажурылася.

## 950

— Радуйся, душачка й мамулькіна,*
Гуляя вяселле дачушкіна.

— А тады мая душачка радавалася,
Як мая дачушка гадавалася.

Цяпер мая душачка ўвамлела,
Як мая дачушка за стол села.

Цяпер мая душачка ўлякаецца,
Як мая дачушка выраджаецца.

## 951

Весела грэдзінка Пятруськіна
У шчырым бару вырублёна,

* Кожны радок паўтараецца.

На вараных конях выважона,
На святым месце пастаўлёна.
У той грэдзінцы свадзьбу іграюць,
Іграюць свадзебку Мар'юшкіну.
Тады сэрдзечка радавалася,
Як гэта дзіцятка зараджалася,
А цяпер сэрдзечка радзей таго,
Іграя свадзебку Мар'юшкіну.

### 952

Цісовая рыдзелька збудаўлёна,
На вясёлым мейсцечку пастаўлёна.
— Радуйся, сярдзечка бацюхнава,
Радзячы вяселле Іванава.
— Пакуль я гэту радачку перараджу,
Я сваю нуду трачу
Праз гэту рыдзельку цісовую,
Праз гэту сямейку вясёлую.

### 953

Божа рада пералёнала
Цераз гэты дамочак свянцоненькі,
Цераз гэту бяседу вясёлую.
— Радавайся, сэрданька матульчына,
Пасадзіўшы дзіцятка на пасадзе.
— Тады ж маё сэрданька радавалася,
Як пры мне дзіцятка гадавалася.
Цяпер маё сэрданька заташнілася,
Як ад мяне дзіцятка адлучылася.

### 954

Божая раданька пераляцела
Чэраз тую рыдзелку Лукашкіну.
Вясёлая рыдзелка Лукашкіна:
А ў куце рыдзелкі ясен месяц,
А й ясен месяц — Лукашачка,
А на палу рыдзелкі цёплае соўнушка,

Цёплае соўнушка — Прасковачка,
А на палу рыдзелкі дробны зорачкі,
Дробныя зорачкі — іх дзетачкі.

## 955

— Чаго ты, Манечка, к сталу не падыходзіш? *
Ці табе, Манечка, дзіця не люба?
— Чаго ж мне, жаночкі, дзіця не люба?
Як яна ў мяне гадавалася,
Тады маё сярдзечка радавалася.
А як яна ў мяне за стол села,
То маё сярдзечка закамянела.

## 956

Ай, месяц сына жэніць,
Зорка дачку замуж даець.
Ай, месяц у радасці,
Зоранька ў жаласці.

Ай, свёкарка сына жэніць,
Ай, цёшчанька дачку замуж даець,
Ай, свёкарка ў радасці,
Ай, цёшчанька ды й у жаласці.

## 957

Жоначкі, вы божыя пчолачкі,
Вы ў поле па мёд ляталі,
Сваю душу піталі.
Цяпер, жоначкі, пейце песню,
Хоць пуза ваша трэсні,
А есць не прасіце.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 958

Божа мой, божа,
Пасоб жа мне, божа,
Княжаваці зачаці
Маладому дзяўчаці.
А святая нядзелечка —
Шчаслівая гадзіначка,
Не няла богу веры
Да святое нядзелі.
Як нядзелечка прышла,
То я, млода, за стол пашла.
Садавы салавейка,
Пазыч галасочку
К святому дзянёчку,
К святой нядзелечцы,
К шчаслівай гадзіначцы.

## 959

Перша нядзеленька,
Другое васкрасенне,
Не мела сабе веры
Да святой нядзелі.

Як нядзелька прышла,
Я, малада, за стол зайшла
І з руцмяным вяночкам,
З залатым персцянёчкам.

## 960

А ў нас сягоння шчаслівы дзень — васкрасенне,
Пачынаецца ў Ніначкі вяселле.
Сталы сцелюць, бутылкі ставяць — вяселле.
Хлябы рэжуць, мяса крышаць — вяселле.

## 961

Ой, ліпа, ліпа Дунай услала,
Наша Зіначка славы даждала,
Славы даждала, сталы заслала.
Сталы заслала любым госцікам,
Любым госцікам на пасяджэнне,
Блізкім суседцам на пагляджэнне.
Родныя госцікі піць-гуляць будуць,
Блізкія суседцы будуць глядзеці.
Любыя госцікі ад мяне ўедуць,
Блізкія суседцы дамоў пойдуць.

## 962

Ой, ліпа, ліпа Дунай услала,
Наша Лідачка хвалы даждала.
Хвалы даждала, сталы заслала
Абрусікамі танюсенькімі.
За гэтыя сталы гасцей саджала:
— Ешце, піце, не разлівайце,
Майму татачку не дакучайце.
Не так дакука,
А са мною разлука.

## 963

А маладая Любачка
Хвалы даждала,*

Хвалы даждала,
Сталы заслала.

Сталы заслала
Белымі абрусамі,

А сама села
З русымі касамі,

З русымі касамі,
З дробнымі слязамі.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 964

Ой, ліпа, ліпа Дунай услала,
Ой, рана, рана Дунай услала.*
Млада дзяўчына сталы заслала,
Не яна заслала — брацікі яе,
Брацікі яе раднюсенькія,
Ў яе абрусы бялюсенькія.

## 965

— Млода Рэнечка славы даждала, **
Славы даждала, сталы заслала.
— Не [illegible] даждала — мамачка мая,
Не я заслала — мамачка мая.

## 966

Валеччына мамка славы даждала,
Славы даждала, сталы заслала,
Сталы заслала белым абрусам,
А благаславіла з панам язусам.

## 967

Зялёна ліпа распусцілася, **
Млода Зіна засмуцілася.
Славы даждалася, сталы заслала,
Сталы заслала, гасцей сазвала,
Гасцей сазвала, за стол саджала.

## 968

У нашага свата
Кляновая хата.
Наўкола зеллейка,
Начынаецца вяселлейка.

---

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

** Кожны радок паўтараецца.

# ПРЫБІРАЮЦЬ МАЛАДУЮ

## 969

Прышлі дзеўкі, прышлі,
Да не руту шчыпаць —
Да ў дзевачкі праўды пытаць.
— Дзевачкі мае, сястрыцы,
Чы пойдзеце з намі да касцёла?
Дзевачкі мае, сястрыцы,
Паждзеце, я ўбяруся,
Коскамі да апушчуся,
Слёзкамі да абальюся,
Коскамі да русенькімі,
Слёзкамі да дробненькімі.
Коскамі плечкі ўкрыю,
Слёзкамі да ліцо змыю.

## 970

Умывайся, молада,
Прыбірайся, молада,
Выпраўляйся, молада:
Там цябе даўно ждалі
І падножкі засцілалі.
Там табе ручанькі звяжуць,
Там табе праўду скажуць.

## 971

Зялёная яблынька*
Сярод саду стаяла.

Сярод саду стаяла
Да расою прыпала.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Там жа наша маладая
Да расу брала.

Расою ўмывалася,
К вянчаннейку сабіралася.

— Ой, вянчаннейка ж маё,
Красаваннейка ж маё.

Зіму і лета красавалася,
Як у бацькі гадавалася.

## 972

Чырвоная ружачка
Ды блізка тыну стаяла.

Ды блізка тыну стаяла,
Ды на плот галлё клала.

Ды на плот галлё клала,
Красою красавалася.

Красою красавалася,
Расою ападала.

Маладая дзевачка
Да шлюбу прыбіралася.

Да шлюбу прыбіралася,
Расою умывалася.

Расою умывалася,
Лісточкам выціралася.

Татку, мамцы кланялася,
Браценніку забывалася.

— Браценнічак мой родненькі,
Прашу, на мяне не гневайся.

Як назад вярнуся,
Тады табе пакланюся.

973

Зялёная рутанька
Каля тыну стаяла.

Каля тыну стаяла,
Расіцаю прыпала.

Ой, там бітая сцежачка,
Ой, там бегла Ганначка.

З руты расіцу збірала,
Сваё лічанька ўмывала.

Яе матуля пытаецца:
— Куды, дзіцятка, збіраешся?

Куды, дзіцятка, збіраешся,
Што расіцаю ўмываешся?

Чы ты ў гасціну, чы ты ў дарогу,
Чы да божага дому?

— Я не ў гасціну, а ні ў дарогу —
Толькі да божага дому.

— Там табе ручкі звяжуць,
Верную праўду скажуць.

974

Каля новага двара
То не пчоланька гула,—
Там Ніначка плакала.
З руты росу збірала,
Расою ўмывалася,
Касою ўціралася,
Да шлюбу ўбіралася,
Маценцы кланялася:
— Ой, мая мамка родная,
Выпраў мяне ў дарогу

Аж да божага дому.
Там мне ручанькі звяжуць
І Піліпку пакажуць.

### 975

Чырвоная каліна
Выша тыну стаяла.

Выша тыну стаяла,
На яе раса пала.

Раса пала мокрая,
Студзёная.

Там Галінка хадзіла,
Тую расіцу збірала.

Тую расіцу збірала,
Раненька ўмывалася.

Раненька ўмывалася,
Да шлюбу спяшалася.

— Не спяшайся, Галінка,
Не спяшайся, малада.

Там цябе ждалі,
Касцёлы паадмыкалі.

Касцёлы паадмыкалі,
Каберцы пазасцілалі.

Там ручкі звяжуць стулою
І скажуць жыці з табою.

### 976

Чырвоная каліна
Блізка тыну стаяла.

Блізка тыну стаяла,
На яе раса пала.

Дзевачка рана ўстала,
З каліны расу брала.

З каліны расу брала,
Расою ўмывалася.

Расою ўмывалася,
Да шлюбу прыбіралася.

— Прыбірайся, не баўся,
Там цябе папы ажыдаюць.

Там цябе папы ажыдаюць
Да прыстолы засцілаюць.

Да прачыстая маці
На прыстоле сядзела,

Пару свечак дзяржала,
Шчасце-долю давала.

## 977

Чырвоная рожа вышы тыну стаяла,
Усё расой абнімала.
Стала раса ападаць —
Прышла Ганначка ваду браць.
— Ты, Ганначка, ўмывайся,
Да царквы прыбірайся.
Там цябе дажыдаюць,
Царкву адмыкаюць,
Ясны свечы зажыгаюць
І каўры рассцілаюць.
Там цябе павянчаюць:
Чуж з чужанінаю,
З векавечнай далінаю.

## 978

Чырвоная рожа міжы тыну стаяла,
На яе раса пала.
Там Ганначка ваду брала,

Расою ўмывалася,
Да шлюбу ўбіралася.
— Паспяшайся, Ганначка,
Даўно ксяндзы паўставалі,
Цэркаўкі паадмыкалі,
Каберцы пазасцілалі,
Ксёнжкі ў рукі пабралі,
Вас да шлюбу дажыдалі.

## 979

А ў нядзельку рана *
Там па моры сонейка грала.

Там дзеванька ўбіралася
Да расою ўмывалася.

Да расою ўмывалася,
Да да шлюбу сабіралася.

Там дзіва да радзілася,
На шлюбу станавілася.

## 980

Ой, чыя гэта руціца
Блізка плоту стаяла,
Блізка плоту стаяла,
На плот голле паклала
Да расою напала,
Красою зацвітала?
Маладая дзевачка
Да да сонца ўставала,
З руты да расу брала,
Расою вымывалася,
Красою выціралася,
Да шлюбу прыбіралася.
Ой, да шлюбу, да шлюбу,
Да да божага дому,
Да царкоўнага звону.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Дзе папы казань кажуць,
Да там ручачкі звяжуць
Чорнаю да кітайкаю,
Белаю бавальніцаю,
З чужою чужаніцаю.
Звяжуць з тым чалавекам,
З кім будзеш жыці давеку.

## 981

Там, за новаю святліцаю,*
Стаіць вярбонька з расіцаю.

— Хто тую вербу рубаціме,
Хто тую росу збіраціме?

— Павалка вербу рубаціме,
Зосечка росу збіраціме.

Тою вярбою коні біці,
З тае расіцы вянкі віці.

## 982

За новаю святліцаю **
Стаіць верба з расіцаю.
— Ой, хто тую вербу зашне,
Ой, хто тую да росу збярэ?
Адазваўся малады Іванька:
— А я тую вербу зашну,
А я ж тую да росу збяру.
А я ж тую да росу збяру,
А Любошку за сябе вазьму.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожны няцотны радок паўтараецца.

## 983

З сенажаці вада плыве,
Малада Манечка ногі мые.
— Ой, мый жа, Манечка, бялюсенька,
Ужо тваё вянчанечка блізюсенька,
Ой, блізюсенька.

## 984

На моры вутачка купалася,
Яна з свайго пер'ейка дзівавалася:
— Пер'е маё шэрае, найшарэйшае,
Як пабуду на моры — пашарэю,
Я свайму селязню памілею.
У каморы Валечка ўмывалася,
Яна ■ свайго лічайка дзівавалася:
— Ліцо маё белае, найбялейшае,
Як памыю ў каморы — пабялею,
Я свайму Віцечку памілею.

## 985

— Ясная зорачка вячэрняя,
Ці будзеш так ясная, як за лес зойдзеш?
— Як зайду я за лес — паяснею,
А я свайму месяцу павіднею.
— Маладая Манечка белая,
Ці будзеш так белая, як замуж зойдзеш?
— Як зайду я замуж — пабялею,
А я свайму міламу памілею.

## 986

— Да кідай, дачушка, умывацiся,*
Да пара да шлюбу ўбірацiся.

— Не пара, матулька, яшчэ не пара,
Яшчэ я ў вішнёвым садзе не была.

* Кожны радок паўтараецца.

Яшчэ я ў вішнёвым садзе не была,
З рутачкі, з мятачкі вянка не звіла.

Ні з руткі, ні з мяты, а ні з лялеі,
А мне, мамачка, ручкі самлелі.

## 987

Між гор да сняжок ляжыць,
Да тудэма вада бяжыць.

Там дачушка умывалася,
Да шлюбу прыбіралася.

Мамачка гразілася,
За вадзіцу сварылася.

— Мамачка мая родная,
Гразіся не гразіся,

Гразіся не гразіся,
За вадзіцу не сварыся.

Ледавая да вада будзе,
Адно мяне тут не будзе.

У мілога крынічанька,
Там для мяне вадзічанька.

## 988

Зялёная рутачка блізка к плоту стаяла,
Блізка к плоту стаяла і расою прыпала.

Маладая Марылька на руце расу брала,
На руце расу брала, расой умывалася.

Расой умывалася, к шлюбу ўбіралася,
К шлюбу ўбіралася, мамачцы кланялася:

— Да мамачка родная, перайдзі мне сцежачку,
Перайдзі мне сцежачку вузкую да доўгую.

Вузкую да доўгую з шчасцем да і з доляю.

## 989

Яра рута, яра
Каля плота стаяла.
Там Надзечка плакала,
З руткі росу брала,
Расою ўмывалася,
У маценкі пыталася:
— Мая маценка родна,*
Ой, пайдзі да каморы,
Прынясі шлюбны ўборы.
— Мае дзіцятка роднае,
Я ж цябе гадавала,
Шлюбны ўборы гатавала.

## 990

Лужком, беражком рэчка йшла,
Красная Марылька — гарою.
Гаварыла яна з вадою:
— Вадзіца мая, уніца,
Як я у дзевушках была,
Чыстую вадзіцу бірала,
Белае лічыка мывала,—
Цяпер не буду біраці,
Бела лічанька мываці.

## 991

Лужком, беражком рэчка йшла,*
Па праголліку — Манечка.
З лугавой вадзіцай гаварыла:
— А вадзіца мая лугавая,
Як я ў мамачкі бывала,

* Кожны радок паўтараецца.

Я ж цябе, вадзіца, бірала,
Бела сваё лічанька умывала,
Каб маё лічанька бела было,
Каб я свайму Мішачку міла была.
Бела было лічыка — пабялела,
Міла была Мішачку — памілела.

## 992

Да ў нядзельку раненька Марылька ўстала,
Марылька ўстала да па сеням пахадзіла.

Па сеням пахадзіла, мамачку пабудзіла:
— А мамачка родная, да ўстань ранюсенька,

Да ўстань ранюсенька, да ўмыйся бялюсенька,
Да ідзі ў клетачку, да вынесі ветачку.

Да ідзі ў клетачку, да вынесі ветачку,
Вынесі шоўкаў паясочак і залаты персцянёчак.

— А дачушка родная, не прасі ты ветачкі,
А прасі такой долі, каб муж не п'яніца быў.

Калі будзе п'яніца, то і ветачка злежыцца,
І ветачка злежыцца, пярсцёнак аржа паб'ець.

Ты, маладая, знябудзешся ў ваконца паглядаючы,
У ваконца паглядаючы, п'яніцы дажыдаючы.

## 993

Дзевачка рана ўстала,
Па сянёх пахадзіла,
Мамачку пабудзіла:
— Ты мамачка родная,
Ты ўстань ранюсенька,
Умыйся бялюсенька
Ды зацеплі свечачку,
Ды пойдзем у клетнічак —
Па новую сукеначку,

Па руцяны вяночак, —
Па залаты персцянёчак.
— Маё ты дзіцятачка,
Не прасі сукеначкі,
А прасі ў бога долі,
Каб муж быў не п'яніца,
А к таму нядбаліца.
Калі будзець п'яніца —
Сукеначкі злежацца,
Вяночак іржа паб'ець,
Маладосць тваю сатрэць.

994

Ці не іскарка спала? —
Верачка рана ўстала,
Па сенях пахадзіла
І матульку разбудзіла:
— Матулька родная,
Запалі ты свечачку
Ды схадзі ў клецечку
Па маю сукеначку
І руцвяны вяночак,
Па залаты пярсцёначак,
Па кованы пояс.
— Верачка-дзіцятачка,
Твой Колечка п'яніца,
Сукеначка злежыцца,
Руцвяны вяночак звянець,
Залаты персцень зблекніць,
Пояс аржа паб'ець,
Тваю маладосць сатрэць.

995

На лугу трава вянець,
А ў каморы свечы паляць.
А там Домначка збіралася,
У мамулечкі пыталася:
— У што мне лепей убрацiся:
У золата ці ў серабро,

Ці ў руцяны вяночак,
Ці ў ружовы цвяточак?
— Дачушка мая родная,
А ў што хочаш убірайся,
Ты ў мяне не пытайся.
У што, дачушка, ні ўбярэшся,
Са мною навек расстанешся.

## 996

А ў садзе салавей пяець,
У хатку галасок ідзець.
Матулька пацяшаецца,
Матулька пацяшаецца,
Як дачушка прыбіраецца.
— А ў што ж мне прыбірацісі,
А ў што ж мне прыбірацісі,
Ці ў шоўк, ці ў золата?
Каб мяне не пазналі,
Каб мяне не пазналі,
З малойчыкам не звянчалі.

## 997

Каліна-маліна
Блізка тыну стаяла
Ды на тын галлё клала,
Красою красавала,
Расою ападала.
Маладая Манечка
Расою ўмывалася,
Красою ўціралася,
Да шлюбу прыбіралася.
Да шлюбу прыбіралася,
У мамачкі пыталася:
— Мамачка мая родная,
У што мне прыбрацца:
Ці ў ядваб, ці ў аксаміт,
Ці ў чырвоную ружу,
Каб дзевачкі не пазналі,
Паненкаю называлі.

## 998

А ў нядзелечку рана
Устала Манечка рана,
Жменькамі расу брала
І расою ўмывалася,
У мамулечкі пыталася:
— Мамулечка родная,
У што ж мне прыбрацца?
Ці ў шоўк, ці ў золата?
— Дзіцятачка мілае,
Прыбярыся ў золата,
Каб цябе людзі зналі
І маладою называлі.

## 999

Чырвона каліначка
Блізка саду стаяла
Ды расою прыпала.
Там дзевачка да расу брала,
Расою вымывалася,
Да шлюбу сабіралася,
У мамачкі пыталася:
— Мамачка мая родная,
У што ж мне прыбірацiся?
— Дзіця маё ды маладое,
Прыбярыся сабе ў золата —
Каб галовачка ззяла,
Каб свякровачка знала,
Родным дзіцем назвала.

## 1000

Да чацвяра была нявеста весяла,
А ў пятніцу бела хатаньку памыла,
А ў суботу сваю адзежку зладжыла,
А ў нядзелю ранюсенька ўстала.
Яна сваю родную мамку будзіла:
— А дзе, мамка, мая нова сукенка? —
Я ўжо ў цябе пасе́дні дзянёк паненка.

## 1001

Падай, мамка, маёвую сукенку —
Я ў цябе паследні дзень паненка.
Падай, мамка, ружовую йстужку —
Я ў цябе паследні дзень дачушка.
Падай, мамка, новыя камашы —
Ужо я цяпер Іванкава, не ваша.

## 1002

Дзе мая, мамка, маёвая сукенка? —
Я ж у цябе паследні дзянёк паненка.
Ужо не буду па кірмашыках хадзіці,
Не буду стаяць із дзевачкамі ў радочку,
Не буду піць у хлопчыкаў мядочку,
Не буду піць ні гарэлкі, ні віна,—
Ужо не буду такой паненкай, як была.

## 1003

— Дзе мая, мама, маёвая сукенка? —
Паследні дзянёк я ў цябе, мама, паненка.

— Было табе па кірмашах не хадзіць,
Было табе чужых хлопцаў не звадзіць.

Было не есці абаранaчак на мяду,
Было не казаць свайму міламу, што пайду,

## 1004

Жаль жа маю, родна матуля, на цябе,
Што не знасіла, чаго хацела, у цябе.

Толькі стала ядвабны каснік уплятаці,
Сталі мяне чужыя людзі пытаці.

Жаль жа маю, родна матуля, на цябе,
Што не знасіла белай сукенкі у цябе.

Як толькі стала белую сукенку насіці,
Стала ў чужой матулі служыці.

Буду насіці ў чужой матулі — не ў цябе,
Будзе слава чужой матулі — не табе.

### 1005

Я жаль маю, мая мамачка, на цябе,
Што не знасіла сукеначкі у цябе.

Буду насіць у чужой мамачкі — не ў цябе,
Буду гадзіць чужой мамачцы — не табе.

Буду гадзіць чужой мамачцы — не табе,
Буду знаці чужу мамачку — не цябе.

Буду слаці мякку пасцельку не табе,
Буду зваці роднай мамачкай не цябе.

### 1006

— Ды жаль маю, мой татулька, на цябе,
Што не знасіла лісавай шубы я у цябе.

— Ай, знасіла, маё дзіцятка, знасіла,
За гульнёю, за красою забылася.

— Ды жаль маю, мая матулька, на цябе,
Што не знасіла тонкай кашулькі я ў цябе.

— Ай, знасіла, маё дзіцятка, знасіла,
За гульнёю, за красою забылася.

— Ды жаль маю, мой брацітка, на цябе,
Што не з'ездзіла варанога коніка я ў цябе.

— Ай, з'ездзіла, мая сястрыца, з'ездзіла,
За гульнёю, за красою забылася.

— Ды жаль маю, мая сястрыца, на цябе,
Што не знасіла з руты вяночка я ў цябе.

— Ай, знасіла, мая сястрыца, знасіла.
За гульнёю, за красою забылася.

## 1007

— Ды жаль жа мне, матулька, на цябе,
Што не знасіла тонкай кашулі ў цябе.
— Ды знасіла, маё дзіцятка, знасіла,
Са сваей злосці мае дабросці забыла,
Што ты ў мяне тонкі кашулькі насіла.

## 1008

Да ляцела уцятачка,
Села-пала да на сенажаці.
Стала сабе шчабятаці,
Сенакосы праклінаці:
— Усю траву да пакасілі,
Гняздзечка раструсілі,
Дзетачак разагналі.
Ішла маладая Верачка,
Села сабе ў канцы століка,
Стала сабе прыплаківаці,
Сваёй мамцы прыгаварываці:
— Матка мая родная,
Не знасіла я ў цябе
Ні руцьмянога вяночка,
Ні залатога персцянёчка.

## 1009

Да ляцеў сакол да цераз мой двор
Раненька.*
Ён, летучы, крыльцамі махнуў:
— Чаму, Валечка, да не вясёла?
— Ой, як жа мне да вясёлай быць? —

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да не даў бацька ні касе расці,
Ні касе расці, ні рожы цвісці,
Ні беламу лічку красавацца,
Ні мне, маладой, нагуляцца.
— Ой, няпраўда, да маё дзіцятка, няпраўда:
І каса расла, і рожа цвіла,
І белае лічка красавалася,
І ты, маладая, нагулялася.

## 1010

Не жаль мне на зязюлю,
Што рана куе,
А жаль мне на матухну,
Што моладу аддае.

Ісправіла шубаньку —
Насіць не дае,
Да ў той шубаньцы
Замуж аддае.

## 1011

Ой, жаль жа мне на зязюлечку,
Што рана кукавала,
Ой, жаль жа мне на сваю мамачку,
Я ў яе не пагуляла,
Шыла шубачку аж да долачку,
Я ж яе не падбіла.
Віла вяночак з сямі кваточак,
Я ж яго не знасіла.
Толькі насіла, красавалася,
Я ж у ім вянчалася.
Адзін дзянёчак і вечарочак
Як адну гадзіначку.

## 1012

Ой, не жаль жа мне
На тую зяўзюлю,
Што рана закавала,
Што рана закавала.

Ой, як жаль жа мне
На сваю мамку,
Што я ў яе не гуляла,
Што я ў яе не гуляла.
Шыла кашулю
З белага кужалю,
Я ў ёй і звянчалася,
Я ў ёй і звянчалася.
Другі раз надзела
Да й на пасад села,
Да й на пасад села.
Ручкі згарнула,
Цяжка ўздыхнула,
Сільна заплакала.
Прыйшоў да яе татачка яе:
— Чаго, дзіцятка, плачаш?
Ці ты жалуеш мяне, старога,
Ці падвор'ейка майго,
Ці падвор'ейка майго?
— Я не жалую цябе, старога,
Ні падвор'ейка твайго,
Ні падвор'ейка твайго.
Толькі жалую русае касы,
Дзявочае красы.

## 1013

Жаль мне, жаль на сваю мамку,
Што я ў яе не згуляла.

Шыла шубачку атласовую,
Да й яе я не знасіла.

Першы раз адзела —
На пасадзе села.

Моцна плакала,
Ад таго яна зліняла.

## 1014

Ядвабная сукеначка да долу,
Ад'язджае млода Стасечка ад дому.

Ядвабная сукеначка да зямлі,
Ад'язджае млода Стасечка ад сям'і.

Ядвабная сукеначка па пяты,
Ад'язджае млода Стасечка ад таты.

— Жаль маю, родна матуля, на цябе,
Што не знасіла белай сукенкі я ў цябе.

Цяпер пайду ў чужыя людзі насіці,
Цяпер буду чужой матулі гадзіці.

## 1015

Як на морачку, як на сіненькім *
Два бабры купалася,
Як на ганачку, як на новенькім
Два братцы збіралася:
— Пойдзем, брацятка, пойдзем, родненькі,
Пойдзем да баброў паб'ём
Варутцы на шубачку,
Клімаську на шапачку.
Варутку за стол вядуць,
Шубачку ў руках нясуць.
— Жоначкі-лябёдачкі,
Стойце ж вы ціхонька,
Не змарайце шубанькі,
Не стапчыце хустанькі,
Не тут яна шытая,
Шыта яна ў горадзе,
Прыслана мне, моладзе.
Шылі яе краўцы-немцы,
Прыслалі мне, паненцы.

* Кожны радок паўтараецца.

## 1016

У сінім моры два бабры купалася,
На новенькім ганачку
Два стральцы рахавалася.
— Ой, хадзем, братка, хадзем
Тых баброў пастраляем
Хлопчыку на шапачку,
Дзевачцы на шубачку.
Дзевачка за стол ідзе,
Шубачку на руках нясе.
— Дружачкі, мае служачкі,
Памаленьку ідзіце,
Столікаў не краніце
Ды віна не разліце,
Шубачку не змачыце,
Ды не тут спраўляна,
Трэба яе атаслаці.
Шылі яе, ды не мерылі,
Прыслалі, ды не ведалі.
Шылі яе краўцы-немцы,
Прыслалі мне, паненцы.

## 1017

У нядзельку да раненька
Сіне мора калыхалася,
Два бабры да купаліся,
Два стральцы намаўляліся
Тых баброў пабіці
Анетцы на шубачку,
Кастусю на шапачку.
Анетка на пасад ідзе,
У ручках шубачку нясе.
— Дзевачкі-сястрыцы,
Памаленьку ідзіце,
Шубачку не сатрыце.
Шубачка мая дарагая,
Не тут яна спраўляна.
Спраўляна на ўрадзé,
Прыслана мне, маладзе,
З руцвяным вяночкам,
З залатым персцянёчкам.

## 1018

Дзеванька к вянцу едзе,
Шубаньку ў ручках дзяржыць.

— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Не памніце мае шубанькі.

Мая шубанька ні ткана, ні брана,
Із войска прыслана.

Шылі яе шаўцы-краўцы,
Прыслалі яе паненцы.

## 1019

Да дзевачку на пасад вядуць,
А шубачку на руках нясуць.
— А дзевачкі, мае сястрычкі,
Не мніце маёй шубачкі.
Мая шуба да не тут шыта,
Шыта шуба да й у горадзе,
Напісана на тарэлачцы,
Прыслана на паперачцы.

## 1020

Наша Варутанька пышна,
На ёй шубка рысся.
У сераду рыся білі,
У чацвер бялілі,
У пятніцу ў работу,
У суботу з работы.
Усю ноч краўцы шылі,
К поезду спяшылі.
Княгіня надзела,
На сябе паглядзела:
— Хвала ж табе, божа,
Мая шубка прыгожа.

## 1021

Млода Надзейка каля рэчкі хадзіла,*
Чорнага рачка ў вадзіцы сачыла.
— Сякі-такі чорны рачок у вадзе,
А спраў жа мне сукеначку, маладзе.
— Есць у цябе твой міленькі, ён маець,
Няхай ён табе сукеначку спраўляець.

## 1022

— На кім, на кім кашуленька хараша?
— На Хрысцінцы кашуленька хараша.
— А хто ж бы ей кашуленьку вышываў?
— Вышывала кашуленьку сама малада,
Пры яркай свечы, пры цёмнай ночы седзячы,
То золатам, то серабром содзячы.

## 1023

Хараша, прыгожанька наша Ганначка.
Ей нямнога нада прыбораў:
Толькі адны шаты па пяты,
Чырвоныя істужкі па вушкі.

## 1024

Краша каліны ў лаззі нету,
Прыгажэй Дунечкі ў раду нету.
Нямножка нада прыбору:
Саян да шуба да долу,
Русая каса да пояса,—
Тым наша Дунечка хараша.

## 1025

Сёння Ганулька прыгожа ўбрана, **
Яе адзенне ў Вільні купляна.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

Ездзіў сваточак, купіў вяночак,
Ездзіў міленькі, купіў сукенкі.

Ездзілі залвічкі па чаравічкі.
Ганульку ўбралі і з сабой забралі.

## 1026

Убіралася шэрая зязюля
Ды скідала з сябе пер'е рабое,
Надзявала на сябе крылле залатое.
Убіралася малада Манечка
Ды скідала з сябе белы платочак,
Надзявала на сябе ружовы вяночак.

## 1027

А й прыгожа дзевачка:
Ці не пані яе мамачка?

У святы дзень нарадзіла,
У мядочку купала,

У ядваб прыбірала,
Да шлюбу выпраўляла.

Нашы хлопцы не гуляюць,
На дзевачку паглядаюць.

## 1028

На вуліцы на шырокай
Музыканты йграюць.

Да ўжо ж мяне, маладзеньку,
Да шлюбу ўбіраюць.

Убірайце не ўбірайце,—
Я ваша не буду:

Я Ясеньку ручку дала,
Я Ясева́ буду.

На капусту ваду нашу,
На руту — не буду.

Увосень замуж пайду,
Шчыпаць не буду.

## 1029

Падай, мамка, іголку
І нітачку шоўку —
Прышпіліць вяночак
Да буйнай галоўкі
Ды к русенькай косцы,
Ды к дробненькай слёзцы.

## 1030

У нас сягоння шчырыя бары расцвілі,
Маладую Валечку ў золата ўвілі.
— А выйдзі, выйдзі, мамулечка, паглядзі,
А што ж табе на гэты часок даражэй?
— На гэты часок мне золата даражэй,
А на ўвесь век дзіцятачка даражэй.

## 1031

Да зялёна рутачка блізка плоту стаяла,
Блізка плоту стаяла да расою прыпала.
Малада Кацярынка да росу з руты брала,
Расою ўмывалася, краскамі ўціралася.
Краскамі ўціралася, у матулькі пыталася:
— Да матулька родная, да ў што ж мне прыбрацісяр?
Ці ў атлас, ці ў золата, ці ў шчырае срэбра?
— Прыбярыся ў золата, каб твая вулка ззяла,
Каб твая вулка ззяла, каб свякроў знала,
Каб свякроў знала, сваім дзіцем назвала.
— А матулька родная, даўно мая вулка ззяе,
Даўно мая вулка ззяе, даўно мяне свякроў знае,
Даўно мяне свякроў знае, сваім дзіцем называе,
Даўно мяне свякроў знае, сваім дзіцем называе.

# РАСПЛЯТАЮЦЬ І ЧЭШУЦЬ КАСУ МАЛАДОЙ

## 1032

Што ж там за зоры
На красным падворы?
Малада дзевачка
Сцяглых ходзіць,
Дзевачак маладых
К сабе просіць:
— Дзевачкі мае,
Да прыдзіце ка мне,
Учашыце галовачкі,
Закладайце грабёначкі.
Я сваю учасала,
Шоўкам увязала,
Золатам аблівала.

## 1033

Ой, што ета да й за зарава
Су паўночы разгарэлася?
Там Ніначка хадзіла
Да й зарава тушыла.
Яна зарава тушыла
Да й дружачак будзіла:
— Уставайце, мае дружачкі,
Расчашыце маю косачку.
Расчашыце маю косачку
Да разлейце маю слёзачку.
Ужо ж мая вайна едзе —
Раскідае маю косачку
Да разліе маю слёзачку.

## 1034

Анютка па двару хадзіла,
Дзевак-падружак прасіла:
— Дзевушкі, мае падружкі,
Прыбудзьце ка мне ўвячэрку,
Расчашыце мне косаньку.
На волі косанька росчана,
Свайго бацюшкі роднага,
Сваёй матушкі родненькай.

## 1035

Па сенях, па сенях па новых
Хадзіла-гуляла Мар'юшка,
Свае белы ручушкі ламіла,
Свае яна ножанькі таміла,
Сястрыцаў-падружак прасіла:
— Сястрыцы, вы мае падружкі,
Вы ж тады ка мне прыдзіце,
Гладзенька галоўку чашыце,
З рус косы валасы не рвіце.
Не год жа я косаньку расціла
І не два ж я русую расціла.

## 1036

Белая бяроза не цярэблена,
Суччайка, веццейка не падберана.
— Хлопчыкі, малойчыкі, падцерабіце,
Суччайка, веццейка падбярыце.
Маладая Галечка не прыбрана,
Русая косачка не зачасана.
— Дзевачкі, падружачкі, прыбярыце,
Русую косачку зачашыце.

## 1037

— Дзевачкі-сястрыцы,
Ці былі ж вы ў бога?
Ці пазволіў вам бог

Шчотачку дзяржаць,
Мне галоўку часаць,
Русу косу ўплятаць?

— Мы былі ў бога,
У духа святога.
Пазволіў нам бог
Шчотачку дзяржаць,
Табе галоўку часаць,
Русу косу ўплятаць.

## 1038

Субота позняя, нядзелька ранняя,
Нядзеля ранняя, зямелька сырая.
Божачка высокі, баславі мяне
На пасадзе сесці, на шчаслівым месці.
— Дзевачкі-сястрыцы, ці былі вы ў бога?
Ці пазволіў вам бог грабёнку ўзяць,
Грабёнку ўзяць, галоўку часаць?
Калі бог пазволіў, і я пазволю.
Бярыце грабёнкі, чашыце галоўку,
Чашыце слізенька, пляціце крэпенька,
Валасок не ўрывайце, галасок не ўнімайце,
Але мой галасок і тонак, і высок,
Ён і ярак, па радзінцы жалак.

## 1039

Як выйду я на гору,
Да гляну я на зору.

Знаць па зоры, дождж будзе,
І на маю коску мгла будзе.

І на маю коску мгла будзе,
Майму бацюхну жаль будзе.

Як зачуе, заплача,
Як салавейка шчабеча.

## 1040

Пятухі пяюць, як у бубны б'юць.
Наша дзевачка не часалася,
На каго яна спадзявалася:
Ці на сястрыцу да маленькую,
Ці на матку да старэнькую,
Ці на кралевіча маладога?
Ой, не на сястрыцу маленькую
І не на матку старэнькую,
Да на кралевіча маладога,
Нашай дзеваньцы суджонага.

## 1041

— Чаму, дзевачка, не ўчасалася,
На каго, дзевачка, спадзявалася?
Ці на мамульку на старэнькую,
Ці на сястрычку на маленькую?
— На вас, дзевачкі, на вас, падружкі,
Спадзявалася, не ўчасалася.
Мамулька стара — часаць нядужа,
Сястрычка мала — часаць не знае.

## 1042

Маладая не часалася,
На дружачак спадзявалася.

— Дружачкі, мае сястрыцы,
Учашыце маю галовачку,

Учашыце маю галовачку
Да разліце маю слёзачку.

## 1043

Да саду, дзевачкі, да саду,
Збірайце рутаньку ў грамаду,
Вяжыце рутаньку ў пучочкі,
Пляціце косанькі ў батожкі,
Гатуйце ручнікі пад ножкі.

## 1044

Да й палескае дзіця
Да на Палессейку расло.

Да на палессейку расло,
Да не ўчасана ўвайшло.

— Дзевачкі, мае свахачкі,
Да вазьміце ў руку барану.

Да вазьміце ў руку барану,
Расчашыце вы ёй галаву.

Да вазьміце доўгі вужышча,
Запляціце ёй касішча.

Барана паламалася,
Й а вужышча парвалася.

Й а вужышча парвалася,
Й а касішча растрапалася.

## 1045

Па сенях хадзіла Дунечка,
Верна падружак прасіла:

— Уж вы, дзевушкі-падружкі,
Вазьміце мяне пад ручкі,

Пасодзьце мяне на дзяжу,
Чашыце мне галаву.

Паціхонечку чашыце,
Маіх валасоў не рвіце.

Не дзень я яе часала,
Не нядзельку плятала.

Не нядзельку плятала,
За адзін вечар прагуляла.

## 1046

Дзевушкі, мае падружкі,
Вазьміце мяне пад ручкі,

Пасодзьце мяне на дзяжу,
Чашыце маю галаву.

Ціхонька галоўку чашыце,
З русых кос валасоў не рвіце.

Ета, ой, косанька расчоная,
Піўцом галоўка мачоная.

Худая мая гадзіна:
Каму я дастанусь, дзяўчына?

Калі старому, не дай бог,
Калі маладому, крый божа.

Калі роўнаму, вох, час добры,
Час добры, век доўгі.

## 1047

Дзевачкі, мае падружанькі,
Вазьміце мяне пад ручанькі.

Вядзіце мяне на церам,
Пасадзіце мяне на дзяжу.

Чашыце вы мне галаву,
Пляціце вы мне русую касу.

Звіце вы мне вяночак,
Надзеньце вы мне на галоўку.

## 1048

Дзевачкі-сястрыцы,
Я сама ўчашуся.
Я сама ўчашуся,
Я сама ўплятуся.

Дзевачкі-сястрыцы,
Уся няпраўда мая:
Не часаць галоўкі,
Не ўплятаць мне косы.

Дзевачкі-сястрыцы,
Чашыце слізенька.
Чашыце слізенька,
Пляціце тужэнька.

Каб мой брацец родны
Пастаяў нада мной,
Нада мной, маладой,
Да над русаю касой.

Брацятка родненькі,
Да не рушце мяне.
Да не рушце мяне,
Ні галоўкі маей.

Да ні русай касы,
Ні дзявоцкай красы.
Валаска не вырвіце,
Галаску не ўтаніце.

А мой жа галасок,
Ён і тонак, і высок,
Ён [redacted] небу пайшоў
У бога долі прасіць.

Калі ж доля мая,
Дык хвала ж табе, божа,
А бяздоля мая,
Не дай жа мне, божа.

## 1049

Як у нашага суседа *
Пачыналася бяседа.
Усё Пашачкіна вяселле.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Пашачка па двару хадзіла,
Белы ручанькі ламіла,
Дробны слёзанькі раніла.
Яна дзевачак прасіла:
— Дзевачкі мае, падружанькі,
Вазьміце мяне пад ручкі,
Вядзіце мяне ў святліцу,
Чашыце вы мне касіцу,
Паціхоненьку чашыце,
З касы валасы не рвіце.
А мой жа волас довіг,
Майму бацюшку ён дораг,
Маёй матушцы дарожа.

## 1050

На цябе, калінка, ёсць тры прычынкі:
Першая прычынка на твае цвяточкі,
Другая прычынка на твае лісточкі,
Трэцяя прычынка на цябе самую.
Твае лісточкі вецер пакоцяе,
Твае цвяточкі дожджык памоча,
А цябе́ самую бура паломя.

На цябе, дзевачка, прышлі тры прычынкі:
Першая прычынка на твае коскі,
Другая прычынка на твае слёзкі,
Трэцяя прычынка на цябе самую.
Твае косачкі парасплятаюць,
Твае слёзачкі паразліваюць,
Цябе з мамачкай паразлучаюць.

## 1051

Не стаі, калінка, міжы крушыны,
На цябе, калінка, тры прыгоды будзець:
Будзець адна прыгода на твой лісточак,
А другая прыгода на твой цвяточак,
А трэцяя прыгода на цябе самую.
Твой лісточак ветрык абаб'ець,
А твой цвяточак мароз змарозіць,
А цябе самую ссякуць-зрубаюць.

Не сядзі, Арынка, міжы баярак.
На цябе, Арынка, тры прыгоды будзець:
Адна прыгода на тваю касіцу,
Другая прыгода на твой вяночак,
Трэцяя прыгода на цябе самую.
Тваю касіцу падкосьнічкі расплятуць,
Твой вяночак баяркі саймуць,
А цябе самую Йванька возьмець.

## 1052

Шэра зязюлька, не лятай рана ў саду,
Бо паймае цябе саколейка.

Бо паймае цябе саколейка,
Возьме цябе на крыллейка.

Возьме цябе на крыллейка,
Разнясе твае шэры пер'я.

Разнясе твае шэры пер'я
На розныя зелля.

Разнясе твой пушочак
На зялёны лужочак.

Маладзенькая дзеванька, не хадзі рана ў поле,
Бо будзе ехаць рана малойчык.

Бо будзе ехаць рана малойчык,
Возьме цябе ў павозку.

Возьме цябе ў павозку,
Распляце тваю русу коску.

Твая руса коска
Ў тры столкі пляцёна.

Ў тры столкі пляцёна,
Шоўкам абвівана.

## 1053

Малявана камора, малявана.
Да хто ж гэту камору да маляваў?
Малявалі камору да маляры,
Зачасалі дзевачку да дзевачкі,
Па адным валасочку да беручы,
Па адным дзярночку да кладучы.

Дай, божа, маладым добру долю.

## 1054

Да часала Марынка белы лён,
Да ганіла дружачак ад сябе вон.
— Ой, ідзіце, дружачкі, ідзіце,
Хаця маю галаваньку не нудзіце.
Хаця маю галаваньку не нудзіце,
Хаця маю мамачку не сушыце.

## 1055

А ў Іванькі на дварэ,
Ай, рана, рана, на дварэ *
Стаіць бяроза белая,
А ля бярозы — веццейка,
Каля веццейка — лісточак,
А на лісточку — расіца.
Ай, не бяроза — Манечка.
Ай, не веццейка — дзевачкі,
А не лісточак — вяночак,
А не расіца — слёзачкі.

## 1056

Ой, барвінку, барвінку
Купаваўся на рынку.

Купаваўся на рынку,
Захаваўся ў скрынку.

* Рэфрэн «Ай, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Як цябе не рушыла,
Плакаці не мусіла.

А цяпер парушу,
То й заплакаці мушу.

## 1057

Не думала мая сястрыца даждаці
У цвяточкі галовачку ўбраці.
Ды даждала мая сястрыца, даждала,
Ды ўбрала ў цвяточкі галоўку, убрала.

## 1058

Сёння нядзелька,
Першы дзянёчак.

Раскаці, дзевачка,
Свой кужалёчак.

— Мае вы, дзевачкі,
Мае вы, сястрыцы,

Мне сёння не да кужалёчку,
Калі мая галоўка ды ў вяночку.

## 1059

Звінела каморка, звінела,
Дзе млода дзяўчына сядзела,
Русую касіцу часала,
Белую сукенку адзявала,
З руты вяночак ускладала.
З руты вяночак — на коскі,
Паліліся з вочак яе слёзкі:
— Сколькі я на свеце пражыла —
Такім кветам нігды не цвіла,
Сколькі я на свеце жыць буду —
Такім кветам цвіцець не буду.

## 1060

Новая камора не мецена,
Кругом золатам абведзена.
Пайшла дзеванька камору месці.
Шахнула-махнула каля сценачкі —
Капнула золата на галовачку.
— Брацяткі родныя, надкоснічкі,
Бярыце шчотачкі, грабёначкі,
Счашыце золата з галовачкі.
Брацяткі грабёначкі паламалі,
А золата з галовачкі не счасалі.

## 1061

Новая камора есяновая,
А па той каморы Ганначка ішла,
На сваёй галоўцы золатца нясла.
— Дзевачкі-сястрыцы, перапёлачкі,
Бярыце шчотачкі і грабёлачкі,
Счашыце золатца мне з галовачкі.
Хай маё золатца асыпаецца,
Бо мая красата ўся мінаецца.

## 1062

Новая камора не мецена,*
Уся кругом золатам абведзена.

Як пайшла Валечка камору месці,
Скапнула золата на галовачку.

— Дзевачкі-сястрыцы, баярачкі,
Бярыце шчотачкі і грабёначкі.

Бярыце шчотачкі ї грабёначкі,
Счашыце золата з галовачкі.

Мне яго, маладой, цяжка насіць,
Цяжалей за ўсяго з мамкай расстацца.

* Кожны радок паўтараецца.

## 1063

Цёмная ноч да нявідная,
Новая каморачка есяновая,
Уся яна золатам высаджоная.
Як пашла Таклюська ў каморачку,
Капнула золата на галовачку.
— Гдзе ж мае брацішкі падзеліся?
Бярыце шчотачкі-грабёначкі,
Чашыце золата з галовачкі,
Пляціце золата у косачкі,
Паедзеце са мной у надкосьнічкі.
Не будзеце, брацішкі, у знявазе,
Да будзеце, брацішкі, у павазе.
Будзеце піць мёд-віно і гарэлачку
За мяне, учцівую паненачку.

## 1064

Зачым, зачым камора не мяцёна,
Зачым, зачым Хадоска невясёла?
Мяцёна камора венічкамі,
Вясёла Хадоска з дзевачкамі.
Зачым, зачым камора не мяцёна,
Толькі ўся золатам пакапана?
Як пайшла Хадоска камору мясці,
Ускапнула золата на галоўку.
Тады наша Хадоска заплакала:
— Ідзе ж мае брахнейкі падзяваліся,
Што ж ад мае косанькі паадчураліся?
Вазьміце, брахнейкі, шчоткі-грабёнкі,
Счашыце золата з мае галоўкі,
Упляціце золата ў канчучочкі
Ды едзьце за мною, як панічочкі.
За мною дарожка шчаслівая,
Я ж сама паненка пачцівая.

## 1065

Хадзіла Ірыначка па каморачцы,
Насіла золатца на галовачцы.
Золатца на галовачцы пераліваецца,

Ірыначка з матулькай разлучаецца.
— Счашыце золатца хоць адзін радок,
Пазвольце пагуляць хоць адзін гадок.

### 1066

Стаяла Валечка пад ваконачкам,
Капнула золата на галовачку.
— Дзевачкі, баярачкі вы мае,
Бярыце шчотачкі, грабёначкі,
Чашыце золата з галовачкі.
Досыць я ў золаце нахадзілася,
Досыць я ўжо хлопцаў навадзілася.

### 1067

На моры вутачка купалася,
Пакупалася, у бор паляцела,
У барочку шчыранька грагаць стала:
— Дзе ж мае дзетачкі падзяваліся?
Ад майго гняздзечка адчураліся.
У каморы дзевачка прыбіралася,
Прыбралася, за стол села,
За сталом горчанька плакаць стала:
— Дзе ж мая радзіна падзявалася?
Ад майго вяночка адчуралася.
Цётачкі, вазьміце шчоткі, грабёнкі,
Счашыце золатца з маёй галоўкі,
Астаўце золатца ў белым вяночку.

### 1068

Над морам, морам глыбокім,
Там стаіць церам высокі.
А ў тым цераме Ганначка
Русую косачку часала,
Белае лічыка ўмывала.
Прышла да яе мамачка
І кліча Ганначку дадому:
— А цябе ж там сваты пытаюць,

Русую косачку чакаюць.
— А няхай жа сядзяць здаровы,
Ужо ж мае ручнічкі гатовы.

### 1069

А павей, ветрык, па двору
Аж пад новую камору.
А ў той каморы нікога,—
Адна Ганулька сядзела,
Перад ёй свечка гарэла.
Прыйшла да яе мамачка:
— Адчыніся, дачушка.
— Я не адчынюся — баюся,
Каб ветрык свечкі не згасіў,
Каб дожджык коскі не зрасіў.

### 1070

Да цераз сені — камора,
У тэй каморы — нікога.
Малада дзеўка сядзела,
Перад ёй свечка гарэла.
Прышла мамачка да яе:
— Адчыні, дачушка, дзверы мне.
— Не адчынюся, мамачка,
Не адчынюся — баюся:
Ветрык косачку развее,
Сонейка лічанька заэрое.
— Дзевачка, мая дачушка,
Упляці косачку каснічком
Да ўкрый лічанька ручнічком.

### 1071

Ой, цераз сені — камора,
А ў той каморы — нікога.
Адна дзевачка сядзела,
З руты вяночак сплятала

Ды на галоўку ўскладала.
Прыйшоў да яе малойчык:
— Ды адчыніся, дзевачка.
— Не адчынюся — баюся,
Бо вецер коску развее,
Сонца лічайка сагрэе,
Дожджык вяночак памоча.
А мой вяночак руцвяны,
А ён сонейка баіцца,
А ён дожджыку баіцца,
Ён ад іх звяне, завяне.

## 1072

А на гарэ святліца,
Ой, люлі-люлі, святліца, *
А ў той святліцы дзявіца
Русую касу часала,
Белае ліцо ўмывала.
Прыйшоў да яе татачка:
— Ды адчыніся, дзіцятка.
— Не адчынюся — баюся,
Бо ветрык коску развее,
А сонца ліцо разгрэе.
— Дзевачка, маё дзіцятка,
Звяжы касачку стужачкай,
Накрый лічанька хустачкай,
Каб цябе малойчык не пазнаў,
За белую ручку не ўзяў,
Любай жаною не назваў.

## 1073

І што ў полі далёка,
Стаяў церам высока.
Што ў тым цераму
Дзевачка сядзіць,
Русую касу чэшаць,
Русую касу чэшаць.

* Рэфрэн «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Как прыйшоў жа к ней татачка:
— Ты адчыніся, дачушка.
— Я не адчынюся: ветру баюся,
Шчэ й жаркага сонца,
Шчэ й жаркага сонца.

### 1074

Да ляцела ластаўка
З-пад нябёс,
Да ў тае ластаўкі
Залаты хвост.
Сцеражы, Мар'ечка,
Русых кос,
Штоб твой Андрэйка
Не растрос.
Да ў лузе каліначка
З цвятамі,
Разлука, Мар'ечка,
З дзяўкамі.
Да ў лузе каліначка
З расою,
Разлука, Мар'ечка,
З касою.

### 1075

Ой, крыкнула гусанька на моры,
Заспявала сванечка у полі.

Заспявала сванечка у полі,
Пачула Маруся у каморы.

— Ой, баценьку родны, весці йдуць:
Ужо маю косаньку расплятуць.

Ужо маю косаньку расплятуць,
Ужо ж мае слёзанькі разальюць.

Расплятуць косаньку па плечку,
Разальюць слёзаньку па лічку.

— Хто ж у нас той вяночак выкупіць,
То той жа нам бочку мёду выкаціць.

Бочку мёду салодзенькага і віна дзве,
Пачастуе свае дзеванькі на дварэ.

Ой ты, Марусю, усім дзеўкам пакланіш
І на сваё вяселлечка папросіш.

## 1076

І што не выплыла,
І што не выплыла
Вутачка з-пад беражка.

І што не вынесла,
І што не вынесла
Рыбную грабёначку.

Нечым расчасаці,
Нечым разабраці
Манечцы галовачку.

А ўжо выплыла,
А ўжо выплыла
Вутачка з-пад беражка.

А ўжо вынесла,
А ўжо вынесла
Рыбную грабёначку.

Ёсць чым расчасаці,
Ёсць чым разабраці
Манечцы галовачку.



## 1077

Да вянца, Янечка, да вянца,
Не забудзься ўзяць грабянца

І драцяненькай шчотачкі,
І васковай свечачкі.

Драцяны грабянец — часацца.
Васковая свечачка — вянчацца.

## 1078

— Да вянца, Агапка, да вянца,
Не забывай хустачкі, грабянца,
Чым будзеш косачкі часаці,
Чым будзеш слёзачкі ўціраці?
— Ё ў мяне дружачкі-служачкі,
Яны мяне пад вянец павядуць,
Яны мне грабянец пададуць,
Яны мне слёзачкі абатруць.

## 1079

— Ды падай, мая матуля, грабянец
Расчасаць русую косу пад вянец.

— А ў каморы ды на ложачцы грабянец,
Расчашыце русую коску пад вянец.

## 1080

Выбіраецца млода дзевачка да вянца,
Пытаецца ў роднай мамачкі грабянца:
— Падай, падай, мая мамачка, грабянец
Расчасаці русу косу пад вянец.
— Ой, я не раз і не два перайшла —
Нідзе табе грабянца не знайшла.

## 1081

Ехала дзевачка да вянца,
Забылася хустачкі, грабянца,
Прасіла матачкі:
— Падай, матачка, грабянец
Учасаць косачку пад вянец.
— Не магу, дзіцятка, не магу,
З жаласці рук не падыму.

## 1082

Паехала Кацечка да вянца,
Забыла хустачкі, грабянца.
Яна свайго брацейкі прасіла:
— Вярніся, брацейка, вярніся
Па тую хустачку й грабянец
Часаць косачку пад вянец.

## 1083

Ой, хадзіла дзевачка круг стола,
Не мовіла нікому ні слова.
Толькі мовіла аднаму —
Роднаму брацiку сваяму.
— Падай, падай, брацiк, грабянец
Да расчасаць косачку пад вянец.
— Ляжы, ляжы, грабянец, касцячком,
Ужо твая косачка пад вянцом.

## 1084

Сядзела Ганначка за сталом,*
Часала косачку грабянцом.
Паляцеў грабянец пад сталец.
— Да падай, Ванечка, грабянец.
— Я табе, Ганначка, не слуга,
Ё ў цябе дружачкі-служачкі.
Яны табе грабянец пададуць,
Яны цябе пад вянец падвядуць.

## 1085

Упаў грабянец пад сталец.
— Падай, Іванька, грабянец,
Расчашы Гарпінкі касу.
— Я ж не буду часаці,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Есць у яе ацец, маці.
Распляце ёй касу родна матка,
Расчэша ёй касу родны братка.

## 1086

Стаяла Гапанька пад вянцом,
Часала косаньку грабянцом,
Падкінула грабянец пад вянец.
— Падай, Васілька, грабянец.
— Я ж табе, Гапанька, да не маладзец,
Наймі сабе малайца з гарадца,—
Падасць грабянец з-пад вянца
Русую косаньку расчасаць.
Ці не было грабянцоў у возе,
Ці не было кавалёў ў дарозе
Русую косаньку раскаваць,
Частым грабянцом расчасаць?

## 1087

Стаяла Настулька пад вянцом,
Часала косаньку грабянцом.
Кінула грабянец пад вянец,
Русую косаньку — пад чапец.
Касіца мая русая,
Аддуха мая ранняя.
Не адно я ранненька згуляла,
Русую косаньку часала.

## 1088

Сядзела Надзечка за сталом,
Часала косачку грабянцом.

Паляцеў грабянец пад сталец.
— Падай, мамачка, грабянец.

— Я ж табе, дачушка, не служанец,
Есць у цябе дружкі — пададуць.

Ёсць у цябе дружкі — пададуць,
Яны табе косачку развядуць.

Сядзела Надзечка за сталом,
Часала косачку грабянцом.

Паляцеў грабянец пад сталец.
— Падайце, дзевачкі, грабянец.

— Мы ж табе, Надзечка, не служанец,
Ёсць у цябе Мішачка падацi.

Ёсць у цябе Мішачка падацi,
Ён табе косачку расчэша.

Ён табе галоўку прыгладзе,
Ён ля цябе радочкам i сядзе.

І з стала звядзе, абніме,
Ён табе залаты вяночак надзене.

## 1089

— Уступі, мамачка, на сталец,
Падай шчотачку-грабянец.

Падай шчотачку-грабянец,
Расчашу косачку пад вянец.

Бедная галоўка на свеце,
Дзе мой грабянец падзецi?

Цi яго да скрынкi схавацi,
Цi меншай сястрыцы аддацi?

— На табе, сястронка, грабянец,
Расчэшаш косачку пад вянец.

## 1090

Стаяла Ніначка пад вянцом,
Часала косаньку грабянцом.
— Дзе таго грабянца падзеці?
Панясла б на места — не прадам,
А меншай сястрыцы так аддам.
На табе, сястрынка, то мой дар,
Дай божа на лета табе так.

## 1091

Стаяла дзяўчынанька пад вянцом,
Часала косаньку грабянцом.
І думала-гадала, дзе дзеці:
Чы ў агонь, чы ў ваду ўкінуці,
Чы меншай сястронцы аддаці?
— На табе, сястронка, мае дары,
Каб віце налета прыждалі
Прасіці бацenька благаслаўлення.

## 1092

Стаяла дзеванька пад вянцом,
Часала косаньку грабянцом.
Дзе тога грабянца падзеці:
Ці несці на места прадаці,
Ці меншай сястронцы аддаці?
Насіла на места — не прадала
Да меншай сястронцы аддала.

## 1093

Бедна мая галоўка на свеце:
Дзе мне грабянца падзеці?
Аддала б сястронкам — да згубяць,
Панясла б на места — не купяць.

## 1094

А ў садочку на ветачцы салавейка шчабеча,
У святліцы на крэслечку Аўдоська коскі чэша.
Чэшучы гаварыла: — Чым я мамачцы няміла?
У нядзельку ранюсенька буду мілюсенька.
Коскамі апушчуся, слёзкамі абаллюся,
Коскамі русенькімі, слёзкамі дробненькімі.
Коскамі плечы ўкрыю, слёзкамі ліцо ўмыю.

## 1095

Да ў садочку на красалочку
Паненка коску часала.
Коску часала, сільна плакала,
Матульцы прымаўляла:
— Рада матулька ценкай кашулькай,
Не мной, маладзенькай.

Да ў садочку на красалочку
Паненка коску часала.
Коску часала, сільна плакала,
Татульку прымаўляла:
— Рады татулька маёй работкай,
Не мной, маладзенькай.

Да ў садочку на красалочку
Паненка коску часала.
Коску часала, сільна плакала,
Міламу прымаўляла:
— Рады мой мілы і мной, маладзенькай.

## 1096

Ой, у садочку у халадочку
Салавейка шчабеча,
А ў ганачку у новым крэслачку
Марылька коскі чэша.
Ой, чэша коскі і льюцца слёзкі,
Што не любая ў таткі:
Ужо стараецца, сабіраецца

Мяне выправіць з хаткі.
Ён прапіў мяне горкай гарэлкай
У святую нядзельку,
За пастылага ды нялюбага
Аддае маладзеньку.

## 1097

У садочку на вішаньцы
Салавейка шчабеча,
У каморы на крэслечку
Дзевачка коску чэша.
Чэшучы коску, гаварыла:
— Я свайму бацьку няміла.
Мілей бацьку чарка гарэлкі,
Як я маладзенька.
Чарку гарэлкі папіваць будзе,
Некага пасланць будзе
У сыры бор, у крыніцу,
Па сцюдзёную вадзіцу.

## 1098

А ў садочку ды на ветачцы
Салавейка шчабеча,
А ў каморцы ды на крэсліцы
Дзевачка коску чэша.
Часала коску, часала русу
Ды з мамачкай гаварыла:
— Мамачка мая, родная мая,
Чым я табе не міла?
Ці табе мілей зятня гарэлка,
Як я, маладзенька?
Ці табе мілей зятнія коні,
Як мае нізкія ўклоны?
Ці табе мілей зятнія павозкі,
Як мае дробныя слёзкі?

## 1099

Ой, у садочку на крэслечку
Хвенечка касу чэша,
Да чэшучы, гаварыла:
— Нейдзе я свайму бацьку няміла.
Мілей бацьку мёд да гарэлка,
Чымся я, маладзенька.
Даведаешся, мая матачка,
Без мяне, маладыя.
Пойдзеш ты на ток,
На ток малаціць,
Цапочкам махнеш,
Цяжанька ўздыхнеш,
Слёзкамі абальешся.

## 1100

— Чаму, зязюля, ты не кукавала,
Як сады зацвіталі?

— Ой, я думала, сівенькая,
Што снягі нападалі.

— Чаму, Манечка, ты не плакала,
Як цябе запівалі?

— Я думала, маладзенькая,
Што са мною жартавалі.

А тыя жарты прыйшлі сапраўды,
У нядзельку рана косаньку расчасалі.

## 1101

Каля церама пташкі лятаюць
І к цераму прылягаюць,
А ў тым цераму у навюсенькім
Дзевачцы коску чэшуць.
Дзевачка плакала, гаварыла:
— Мамульцы я няміла.
Мілей мамульцы новы церамок,
Як я, маладзюсенька.
Новы церамок стаяць будзе,
Да некаму загадаць будзе,
Каб той церамок прыбраці,
Ложачкі пазасцілаці.

## 1102

А ў церамочку на новым крэсле
Дзевачка касу чэшыць.
Чэшыць косачку, чэшыць русую,
З касою размаўляець:
— Косачка мая, русая мая,
Ці міла я татульку?
Мілей татульку горка гарэлка,
Чым я, маладзенька.
А ў церамочку на новым крэсле
Дзевачка касу чэшыць.
Чэшыць косачку, чэшыць русую,
З касою размаўляець:
— Косачка мая, русая мая,
Ці міла [redacted] мамульцы?
Мілей мамульцы хатка, кароўка,
Чым я, маладзенька.
А ў церамочку на новым крэсле
Дзевачка касу чэшыць.
Чэшыць косачку, чэшыць русую,
З касою размаўляець:
— Косачка мая, русая мая,
Ці міла я сястрыцы?
Мілей сястрыцы скрыня, пярына,
Чым я, маладзенька.
А ў церамочку на новым крэсле

Дзевачка касу чэшыць.
Чэшыць косачку, чэшыць русую,
З касою размаўляець:
— Косачка мая, русая мая,
Ці міла я брацюльку?
Мілей брацюльку чужыя дзеўкі,
Чым я, маладзенька.

## 1103

Да ў гародзе на лучыне
Зязюля кукала,
Да ў садзе на крэслечку
Таццянка касу часала.
А чэшучы гаварыла:
— Знаю, я бацьку няміла,
А мілей бацюхну стаўлёны горад,
Нежлі я, маладзенька.
Стаўлёны горад стаяці будзе,
А некім пасладзі будзе.

Да ў гародзе на лучыне
Зязюля кукала,
Да ў садзе на крэслечку
Таццянка касу часала.
Ай, чэшучы гаварыла:
— Знаю, я матцы няміла,
Ой, мілей матачцы кунная шуба,
Нежлі я, маладзенька.
Кунная шуба ляжаць будзе,
А некім пасладзі будзе.

Да ў гародзе на лучыне
Зязюля кукала,
Да ў садочку на крэслечку
Таццянка касу часала.
А чэшучы гаварыла:
— Знаю, я братку няміла,
Ой, мілей браточку конь вараненькі,
Чым я, маладзенька.
Конь вараненькі стаяць будзе,
А некім пасладзі будзе.

Вышла Тацянка за вароцечкі,
Пачула зязюлечку.
— Ой, не жаль жа мне на зязюлечку,
Як на сваю матулечку.
Да справіла мне пярловы венчык,
Не дала мне красавацца.
Ой, толькі я ў ём красавалася,
Ой, толькі што звянчалася.

### 1104

Ля перавозу бела бяроза
Да вішнёвы садочак.*

Там Рыпіна, там дзяўчына
Да касіцу часала.

Касу часала, касу русую
Да з касою гаварыла:

— Касіца мая, русая мая,
Знаць, я бацьку не нада.

Аддаець мяне да выдаваець,
Толькі долечкі не знаець,

Даражэй роду чарачка мёду,
Чымся я, маладая.

Мамачка ідзець, падарачкі нясець,
Сільнёшанька плачаць.

Татачка ідзець, гарэлку нясець,
Но і тый узрыгаець.

Да два брахненькі коней сядлаюць,
Но і тыя ўзрыгаюць.

Да дзве сястрыцы мяне справаджаюць
І то сільна плачуць.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## 1105

— Баравая зязюлечка,
Чаму цябе не чуць кукуючы?
— За птушкамі не чуваць,
За кветкамі не відаць.

— Маладзенькая дзевачка,
Чаму цябе не чуць плачучы?
— За дружкамі не чуваць,
За йстужкамі не відаць.

Расплацём ёй коску,
Разальём ёй слёзку.
За плячыма коска рассціласцца,
Пад вачыма слёзка разліваецца.

## 1106

Было лета, было лета, цяпер зіма,
Пасеяла чарнабрыўцы насупроць ражства.

А ўжо ж мае чарнабрыўцы расцвітаюць,
А ўжо ж маю русу косу расплятаюць.

Расцвілі чарнабрыўцы, ды й не на век,—
Расплялі русу касу на цэлы век.

## 1107

Белая бярозачка
Распусціла веццейка.
Распусціла веццейка
А з гары ды да долу,
Паддала холаду
Ды свайму атожыллю.

Маладая Надзечка
Папушчала косачкі.
Папушчала косачкі
Па белай кашулечцы,

Задала жаласці
Ды сваёй матулечцы.

— Калі, мама, жалееш,
Запішы маё імя
На залатым кубачку,
На верхнім абручыку:
«Няма майго дзіцяці,
Няма каму загадаці».

## 1108

Маладая Марылька
Села сабе за столікам,
Папускала коскі,
Параняла слёзкі,
Задавала жалосці
Сваёй роднай матачцы:
— Матачка мая родная,
Сягоння мяне аддаеш,
Заўтра ўспамянеш:
Увойдзеш у рыдзельку,—
Рыдзелька не мяцёна,
Сямейка невясёла.

## 1109

Да бела да бярозанька
Да ўсе лугі пабяліла
Сваім да белым цветам,
Да сваім шырокім лісцейкам.
Да маладая дзевачка
Усе дзевачкі пакрасіла
Сваею русаю касою,
Сукенка да да мураўкі.
Мураўка зяляненька,
Дзевачка маладзенька.

## 1110

Чэраз сені сцежачка,
А ў каморы другая.
Там Мар'янка сядзела,
Русу косу часала,
Сільна жаласна плакала.
Прывядзіце мамулю,
Вайміце Мар'янку.
Як мамулю прывялі,
Большы жалю задалі.

## 1111

Чэраз сені сцежачка,
А ў каморы другая.
Там Мар'янка сядзела
Русу касу часала,
Сільна жаласна плакала.
Прывядзіце Казімірку,
Вайміце Мар'янку.
Як Казімірку прывялі,
Так Мар'янку ўнялі.

## 1112

Маладая дзевачка
Па сенечках ходзіць,
Па новай святліцы.
Ой, распусціла сваю русу косу
Па белых плечыцах.
— Ой, не жаль жа мне й русай косы,
Што я яе распусціла,
Як жаль жа мне й свайго баценькі,
Што я яго разгнявіла.

## 1113

Трава-мурава, трава-мурава,
Паванькі пахадзілі.*

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Ці не жаль табе, малада Манечка,
Што й касу распусцілі?

— Ой, не жаль жа мне маей косанькі,
Што й яе распусцілі,
Ано жаль жа мне маей матулькі,
Што й яе разжалілі.

— Наматаецца твая косанька,
То й да шлюбу ідучы.
Ой, наплачацца твая матулька,
Па слядочках ходзячы.

## 1114

— Чаму ты, Ганначка, не плачаш,*
Ты сваю косачку ўтраціш?

— Хоць я косачку і ўтрачу,
Белага лебедзя пабачу.

Лебядзёк, лебядзёк — Ванечка,
А й лябёдачка — Ганначка.

## 1115

Чаго ты, дзевачка, сядзіш,
Чаму не заплачаш,
Мамкі сваёй да ты не разжаліш?
Жаль будзе, жаль да Лукерцы косачкі,
Што не будзе яна да раненька уставаці,
Да косачкі часаці.
Хоць будзе часаці, да не будзе плесці,
Хоць будзе плесці, да не будзе чэсці.

## 1116

Да не жарка гарыць калінка,
Да не жалка плачаць Гапулька,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Не жалеець сваёй матулькі,
Да жалеець сваёй косанькі.
— Косанька мая русая,
Не адно раннейка сцярала,
Русую косаньку часала.
Учосы мае гладкія,
Уплёты мае густыя.

## 1117

Увежлівыя баярушкі —
Няжней нету Мар'ечкі:
Даець падачу частую,
Даець паклоны нізкія.
Да не жаласліва Мар'ечка:
Не жалеець яна бацькі з маткай,
Толькі жалеець русу касу:
— Ды касіца мая русая,
Уплёты мае шаўковыя,
Завязы мае жамчужныя.
Я й двор перайду — галаву чашу,
На чарому зайду — касу пляту.

## 1118

Да ці ж ты, дзевачка, не знаеш,
Што па русай касе не плачаш?
Русая каса — уся краса,
А белая намётка — сухата.
Як касу насіла — двор красіла,
У сені зайшла — усе сені заззялі,
У хату зайшла — дзевяры пасталі,
За стол села — як роза спела.
Над ёю малойцаў, як перабойцаў,
Над ёю стаялі, ручкі ламалі:
— Чаму ж мы не бралі, як з ёю гулялі?

## 1119

— Дзевачкі-галубачкі,
Папытайце ў маёй донечкі,
Чаго яна так плача

Да чаго ж ёй жаль:
Ці сваёй русай косачкі,
Ці дзявочай кросачкі?

— Ой, не жаль жа мне
Ні дзявочае красы, ні русае касы,
Мінулася бацькава раскоша,
Сама бачу,
Ні раз, ні два па раскошы той
Заплачу.

## 1120

— Пойце, дзевачкі, жалосна,
Плачыць Ганначка галосна:
Ці па касе, ці па красе,
Ці па мацерняй раскосе.

— А каса мая касою,
І краса мая красою,
Мацерняй раскошы век не забуду,
Пакуль і жыва буду.

## 1121

Да Дунаю сцежачка,
Да Дунаю сцежачка ўбіта,
Слёзанькамі ўліта.
Там Мар'ечка русу косу часала
Та на Дунай пускала.
— Ой віце, мае валасы,
Плыніце, не таніце,
Бога долі прасіце.

## 1122

Закавала зязюля на расе,
Заплакала Волечка па касе.

Закавала зязюля пры лужку,
Прылажыўшы галоўку к беражку.

Ці куй, зязюлька, ці не куй,
Ужо тваё каванне канчаецца.

Ці плач, Волечка, ці не плач,
Ужо тваё гулянне канчаецца.

### 1123

Як у лузе каліначка з веткамі,
Не гуляці Арыне з дзеўкамі.

Як у лузе каліначка кустамі,
Не махаці Арыначцы касамі.

— Цяпер жа мне, дзевачкі, не да касы,
Як ўзяў малады Йван да ўсе мае хлопаты.

### 1124

— Ці я цябе, косачка, не кахала
Ды па тройчы на дню не часала?
Прыскочу к Дунаю ды й прымочу.
— От то табе, Кацярына, за тое,
Было касы не плесці ўтрое,
Было табе плесці ў чатыры рады,
Пагуляла б у свайго таткі чатыры гады.

### 1125

Кацілася калясо па расе.*
Плакала дзяўчонка па касе:
— Касіца мая русая,
Мала я цябе часала,
Мала я цябе заплятала:
Адзін вечарок часала,
Другі вечарок заплятала.
Касіца мая русая,
За адзін рубялёк прадала.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 1126

Кукавала зязюля на расе,
Плакала дзеванька па касе:
— А касіца мая русая,
Пагулянне маё ранняе.
Не адно раннейка гуляла,
Русую косаньку часала,
Белае лічыка умывала.
Часала косаньку грабянцом,
Кінула грабянец пад вянец,
Русую косаньку — пад чапец.

## 1127

Хадзіла Валечка па расе
Ды бедавала па касе:
— Касіца мая русая,
Я цябе ў мамачкі часала:
Выйду ў сені — пачашу,
Прыйду ў хату — запляту.
Як я ў Пецечкі буду,
Касіцу часаць не буду.
Касіца мая саўеціца,
Гулянне маё мінеціца.

## 1128

Кукавала зязюля на страсе,
Плакала дзевачка па касе:
— О касіца мая русая,
Атрада мая лёгкая.
Я двор перайду — расчашу,
У сені ўвайду — запляту,
У ізбу ўвайду — закладу,
За стол сяду — заплачу,
Што русую косачку ўтрачу.
Ці не лепш касе ў ланцузе,
Чымся у пасконным матузе?
Пасконны матуз касу трэць,
Рубковая наметка слёзкі льець.

## 1129

Сядзела зязюля на страсе,*
Плакала Ганначка па касе:
— Касіца мая русая,
Я к табе раненька ўставала,
Я цябе часценька часала.

А павешу уплёт на прыклёт,
А будзе мамачка ў клецъ ісці,
А з клеці ідучы, забача:
«То майго дзіцяці ўплятанне,
Усё й дзявоцкае гулянне».

## 1130

Плавала вуціца па расе,
Плакала Машанька па касе:
— Свет, мая руса каса,
Свет, мае ўплёты шаўковыя,
Што я на русай касе насіла,
Усё бацькіна падвор'е красіла.
Хто маю косаньку распляцець,
Хто мае ўплёты прыбярэць?
Расплятуць косаньку дзевушкі,
Прыбяруць уплёты сястрыцы,
Павесяць уплёты на ўсходы,
Куды маёй матушцы ў клець хадзіць.
А й яна ў клець пойдзець — уздыхнець,
А з клеці пойдзець — заплачаць:
«Ета маёй дачушкі уплёты,
Што яна ў русай касе насіла,
Усё бацькіна падвор'е красіла».

## 1131

— Свет, мая косанька,
Не каса ль мая, косанька,
Не каса ль мая, русая,

* Кожны радок паўтараецца.

Ці я ж цябе, косаньку,
Не ўплётывала,
Ці я ж цябе, русую,
Не ўчосывала?
Запляту я косаньку
Ва чатыры рады,
Было пажыць у бацюшкі
Чатыры гады.
Прыехаў Мікішанька
З дружкамі,
Расплёў маю косаньку
З шнуркамі.
Павесіў уплётачкі,
Седзя на клеці,
Куды маёй матушцы
У клець хадзіць.
У клець ідзець,
Матушка заглянець.
З клеці ідзець,
Родная заплачаць:
«Ета уплётачкі
Дачушкі маёй,
Шоўкавыя
Родненькай маёй».

## 1132

— Касіца мая русая,
Штодзень я цябе часала,
Штосуботухны заплятала,—
За адзін вечарок прагуляла,
За адну чарачку прапіла,
За верна слоўца аддала.
Выпляту ўплёт з русых кос
Ды павешу ўплёт на прыклёт,
Куды маёй матухне ў клець хадзіць,
А ў клець ідучы, забачыць,
А з клеці ідучы, заплачыць:
«Ета мае дачушкі ўплёты,—
Павесіла мне на слёзы.
Як мая дачушка хадзіла,
Падвор'е маё красіла.

Як мая дачушка гуляла,
Пад аконцам рожа іграла.
Перастала дачушка гуляці,
Перастала і рожа іграці».

## 1133

Каснічкі, мае ўплёты,
Дзе мне вас дзяваці?
Пайду ў садочак
Па барвіночак,
Павешу на калочак.
Іціме татачка,
На ўплёткі гляне,
Яго сэрца савяне.

## 1134

Ой, глянь, мамка, ды на мой пасад:
Усе дзеўкі ў касах сядзяць.

Мая каса ды й расплецена,
Па воласу ды й разведзена.

Па воласу ды й разведзена,
Грабеньчыкам ды й расчэсана.

Косачкі мае, плётачкі мае,
Дзе жа мне вас падзеці?

Пабяру ж я вас ды й павешаю
У церамке ды й на дзераве.

Будзе йсці татка, успамінаць дзіцятка.

## 1135

Каціліся калёсцы
Да па ранняй росцы.
Да плакала дзевачка

Да па русай косцы.
Да не так па косцы,
Як па каснічках.
Не так па зялёным,
Як па чырвоным.
Калі жаль каснічка,
То аддай братку.
Калі жаль братку,
То аддай мамцы.
Мамачка разгорне,
К сэрцу прыгорне:
— Гэта мае дачушкі
Дарагія стужкі.
Яна іх насіла —
Увесь двор красіла.
Яна іх купавала —
Па талеру давала.

## 1136

Распляціце касу маладой дзевачцы,
Ой, кіньце уплёты на яе матачку.
Матка разгорне і к сэрцу прыгорне:
— Ой, уплёты, уплёты майго дзіцяці.
Яно ж вас насіла — увесь свет красіла.
Яно ж вас купляла — дорага давала,
Сястрэ даравала.

## 1137

Каціліся калёсы да па ранняй расе,
Плакала Ганначка да па жоўтай касе,
Да не так па касе, як па коснічку:
Было б каму купіці, да некаму насіці.

## 1138

Каціліся калёсы ды па буйнай расе,
Заплакала дзевачка ды па русай касе,
Не так яна па касе, як па каснічку:
— Як цябе насіла, увесь свет красіла,
Я ж цябе купляла, па таляру давала.

## 1139

Пахадзіў конік па ранняй расе,
Плакала Ганначка па русай касе,
І ды ж не так па касе,
Як ды па той аплёце,
Што даражэй золата.
Дорага плаціла,
Ды мала насіла,
Сваёй мамачцы жалю нарабіла.
— І схавай, маці, аплёту ў скрыню,
Будзеш успамінаці дачку-гаспадыню.

## 1140

Каціліся калёсы да па расе,
Плакала дзеванька да па русай касе,
Не так па касе, як па каснічку,
Бо мой каснічок з залатых нітачак.
Я яго спляла, валы пасучы.
Я яго згубіла, воду несучы.

## 1141

Кукавала зязюля ў садочку,
Ой, рана, раненька ў садочку,*
Прыклаўшы галоўку к лісточку:
— Хто ж маё гняздзечка разаўець,
Хто ж мае яечкі пабярэць?
Плакала дзеванька ў святліцы,
Прылажыўшы галоўку к сцяніцы:
— Хто ж маю косаньку распляцець,
Хто ж мае ўплёты пабярэць?
Расплятуць маю косаньку брацішкі,
Пабяруць мае ўплёты сястрыцы.
Пабяруць істужкі падружкі,
Павядуць дзеваньку пад ручкі.

---

* Рэфрэн «Ой, рана, раненька» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 1142

Кукуець зязюля ў садочку,*
Прыклаўшы галоўку к лісточку.

Кукуець зязюля:
— Божа ж мой,

Хто ж маё гняздзечка разаўець,
Хто ж мае яечкі пабярэць?

Мне ў гэтым садочку не быці
І шэрай зязюляй не слыці.

Плакала дзевачка ў святліцы,
Прыклаўшы галоўку к шкляніцы,

Плакала й казала:
— Божа ж мой,

Мне ў гэтай святліцы не быці,
Краснай дзявіцай не слыці.

Хто ж маю галоўку павяжаць,
Хто мае істужкі пабярэць?

— Павяжуць галоўку цятулькі,
Пабяруць істужкі сяструлькі.

## 1143

Кукуе зязюля ў барочку,
Прыхіня галоўку к лісточку.
Кукуя, казала:
— Хто маё гняздзечка парые,
Хто мае яечкі паберыць?
Парылі гняздзечка пастушкі,
Пабралі яечкі хлапчукі.
Сядзела дзяўчына за сталом,
Прыхіня галоўку к сталочку.
Сядзела і казала:

* Кожны радок паўтараецца.

— Хто маю касіцу распляце,
Хто маю галоўку прыбярэ?
Касіцу расплёў брацелька,
Стужкі пабралі падружкі,
Галоўку прыбрала сястрыца.

## 1144

Шчабятала ластаўка ў садочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку.

Шчабеча, шчабеча ды пяе:
— Хто маё гняздзечка разаўе?

Хто маё гняздзечка разаўе,
Хто мае дзетачкі пабярэ?

— Разаўюць гняздзечка вераб'і,
Пабяруць дзетачкі пастушкі.

Плакала дзевачка ў каморы,
Палажыўшы ручачку на стале.

Плакала, плакала ды ўздыхала:
— Хто ж маю косачку распляце?

Хто ж маю косачку распляце,
Хто ж мяне да шлюбу завязе?

— Распляце косачку большы брат,
Завязе да шлюбу старшы сват.

## 1145

Закувала зязюлька ў садочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку:

— Бедная мая галоўка на свеце,
[Бедная мая галоўка на свеце.]

Хто маё гняздзейка разаўе
І хто мае дзетанькі ў бор пабярэ?

Аказаўся салавейка ў бары:
— Не плач, зязюлька, не тужы.

Не плач, зязюлька, не тужы,
Я, твой салавейка, не чужы.

Я тваё гнездзейка разаўю
І твае дзетанькі ў бор пабяру.

Заплакала дзевачка ў святліцы,
Прылажыўшы галоўку к стальніцы:

— Хто ж маю косаньку расплязе,
Мяне да шлюбу завязе?

Аказаўся брацейка ў каморы:
— Я, твой, сястрыца, радзоны.

Я тваю косаньку распляту,
Я цябе да шлюбу завязу.

Будзе табе дарожка, як дошка,
Будзе табе калягінка, як стрэлка.

## 1146

Плавала вуціца па расе,
Плакала дзевушка па касе:
— Божа мой, божа,
Хто маю косаньку расплзцець,
Хто мае ўплёты прыбярэць,
Хто па мне жаласна паплачыць,
Хто па мне цяжало ўздыхнець?
— Брацец косаньку расплящець,
Сястрыца ўплёты прыбярэць,
Матушка жаласна паплачыць,
Татушка цяжало ўздыхнець.

## 1147

Уздыхнула нябога да бога:
— Хто маю косаньку, ой, расплязе,
Хто мяне да жалю давядзе,

Хто мяне да шлюбу завязе?
Выскачыў брат з каморы:
— Я, твой, сястронка, брат раджоны.
Я тваю косаньку распляту,
Я цябе да жалю давяду,
Я цябе да шлюбу завязу.

## 1148

Да плакала Верачка ў святліцы,
Прылажыўшы галоўку к зямліцы.

Да плакала і гаварыла:
— Мой божа!

Хто ж маю косачку разаўе,
Хто ж мяне, маладзеньку, забярэ?

Аказаўся Валодзік у сенях:
— Я ж тваю косачку разаўю,

Я ж тваю косачку разаўю,
Я ж цябе, маладзеньку, забяру.

## 1149

Да кахана Тамарачка, кахана,
Да золатам косачка скавана.
— Хто ж маю косачку раскуе,
Той мяне да шлюбу павядзе.

Ой, абазваўся Іванка:
— Я ж тваю косачку раскую,
Раскую,
Я ж цябе да шлюбу павяду.

## 1150

Дзе ж тыя кавалі,
Што русу косу часалі?
Няхай яны раскуюць,
Срэбра-золата разбяруць.

## 1151

— Ды красная Зосечка,
Калі з цябе тое было,
Што б ты служкі наймала
Русу косу расплятаці,
Слёзкі свае разліваці?

— Ды дзевачкі-сястрыцы,
Ды цяпер той дзень настаў,
Што да мяне братка прыстаў
Русу косу расплятаці,
Слёзкі мае разліваці.

## 1152

Сцеражыся, малада, кавалі ідуць.
Яны тваю косачку раскуюць,
Па валосіку развядуць,
Па белых плечках рассцелюць.

## 1153

— Брацейка да мой родненькі,
Падстрыжы маю косачку.

Падстрыжы маю косачку,
Падатры маю слёзачку.

Коска мая да русанькая,
Слёзка мая да дробненькая.

Я ў табе да купалася,
Штонядзелі да часалася.

Штонядзелі да часалася,
Да шлюбу прыбіралася.

— Да шлюбу, мая Ганначка,
Да шлюбу, маладзенькая.

Там табе ручкі звяжуць,
Там табе праўду скажуць

Із чужым-чужаніцаю,
З Коляю із вярніцаю,

Із чужым чужанюсенькім,
З Коляю із вярнюсенькім.

## 1154

— Брацітка родненькі,
Куды ж ты пашоў?
— У дзявоцкі цяром.
— А дзявоцкі цяром
З русых кос спляцён,
Жаласцю накрыты,
Слёзамі абліты.

## 1155

Брацічка мой родненькі,
А не руш косачкі,
Не'варві валасочка,
Не ўтані галасочка.

## 1156

Брацейка мой родненькі,
Не расплятай касы мае.

Не расплятай касы мае,
Не разлівай слязы мае.

Мая каса русенька,
Мая сляза драбненька.

Пашла жа мая каса
Пад цёмныя ляса,

Пад белае бярэзейка,
Пад тонкае гарэшайка.

## 1157

Да пашлі касцы-трапцы
Русую касу трапаць.*

Русую касу трапаць
І стужачкі пабіраць.

— Брацїткі мае родныя,
Не рушце касы маей,

Не рушце касы маей,
Не цярайце красы маей.

Да пашла ж мая каса,
Да як ранняя раса:

Без дожджу, без ветрыку,
Без яснага соўнейка.

## 1158

Да брацейка сваёй сястры косачку ўчэсвае,
Па валасках растрэпвае.

— Сястра мая маладзенька,
Твая косачка русанька.

Ты ж ёй красавалася
І нікога не баялася:

Ні свёкра, ні свякроўкі,
Ні дзевера, ні вятроўкі,

А цяпер, сястра, кідай красавацїся,
Трэба ўсякага баяцїся:

І свёкра, і свякроўкі,
І дзевера, і вятроўкі.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## 1159

Ой, мачок чарненькі,
Дзе ні пасей, то ты ўзыдзеш
Зялёным кусточкам,
Шырокім лісточкам.
Ганначко, маё дзіцятко,
Дзе ні пойдзеш — плакаць будзеш
Па сваёй да русай касе:
— Каса ж мая русая,
Як я ў табе красавалася
Да нікога не баялася:
Ні старога, ні малога,
Ні Іванка маладога.
А цяпер красавацьмуся
Да ўсякага баяцьмуся:
І старога, і малога,
І Іванка маладога.

## 1160

Косанька мая русая,
Я цябе ў нядзельку раненька часала,
А ў суботу позненька ўмывала.
Нашто галовушку заядаеш,
Нашто маю косаньку расплятаеш?
Ці яна грабенечку паламала,
Ці яна табе пасачку пацярала?
Нашто ты мае шаўковы ўплёты выплятаеш?

## 1161

Няма горшага ката,
Як над роднага брата:

Ён стаіць над сястрою,
Над русаю касою.

Яму самому не ўгадаці,
Што за дзела зачаці:

Ці касу расплятаці,
Ці галоўку сцінаці.

Лепш касу расплятаці,
Чым галоўку сцінаці.

## 1162

Няма горшага ката,
Як над роднага брата:
Ён і коску ваюе
І галоўку турбуе,
Валасок вырывае,
Галасок вынімае.

## 1163

Няма горшага ката (2)
Над роднага брата: (3)
Як сеў за плячыма (3)
З яснымі свячыма, (3)
Расплёў ёй косачку, (2)
Разліў ёй слёзачку.

## 1164

Нет горшага ката,
Як роднага брата:

Косачку расплятаець,
У галоўку таўкаець.

Галоўку турнуець,
Уплёты бузуець.

## 1165

Ой, сціха вятрэц павявае,
Брат сястры косы расплятае.
— Расплятай, браце, як найпрэндзэй,
Не задавай сястры жалю венцэй.
Расплятай, браце, а не таргай,
Бо вытаргаеш залаты таляр.

## 1166

Склані на стол галоўку,
Нех ці расплеце брацік косаньку,
Нех павыплятае ядвабны шнурочкі,
Няхай пааддае мацюнцы ў ручкі,
Няхай мацюнька схавае ў скрыню,
Бо ўжо пойдзеш за гаспадыню.

## 1167

Да брат косачку расчасаў.
— Дзе ж тыя ўплёты падзяваў?

Дзе ж тыя ўплёты падзяваў?
— Меншай сястрыцы перадаў.

Меншай сястрыцы перадаў:
«На табе, сястрыца, й уплёты.

На табе, сястрыца, й уплёты,
Святога дзянёчка работы.

Святога дзянёчка работы:
Хатку не мяла — усё пляла.

Хатку не мяла — усё пляла,
Ложак не мыла — часала.

Ложак не мыла — часала,
Свайго Іванечку дажыдала».

## 1168

Ой, брат сястру расплятаў,
Расплятаў.

— Дзе тыя ўплёты падзяваў?
Падзяваў.

— На стале паклаў, брат пабраў,
Брат пабраў.

Меншай сястрыцы дараваў,
Дараваў:

«На ж табе, Мар'ечка, сястрын знак,
Сястрын знак.

Ды й судзі, божа, табе так,
Табе так.

Ні сяголета — налета,
Налета.

Такой парой, як гэта,
Як гэта».

## 1169

Брат касу расплятае,
Дзе каснікі дзявае?
Кладзе на ўслоньцы,
Няхай будуць меншай сястронцы.

## 1170

Вот братка сястры касу расплятаў.
— Да дзе ты ўплёты падзяваў? *

— Да вазіў на месца — не прадаў,
Меншай сястрыцы так аддаў:

«На табе, сястрыца, уплёты,
Да гатуй косы — не намёты.

Да на табе, сястрыца, каснічкі,
Да гатуй косы — не ручнічкі».

---

* Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

## 1171

Да не брат касу чэша,
Да чужы-чужаніца,
З чужой старональкі,
З людской намованькі.
Да не брат косаньку расчасаў.
— Дзе ж тыя ўплёты падзяваў:
Чы меншай сястры аддаваў,
Чы на мора, чы на Дунай папускаў?
— Ні на мора, ні на Дунай не пускаў,
Меншай сястры не даваў—
Сам сабе чобаты падвязаў.

## 1172

Брат маю косаньку расчасаў,
Дзе мае ўплёты падзяваў?
Дзе мае ўплёты падзяваў:
Ці на мора, ці на Дунай папускаў?
Папускаў уплёты на рэкі,
Расчасаў косаньку навекі.

## 1173

Мне брат косаньку расчасаў,
Дзе мае ўплёты падзяваў:

Чы на Дунай-мора папускаў,
Чы свае ботанькі падвязаў?

Як ножанькаю ступяне,
То сястрыцу ўспамяне:

— Тут мая сястрыца хадзіла,
Вернае дзелачка рабіла.

## 1174

— Ой, чый жа брацейка
Русу косу расплятаў,
Русы валасы расчасаў?

— Гэта Надзеччын брацейка
Русу косу расплятаў,
Русы валасы расчасаў.

## 1175

Распляці касу,
Чырвоны расток
Пусці пад масток,
Чырвоная калінка — Марынка.

## 1176

Раскідай, божа, братняе жыта
Па полі па каласочку,
Як ён раскідаў маю косачку
Па плечках па валасочку.

Да збяры, божа, сястрыно жыта
Па полі па каласочку,
Як яна сабрала маю косачку
Па плечках па валасочку.

## 1177

Растрасі, божа,
Братнюю копу на полі па коласу.

Растрасі, божа,
Сястрончыну косу па плячах па воласу.

Збяры, божа,
Братнюю копу на полі па коласу.

Збяры, божа,
Сястрончыну косу па плячах па воласу.

## 1178

Пасеяў божа буйное жыта
Да й у полі па каласочку,
Да й у полі па каласочку.
Раскідаў братка сястрыну коску
Па плечках па валасочку,
Па плечках па валасочку.
Да збяры, божа, буйное жыта
Да й у полі ў копачку,
Да й у полі ў копачку.
Да збяры, братка, сястрыны валоскі
Па плечках у косачку,
Па плечках у косачку.
Да збяры, божа, буйное жыта
Да й у полі ў ямачку,
Да й у полі ў ямачку.
Да збяры, братка, сястрыну коску
На плечках у тканачку,
На плечках у тканачку.

## 1179

Застрыганае дзіця
Застрыгаціся хоча,
Ручачкі пакладае,
Слёзачкі пралівае.

## 1180

Біце камень, біце,
Агню даставайце,
Свечачку зажыгайце,
Дзевачку застрыгайце.

## 1181

Беце, беце да біты камень,
Агню даставайце,
Маладу застрыгайце.

Білі, білі біты камень,
Агню даставалі,
Маладую застрыгалі.

### 1182

Сашлі, божа, з неба,
Што нам сёння трэба:

Свечачкі васкавыя,
Ножнічкі залатыя.

Свечачкі зажыгаюць,
Ножнічкі падстрыгаюць.

Ножнічкі падстрыгаюць,
Да шлюбу выпраўляюць.

Там усю праўду скажуць,
Белыя ручкі звяжуць.

### 1183

Краменю-раменю,
Да дай нам агню
Свечы запаліці,
Маладых прысмаліці.

Ой, добры жа наш крамень
Да даў жа нам агню.
Свечы запалілі,
Маладых прысмалілі.

### 1184

Асцерагайся, дзеванька,
Сустрыгалначка ідзе,
Пад шатрам свечку нясе,

Пад крылам ножны дзяржыць.
Застрыжэ тваю косаньку,
Разалье тваю слёзаньку.

## 1185

Усцерагайся, дзевачка,
Застрыганачка едзе.

Застрыжэ тваю косаньку,
Разалье тваю слёзаньку.

Застрыжэ да русенькую,
Разалье драбненькую.

## 1186

І ці не жаль табе, дзеванька,
Да дзявоцкага гуляння?
Дзявочкі ідуць,
Косачкі маюць,
А цябе застрыгаюць.

## 1187

Стрыжы, цётачка, стрыжы,
Па валасочку бяры.

Па валасочку бяры,
Хораша, галоўкі не скрані.

Хораша, галоўкі не скрані,
Гарачых слёзак не разлі.

Русыя коскі ў жменьку,
Дробныя слёзкі ў пяленку.

# ПАРА МАЛАДЫМ НА ПАСАД

## 1188

У саду дзеванька вянкі ўе,
А да яе бацэнька паслы шле:
— Пакінь, дочанька, вянкі віці,
Час табе на пасад ісці.
— Сцяліце коўдры — я іду,
Благаславі, бацэньку,— я сяду.
Ой, у саду, у саду пад гарыш'ем,
Там бяліла дзеванька ручнічкі,
Там прыйшоў бацэнька да яе:
— Бялі, донечка, хуценька,
Ужо твае госценькі блізенька.
— Няхай ідуць здаровы,
Мае ручнічкі гатовы.

## 1189

Хадзіла Валечка па садзе,
За ёй мамачка пазадзе.
— Досыць табе, дзіцятка, хадзіці,
Пара цябе на пасадзік садзіці.
— А не пара, мамка, а не пара —
Я сабе вяночак не звіла.
— А пара, маё дзіцятка, пара —
Твая сястрыца табе вяночак звіла.

## 1190

А хадзіла малада Надзечка па двару,
А савіла сабе вяночак з чабару.
А за ёю сястрычка хадзіла,
Яна ж яе дамовачкі прасіла:
— А досыць табе, мая сястрычка, хадзіці,
А ўжо пара цябе на пасад садзіці.

## 1191

— Чаму, Марыська, на пасад не йдзеш,
Чаго жджэш?

— Дзіўныя людзі, ці так пайду,
Як стаю?

Рассцілайце шоўкаў кавёр —
Я сяду.

Да благаславіць мой ойчанька —
Я пайду.

Благаславі, мой ойчанька, славамі
Добранькімі,

А я да цябе слязамі
Дробненькімі.

## 1192

Ляцелі гусанькі цераз сад.
— Час табе, Марысенька, на пасад.
— Сцяліце каўры — я іду,
Благаславі, баценька,— я сяду.
Благаславі, баценька, жычліва,
Каб была ўвесь век шчаслівa.

## 1193

Ляцелі гусанькі чэраз сад,
Звалі княгіню на пасад.
— Благаславі, баценька, мне сесці
На шчаслівым месцы.
Благаславі сесці — я сяду,
Благаславі ісці —я пайду,
Ваша благаславенства вазьму,
Хоць бы не дзяньгамі —
Добрымі славамі.

## 1194

Ляцелі гусі-лебедзі чэраз сад,
Клікалі красную дзеваньку на пасад.
— Засцель чырвон колер, то пайду,
Палажы кажух, то й сяду.

## 1195

Як ляцела шэра зязюля цераз сад,*
Ды сказала й маладой Анютцы на пасад.
— Ды што табе, й шэра зязюля, да таго?
Ёсць у мяне родна матулька на тое.
Скажыць сесці на пасадзе — я сяду,
Скажыць злезці мне з пасаду — я сайду,
Я й сама русу касіцу зачашу.

## 1196

Ляцелі гусачкі цераз сад.
— Ці пара, Ганулька, на пасад?
— Што вам, гусачкі, да таго?
Ёсць у мяне мамачка для таго.
Блаславіць месцечка — я пайду,
А паставе крэслечка — я сяду
На тым жа куце-золаце
І на тым крэслечку залатым,
У тым жа месце шчаслівым.

## 1197

Ляцелі гусачкі чэраз сад,
Клікнулі Маланку на пасад.
— Што вам, гусачкі, да таго?
Ёсць у мяне татачка для таго.
Пасцелець каўры — я й пайду,
Благаславіць сесць — я й сяду
У шчаслівым месце — на куце,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Як золат персцень на руцэ.
Шаруюць персцень на руцэ,
Шануюць Маланку на куце.
Расступіцеся, баяры,
Будзе мяне татачка даравацъ
А вялікім дарам — пасадам,
Шчасцем-доляю наперад.

## 1198

Ляцелі гусачкі цераз сад,
Махнулі крылачкамі на ўвесь сад:
— Пара табе, Гапачка, на пасад.
— Ой, што ж вам, гусачкі, да таго?
Есць у мяне мамачка для таго.
Яна мяне харашо нарадзіць,
На божым месцечцы пасадзіць,
Яна мне кароўку падарыць.

## 1199

Ляцелі гусанькі чэраз сад,
Клікалі дзеваньку на пасад.

— Што вам, гусанькі, да таго?
Е ў мяне бацэнька для таго.

Што ён мяне з маленькае гадаваў,
Ён для мяне чырвончыкі гатаваў.

То ён мяне на пасадзе пасадзіць,
То ён мяне чырвончыкам падарыць.

## 1200

Да ляцелі гусачкі цераз сад,
Крыкнулі-гукнулі на ўвесь сад.

Крыкнулі-гукнулі на ўвесь сад:
— Пара табе, Кацярынка, на пасад.

— Да што ж вам, гусачкі, да таго?
Есць у мяне панойцы для таго.

Яны й мяне да шлюбу выправяць,
Братка мяне на пасад пасадзіць.

## 1201

Ляцелі гусачкі чэраз сад:
— Час табе, Волечка, на пасад.

— Да што вам, гусачкі, да таго?
Есць у мяне брацейка для таго.

Да ён мне радачку парадзіць,
Ён мяне на пасад пасадзіць.

Ён маю косачку распляце,
Ён мяне да шлюбу завязе.

## 1202

Ой, ляцелі гусанькі цераз сад,
Пасадзілі Настачку на пасад.
— А што жа вам, гýсанькі, да таго?
Есць у мяне ойчанька ад таго.
А ён жа мне раданьку парадзіць
І ён мяне на пасад пасадзіць.

Гыля, гыля, гусанькі, на ваду,
Ест у мяне й брацейка у раду,
А ён жа мне раданьку парадзіць
І ён мяне на пасад пасадзіць.
Ой, ляціце, гусанькі, на ваду,
Не нясіце, гусанькі, мне бяду.

## 1203

Ляцелі гусанькі цераз сад,
Клікалі дзеваньку на пасад.

— Што вам, гусанькі, да таго?
Е ў мяне матанька ля ўсяго.

Да чаго не будзе, то яна дабудзе.
Да чаго не стане, то яна дастане.

Ляціце ж, гусанькі, на ваду,
А я на пасад зараз іду.

Янгелы божы падушачку носяць,
Добрыя людзі ў бога долі просяць.

Янгелы божы падушачку слалі,
Добрыя людзі долі папрахалі.

## 1204

Ляцелі гусачкі чэраз сад,
Крыкнулі-гукнулі на ўвесь сад:
— Час табе, Аўдоцька, на пасад.
— Да што ж вам, гусачкі, да таго?
Ёсць у мяне бацюхна для таго.
Да ён жа мне радачку парадзе,
Ён мяне на пасад пасадзе,
Ён мне дзежачку паставе — я й сяду,
Пярэйдзе сцежачку — я й пайду.
Не так жа я пайду, як стаю:
Трэба мне шкляначкі поўненькай,
Трэба мне кубачка поўнага,
Трэба мне бацюхна роднага.

## 1205

Ляцелі гусачкі цераз сад,
Гукалі Томачку на пасад: *
— На пасад, Томачка, на пасад.
— Што вам, гусачкі, да таго?
Ёсць у мяне татачка для таго.
Дасць і месцечка — я сяду,
Дасць і чарачку — я вып'ю,
Дасць і другую — я й тую,
А за трэцюю чалом б'ю,

---

* Кожны наступны радок паўтараецца.

За чацвёртую сама йду.
Пабіла чалом за дваром,
Горкай гарэлкай за сталом.

## 1206

Ляцелі гусанькі цераз сад,
Крыкнулі-гукнулі на ўвесь сад:
— Пара табе, Анісця, на пасад.
— Нет вам, гусанькі, да таго,
Ёсць у мяне бацюшка ля таго.
Пасцеліць каўры — я пайду,
Благаславіць сесці — я сяду,
А дасць чарачку — я вып'ю,
А дасць другую — я тую,
А за трэцюю дзякую,
За чацвёртую з двору іду.
Дабранач, бацька, дабранач,
А не буду к табе я на нач,
А не на адну ночку — на ўвесь век.
Не на адну мяне, маладу,
Што ёсць дзевушкі у раду,
То ўсе са мною нараду.

## 1207

Ляцела шэра зязюля чэраз сад.
— Пара, пара табе, дзяўчынка, на пасад.

— Што табе, шэра зязюля, да таго?
Ёсць у мяне родна матулька для таго.

Як скажыць на пасад сесці — я й сяду,
А як скажыць з пасаду ўстаці — я ўстану.

Засцяліць чысовы сталы — я й зайду,
Як скажыць з-за столу выйсці — я й выйду.

Адамкнуць царкевачку — я й увайду,
А засцелюць кавёрчыкі — я ўзыйду.

Будуць мяняць пярсцёначкі — я й буду,
Будуць пытацца ўсю праўдачку — я й скажу.

1208

Ляцелі гусачкі чэраз сад, (2)
Крыкнулі-гукнулі на ўвесь сад: (2)
— Час табе, дзевачка, на пасад. (2)
— А што вам, гусачкі, да таго?
Ёсць у мяне бацюшка для таго.
Як скажаць сесці — ■ й сяду,
Заложа конікі — і паеду,
Адчынюць цэркаўку — я ўвайду,
Засцелюць каберац — я й стану,
Звяжуць ручачкі — я й звяну.

1209

Ды ляцела шэра зязюля чэраз сад.
— Час табе, млода Ганнушка, на пасад.
— Што табе, шэра зязюля, да таго?
Ёсць у мяне родна матулька ля таго.
Як засцелюць цісовы сталы — я й зайду,
Як закладуць пару коні — я й паеду,
Як адамкнуць царковачку — я й увыду,
Як засцелюць каберчыкі — я й скажу,
Будуць мяняць пярсцёначкі — я й буду.

1210

Ляцела зязюля цераз сад,
Клікала дзеваньку на пасад.

— Уставай, дзеванька, доўга спіш,
Чым свае сваточкі падорыш?

— Што ж вам, дзевачкі, да таго?
Ёсць у мяне матуля для таго,

Прынясе падарка белага,
Абвяжа сваточка мілага.

## 1211

Нясіце дзежачку хлебную,
Вядзіце мамачку родную.
Ані мне дзежачкі не нясуць,
Ані мне мамачкі не вядуць.
Хлебная дзежачка для славы,
Родная мамачка благаславі.

## 1212

Стаяла каліна ды ля варот,
Ой, стаяла каліна ля варот.
Прасілася яна ды у гарод,
Ой, прасілася яна у гарод:
— Чаму мяне ў гародзе не садзяць,
Ой, чаму у гародзе не садзяць?
У тым гародзе ды на градзе,
Ой, у гародзе на градзе?
На той капуснай ды баразне,
Ой, на капуснай баразне?
Стаяла Аленка ды між дзяўчат,
Ой, стаяла Аленка між дзяўчат.
Прасілася Аленка ды ў дзяўчат,
Ой, прасілася Аленка ды ў дзяўчат:
— Чаму мне радачкі ды не радзяць,
Ой, чаму мне радачкі не радзяць?
Чаму мяне на пасад ды не садзяць,
Ой, чаму мяне на пасад не садзяць?
На тым пасадзе ды на куце,
Ой, на тым пасадзе на куце?
На тым бяленькім ды кажусе,
Ой, на тым бяленькім кажусе?

## 1213

Шумліва каліна-дзерава:
Ой, борам ішла — шумела,
На поле ўзышла — заззяла,
У сяло увайшла — зайграла,
К варотам прыйшла — стукнула,
К вакну падышла — гукнула:

— А ці дома, дома, дзевачка?
Укажы каліне дарогу.
— Некалі каліну вадзіці,
А пара вінаград садзіці.
Пасаджу вінаград паміж град,
А сама, малада, на пасад.

## 1214

— Да ўжо часіна, да ўжо гадзіна,
Чаму таго пасаду няма?
— Гэта з панойца, гэта з роднага
Добрага ладу няма.

— Да ўжо часіна, да ўжо гадзіна,
Чаму таго пасаду няма?
— Гэта з мамкі, гэта з роднае
Добрага ладу няма.

— Да ўжо часіна, да ўжо гадзіна,
Чаму таго пасаду няма?
— Гэта з сястрыцы, гэта з роднае
Добрага ладу няма.

## 1215

— Ой, дзе ж у цябе, мой жаніхна,
Да й баценька нямае,
Што ў тваёму пасаданьку
Да й парадку нямае?

— Ёсць у мяне баценька,
Да й вельмі старэнькі,
То й у маёму пасаданьку
Парадачку нямае.

## 1216

Кукуе зязюля ў садочку,
Прылёгшы галоўкай к лісточку.

Кукуе, кукуе ды кукне:
— Да хто ж маё гняздзечка разаўе?

Адазваўся салавей у лузе:
— Я табе, зязюля, у паслузе.

Я тваё гняздзечка разаўю,
Маленькі дзетачкі пабяру.

Ой, плача Агатка ў святліцы,
Прыклаўшы галоўку к зямліцы.

Яна плача, плача ды ўздыхне:
— Хто ж мяне на пасад павядзе?

Адазваўся брацейка ў святліцы:
— Я буду ў паслузе сястрыцы.

Я цябе на пасад павяду,
На дзяжы на хлебнай пасаджу.

## 1217

Дайце нам скрынанькі,
Далатца гастрэнькага
Прыбіваці свяценькага.
Дружаньку галованькаю
Не сякеры штукаці —
Пасаг забіваці.
Можна й такі раду даці.

## 1218

Наш дружанька церам будуе,
А ў тым цераме не многа быці —
Ад суботанькі да сераданькі.

# БРАТ ВЯДЗЕ МАЛАДУЮ НА ПАСАД

## 1219

— Ці ё ў цябе, Дарачка, родны брат?
Хто ж цябе завядзець на пасад,
На шчасліваe месцечка,
На залатое крэслечка?
— Ёсць у мяне брацішка Міллянка,
Ён мяне завядзець на пасад,
На шчасліваe месцечка,
На залатое крэслечка,
На бялёвенькі ручнічок.

## 1220

— Ой, садзе, мой пасадзе,
Хто ж цябе пасадзе,
Хто ж цябе пасадзе?
— Да мяне пасадзе родны брат —
Із вечара цёмнага,
Із вечара цёмнага
Да месячка поўнага.

## 1221

— Дзе ж твой, Ганначка, старшы брат,
Чаму не вядзе цябе на пасад?
— А мой старшы брат у каморы,
Выбірае сабе ўборы.
Як уборы дабярэ,
Тады мяне на пасад павядзе.

## 1222

Дзе ж твой, Ніначка, большы брат?
Большы брат.
Што ж цябе павядзе на пасад?
На пасад.
Вышаў братачка з каморы,
З каморы,
Пусціў па сенях да размовы,
Да размовы.

## 1223

— Прыстаньце, прыступіцеся,
Нам дарожку прапусціце:

Брат сястру на пасад вядзе
Да ў ручкі хустку дае.

— О брацейка мой родненькі,
Ці ты мяне на загон вядзеш?

Ці ты мяне на загон вядзеш,
Што ў ручкі сярпа не даеш?

— Сястрыца мая родная,
Я ж цябе за стол вяду.

Я ж цябе за стол вяду
Да ў ручкі хустку даю.

Хустку даю бяленькую,
Са слёзак макрэнькую.

## 1224

А брат сястру вядзець,
Ён ручніком зямлю мяцець.

Ён шоўкам памятаіць,
Золатам пасыпаіць.

— Да вядзі, браце, вядзі,
Да на золаце садзі,

Да на золаце-крэсле,
Да на шчаслівым месце.

## 1225

А брат сястру вядзе,*
Шаўком зямлю мяце,

Аўсом пасыпае,
Золатам палівае.

— А вядзі, брат, вядзі,
На покуце садзі,

На покуце ў крэсле,
На шчаслівым месцы.

## 1226

Ой, сонейка калясом ідзе,*
Брат сястру на пасад вядзе.

Брат сястру на пасад вядзе,
Вядзе, вядзе ды вітаецца.

Вядзе, вядзе ды вітаецца,
Брат сястру ды пытаецца:

— Сястрычачка ж мая,
Ой, ці дужа здарова?

Ой, ці дужа здарова,
Ой, ці добрая доля?

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

31. Зак. 2120

## 1227

У гародзе явар расце,
Брат сястру за стол вядзе.

Брат сястру за стол вядзе,
А яна яму ў ножанькі ўпадзе:

— Дзякую, браце, за вяночак,
Дзякую, браце, за руцвяны.

— Не дзякуй, сястра, мне, маладому,
Дзякуй богу найвышшому,

Што здарованька хадзіла,
У бога доленькі ўпрасіла.

## 1228

Брат сястру на пасад водзіць,
Залаты кубак у руках носіць.
— Кланяйся, сястра, нізюсенька,
Каб было богу прыямнюсенька.
Ад старшага да да мнейшага,
Свайму войчаньку што найпершаму.

## 1229

Брат сястру за стол вядзе,
Каліну прахіляе, сястронку навучае:
— Будзь, сястронка, пакорная, кожнаму пакланіся:
Старому і малому, бацэнькові сваёму.

## 1230

Брат сястру за стол вядзе,
Да ведучы, навуча(е):

— Май свякруху за мамачку,
А свякорку за татач(ку).

А дзеверка за брацейка,
А завіцу за сястрыц(у).

## 1231

А брат сястру за стол вядзець.
Каліна, каліна, ягада чырвона.*

За стол вядзець, навучаець:
— А й будзь, сястра, сама добра.

Будзець табе свёкарка,
Як родны татухна.

Будзець табе свякроўка,
Як родная маці.

Будзець табе дзеверка,
Як родны брахненька.

Будзець табе залоўка,
Як родна сястрыца.

## 1232

Брацейка мой родненькі,
Ці вяліш ты мне сесці,
Ці яшчэ пастаяці,
У бога долі папрасіці,
Гадзіначкі шчаслівае?

Не сяду, не сяду,
На сваём пасадзе.
Няхай брацейка войдзе
Мяне паблагаславіць,
На пасадзе пасадзіць.

## 1233

Брат сястру на пасад вядзе,
Сам сільненька плача:
— Тут маей сястры сесці,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнай страфы.

Тут маей роднай сесці
Да на гэтым месце.
Тут мая сястра сядзе,
Тут мая родная сядзе
Да на гэтым пасадзе.

## 1234

Да вядзе братка сястру,
Да вядзе братка сястру
Па калінавым масту.
Да калінавы масты гнуцца,
Да калінавы масты гнуцца,
Да ў сястрычкі слёзы льюцца.

## 1235

Брат сястру на пасад вядзе,
Гібкую кладку кладзе.

Кладачка да гібенькая,
Сястрыца маладзенькая.

Кладачка ўгібнулася,
Сястрыца ўлякнулася.

Кладачка да гібу-гібу,
Сястрыца да хілу-хілу.

## 1236

Брат сястру на пасад вядзе,*
Гібкія кладкі кладзе.

— Кладачка, не згібніся,
Сястрыца, не злякніся.

Кладачка згібнулася,
Сястрыца злякнулася.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Сястрыца злякнулася,
Ад мамачкі адхінулася.

Ад мамачкі адхінулася,
К Іванечку прыхінулася.

## 1237

Брат сястру на пасад вядзе,
Гібкую кладку кладзе,
Кладзе.
Гібкую кладку кладзе.
— Кладачка, не згібніся,
Не згібніся.
Кладачка, не згібніся,
Сястрыца, не ўлякніся,
Не ўлякніся.
Сястрыца, не ўлякніся.
Кладачка згібнулася,
Згібнулася.
Кладачка згібнулася,
Сястрыца злякнулася,
Злякнулася.
Сястрыца злякнулася,
Брату на ножкі пала,
Пала.
Братку на ножкі пала.
— Братачка мой родненькі,
Родненькі.
Братачка мой родненькі,
Нейдзе ж табе не жаль мяне,
Не жаль мяне.
Нейдзе ж табе не жаль мяне.
Адну сястру маеш,
Маеш.
Адну сястру маеш
І тую прапіваеш.

## 1238

Да брат сястру на пасад вядзе,
Да за белую ручку.
Сільна плача, месца прача.
— Тут мая сястра сядзе.
— Мой брацейка, мой родненькі,
Ці дадзела ж я табе?
— Мая сястрыца, мая родная,
Не ты мне дадзела —
Дадзелі твае госцейкі,
Часта частуючы.
Да штодзень, штодзень —
Усё іншыя,
Штонядзельку — усё лепшыя.

## 1239

Сонечка калясом ідзе,
Брат сястру на пасад вядзе.*
Вядзе, вядзе, азіраецца,
Брат сястрыцы пытаецца:
— Сястрыца мая родная,
Як жа мне да надаела,
Да на пасадзе ходзячы,
Сястру за ручку водзячы.
— Братачка мой родненькі,
Не сварыся са мною,
Расстаёмся да з табою.

## 1240

Братка сястру на пасад вядзе, **
А сястрыца й упіраецца.

А сястрыца й упіраецца,
Слёзачкамі й абліваецца.

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— Ой, брацічка родненькі,
Ці ж я табе надакучыла?

Чым я табе надакучыла,
Ці сваімі госцікамі?

— Надакучылі твае госцікі,
Штосуботку прыязджаючы,

Штосуботку прыязджаючы,
А ў нядзельку ад'язджаючы.

## 1241

Бацька дачку на пасад вядзець,*
Дачка бацьку да ног падзець:

— Татулька мой родненькі,
Чым жа я табе здакучыла?

Ці раннімі ўстанамі,
Ці ціхімі паходамі?

Ці ціхімі паходамі,
Ці нізкімі ўклонамі?

— Дачушка мая, родная мая,
Не ты мне здакучыла.

Дакучылі мне сваты твае,
Што раненька прыязджаюць.

Што раненька прыязджаюць,
Позненька ад'язджаюць.

## 1242

Эй, сонейка да ў сон ідзе,
Да ў сон ідзе.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Братка сястру на пасад вядзе,
На пасад вядзе.

Сястра брату да да ног пала,
Да ног пала.

— Братачка ты мой родненькі,
Мой родненькі,

Чым я табе надакучыла?
Надакучыла.

Да ці русаю касою?
Касою.

Ці дзявоцкаю да красатою?
Красатою.

Ці позненькім да гуляннейкам?
Гуляннейкам.

Ці гладзенькім зачасаннейкам?
Зачасаннейкам.

— Сястрыца мая родная,
Родная.

Нічым ты мне не надакучыла,
Надакучыла.

Надакучыла ты мне да сваімі сватамі,
Сватамі.

Штосуботу прыязджаючы,
Прыязджаючы.

Штонядзелю ад'язджаючы,
Ад'язджаючы.

## 1243

Брат сястру на пасад вядзе,
Яна яму да да ног падзе:
— А мой жа ты братачка,
Чым я табе надаела?
Ці русаю касою,
Ці сваёй красою?
— Нічым ты, сястрыца, не надаела:
Ні русаю касою,
Ні сваёю красою.
Надакучылі твае сваты,
Што ў суботу прыязджаюць,
А ў нядзелю ад'язджаюць,
Што ў суботу з канём на двор,
Што ў нядзельку з віном за стол,
Наш двор капытамі збіты,
Наш стол ды віном зліты.

## 1244

Сонейка кала акон ідзе,
Брат сястру на пасад вядзе,
Сястра яму да ног падзе:
— Брат мой родненькі,
Чым я табе надаела?
Ці ціхаю паходкаю,
Ці сваею работкаю,
Ці русаю касою,
Ці сваёй красою?
— Сястрыца мая родная,
Не ты мне надаела,
Надаелі сваты твае:
Штосуботку прыязджаюць,
Штонядзельку ад'язджаюць.
Штосуботку мой двор збіты,
Штонядзельку мой стол зліты.

## 1245

— Мамулечка мая родная,
Мамулечка мая родная,
Чым табе я прыдакучыла?
—А дачушачка ж мая,
А дачушачка ж мая,
Прыдакучылі людзі:
З двара не з'язджаюць,
З двара не з'язджаюць,
На руках шапку носяць,
На руках шапку носяць,
На руках шапку носяць
Ды цябе ў мяне просяць.

## 1246

Брат сястру на пасад вядзе,
А яна яму да ног падзе:
— Мой брацейка, мой родненькі,
Чы дадзела я табе?
— Мая ж сястрыца, мая родная,
Да не ты ж мне дадзела,
Да дадзелі ж мне, дадзелі
Частыя госці твае:
Із падвор'я не з'язджаюць,
Із конікаў не злязаюць,
І конікі томяць,
І шапачкі ломяць.
Коні патамілі
І шапачкі паламілі,
Пакуль цябе маладзенькую ўзялі.

## 1247

— Мамулечка мая родная,
Чым я табе надакучыла?
Ці гульнёю, ці работаю,
Ці сваімі ды прыборамі?
— Дачушачка мая любая,
Нічым ты мне не дакучыла:

Ні гульнёю, ні работаю,
Ні сваімі ды прыборамі,
Надакучылі сваты
Невыходжыя з хаты.
Із хатачкі не выходзяць,
З двара не з'язджаюць.

## 1248

Дзевачка на пасад ідзець,
Мамульцы у ножкі падзець:
— Мамулька мая родная,
Чым я табе надаела?
Ці раннімі кірмашамі,
Ці познімі вечарынкамі?
— Дзіцятка маё роднае,
Нічым ты мне не надаела:
Ні раннімі кірмашамі,
Ні познімі вечарынкамі.
Надаелі твае госцейкі,
Штосуботку прыязджаючы,
Штонядзельку ад'язджаючы.

## 1249

На гарэ, на гарэ новы дом,*
А ў тым жа даму вяселле —
Брацец сястрыцу выдаець.
Выдаець, выдаець, пытаець:
— Хто табе, сястрыца, мілей усіх?
— Ах, мілей усіх бацюшка.
— Няпраўда твая, сястрыца,
Няверна тваё словачка.

На гарэ, на гарэ новы дом,
А ў тым жа даму вяселле —
Брацец сястрыцу выдаець.
Выдаець, выдаець, пытаець:
— Хто табе, сястрыца, мілей усіх?

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Мілей мне ўсіх мамачка.
— Няпраўда твая, сястрыца,
Няверна тваё словачка.

На гарэ, на гарэ новы дом,
А ў тым даму вяселле —
Брацец сястрыцу выдаець.
Выдаець, выдаець, пытаець:
— Хто табе, сястрыца, мілей усіх?
— Мілей мне ўсіх Іванка.
— Вот праўда твая, сястрыца,
Вот верна тваё словачка.

## 1250

Брат сястрыцу на пасад вядзе,
Брат сястрыцу на пасад вядзе.
Вядзе, вядзе, азіраецца,
Вядзе, вядзе, азіраецца,
Вядзе, вядзе, азіраецца,
У сястрыцы ды й пытаецца:
— А сястрыца мая родная,
А сястрыца мая родная,
Хто ж табе ды найраднейшы?
— Найраднейшы ды мой братачка,
Найраднейшы ды мой братачка,
А мілейшы ды мой хлопчычак.

## 1251

Ох, брат сястру за стол вядзе.
Ох, ён яе пытае:

— Сястра мая, сястра мая,
Ой, хто табе наймілей?

Ці татачка, ці мамачка,
Ці наймілей Іванька?

— Ні татачка, ні мамачка,
Мне наймілей Іванька.

## 1252

Брат сястру на пасад вядзе,
Сястра брату да слаўцо кладзе:
— Мой брацейка, да мой родненькі,
А што ж ты мне за пасаг дасі?
— Сто рублёў танюсенькіх,
Пару коней варанюсенькіх
І брычачку маляваную,
І сястрыцу гадаваную.

## 1253

Брат сястру
За стол заводзіць
Ды рожу ўспамінае.
— Не ідзі, сястрычка,
Проці лецечка,
Як рожа зацвітае,
А барвінчык,
Сіненькі цвяточак,
Садочкі засцілае,
А васілёчкі,
Харошыя кветачкі,
З плоцікам раўняюцца.
Ужо ж табе, Ганначка,
Ужо ж табе, душачка,
Гуляннечка мінаецца.

## МАЛАДЫЯ ІДУЦЬ НА ПАСАД

### 1254

Памалу, дружкі, ідзіце,
Пылу не рабіце,
Каб наша маладая пава
Пылам не прыпала.

### 1255

Калясом сонечка на гару йдзе,
Калясом яснае на гару ідзе.
Полкам малады на пасаг ідзе,
Полкам Івашка на пасаг ідзе.

### 1256

Станьце, дзеванькі, у тры радочкі,
Ідзі, мацi, пазнаваці дочку:
На плячы каса развіваецца,
А на тварыку сляза разліваецца.

### 1257

Зайграйце, музыкі, жалосна,
Пастаньце, дружбанты, раскошна.
Пастаньце, дружбанты, усе ў рад —
Будзе йсці Ганначка на пасад,
Коскамі плечы ўсцілаючы,
Слёзкамі дарожку заліваючы.

## 1258

Станавіся, радзіма, ўсенька ў рад —
Будзе ісці дзевачка на пасад,
Па плечыках коскі распусціць,
Па лічыку слёзкі разалье,
Коскамі зямліцу падмяце,
Слёзкамі ножачкі паліе.

## 1259

Зайграйце, музыкі, зайграйце,
Ой, рана, раненька зайграйце,*
На новым ганачку стоячы,
Маладу Анечку ведучы.

Карыся, Анечка, карыся,
Кожнаму ў ножкі скланіся.
І старых, і малых не мінай,
Кожнаму ў ножкі падай.

## 1260

Станавіся, радзіначка, уся ў рад —
Ідзе наша Марачка на пасад.
І ўсю яна радзіначку абышла,
І сваю яна матачку знайшла.
І ўся яе галовачка ў квеце —
Е яе матачка на свеце.

## 1261

Станавіся, радзіначка, уся ў рад —
Ідзе наша Адарка на пасад.
Палавіны радзіначкі не сышла
Да свайго бацюхна нашла,
Пакланіўшыся та й пашла.

---

* Рэфрэн «Ой, рана, раненька» паўтараецца пасля кожнага радка з апошняй яго трохскладовай групай.

## 1262

Зборная гадзінка настала,
Млода Маша дружынку збірала.
Сабраўшы дружынку, садзіла:
— Пасядзьце, сваточкі, усе ў рад —
Тут пойдзе Маша на пасад,
Нізенька галоўку хілячы,
Дробныя слёзкі льючы,
Белыя ручкі ломячы.
То ж яе шчасце і доля,
Ёсць яе бацюхна ў доме:
Ёсць каму параду парадзіці,
Ёсць каму да шлюбу выправіці.
Бацюхна параду парадзе,
Матухна да шлюбу выправе.

## 1263

Пастаньце, суседцы, усе ў рад,
Ой, рана-раненька усе ў рад —
Тут пойдзець Марыська на пасад,
Нізенька галоўку клонячы,
У бога долечкі просячы.
А першы паклончык матульцы,
А другі паклончык татульку,
А трэці паклончык брацітку,
Чацвёрты паклончык сястрыцы.
— Пакорна Марыська, пакорна,
Рана-раненька паклонься.
Старога, малога не мінай,
Кожнаму нізенькі паклон дай.
У бога долечкі дабывай,
На сваю радзіну не забывай,
Рана-раненька не забывай.

## 1264

Зборная гадзінка настае,
Алеська дружынку збірае.

Збірае дружынку, збірае
Ды ўсё ў адзін радочак стаўляе.

— Пастаньце, дзевачкі, усе ў адзін рад,
А я, маладзенькая,— на пасад.

— Спасайся, Алеська, спасайся,
Старому, малому пакланяйся.

Старога, малога не мінай,
Нізенька галоўку прыхіляй.

## 1265

— Баславіце, панове,
У паўрэдзенькі ўвайсці.

У паўрэдзенькі ўвайсці,
Залатое месцечка знайсці

З краснымі да дзевачкамі,
З маладымі малодачкамі.

— Да дзіцятка маё роднае,
Няхай цябе бог благаславіць.

## 1266

Ганна ступіла на парог,
А махнула хусткаю напярод:
— Адступіцеся, падружкі,
Не заступайце дарожкі,
Бо ўпаду сваёй мамцы на ножкі.
У маёй маткі ножка бяленька,
Штоб у мяне была така доля дабрэнька.

## 1267

Ляцелі гусачкі цераз сад,
Ай, рана, раненька, цераз сад.*
Выходзіць Валечка на пасад.

* Рэфрэн «Ай, рана, раненька» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Валечка на парог ступаець,
Мамачцы платочкам махаець.

— Стань, мая мамулька, вышы ўсіх,
Пакланюся табе ніжы ўсіх.

## 1268

Ступнула дзеванька на парог,
Махнула хустачкай напярод.
— Пастаньце, баяры, усе ў рад —
Ідзе дзеванька на пасад,
Нізенька галоўку несучы,
Касою зямельку метучы,
Слёзкамі ножачкі мыючы.

## 1269

—Станавіся, радзіма, усенька ў рад —
Ідзе наша дзеванька на пасад.
— Пакланіся, дзеванька, старому і малому,
Старому і малому і госпаду богу.
Дасць табе госпад добрую долю,
А божая маці будзе сустрачаці:
«Што гэтаму дзіцяці за долю даці?
Даўшы грашавую, бога забудзе,
А хлебавую — успамінаць будзе».

## 1270

Да ступіла Манечка на парог,
Да махнула хусцінаю на свой род.
— Станавіся, радзінанька, уся ў рад,
Бо ідзе Манечка на пасад.

Скланілася Манечка богу,
Сабралася ў дарогу.
Скланілася Манечка нізенька,
Сабралася яна блізенька.

## 1271

Ой, ступіла млода дзяўчынка на парог,
Вымахнула хустанькаю напярод.*
— Разыйдзіцеся, разыйдзіцеся, усе людзі,
Няхай да-мяне мой баценька прыбудзе,
Няхай мяне шчасцем-здароўем надарыць,
Няхай мяне да божага дому выправіць.

## 1272

Скора Адарка на пасад,
Яе бацюхна ўстрачае
Із доляю із добраю,
З шчасліваю гадзінаю.

То ж не бацюхна ўстрачае —
Устрачае яе гасподзь бог
Із доляю із добраю,
З шчасліваю гадзінаю.

## 1273

Дзевачка на парог ступае,
Яе татачка ўстрачае
З доляй яе шчасліваю,
З добраю гадзінаю,
З добраю, шчасліваю.

Дзевачка на парог ступае,
Яе мамачка ўстрачае
З доляй яе шчасліваю,
З добраю гадзінаю,
З добраю, шчасліваю.

## 1274

Пастаньце, баяр'ё, усе ў рад,
Там пойдзе малада на пасад,
Нізка галоўку клонячы,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Дробныя слёзкі ронячы,
Зялён вянок падаючы.
— Ой, йдзі, матуля, з каморы,
Прымі вянок зялёны.
— Ой, не прыму, дзіцятка, не прыму,
З жаласці ручкаў не здыму,
Бо я цябе замуж аддаю
У чужую хатку, не ў сваю.

## 1275

Ох ты, Ганначка-зборніца,
Сабрала збор у бацькаў двор,
Пасадзіла падружак усіх за стол,
Сама села выша ўсіх
Ды скланіла галоўку ніжа ўсіх.
Ступіла Ганначка на парог
Ды махнула хустаю на падруг:
— Расступіцеся, падружкі,
З маёй торнай дарожкі,
Будзе мяне мая мамка дарыці
Невялікім дарам — пасагам,
А другім дарам — доляю,
А трэцім дарам — маладым Іванам.

## 1276

Ступіла Евачка на парог,*
Махнула ручкамі на падруг:
— Расступіцеся, баяры,
Сунімайцеся, музыкі,
Будзе бацюхна дарыці
Невялікім дарам — пасадам
Да маладзенькім Петрачком.

## 1277

Ступіла Манечка на парог, **
Махнула хустаю на падруг:

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожны радок, акрамя першага, паўтараецца.

— Расступіцеся, падругі,
Чым мяне татачка даруе?
Невялікім дарам — пасадам,
Вялікаю дарою — касою,
Усё дзявоцкаю красою.

## 1278

Да ступіла Анечка на парог,
Да махнула хустачкай на падруг:
— Адступіцеся, падружанькі,
Не заступайце дарожанькі.
Да станавіся, радзіначка, уся ў рад —
Ідзе наша Анечка на пасад.
Будзе яе татачка дарыці,
Ой, якім дарам? — пасадам,
Ой, якою дарою? — доляю.
— Шчасця і долечкі недзе ўзяць,
А мне цябе, маё дзіця, не дзяржаць,
Як найшліся добры людзі, дык трэба аддаць.

## 1279

Разаслалася бавалніца па сенях,
Разаслалася кружастая па новых,
Туды ведзяно маладу Параску на пасаг.
Ой, пасажа-вінаградзе харошы.
— Ой, хто ж мяне тым пасагам надарыць?
Надарыць мяне гасподзь бог, баценька.
Найсвентша панна мне вяночак увіла,
А прачыстая на галованьку злажыла.

## 1280

Раскінанё павалочаньку па сенях,
Раскінанё шаўковую па новых,
Туды ішла малада Марыся на пасаг.
Уступіла яна да баценькі на раду:
— Ці пазволіш, мой баценьку, на пасаг?
— І з богам, мае дзіцятка, з богам,

І з божым дазваленнечкам, і з маім.
— Ежэлі пасцеліце шоўкаў каберац, то пайду.
Ежэлі паложыце пасажны хлеб, то сяду.
Ежэлі папросіце міласціва господа бога, то сяду.
— І з богам, мае дзіцятка, з богам,
І з божым дазваленнечкам, і з маім.

## 1281

Ляцелі галачкі ў тры стадачкі,
Зязюля — наперадзе.

Ішлі дзевачкі ў тры радочкі,
А Ніначка — наперадзе.

Усе галачкі па галлю селі,
Зязюлька — на каліне.

Усе дзевачкі на лавачкі селі,
Ніначка — на скамейцы.

Усе галачкі зашчабяталі,
Зязюля закукавала.

Усе дзевачкі песню запелі,
Ніначка заплакала.

## 1282

Ляцелі галкі рад па радочку,
Зязюлька — наперадочку.

Галкі ляцелі, на доле селі,
Зязюлька — на бярозе.

Галкі паселі, зашчабяталі,
Зязюлька закукавала.

Шлі баяры рад па радочку,
А маладая — наперадочку.

Баяры ішлі, за стол селі,
Маладая — на покуце.

Баяры селі, песні запелі,
Маладая заплакала.

## 1283

Ляцелі галкі та й у тры радкі,
Зазулька — папярод іх,
Рабенька — папярод.

Усе галкі па лугах селі,
Зазулька — на каліну,
Рабенька — на каліну.

Усе галкі зашчабяталі,
Зазулька закавала,
Рабенька закавала.

— Ой, чаго куеш, чаго жалуеш,
Сівая зазулька,
Сівая зазулька?

— Ой, я кую, я жалую
Летняга лятаннечка,
Ранняга каваннечка.

Ішлі дзявочкі ў тры радочкі,
Малада — папярод іх,
Малада — папярод.

Усе дзявочкі на лаўках селі,
Малада — на пасадзе,
Малада — на пасадзе.

Усе дзявочкі та й заспявалі,
Малада заплакала,
Малада заплакала.

— Чаго плачаш, чаго жалуеш,
Маладая дзеванька,
Маладая дзеванька?

Чы жаль табе баценька свайго,
Чы падвор'ечка яго,
Чы падвор'ечка яго?

— Ой, не жаль мне баценька свайго,
Не падвор'ечка яго,
Не падвор'ечка яго,

А жаль мне пагуляннечка
І ранняга сняданнечка,
І ранняга сняданнечка.

## 1284

Ляцелі галачкі ў тры радачкі,
Зязюлька — наперадзе.

Усе галачкі на лузе селі,
Зязюлька — на каліне.

— Вот цяпер закуй, вот цяпер закуй,
Сівая зязюлька,

Ды задай тугу зялёнаму лугу
І чырвонай каліне.

Ішлі дзевачкі ў тры радачкі,
Манечка — наперадзе.

Усе дзевачкі на лаўцы селі,
Манечка — на пасадзе.

Усе дзевачкі песню запелі,
Манечка заплакала.

— Вот цяпер заплач, вот цяпер заплач,
Маладая Манечка,

Ды задай жалю ўсяму роду
Ды родненькай мамачцы.

## 1285

Ляцелі галачкі, чатыры парачкі,*
Зязюля — папераду.

Селі галачкі ды на лужочку,
Зязюля — на дубочку.

Галачкі селі, зашчабяталі,
Зязюля закукавала.

— Не кукуй, зязюля, не кукуй, шэрая,
Ё каму шчабятаці.

Ішлі дзевачкі чэраз сенечкі,
Мар'ечка — папераду.

Селі дзевачкі усё па лавачках,
Мар'ечка — за столікам.

Дзевачкі селі, песні запелі,
Мар'ечка заплакала.

— Не плач, дзевачка, не плач, Мар'ечка,
Ё каму паплакаці.

Родна мамачка падаркі купляе,
Сільненька плача.

Родненькі татачка па гарэлачку ідзець
Сільненька слёзы іллецьь.

## 1286

Лятуць пташачкі на тры стадачкі,
Зязюлька — найперадзе. (2)
Пташачкі селі, защчабяталі,
Зязюлька закукавала. (2)

Ішлі дзевачкі цераз сенечкі,
Праксэдка — наўперадзе.

* Кожны радок паўтараецца.

Дзевачкі селі, песню запелі,
А Праксэдка заплакала:

— Божа ж мой, божа, што ж мая за доля?
І з кім я хадзіла, з кім гаварыла,
Таго ж я ўгнявіла.
А з кім не зналася, не чапалася,
Таму ж я засталася.

Шубачка дабра з чорнага бабра,
Я ж яе не знасіла.
Я ж у ей хадзіла, я красавалася,
Пакуль не павянчалася.

## 1287

Ляцелі галанькі ў тры стаданькі,
Зязюлька — найпапярод.*

Галанькі паселі па явароньках,
Зязюлька — на каліне.

Галанькі селі, зашчабяталі,
Зязюлька закувала.

— Ой, чую, куеш, чую, жалуеш,
Сівая зязюля.

Чы ты жалуеш зялёнага лугу,
Чы горкай каліны?

— Я не жалую зялёнага лугу,
Ні горкай каліны,

Ано жалую таго лятаннечка,
Ранняга куваннечка.

Шлі дзевачкі ў тры радочкі,
Ніначка — найпапярод.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Дзевачкі селі та й па лавачках,
А Ніначка на кажухове.

Дзевачкі селі та й заспявалі,
Ніначка заплакала.

— Ой, чую, плачаш, чую, жалуеш,
Маладая Ніначка.

Чы ты жалуеш баценька свога,
Чы падворачка тога?

— Я не жалую баценька свога,
Ні падворачка тога,

Толькі жалую русай касы
І дзявоцкай красы.

Дзявоцка краса штосуботу ў таночку,
Штонядзелю ў вяночку,

А бабска краса штосуботу ў работу,
Штонядзелю ў клапоты.

## 1288

Да ступіла Манечка на парог,
Да махнула хусцінкаю, ой, напярод:
— Благаславіце ж, ацец, маці, я іду,
Благаславіце ж, уся радзіна, я сяду.

## 1289

Зялёненькі вінаград *
Удаўся дзеўкам на пагляд.
Пайшлі дзеўкі глядзеці:
— А дзе ж цябе садзіці:
Ці ў гародзе на лясе,
Ці ў капуснай баразне?
— Дзе хочаце, садзіце,

* Кожны радок паўтараецца.

Толькі лісця не трыце.
— Маладая Насцечка,
А дзе ж цябе садзіці:
Ці ў татулькі на куце,
Ці ў Іванькі на руцэ?
— Дзе хочаце, садзіце,
Толькі вянка не мніце.

## 1290

Увілася дзевачка, увілася,
Горкімі слязьмі залілася,
Сваю мамачку просіць:
— Ты ж мяне, мамачка, благаславі,
На шчаслівым месцы пасадзі.

## 1291

Каціся, перцу, да на Дунаю садзіся,
Кланяйся, дзеванька, да на пасадзе садзіся,
Будзе цябе войчанька благаславіць,
Шчасцем-доляй абдарыць.

## 1292

Іванкаў бацька па двару ходзіць
Да з богам гаворыць:
— Сайдзі, божа, з неба,
Цяпер ты мне трэба:
Трэба сына ажаніці,
На пасад пасадзіці.

## 1293

Благаславі, маці, сваёму дзіцяці
На пасагу сесці, на пасагу сесці.
Перша кветачка — маладая Манечка.
Благаславі, маці, сваёму дзіцяці
На пасагу сесці, на пасагу сесці.

## 1294

— Благаславі, айцец, маці,
Благаславі сваё дзіцяце.
— Я ж яго благаславіла,
Як яго парадзіла,
А яшчэ благаслаўлю,
Як на пасад пасаджу.

## 1295

Ой, нізам, нізам
Сонейка заходзіць,
А маладая тры разы
Ужо дзяжу абходзіць.

Ой, яшчэ вышэй
Сонейка ўзыйдзе,
А маладая Ганначка
Дзяжу ўжо абыйдзе.

## 1296

У баценькі ўсё харашэнька:
Мёд-віно п'юць, кубачкі б'юць.

Мёд-віно п'юць, кубачкі б'юць,
Маладую Марысю садзяць.

Ізлянулі два анголі з неба,
Селі-палі за столікам, дзе трэба.

Сталі сабе па-янельскі гадаці:
— Каго мы маема на пасажаньку саджаці?

Пасадзімо двое дзетак у добры час,
Дай жа нам, божа, шчасліву й гадзіну і божы час.

## 1297

Злянула два анёлы з неба,
Таго ж бо нам, моцны божа, трэба.
Сталі ся па-янельску гадаці:
— Каго мы маем на пасаг саджаці?
Пасадзімо двое дзетак у божы час,
Дай ім, божа, шчасце, здароўе, усё ўраз,
Шчаслівую гадзіну,
Жэб звесялілі ўсю Марысіну радзіну,
Усю радзіну і ўвесь род,
Бацьку і мацер'ю напярод.

## 1298

Чэраз сені таварняю заслана,
Чэраз новыя шаўковымі заслана.
Тудыма Параска на пасад ведзена.
Ідучы, галоўку скланіла,
Кланяючыся, дробныя слёзанькі раніла
І, ронячы, сваей матанькі пытала:
— Ад каго, мая матанька, пасаг стаў?
— Ой, ад бога, мае дзіцятка, і ад людзі,
Ой, ад бога, мае роднае, і ад людзі.

## 1299

Лятуць, лятуць два галубы цераз сад,
Вядуць, вядуць маладу Манечку на пасад.
Яна ж свайго пасадзіку не знаіць,
Яна ў сваёй роднай мамкі пытаіць:
— Ці ад бога, мая мамачка, пасад мой?
— Ад бога, мая дачушка, ад бога,
Прасі ж бога, каб не ведала другога.
Ад бога, мая дачушка, не ад мяне,
Няхай жа дасць лепшую долю, чым даў мне.

## 1300

За гарою сонейка ўзыходзіць,
Узыходзячы, хораша іграе,
Дзяўчынка на пасад сядае.
— Надзечка, хто табе пасаг даў?
— Даў жа мне бацька мой
За мае ціхія паходы,
За мае нізкія ўклоны,
Што я ціхенька хадзіла,
Што я верненька любіла.

## 1301

Цябе садзяць на пасадзе,
Да твае конікі ў садзе.
А дзе ж тая Кацярына,
Што ўчора ўвечары гаварыла:
— Горку за горку — да ў свіную каморку.

# МАЛАДЫЯ СЯДЗЯЦЬ НА ПАСАДЗЕ

## 1302

Пасадзілі ягадку
Ды ў гародзе на пагодзе,
На добрай выгодзе.
Пасадзілі дзевачку
Ды у хаце на пасадзе,
На шчаслівым месцы.
Дай жа божа сесці!

## 1303

Дзе княгінька сядзіць,
Тамо луны ходзяць,
Ад золата сцены шчэпяцца,
Ад серабра лаўкі ломяцца,
Ад бот яе мост гарыць.

## 1304

Што ж там за пташачка
Чорная, як галачка?
Усё поле злятала,
Крыльцом не махнула,
Перца не зраніла.

Што ж там за дзевіца
[Маладая Манечка?]
Пасад перасядзела,
Слёзкі не зраніла,
Матачкі не разжаліла.

### 1305

— Ці не шкада табе, Іванка,
Хлапечага гуляння?
Усе хлопчыкі стрэлы страляюць,
А ты сядзіш на пасадзе.
— Як я маю жалкаваць?
Свайму баценьку дзякаваць,
Што мяне бацька паверне
У моцкія паравення.

### 1306

— Ці не жаль табе, Агапка,
Дзявоцкага гуляння?
Дзевачкі ідуць,
Вяночкі ўюць,—
Ты, маладзенька,
Сядзіш на пасадзе.
— Як жа маю жалеці,
Сваё лічанька сціраці.
Маё лічанька невялічанька,
Сама, як ягодка.

### 1307

Горка тая смуродзіна,*
Што зялёна паломлена.

Нешчаслівa тая дзеўка,
Што малада заручона,

Што малада заручона,
На пасадзе пасаджона.

Ой, пайду я кругом луга,
Шукаючы сабе друга.

— Ой ты; лузе-лузеночак,
Ці ты будзеш, мой дружочак?

---

* Або «Горка тая калінушка».

## 1308

Стань, маці, на канец стала,*
Глянь, маці, на мой пасад:
Усе дзевачкі ў косах,
Мая ды галовачка свеціцца.
Яна — як макавачка
З беленькага цвету,
Што ходзіць па ўсім свету.

## 1309

Глянь, мамка, ды на мой пасад:
Ды ўсе дзевачкі ў косах,
А на маёй ды галовачцы белая іней пала,
Белая ды бяленькая, Маўрачка маладзенькая.

## 1310

Ды чыя ж то маманька
У канцы стала стаіць?

У канцы стала стаіць,
Усё на дзевачак глядзіць.

Зосіна маманька
У канцы стала стаіць.

Зосіна маманька
Усё на дзевачак глядзіць.

— Усе дзеванькі харошанькі,
Усе дзеванькі прыгожы.

На маё дзіцятка
Чорная смага пала.

Цяжкае уздыханнейка,
Слязовае ўмываннейка.

---

* Кожны радок паўтараецца.

### 1311

Ядзіна матачка
У канцы століка стаіць.

У канцы століка стаіць,
На ўсе дзевачкі глядзіць.

— Усе дзевачкі,
Як кветачкі,

А на маём дзіцяці
Белая іней пала.

Белая іней пала
Да з макавага цвету.

Да з макавага цвету
Аж да самага веку.

### 1312

А чыя гэта матуля
У канцы стала стаяла?

У канцы стала стаяла,
На ўсіх дзевачак зважала.

— То ўсе жа дзевачкі,
Яны, як мак, расцвітаюць,

А на маю Олечку
Цёмна хмара наступаець.

Цёмна хмара наступаець
Ад макавага цвету.

Ад макавага цвету,
Аж да самага веку.

### 1313

Чыя гэта мамачка
У канцы століка стаіць?

У канцы століка стаіць,
Ручкамі апершыся,

Ручкамі апершыся,
Слёзкамі абліўшыся.

— Што людскія дзевачкі,
Яны п'юць, гуляюць.

На маё дзіцятка
Бела лунь пала.

Бела лунь пала
З макавага цвету.

З макавага цвету
І не згіне ж давеку.

### 1314

А чыя ж гэта матуля
Усю ночку не спала?

Усю ночку не спала,
У канцы століка стаяла.

У канцы століка стаяла,
На дзевачкі заглядала.

На дзевачкі заглядала:
— Усе дзевачкі вясёлыя.

Усе дзевачкі вясёлыя,
Маё дзіця невясёлае.

Маё дзіця невясёлае.
Ці на яе мігла пала?

Ці на яе мігла пала
З макавага цвету?

З макавага цвету,
Засмуціла маё дзіця.

Засмуціла маё дзіця
Да самага веку.

### 1315

А божа мой да мілюсенькі,
Усе дзеўкі харашусенькі.
Усе дзеўкі харашусенькі,
Ды адно маё дзіця бледна.

Ці на яго іней паў, ці мяцеліца?
Да на яго іней не паў,
Ды на яго не пала мяцеліца,
А чужая чужаніца.

### 1316

Ходзіць дзеванька каля століка,
Як яснае сонейка.
Яе матанька, яе родная
У канцы стала стоячы,
У канцы стала стоячы,
Белы рукі ломячы і гаворачы:
— Усе дзевачкі ў вяночках,
А на маё дзіця бель напала
Із макавага цвету,
Майму дзіцяці давеку.

### 1317

Дзеваччына мамачка
Па парогу ступае,

Па парогу ступае
Ды й на кут пазірае.

Ды й на кут пазірае,
Што ў яе на куце зяе.

Што ў яе на куце зяе —
На дзіцяці вяночак.

На дзіцяці вяночак,
Ён не з руты, не з мяты.

Ён не з руты, не з мяты —
Із ружовага цвету.

Із ружовага цвету,
Што ходзіць па ўсім свету.

## 1318

Манеччына мамачка
У канцы стала стаіць.
У канцы стала стаіць
Ды на дзевачак глядзіць.
— Усе дзевачкі як дзевачкі,
А на маім дзіцяці
Белая вална пала,
Усю галоўку заслала.
А на ручках сірэнька —
Танюсенька, бяленька,
Ад слёзак макрэнька.

## 1319

Манеччына мамачка
Па парогах ступае
Ды на кут пагладае:
— Што ў мяне на куце зяе?
Ой, ці месяц, ці сонца,
Ці вячэрняя зорка?
Маё дзіця людскуецца,
Да шлюбу рыхтуецца.

### 1320

— Маладзенькі Васілька,
Што ў цябе на куце ззяе?

Што ў цябе на куце ззяе,
Ці не месяц свеце?

Ці не месяц свеце,
Ці не сонейка йграе?

— Дзеванькі, мае сястрыцы,
І не месячык свеце.

І не месячык свеце,
І не сонейка йграе.

Гэта Ганначка маладая,
На ёй фата дарагая.

### 1321

— І, маладая Манечка, дзе ты стаяла?
Дзе ты стаяла.
Твая галоўка цвяточкам апала,
Цвяточкам апала.
— Стаяла ў садочку я на краю,
Стаяла на краю.
Апала галоўка белым цвяточкам,
Белым цвяточкам.
— Ці ў цябе, Манечка, хустачкі не стала?
Хустачкі не стала.
— Мае хустачкі пабралі сваточкі,
Хустачкі пабралі,
А мне цвяточкі падаравалі,
Падаравалі.

### 1322

— Дзе ж ты, малада Олечка, хадзіла,
Што ты да сваю галаваньку ўкрасіла?
— Хадзіла, дзевачкі, у вішнёў сад,

Да на маю галоўку цвет апаў,
Да на маёй галоўцы расцвітаў.
Да на маю косаньку — ўся раса,
Да на маё лічанька — ўся краса.

## 1323

А ў гародзе не роза цвіцець — макоўка,*
І зацвіцела нашай Верачкі галоўка.
Яе мамулька, яе родная не ўзнала,
Стала яна ў дзяўчатачак пытаці:
— Што й за царэўна, за каралеўна за сталом?
— Ой, ні царэўна, ні каралеўна — ваша доч.

## 1324

Гіб'юцца лаўкі пад дзеўкамі,
Усе дзевачкі ў васілёчках,
Адна Матронка ў зялёнай руце.
— Дзевачкі-сястроначкі,
Скіньце мне па васілёчку,
Звіце мне з васілёк вянок,
То я з вамі пайду ў танок,
Хоць не з вамі, а з малодкамі.

## 1325

Паселі дзевачкі
Да ў тры радочкі.
Паміж іх не пазнаць
Маладой Ганначкі.

А па тым пазнаці,
Што на плячах коскі,
Што на плячах коскі,
Пад ачыма слёзкі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А русыя коскі
Да пакрылі плечкі.
А горкія слёзкі
Да памылі ножкі.

## 1326

Па чым пазнаці калінку ў садзе?
Сама нізенька, цвіціць бяленька,
Сама нізенька, цвіціць бяленька,
На ёй ягадак аж чырваненька.
Па чым пазнаці Марыльку ў радзе?
Павышэй сядзіць, паніжэй глядзіць,
Па плячах коскі развіваюцца,
Па ліцы слёзкі разліваюцца.
Па плячах коскі — як лён бяленькі,
Па ліцы слёзкі — як боб буйненькі.

## 1327

А па чым пазнаці ды калінку ў лузе?
Тоненька расцець, сільненька цвіцець.

А па чым пазнаці Мар'ечку між дзевак?
Смутненька сядзіць, сільненька плачыць.

А ў руках хустачка тонка, бяленька,
Тонка, бяленька, ад рук чарненька.

Ад рук чарненька, ад слёз макрэнька.

## 1328

Можна каліну
У лузе пазнаць:

Ціханька стаіць,
Сільненька цвіцець.

А на ёй цвяточак
Сіненек, бяленек.

Сіненек, бяленек,
Ад расы макрэнек.

Можна Валечку
Між дзевак пазнаць:

Ціханька стаіць,
Сільненька плачыць.

Яе платочак
Тоненек, бяленек.

Тоненек, бяленек,
Ад слёз макрэнек.

## 1329

Прыйшлі дзеўкі, прыйшлі дзеўкі,
Да ці не руту шчыпаці,
Да ці не ружу ламаці,
У Ганначкі пытаці:
— Ганначка, да сястрыца,
Да ці пойдзеш ты з намі,
З маладымі дружкамі?
— Дзевачкі, мае сястрычкі,
Усё ж саджэце ды пажджэце, (2)
Покуль я прыбяруся, (2)
Войчаньку да пакланюся.
Войчаньку — нізка ў ножкі,
Мамачцы — аж у перадочкі (2)
Да за цёмныя ночкі:
Трыццаць ночак не спала,
Сорак свечак спаліла, (2)
Покуль мяне ўзрасціла.

## 1330

— Сіняя валошачка,
Хто ж цябе заране сеяў?
— Сеяла-засявала
Малада Марусечка.

У чацвер засявала,
Ды ў пятніцу пашчыпала.

Ды ў пятніцу пашчыпала,
У суботу вянок звіла.

У нядзелю нарадзілася,
Усім людзям пакланілася.

### 1331

Ёлка-сасонка зіму й лета зялёна,
Наша дзевачка, што ў бога дзянёк, вясёла.
А ў суботу вяночак віла грусненька,
А ў нядзелю на пасад пашла — плакала.

### 1332

[Ляцелі гусачкі чэраз сад]
Да клікалі дзевачку на пасад.
— Ды што ж вам, гусачкі, да таго?
Есць у мяне бацюшка для таго.
Як на пасад ішла, як ружа сышла,
Як на пасадзе села, як рута наспела,
Як з пасаду ўстала, як мята звяла.

### 1333

Ой, жарка, жарка калінка ў лузе,
Жарчэй калінкі Агатка ў бацькі.
Па дварэ ходзіць, падвор'е красіць,
У сеначкі ўвайшла — сеначкі зазвінелі,
У рыдзельку ўвайшла — рыдзелька заззяла,
На пасад села — як роза зрэла,
З пасаду ўстала — як рута звяла.
Каля яе малойцы, як пераборцы,
Каля яе дзевачкі, як ластавачкі,
Каля яе малодкі, як белыя лябёдкі.

## 1334

Маладая Гэлечка ў сені ўступіла,
У сені ўступіла — сені асвяціла,
У хатачку прыйшла — як зорачка ўзышла,
На пасадзе села — як ружа зардзела,
А з пасаду ўстала — як рутачка звяла.
Каля яе дзевачкі, як ластавачкі,
Каля яе хлопцы, як рыбалоўцы.
— А нашто ж мы яе ў чужы край аддалі?
А чаму ж мы яе за сябе не ўзялі?

## 1335

Да цярэшня-вішня
Да долу звісла.

Маладая дзеванька
Харошанька прышла.

Та й яна прышла,
Як у саду вішня.

На пасадзе села,
Як ружа цвела.

З пасаду ўстала,
Як рута звяла.

## 1336

Маладая дзяўчына
Па двары хадзіла.

Па двары хадзіла,
Увесь двор красіла.

А ў хату ўвайшла,
Як зорка ўзыйшла.

На пасадзе села,
Як роза цвіла.

З пасаду ўстала,
Як роза завяла.

## 1337

У вінным калодзезі
Дзеўка ваду брала.
Дзеўка ваду брала,
Залатога камня шукала.

Залатога камня шукала,
Як знайшла, то пабіла.
Як знайшла, то пабіла,
У вяночак увіла.

У вяночак увіла,
Сама села на куце.
Сама села на куце —
Увесь кут азяіла.

Увесь кут азяіла,
Мамачку ўжаліла.
Мамачку ўжаліла,
Іванку ўзвесяліла.

## 1338

Ды сядзела дзеванька вышэй усіх,
Думала, гадала больш за ўсіх,
Як ёй, маладзенькай, пад шлюб стаць,
Гэтаму, чужынцу руку даць.
— Станавіся, дзеванька бяленька,
Падавай жа ручаньку смяленька.

## 1339

І сцяклося, і сцяклося дзве рэчанькі,
Да й абедзве, да й абедзве быстрасенькі.
І зыйшлося, і зыйшлося два пасажанькі,
Да й абодва, да й абодва маладзенькі.
Першы пасаг — малады жанішок,
Другі пасаг — маладая дзеванька.

Благаславі, божа, сей пасажа.
— А звідкаля сей пасаг зыйшоў:
Чы ўсеначчя, чы з месяца, чы сходу сонца?
— Не ўсеначчя, не з месяца, не сходу сонца,
То ж бог нам даў, нашым баценькам.

Благаславі, божа, сей пасажа.
— А звідкаля сей пасаг зыйшоў:
Чы ўсеначчя, чы з месяца, чы сходу сонца?
— Не ўсеначчя, не з месяца, не сходу сонца,
То ж бог нам даў, нашым мацюнкам.

Благаславі, божа, сей пасажа.
— А звідкаля сей пасаг зыйшоў:
Чы ўсеначчя, чы з месяца, чы сходу сонца?
— Не ўсеначчя, не з месяца, не сходу сонца,
То ж бог нам даў, нашым сястрынкам.

Благаславі, божа, сей пасажа.
— А звідкаля сей пасаг зыйшоў:
Чы ўсеначчя, чы з месяца, чы сходу сонца,
Чы з буйных ветраў, чы з злых языкоў?
— Не ўсеначчя, не з месяца, не сходу сонца,

Не з буйных ветраў, не з злых языкоў,
То ж той пасаг сам бог пісаў
Ад баценька да цесценька,
Ад раджонага да суджонага.
Буйны ветры не развеюць,
Злы языкі не размоўляць.
Буйным ветрам у гарах легчы,
У гарах легчы запачыці.
Злым языкам пад меч пасці,
Пад меч пасці да й прапасці.

Сім маладзенькім на пасаг сесці:
Жыці-быці, век каратаці
Ад маладосці да старасці.
Сім маладзенькім на пасаг сесці.

## 1340

Благаславі, божа, сей пасаг.
Сцяклося дзве рэчанькі,
Сышлося дзве пасажанькі.
Першы пасаг — ясны месяц,
Другі пасаг — ясна сонца.
Із месяца — малады Мацвейка,
Із сонейка — малада Парашка.
Буйны ветры да не развеюць,
Злы языкі да не разбрэшуць.
Буйным ветрам па гарах пайсці,
Злым языкам пад меч пасці,
Пад меч пасці да й прапасці.
Ім, маладзенькім, жыці-быці,
Жыці-быці, пабываці
Ад маладосці да старосці.
Што та ў небе зазваніла?
То гасподзь да каморы ідзе,
За ім анёл ключы нясе.
Станьма, божа, пагадайма,
Што гэтай пары за долю даці?
Госпадзь кажа: — Хлебную,
Анёл кажа: — Грашовую,
А прачыстая: — Адзежную.
Бацька просіць усякую,
Усякую да шчаслівую.

## 1341

Да не слухай, Зіначка,
Дзе пяюць, дзе гуляюць,
Дзе музычкі іграюць.
Да паслухай, Зіначка,
Што на небе загручэла,
А на зямлі зазвінела.

Сам бог з неба ступіў,
Залатыя ключы згубіў.
Там анелі ішлі,
Залатыя ключы знайшлі.
Стань, божа, парадзімся,
Што Зіначцы за долю даць.
Сам бог кажа: — Хлебавую,
Анелі кажуць: — Грашавую,
Бацькі просяць: — Усякую,
Долечку праклятую.

## 1342

За лесам, лесам голас заходзіць,
За лесам, лесам голас заходзіць,
Там прачыстая з богам гаворыць,
А што Янінцы за долю даці.
Анелі кажуць: — Мы слезавую,
Прачыстая кажаць: — Мы хлебавую,
Сам пан бог кажаць: — Шчасліву долю,
Татка з мамкай кажуць: — Дзякуй жа богу,
Майму дзіцяці даюць жа долю.

## 1343

У суботу рана неба звінела,
Ой, рана, рана неба звінела —

Матуля з богам параду мела,
Ой, рана, рана параду мела,

Якую дачцэ долечку даці,
Ой, рана, рана долечку даці:

Даць слезавую — гаравацъ будзе,
Ой, рана, рана гараваць будзе.

Дацъ грашавую — бога забудзе,
Ой, рана, рана бога забудзе.

А дачка кажа: — Абы-якую,
Абы-якую, да й шчаслівую.

## 1344

У нядзелю рана неба звінела,
Ой, рана, рана неба звінела — *
Марыя з богам параду мела,
Якую долю Манечцы даці.
Марыя кажаць: — Я — грашавую,
А пан бога кажаць: — Я — збажавую.
Манечка кажаць: — Хоць бы якую,
Хоць бы якую, да й шчаслівую.

## 1345

На небе званы звоняць, **
Па небе сам бог ходзіць,
Са ангеламі гаворыць,
Што ж гэтаму дзіцяці
Да за долечку даці.
Бог кажаць: — Усім добрым,
Анёлі: — Векам доўгім.
Бог кажаць:— Скацінаю,
Анёлі: — Дзяцінаю.

## 1346

Стаяла вярбіца ў зялёным кусточку,
Пабыла дзевачка ў божым дамочку.
Перад алтарам крыжам ляжала,
Найсвенчшая матка яе сухваляла:
— Да што гэтаму дзіцяці за долю даці?
Хлебную даці, то багата будзе,
Грашаўную даці, то бога забудзе,
Селядоршую даці — спамінаці будзе.

## 1347

Да паедзе маладзенька да богу маліцца,
Да ведай, маладзенька, дзе й станавіцца.

---

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца.

Не станавіся пасярод касцёла,
Да стань, маладзенька, блізка к прыстолу.

Да анёлы ісцімуць, да долю нясцімуць,
Божая маці будзе сахваляці.

Божая маці будзе сахваляці,
Што гэтаму дзіцяці да за долю даці.

Што гэтаму дзіцяці да за долю даці:
Ці ім хлебавую, ці ім грашавую?

Хлебавую даўшы,— багатыя будуць,
Грашавую даўшы, то й бога забудуць.

### 1348

Пакаціся ты, колле,
З гары да на падолле,
Там цябе маё дзіця ўзнае,
З яго долю, шчасце адгадае.

## МАЛАДЫЯ ЗБІРАЮЦЦА ДА ШЛЮБУ

### 1349

— Да дубу, зязюля, да дубу,
Час табе, дзевачка, да шлюбу.
— А ці так я пайду, як стаю?
Я сваю радзіну ўсю збяру.
А мая радзіна вяліка:
Быстрым вочачкам не ўглядзець,
Вараным конікам не аб'ехаць,
Толькі сакалом абляцець,
Маладой дзевачцы паглядзець.

### 1350

— Да дубу, зязюлька, да дубу,
Час табе, Мар'янка, да шлюбу.
— Бес табе, зязюлька, да таго,
Ест у мяне татуля для таго.
Ён мне радачку парадзіў,
Ён мяне на пасад пасадзіў.
Пярэйдзе сцежачку — я пайду.
Выправіць да шлюбу — й паеду.

### 1351

На дубу зязюлька, на дубу,
Ехала Агатка да шлюбу.
— Што табе, зязюлька, да таго?
Маю я татуська сваяго.
Благаславіць мясцечка — я сяду,
Пярэйдзіць дарожку — паеду,
Адчыняць цэркаўку — я увайду,
Пасцеляць ручнічок — я стану,

Што стануць пытацца — я скажу.
— Шлюбуеш, Агатка? — Шлюбую.
Жалуеш мілога? — Жалую.

## 1352

— Да дубу, зязюля, да дубу,
Час табе, Антоська, да шлюбу.
— Што ж табе, зязюлька, да таго?
Ёсць у мяне татулька для таго.
Запражэць коні — я сяду,
Благаславіць дарожку — паеду,
Адамкнуць цэркаў — я ўвайду,
Пасцеляць каберац — я ўстану,
Папытаюць праўды — я скажу,
Дадуць белу ручку — я вазьму.

## 1353

Шэрая зязюля да з дубу.
— Убірайся, Паўлінка, да шлюбу.
— Што ж табе, зязюлька, да таго?
Ёсць у мяне матулька на тое.
Скажыць мне за стол сесці — я й сяду,
Запрагуць конікаў — паеду,
Адамкнуць касцёлы — я увайду,
Засцеляць каберцы — укленкну,
Запаляць свечанькі — заплачу.

## 1354

Ляцелі гусанькі да дубу,
Клікалі Ясенька да шлюбу:
— Ой, што ж вам, гусанькі, да таго?
Ест у яго баценька для таго.
Сцяліце каберцы — я сяду,
Благаславі, ойча,— я еду.
Благаславі, родная маці,
Каб даў шчасліва шлюб узяці.

## 1355

— Да цугу, коні, да цугу,
Час табе, Адарка, да шлюбу.
Хто ж табе валасы расчэша,
Хто ж цябе да шлюбу завязе?
Выскачыў старшы брат з каморы:
— Ото я твой братка, брат радзоны,
Я табе кудзеркі расчашу,
Я цябе да шлюбу завязу,
Пад гораньку крутую,
Пад цэркаўку святую.

## 1356

Ляцелі галубяткі ўсё малыя
Чэраз нашы сенечкі новыя,
Пыталі ў Ольгачкі, ці гатова.
— Не гатова, галубяткі, не гатова,
Закупіла маток шоўку і загубіла
І кусочка шырыначкі не дашыла.
— Да шлюба, да шлюба,
Калі сваймy татку нялюба.
— Ой, люба свёкру і свякрусе,
І маладому Іваньку.

## 1357

— Да дуба, зязюля, да дуба,
А ці ты салаўю нялюба?
— Тады я салаўю люба была,
Як на бярозе гняздо віла.
Цяпер я салаўю нялюба,
[Як паляцела ад дуба.]

— Да шлюба, Юлечка, да шлюба,
А ці ты матульцы нялюба?
— Тады я матульцы люба была,
Як у каморы вянкі віла.
Як паехала да шлюба,
Тады я стала матульцы нялюба.

А шэрая зязюля дуб клюець,
А наша Юлечка шлюб бярэць.
Шэрая зязюля з дубу далоў,
Наша Юлечка із шлюбу дамоў.

## 1358

— К вянцу, Ганначка, к вянцу,
— А ці я цябе, бацюшка, не любіла,
А ці я табе пасцелькі не слала,
А ці я цябе бацюшкай не звала?
Слала пасцельку мякенька,
Звала бацюшкай вярненька.

## 1359

— Да вянца, дзеванька, да вянца,
А чы пыталася, дзеванька, у айца?
— Пыталася, дзеванькі, пыталася,
Да белых ножак кланялася,
Коскамі зямліцу падмяла,
Слёзкамі ножкі абліла:
«Да не дай, не дай, мой бацюхна, ад сябе,
Падзяржы мяне хоць лецейка у сябе».
— Ой, рад бы, маё дзіцетка, падзяржаці,
Да наехалі такія сваты, што трэ аддаці.

## 1360

— Да венца, дзевачка, да венца,
Чы пыталася ў панойца?
— На што мне пытацца ў панойца? —
Са мной брахнейка ў поездзе.
Ён мяне пад вянец падвядзець,
Русу косу расплацець.

## 1361

Паедзь, паедзь, малады мальчышка, да вянца,
Там твая цясцёхна надзялёная,
Там твае вароцікі расчыненыя,
Там ў тваёй дзевачкі коскі расплеценыя.
А хто коскі расплятаў? — Сястрычкі,
А хто ўкоснічкі падбіраў? — Брацюткі.

## 1362

— Да не лён, мамачка, да не лён,
Да ўжо беленькі кужалец.
— Час табе, дзевачка, пад вянец.
Белыя кужалі палагаць —
Дзевачку пад вянец прыбіраць.

## 1363

У нядзелю рана-парана,
Рана слонечка ўсходзіць.
Малада Марыся свайго бацоньку
За столічак заводзіць.
— Сядзь-пасядзь, бацоньку,
Нех я ўбяруся.
Як я ўбяруся, табе пакланюся,
Сама да шлюбу паеду.
Наехала сто пахолікаў, тры люду.
— Выбірайся, малада Марысю, да шлюбу.
— Ужо ся я даўно выбрала,
А яшчэм бацоньку да белых ножак не упала.
— Здэймі свой руцвяны вяночак у ручанькі,
Падзі бацоньку свайму да ножак белых.

## 1364

Да на мора, гусі-лебедзі,
Да на мора на сіненькае,
Там вада халодненькая,
Там трава зялёненькая.

Да шлюбу, маладая дзеванька,
Да шлюбу, маладзенькая,
Там табе ручкі звяжуць,
Там табе праўду скажуць.
Да белаю бавалніцаю,
Да з чужою чужаніцаю,
Чырвонаю да кітайкаю
Да з чужою да нязнайкаю.

## 1365

Да дубу, зязюлька, да дубу,
Ой, рана, ранелька да дубу.
Да шлюбу, Раечка, да шлюбу,
Ой, рана, ранелька да шлюбу.
Шэрая зязюлька дуб клюець,
Ой, рана, ранелька дуб клюець,
Малада Раечка шлюб бярэць,
Ой, рана, ранелька шлюб бярэць.
Шэрая зязюлька з дубу далоў,
Ой, рана, ранелька з дубу далоў.
Малада Раечка з шлюбу дамоў.

## 1366

— Да да дубу, лебедзі, да дубу,
Пара табе, дзевачка, да шлюбу.

Да да дубу лебедзя не прыгнаць,
Да да шлюбу дзевачку не прыбраць.

Да да дубу лебедзя прыгналі,
Да да шлюбу дзевачку прыбралі.

— Матка ж мая, мая родненька,
Не пазні мяне позненька.

[Выпраўляй мяне зараненька,]
Выпраўляй мяне зараненька.

Нас папы доўга чакаюць,
Цэркаўкі [да] адмыкаюць,

Прыстолы да засцілаюць,
Нас, маладых, звянчаюць.

## 1367

Сакоча цяцера, сакоча,
А з бору ляцеці не хоча.

А ў бару ягадкі салодкі,
Чыстая вадзіца ў крыніцы.

Ой, плача Зосенька, плача,
Да шлюбу ехаць не хоча:

— Як з табой, мамачка, расстацца,
Ці мне гадочак астацца?

Як жа мне з мамкай расстацца,
З чужой свякроўкай пазнацца?

Тут мая мамачка родная,
А чужая ж свякроўка нягодная.

А я ўжо ў мамачкі не буду,
У чужой свякроўкі век збуду.

## 1368

Па гарах сонца коціцца,
Івану к вянцу хочацца.
А не так Івану, як той Матрунцы.

Па гарах сонца коціцца,
Матруні к вянцу хочацца,
А не так Матруні, як таму Іваньку.

## 1369

Да стаяла Жэнечка на ганку,
Да сушыла хустачкі на шнурку,
Да прасіла ветрыку, сонейка:
— Сушы мне хустачкі скоранька,
Бо прыедзе Васечка вянчацца,
Трэба ў еты хустачкі ўвабрацца.

## 1370

— Маладая дзевачка, не стой у запечку,
Выйдзі на хатачку.

Выйдзі на хатачку,
Пакланіся свайму татачку.

Блізенька прыступіся,
Нізенька пакланіся.

— Татачка мой родненькі,
Выпраўляй — не забаўляй.

Выпраўляй — не забаўляй:
Там мяне дажыдаюцца.

## 1371

Маладая Валечка,
Прасі свайго татачку:
— Татачка ж мой родненькі,
Выпраўляй — не забаўляй:
Там мяне ўжо чакаюць,
Царкоўку адмыкаюць,
Алтарыкі засцілаюць,
Свечачкі запальваюць
І вянцы раскладваюць,
На дарожку паглядваюць.

## 1372

Матачка мая родная,
Выпраўляй — не забаўляй,
Не пазні мяне ўдома.
Калі спозніш мяне ўдома,
То дай жа мне маршалачка,
Разумнага дзядзечка,
Майго роднага брацейка.
Матачка мая родная,
Благаславі маладую
Да вянца едучы,
У бога долю просячы,
Гадзіначкі шчаслівае.

## 1373

У нядзельку ранёсенька
Анетка па двару ходзіць,
Белыя ручкі ломіць,
Сваіх панойцаў просіць:
— Панойцы мае родненькія,
Не пазніце мяне позненька:
Там жа мяне ксяндзы ждалі,
Касцёлы паадмыкалі,
Каберцы парассцілалі
Да ўжо ж нас, маладых,
Даўно ждалі.

## 1374

Хадзіла Марылька па панадвор'ейку,
Прасіла сваёй матачкі:
— Не пазні нас позненька,
Выпраўляй нас раненька:
Там жа нас папы ждалі,
Цэрквы паадмыкалі,
Каберцы пазасцілалі.
Там нам рукі звяжуць,
Вернае слова скажуць,

Вернае слова скажуць
З чужою чужаніцаю,
З вечнаю маладзіцаю.

### 1375

У сянёх галубы пяюць,
У хаце галасы ідуць.

— Маладая Тацянка,
Прыбірайся, не баўся:

Тут цябе выпраўляюць,
Там цябе паджыдаюць,

Царкоўкі адмыкаюць,
Каберцы засцілаюць.

Там табе ручкі звяжуць.
Там табе праўду скажуць.

### 1376

Грышачка, прыбірайся,
Прыбірайся, не баўся:
Там цябе паджыдаюць,
Цэркаўку адмыкаюць,
Цэркаўку адмыкаюць.

Кацярынка, прыбірайся,
Прыбірайся, не баўся:
Там цябе паджыдаюць,
Цэркаўку адмыкаюць,
[Цэркаўку адмыкаюць.]

Адчыніся, божы дом,
Вязуць табе двое дзетак,
Двое дзетак-адналетак,
Да адно радзонае,
А другое суджонае.

## 1377

Паспяшайся, Генечка, не баўся,
Паспяшайся, не баўся:

Там цябе ажыдаюць,
Касцёлы адмыкаюць.

Касцёлы адмыкаюць,
Ясны свечкі запаляюць.

Усе ксяндзы гатавенькі
На твае ручкі бяленькі.

Звяжуць ручкі стулою,
Скажуць жыць, Стаська, з табою.

## 1378

Спяшай, спяшай, красна Марыська, да цэркаўкі,
Бо ўжо званы даўно званілі.

Званілі, званілі да пасціхалі,
Цябе, маладзенькай, да шлюбу не прызвалі.

Да ўжо свечкі даўно гарэлі,
Гарэлі да пастухалі.

Да ўжо папы на мшы стаялі,
Стаялі — пасаступалі,

Цябе, маладзенькую,
Да шлюбу не прыждалі.

## 1379

Зялёна рута, жоўты цвет,
Чаму ў ця, Марыля, шлюбу нет?
Будуць цябе ксяндзы ждаць,
Проці цябе цэркву адчыняць.
Ой, ксенжа, ксенжа, ойча наш,
Павянчай дзеткі ў божы час.

## 1380

— Красная Аўдулька,
Прыбірайся, не баўся:
Цябе ксёндз нажыдае,
Цэркаўку адмыкае,
Прыстолы засцілае,
Алтары прыстаўляе,
Вас, маладых, нажыдае.
— Брацейка мойродненькі,
Пайдзі ж ты да стаенькі,
Выбер каня варанога,
Да самага найлепшага,
Самага разбейшага.
Едзь жа ты уперад мяне
І ўперад мае дружыначкі,
Закажы ж ты ксяндзам і дзякам,
Каб цэркаўкі не адмыкалі,
Каб прыстолаў не засцілалі,
Каб алтароў не прыстаўлялі,
Каб нас, маладых, не вянчалі.

## 1381

— Дунаю, Дунаю, чом ся так хутка калыбаеш?
Знаць, ты шуманьку многа маеш?
— Ой, я шуманьку многа маю,
Тым ся хуценька калыбаю.
— Малада Марысю, чом ся так хутка выбіраеш?
Знаць, ты яшчэ маценьку маеш.
— Ой, я маценьку сваю маю,
Тым ся хуценька выбіраю.
Тым ся хуценька выбіраю,
Бо я вялікі род маю,
Е каму ся укланіці,
Да шлюбаньку вырадзіці.

## 1382

— Чаму ў цябе, малада Волечка,
Няма нікога роднага?

Чаму не стаіць на канец стала
І ў нядзелечку рана?

Чаму не просіць госпада бога,
Каб была добрая доля?

— Нашто мне хто раднейшы:
У мяне мамачка мілейша.

А яна стаіць на канец стала
І ў нядзельку рана.

А яна просіць госпада бога,
Штоб была добрая доля.

## 1383

— Для чаго ў цябе, Іванка,
Так радзінанькі нямнога,
Што некаму стаці ў канец стала,
Папрасіці госпада бога?
— Ой, е ў мяне радзіна,
Мой родны брацюхна.
Ён стане ў канец стала,
Папрасіць госпада бога,
Штоб жа мне — добрая доля.

## 1384

— Кляновы лісточак,
Куды цябе вецер гоне:
Ці ў гару, ці ў даліну,
Ці ў луг пад каліну?

— Я і сам не знаю,
Куды мяне вецер гоне:
Ці ў гару, ці ў даліну,
Ці ў луг пад каліну.

— Маладая Манечка,
Куды цябе бацькі аддаюць:
Ці ў госці, ці ў дарогу,
Ці да боскага дому?

— Я й сама не знаю,
Куды мяне бацькі аддаюць:
Ці ў госці, ці ў дарогу,
Ці да боскага дому.

## 1385

— Кляновая лісцінaчка,*
Куды цябе ветрык веець:
Ці ў луг, ці ў даліну,
Ці наверх, на кляніну?
— Ні ў луг, ні ў даліну,
Ні наверх, на кляніну.
— Маладая Манечка,
Куды цябе мамка правіць:
Ці ў госці, ці ў дарогу,
Ці да боскага дому?
— Ні ў госці, ні ў дарогу,
А да боскага дому.
Там мяне даўно ждалі,
Цэркаўку адмыкалі,
Каберац засцілалі.

## 1386

У нядзелю рана йшлі малойцы граючы,
Шапачкі шыбаючы.
Адзін малойчык не грае:
Ён часу не мае.
Ён часу не мае —
Да шлюбу прыбіраецца,
Госпаду богу кланяецца
Нізенька, пакорненька,
Пану богу прыемненька.

---

* Пасля кожнага радка паўтараецца рэфрэн «Божа, божа».

# РЫХТУЮЦЬ КОНЕЙ ЕХАЦЬ ДА ШЛЮБУ

## 1387

Ой, устала Любачка, ой, раненька
Да прасіла татачку, ой, вярненька:

— А дай жа мне, татачка, каня й воз,
Штобы мяне да шлюбаньку давёз

Чэраз тую гораньку крутую,
Ай, у тую цэркаўку святую.

А ў той цэркаўцы святы спас
Павянчае дзетачак у добры час.

## 1388

Дзе твой, Верачка,
Большы брат,
Пара конікаў запрагаць.
Маляваненькі вазочак
Самы першанькі разочак,
Шаўковенькія вожжачкі,—
Выцірай, Верачка, слёзачкі.

## 1389

Да не сядзі, Іванка, не сядзі,
Не сядзі.

Да ідзі па двару пахадзі,
Пахадзі.

І скінь з капы тры снапы,
Тры снапы.

Пакармі коніка-варанца,
Варанца.

Штоб было чым ехаць да вянца,
Да вянца.

Да на тыя горы крутыя,
Крутыя

Да ў тую цэркаўку святую,
Святую.

А ў той цэркаўцы папове,
Папове

Да чытаюць кнігу святую,
Святую.

Звянчалі Любачку сілаю,
Сілаю.

## 1390

Ай, поле-полюшка,
А ў тым жа полі ўсё коні.
Між тых конікаў Мітрушка
Выбіраець каня, як арла.
А ў каня праўды пытаець:
— Ах, конь жа ты мой вараны,
Ці счуешся ты на бягу,
Ці ўзвязеш мяне на гару?
А на тую гару крутую,
Пад тую цэркаўку залатую,
Пад тыя званы звонкія,
Пад тыя свечы ярыя.

## 1391

Ой, коню мой, коню сівы,
Да ці чуешся на сілу,
Да ці давязеш княгіню

Пад тую горачку крутую
Да ў тую цэркаўку святую?
А ў той горачцы — круты рог,
Да ў той цэркаўцы — святы бог.
У адну суботу радзіліся,
У адно аскрасенне хрысціліся.

## 1392

Запрагайце сіўца,
Час ехаць да вянца.
Там нас да папы ждацьмуць,
Ждацьмуць і чытацьмуць.
І чыталі, спамыляліся,
На дарожку прызіраліся,
Ці шуміць лес-дуброва,
Да ці звініць белая дарога,
Да ці бягуць коні вараныя,
Да ці едуць дзеці маладыя?
Не шуміць лес-дуброва,
Не звініць белая дарога,
Не бягуць коні вараныя
Да не едуць дзеці маладыя.

## 1393

— Паедзеш, дзевачка, да долі шукаць,
Прасі свайго ойчанька каня закладаць:
«Залажы, ойчанька, залажы
Да бітыя таляры палажы».
— Няхай цябе, дачушка, бог спаможа
Да ў той шчаслівай дарозе,
А на маём першым парозе.

## 1394

— Дзе жа твой, Манечка, большы брат? *
— Пашоў конікі запрагаць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Запрагай, брацец, варанца,
Вязі ты мяне да вянца.
Запрагай, брацец, гнядога,
Вязі ж ты мяне да бога,
Ай, да белага ручнічка,
Да маладога Ванечка.

## 1395

Запрагай, татулька, варанца,
Павязём княгіню да вянца.
Запрагай, татулька, пляснiва,
Штоб была дарога шчаслiва.
Шчаслiва дарога да бога,
Да божых харамочкаў,
Да руцвяных вяночкаў.

## 1396

Ялавата дуб'ё, што ў бару,
Вінаваты браткі, што ў даму:

Не хочуць коніка запрэгчы,
Не хочуць сястрыцу да вянца адвезці.

А меншы братка лепшы за ўсіх:
Запрог коніка-варанца.

Запрог коніка-варанца,
Адвёз сястрыцу да вянца.

## 1397

А ў саду, саду, садочку
Стаялі конікі ў радочку,
Між тых конікаў — Ягорка.
Хусткай коніка сціраець,
У каня праўды пытаець:
— Ой, конь, мой конь, конь вараны,

Ці надзеешся на сілу,
Ці завязеш маю княгіню
Пад тую гару крутую
А у тую цэркаўку святую?
А ў той цэркаўцы святы спас,
Звянчай свадзебку у добры час,
А у харошую гадзіну
За харошага дзяціну.

## 1398

Што на сінім на моры
Прыплыла прыплаўка к берагу,
Што на тым прыплаўку стаянка,
Што ў тэй стаянцы сівы конь,
Каля таго каня Янка.
Вымываець каня Янка слязою,
Выцірае каня Янка палою.
— Ах ты, косю мой, косю, сівы коню,
Ці звязеш, косю, на гару дружынку,
Што на тую гару на крутую,
Што ў тую царкву святую?
Ясны свечы запаляць
І там нас павянчаюць.

## 1399

Ой, коню, коню, ці чуешся ты пад сілу,
Ці завязеш да шлюбу княгіню?

Да на тую гораньку крутую,
Да ў тую цэркаўку святую.

Да ў той цэркаўцы святы спас,
Павянчаем дзетанькі ў добры час.

Да ўжо ж і той час і пара,
Да й узышоў месяц і зара.

Месячык дарожаньку асвеціць,
А вецер варотачкі адчыніць.

## 1400

Чы чуецеся, конікі, пад сілу?
Падвязіце пад гару княгіню,
Пад тую гораньку крутую,
Пад тую цэркаўку святую.

А ў той цэркаўцы святы спас.
Выйдзі, попаньку, процій нас,
Віце, дзячанькі, з ключайкамі,
Каб нам тыя двое дзетак звянчаці.

## 1401

Маладзенькі малойчык,
Паглядзі ў аконца,
Ці высока сонца,
Што твой татачка робя —
Каля конікаў ходзя,
Конікі закладае,
Цябе, маладога, выпраўляе
Да забожнага дому,
Да вечнага шлюбу.

## 1402

На двары часты дождж барабаніць,
А Іванька з татам пагаварываець:
— Пара, пара, татанька, пара коні сядлаць.
— Дзіця маё, Іванька, пазасёдланы
І замузданы і ў варотах стаяць,
Толькі сесць молайцу ды паехаці
Пад тую гару крутую,
Пад тую цэркаў святую.
Ай, попе, попе, бацька наш,
Звянчаў свадзьбу ў добры час.
Не поп свадзьбу вянчаець,
А добрая гадзіна злучаець.

## 1403

Да шлюбу, дзевачка, да шлюбу,
Да ў дарогу конікі ступаюць,
Дарагое зелле капаюць.
Дарагое зеллейка, дарагое
У бочцы-дубоўцы шумела,
У дарагім кацялку кіпела.
Мяне яе зеллейка спаіла
Да ехаць к касцёлу спазніла.

## 1404

Да да дубу, зязюлька, да дубу,
Да да шлюбу, Адарка, да шлюбу,
Да на тым коніку вараным,
Што назад капыцікам ступае,
Дарагое зеллейка капае.
Дарагое зеллейка п'янае,
Яно мяне, маладую, упаіла,
Яно мяне, маладую, спаіла
Да й да шлюбу спазніла.

## 1405

Ды сядае дзевачка на возе,
Просіць яна ў бацюшкі спамогі:

— Ды спамажы, бацюшка, спамажы,
Варанога коніка падпражы.

Падпражы коніка пад мой воз,
Каб мяне, маладзеньку, да шлюбу вёз.

Не падпражэш коніка — так пайду,
Такі з сваім дзяцінкам шлюб вазьму.

## 1406

Ды бяжэце, конікі, падбягайце,
Ды на тыя дарожкі патрапляйце,
Ды на тыя дарожкі крутыя,
Ды пад тыя цэркаўкі святыя.
Да й у тых дарожках — круты рог,
Да й у тых цэркаўках — гаспод бог.
Зялёную рутаньку свянцаюць,
Нас, маладзенькіх, звянчаюць,
Шоўкам ручанькі звяжуць,
Тагды табе і праўду скажуць.

## 1407

Бяжыце, конікі сівы невялічкі,
На гару крутую,
Пад цэркву святую.

Першая кветанька — малады маладзец.

Бяжыце, конікі сівы невялічкі,
Пад цэркву святую,
На гару крутую.

Другая кветанька — маладая дзеванька.

## 1408

Брашчалі колы, брашчалі *
Да з тае гары з'язджалі.
Да з тае гары на тую,
Да пад тую цэркаў святую.
А ў той цэркаўцы святы спас,
Павянчай дзетак у добры час.

## 1409

Ой, коні, коні сівыя,
Коні сівыя,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Да ці чуеце вы сілу?
Вы сілу.

Да ці завязеце княгіню,
Княгіню

Да на тую горачку крутую,
Крутую,

Да ў тую цэркаўку святую,
Святую?

Да на той горачцы краскі растуць,
Краскі растуць,

Да ў цэркаўцы шлюб бяруць,
Шлюб бяруць.

### 1410

— Коні мае, коні вараныя,
Надзейцеся на сілу.
Ці прывязеце княгіню?
— Мы надзеемся на сілу,
Прывязем княгіню
Пад тую гару крутую,
Пад тую цэркаў святую.
— Попе, попе, бацька наш,
Вянчай свадзебку ў добры час.
Не поп свадзьбу вянчаець —
Добрая гадзіна злучаець.

### 1411

Да цугу, конікі, да цугу,
Паедзем, Антоська, да шлюбу.

Хто тыя конікі цугаваў,
Хто да шлюбу выпраўляў?

Цугавалі конічкі дзецюкі,
Выпраўлялі Антоську дзевачкі.

## 1412

— Ах, і чые то конікі
Рана су вады вядзёны?
А ўсё сівыя, палавыя,
А да шлюбу ехаць вараныя.
— Сужанькавы коні
Рана су вады вядзёны.
А ўсё сівыя, палавыя,
А для шлюбу ехаць вараныя.
— Ах, і чые то суканькі
Рана з каморы нясёны?
— А дзеваччыны суканькі
Рана з каморы нясёны,
Да шлюбу ехаць шаўковы.

## 1413

— Прыбірайся, Кастулька, прыбірайся,
Конікі запрэжаны, вазочкі завернуты.
— Кажу коням аброк даці
Маладым сватам пагуляці.
І радзіне пакланюся,
Усяей радзіне да ножак,
А роднаму братку да слёзак.

## 1414

— Чом, Марысеньку, так сядзіш,
На дарожаньку не глядзіш?
Ужо ж калёсы затачоны,
Конікі залажоны.
— Кажу й конікам аброк даць,
Няхай конікі пастаяць,
Пукі прыдзе мая матанька
З саду-вінаграду.

## 1415

Запрагай, татулька, воранцы,
Мы паедзем да вянцы.
Сам бог вароты адчыніў,
Янгелы конікаў дзяржалі —
Так нашу нявесту вянчалі.

## 1416

Ды паедзе дзяцінка ды долі шукаці,
Вяліць свайму брацейку коні закладаці:
— Ды няхай мой конік на парадзе стаіць,
Пакуль мяне бацюшка не благаславіць.

## 1417

У саборы да на калакольні
К абедзенцы звоняць.
— Сабірайся-ка, Анісцічка,
Сабірайся, паедзем
К вянчанню-абручанню
Да божай цэркаўкі.
— Пазабыў мой бацюшка
Благаславеннейка даці,
Пашоў, пашоў мой бацюшка
У зялён сад гуляці.
Можна, можна вараным коням,
Можна пастаяці.
Можна, можна вараным коням
Аўса-сена даці.
Можна, можна майго бацюшкі,
Можна падаждаці.

## 1418

— Да дубу, зязюлька, да дубу,
Пара табе, дзевачка, да шлюбу.
Ужо твае конікі спражоны,

Пад акенца прывядзёны.
— Няхай мае конікі пастаяць,
А мне ў свайго бацюхны не гуляць.

## 1419

Стаіць дубочак зелянюсенькі,
На Дунай схіліўся,
Стаіць Ясё маладзюсенькі
І на шлюб нарадзіўся.
У правай ручаньцы
Хустаньку дзяржыць,
Слёзанькі ўціраё,
Сваей матулі да ног прыпадае:
— Дзякуй, матуля, за твае гадаванне,
Сяду на коню вараненькаму,
Паеду на гулянне.
— Паедзеш, сынку, маё дзіцятка,
Да свае шлюблёнае,
Ад бога суджонае,
Наўчай, сынку, маё дзіцятка,
Каб мяне шанавала.

## 1420

Чые гэта коні
Так рана запрэжаны,
Пад ганачак падведзены,
У шарон пастаноўлены,
Да шлюбу прыгатоўлены?
Яны ржуць і качаюцца,
У дарожку сабіраюцца.
Іванкавы коні
Так рана запрэжаны,
У шарон пастаноўлены,
Да шлюбу прыгатоўлены.

1421

Маліцеся богу,
Паедзем у дарогу.
Коні нашы вараныя,
Сані нашы маляваны
Слугі нашы дараваны.

1422

Маршалкі, не стойце,
Сцяліце дарожаньку
Маладой і маладому
Да багатага дому.

Маршалкі, да коней,
Да яснай броні:
Ужо кветкі напрышывалі —
Вы яшчэ й коней не сядлалі.

1423

А дзе свет свеціцца,
Там зара занімаецца,
Іванька са двара з'язджаецца,
А яго татанька пытаецца:
— А куды ты, Ванька, паедзеш?
— А што табе, татанька, да таго,
Сядлаю каня не твайго,
Сядлаю сіўца-варанца,
Я паеду, татанька, да вянца.

1424

Крапі, бацька, коні,
Крапі, бацька, коні,
Каб конь схадзіў,
Каб воз звазіў
Да божага дома.

# МАЛАДЫЯ КЛАНЯЮЦЦА

## 1425

Дзеванька, залатое зерненька,
Кланяйся матцы нізенька,
Штоб коскі зямлю замялі,
Штоб слёзкі слядкі залілі,
Матаньцы жалю задалі.

## 1426

Як пашоў вінаград па загор'ю,
Шчыплючы лісцейка каля яблані.
Як пашла Хвелюшка па застоллю,
Дробныя слёзанькі свае ронячы,
Белыя ручкі свае ломячы,
Родную матульку сваю просячы:
— Матулька родная, благаславі мяне.
— Бог благаславіць і добрыя людзі,
Блізкія суседзі, дальнія прыяцелі.

## 1427

Як пайшоў вінаград па загор'ейку,*
Крышачы, ломячы вінаграданьку,
Стукучы, грукучы па каменнейку,
Сцелячы лісцейка па карэннейку.
Як пайшла Оленька па застоллейку,
Крышачы, ломячы белы ручанькі,
Дробныя слёзачкі а раняючы,
Просячы, молячы ў бога долечку:
— Дай, бог, долю шчаслівую, хвала табе, божа,

* Кожны радок паўтараецца.

Ой, праўдзі, родна матулька, праўдзі,
Шчаслівую дарожаньку ўкажы,
Каб не спаткалі злыя людзі ў дарозе,
Каб не адабралі шчасце-долю ад мяне.

### 1428

Да парос вінаград
Па высокіх гарах,
Да папускаў голлечка
Да па загор'ечку.
Да павялі Колечку,
Да па застоллечку.

### 1429

Як пайшоў вінаград па загор'ейку,
Стукаўся-грукаўся па карэннейку,
Веццейкам махаючы,
Зялёным лісцейкам зямельку ўсцілаючы.
Як пайшла дзяўчонка па застоллейку,
Галоўку скланяючы, слёзанькі раняючы,
Белае лічайка рукаўком уціраючы.

### 1430

Як пайшоў вінаград па загор'ейку,
Стукая-грукая па зямеленцы,
Белы ліст рассцілая па карэннейку.
Як пайшла Ганулька па застоллейку,
Стукаючы-грукаючы па масточаньку,
Горкія слёзанькі выцірала,
Густыя косанькі распусціла.

### 1431

Як пашоў вінаград па-за явір'ю,
Сцелючы лісцейка па сырой зямлі.
Як пашла Дарычка па застолышку,

Сцелючы скацерці бялёвыя,
Раняючы слёзанькі гаручыя,
Просячы ў бога добрай долі:
— Дай жа мне, божанька, добрую долю:
А такога мілага, як я сама,
Такога свёкра, як бацюшка,
Такую свякрову, як матушка,
Такога дзевера, як брахненька,
Такую залоўку, як сястрыца.

## 1432

Як пайшоў вінаград па загор'ейку,
Сцелючы лісцікі па карэннейку.
Як пайшла Ганулька па застоллейку,
Сцелючы абрусы тоненькія,
Ломячы ручанькі беленькія,
Раняючы слёзачкі дробненькія.

## 1433

Як пайщоў вінаград па загор'ечку,
Сцелючы лісцейка па карэннечку,
Задаючы холаду свайму кораню.
Як пайшла Ляксандрачка па застоллейку,
Белыя ручачкі свае ломячы,
Дробныя слёзачкі свае роцячы,
Татку з мамкай жаласці задаючы.

## 1434

Не зыбліся, мост калінавы,
Не шуміце, скацерці бялёвыя.
Не я іх вышывала —
Мая мамка вышывала,
А сястрычкі выкачывалі.

## 1435

Ясная заранaчка
Па залесейку ходзе,
Хмуркай апусціўшыся,
Дождыкам абліўшыся.

Маладзенькая дзеванька
Па застоллейку ходзе,
Коскамі апусціўшыся,
Слёзкамі абліўшыся.

Коскі, як лён бяленькі,
Слёзкі, як мак драбненькі.

## 1436

Станавіцеся, мае сваточкі, усе ў рад: *
А пакоціцца па ножачках вінаград.

А я думала, вінаградзінка коціцца,
Ажно мая дачушачка клоніцца.

Я й думала, што садовая макоўка,
Ажно й маей дачушкі галоўка.

## 1437

Дзевачкі-баярачкі, станьце ў рад:
Пакоціцца па вашых ножках вінаград.
Не вінаград — садовая макоўка,
А не макоўка — Ганначкі галоўка,
А не лісцейка — Ганначкі лічанька.

## 1438

Пахільнае дрэва — каліна,
Пахілілася на раку.

* Кожны радок паўтараецца.

Пакорна дзіця — дзевачка,
Пакарылася мамачцы.

Пакрыла зямельку травіца,
Памыла ножачкі расіца.

## 1439

Схілілася калінанька,
Схілілася чырвоная
Чэраз плот да садоньку,
Чэраз плот да вішнёвага.

Кланялася Марыся,
Кланялася маладая
Чэраз стол да баценька,
Чэраз стол да роднага.

## 1440

Сцяліся, палея,
Каля тыну йдучы,
Кланяйся, Ганечка,
Да шлюбу едучы.
Старому і малому —
Кожнаму па паклону,
А сваёй матачцы
Падні на ножкі,
Аблікоць Ганечку дробныя слёзкі.

## 1441

Пакаціўся туман
Да па загор'ечку.
Кланяйся, Ганначка,
Да па застоллечку.

Кланяйся, Ганначка,
Да па застоллечку
Старому, малому,
Татачку радному.

Татачку радному —
Да нізенька ў ножкі,
То абальюць яго
Дробныя слёзкі.

### 1442

Карыся, дзевачка, карыся,
Татачку ў ногі кланіся.
Так табе, маладзе, гадзіцца,
Радзіне ў ножкі кланіцца.

### 1443

Карыся, дзевачка, карыся,
Старому, малому кланіся.
Старому, малому — да ножак,
Родненькай мамачцы — да слёзак.
Родненькай мамачцы — найніжэй,
Бо за ўсю радзімку — найбліжэй.

### 1444

Кланяйся, Марыся, кланяйся,
Кланяйся старому й малому.
Старому й малому — да ручак,
Сваёй матаньцы — да ножак.

### 1445

Да дубу, зязюлька, да дубу,*
Час табе, Надзейка, да шлюбу.

Карыся, Надзейка, карыся,
Усім нізка ў ножкі кланяйся.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Татульцы, матульцы — нізенька,
Сястрыцам і брацця — шчырэнька.

Старога, малога не мінай,
Слёзкамі зямельку палівай.

### 1446

Хіляйся, калінка, хіляйся,
Кланяйся, Марылька, кланяйся,
Старога, малога не мінай,
У бога долечкі дабывай.
Затое зганена не будзеш,
У бога долечкі дабудзеш.
Старому, малому — падвойчы,
Свайму бацюшку — хоць тройчы.

### 1447

Карыся, дзевачка, карыся,
Суседзям нізка ўкланіся.
Няхай суседзі не злуюць,
Шчасце-долю даруюць:
Вялікім дарам — пасадам,
Вялікаю дарою — доляю.

### 1448

Карыся, Надзечка, карыся,
Кожнаму да ножак кланіся.

Старога, малога не мінай,
Кожнаму да ножак прыпадай.

Кожнаму да ножак нізенька,
Каб была доленька дабрэнька.

### 1449

Каціўся вінаград праз вішнёвы сад,
Вішанькі, яблыны не мінаючы,

Вішанькі, яблыны не мінаючы,
Сваімі веткамі зачапляючы.

А пайшла Матрунка кланяючыся,
Старога, малога не мінаючы,

Старога, малога не мінаючы,
Белымі ручкамі абдымаючы.

Старэнькі, маленькі прабачыць,
Татачка з мамкай горка заплачыць.

### 1450

Прыхіліся, бела бяроза, да зямлі,
Пакланіся, млода Галечка, усёй радні.

А найніжэй сваёй матулі, найніжэй,
Бо яна ў цябе радзімушка найбліжэй.

Сорак ночак цямнюсенькіх не спала,
Пакуль цябе, млода Галя, узгадавала.

Сорак свечак яснюсенькіх спаліла,
Пакуль цябе, млода Галя, узрасціла.

### 1451

Пахілілася верба ад кораня да кораня,
Пакланілася Ганула старому, малому,
Старому, малому і бацэнькові сваёму.
Ганула на стол галаваньку клоніць,
А пад стол, пад стол свае слёзы роніць.

## 1452

Гэлечка з пасаду ўстаець,
Кожнаму на ножкі ўпадзець.

— Карыся, Гэлечка, карыся,
Старому, малому кланіся.

Старога, малога не мінай,
Слёзкамі зямельку палівай.

Старэнькі, маленькі прабачыць,
Татка з мамкай заплачыць.

## 1453

Як пашло соненька па загор'ейку,*
Як пашла Манечка па застоллейку.

Як пашло соненька, туляяся,
Як пашла Манечка, укланяяся,

Старога, малога не мінаючы:
У старога, у малога шчасця многа.

## 1454

Лісцейка сцелецца па-за кораню,
Ой, пашоў Антоська па застолеччу,
Пашоў кланяючыся,
Каля стала паклоны кланяючы нізенька,
Слёзанькамі ўраняючы дробненька.
— Кланяйся, Антоська, старому, малому —
Кожнаму роўненька,
Бо старыя будуць да благаславіці,
Да малыя будуць да бога прасіці.

---

* Кожны радок паўтараецца.

### 1455

Укланяйся, малада Гапка,
Усяму сваяму роду —
І старому, і малому,
А маці — ў белы ногі
За яе за гадавайненка,
За харошае ўладжайненка.

### 1456

Да карайся, дзевачка, карайся,
Да сваёй мамачцы кланяйся.

Да сваёй мамачцы — ніжэй усіх:
Яна цябе гадавала болей за ўсіх.

Да сорак свечачак спаліла,
Пакуль цябе, маладую, нарадзіла.

Да сорак ночачак не спала,
Пакуль цябе, маладую, згадавала.

### 1457

Пахілілася бела бяроза да зямлі,
Пакланілася малада Алеська ўсёй радні.

А татачку — найніжай,
Бо ён у яе за столікам найбліжай.

А пачала бела бяроза хіляцца,
Малада Алеська пачала ўсім кланяцца.

### 1458

Хілілася бела бярозка да зямлі,
Кланілася млода Паўлінка ўсёй радні.
Сяму-таму нізюсенька кланілася,
Яшчэ ж ніжэй — роднай матульцы ў ножкі:

— Дзякуй, дзякуй, родна матулька, за тое,
Што ты мяне малюсеньку ўзрасціла,
А ўзрасціўшы, у добры людзі пусціла.

## 1459

А сцялісь, сцялісь, кляновы лісточак, па зямлі,*
А кланяйся, кланяйся, млода Манечка, усёй радні.
А ні старога, ні малога не абайдзі (не міні),
Роднаму татку скорыя ножкі абнімі.

## 1460

Карыся, Валечка, карыся,*
Старому, малому кланіся.
Старога, малога не мінай,
Старому, малому ўклон дай,
А сваёй мамачцы — найніжай,
Яна цябе благаславіць найшчырай.

## 1461

Карыся, Ганначка, карыся,
Старому й малому кланіся.
Старому й малому — па разу,
А сваёй мамачцы — тры разы.

А сваёй мамачцы — тры разы,
Да што пасадзіла на дзяжы,
Да на залатым крэслечку,
На сваім шчаслівым месцечку.

## 1462

Вішанька, Настулька-вішанька
Кланілася татульку нізенька.
Коскамі зямельку пакрыла,

* Кожны радок паўтараецца.

Слёзкамі ножкі умыла,
Шаўковай хусткай пацёрла —
Тым яна молада пакорна.

### 1463

На дварэ дождж і мароз,
Ганкі слізкі.*

Кланяйся, Мар'ечка,
Бацьку нізка.

Нізенька, блізенька —
У самыя ножкі,

Коскаю зямельку
Усцілаючы,

Слёзкамі ножачкі
Умываючы.

### 1464

Кацілася сонейка з гары ў дол.
— Пакланіся, дзевачка, мацеры да ног.

Коскамі зямліцу ўкрый,
Слёзкамі ножанькі памый.

Мацерына ножанька бяленька,
Штоб табе доленька дабрэнька.

Мацерына ножанька ўрадліва,
Каб табе доленька шчаслїва.

### 1465

Да кланяйся, дзевачка Надзя,
І старому й малому
Да дасць табе бог

* Кожная страфа паўтараецца.

Да добрую й долю,
І шчаслівую гадзіну,
Да й багатую радзіну.

## 1466

Ходзіць Ніначка
Каля століка;
Як яснае сонейка,
Як яснае сонейка.

Ручанькі ломіць,
Слёзанькі роніць,
Усё ў покуць кланяецца,
Усё ў покуць кланяецца.

Па саду хадзіла —
Увесь сад красіла,
Як у хату ўвайшла,
То як сонца ўзышла.

## 1467

Слалася зеллечка, па затыллечку растучы,
Кланяйся, дзевачка, па застоллечку ідучы,

Старому, малому і ойчаньку радному,
Ойчаньку радному і покуці святому.

Абойме ойчанька за белыя пашкі,
То абальюць цябе дробненькія слёзкі.

Пахадзі, дзевачка, па новай святліцы
Да прыпадзі, дзевачка, да сырэнькай зямліцы.

Коскамі святліцу падмяла,
Слёзкамі лічанька ўмыла.

### 1468

Карыся, Дунечка, карыся,
Бацькам у ножкі кланіся.
Як пойдзеш у людзі, забудзеш,
Тады кланяцца не будзеш.

### 1469

Не жалей, Алена, галованькі,
Не жалей, маладая, галованькі,
Кланяйся татаньку нізка ў ножанькі,
Кланяйся роднаму нізка ў ножанькі.

Не жалей, Алена, галованькі,
Не жалей, маладая, галованькі,
Кланяйся маманьцы нізка ў ножанькі,
Кланяйся родненькай нізка ў ножанькі.

Не жалей, Алена, галованькі,
Не жалей, маладая, галованькі,
Кланяйся ўсім родным нізка ў ножанькі,
Кланяйся ўсім родным нізка ў ножанькі.

### 1470

Пахіла дзерава каліна *
На Дунай веццейка схіліла,
Суччайкам вадзіцу змуціла,
Лісцейкам беражкі ўкрыла.

Паклонна галоўка, Кацечка,
Кланяйся мамачцы нізенька.
Коскамі зямельку ўкрыла,
Слёзкамі ножанькі ўмыла.

Ніхто так не ўмыецъ вадою,
Як мне, маладзе, слязою,
Ніхто так не ўватрэць ручнічком,
Як я, малада, каснічком.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 1471

— Увайдзі, увайдзі, малады жанішок,
У хату ціхусенька
Да пакланіся свайму бацюхну
Да ножак нізенька.

— Ой, дзякуй табе, мой жа бацюхна,
За тваё стараннечка,
А вам, сястрыцы-каравайнічкі,
За ваша гібаннечка.

## 1472

Да шлюбу, дзеванька, да шлюбу,
Упадзі мацюньцы да ножак.
Падзякуй падружкам за вянок
І красным хлопцам за танок.
Дзяўчаты вяночкі звівалі,
Малодцы танцы наймалі.

## 1473

Пакланілася чырвона каліна да вады кветанькамі,
Да вады кветанькамі.
Пакланілася малада дзяўчына мацёнцы слёзанькамі,
Мацёнцы слёзанькамі.
— Дзякую табе, мая мацёнка, за тваё выхаванне,
За тваё выхаванне.
Аддаеш мяне, маладзюсеньку, навекі ў гараванне,
Навекі ў гараванне.

## 1474

Мая матачка, мая шчыранька,
Падыйдзі пад мяне блізенька.

Падыйдзі пад мяне блізенька,
Пакланюся табе нізенька.

Слёзкамі ножкі ўмыю,
Коскамі зямлю ўкрыю.

Ад слёзак мокранька будзе,
Ад косак русенька будзе.

### 1475

Матка ж мая, мая вішанька,
Прыступіся ка мне блізенька,
Пакланюся табе нізенька.
Коскамі ды зямлю скрыю,
Слёзкамі ды ножкі змыю.
Коскамі ды русенькімі,
Слёзкамі ды дробненькімі.

### 1476

За лесам-лесам
Сонейка ўзыходзіць,
Маладая дзеванька
Замуж выходзіць.

— Прыступі, маці,
Да мяне блізенька,
А я пакланюся
Да ножак нізенька.

— Я не хачу, дзіцятка,
Ды твайго паклону,
Устань з дзяжы
Ды й хадзі са мною.

### 1477

Ды на небе месячык харашо іграе,
Малады дзецючок свайго татулькі жадае.

— Ды, татулька родненькі,
Прыступіся блізенька.

Прыступіся блізенька,
Пакланюся нізенька.

## 1478

У нядзельку ранюсенька з-пад зары
Да заслала малада Клаўдзюша ўсе сталы.

Ой, сама села за столікам ціханька
Да падазвала родную матуленьку блізенька.

— Да падыйдзі, мая матулька, блізенька,
Да пакланюся табе, матулька, нізенька.

Да ўмыю белыя ручкі слязою,
Да закрыю твае ножанькі касою.

## 1479

Хадзіў вінаград па загор'ейку,*
Стукая-грукая па карэннейку.

Як пашла Клавачка каля століка,
Дробныя слёзачкі раняючы,

Буйную галоўку скланяючы,
Роднага татульку падзываючы:

— Падыйдзі, татулька, ка мне блізенька,
Пакланюся табе дужа нізенька.

Ды ўмыю ножачкі слязой сваёй,
Закрыю зямельку касой сваёй.

## 1480

— У дарогу, Валечка, у дарогу,
У дарогу, Валечка, у дарогу.

— Стань, мая мамачка, у парогу,
Я ж табе нізенька скланюся.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Кудрамі зямельку усцялю,
Слёзкамі ножачкі аблію.

— А няпраўда ж твая, дзіцятка,
Усцеліць зямельку травіца.

Усцеліць зямельку травіца,
Абліе ножкі расіца.

## 1481

Ішла Марачка да вянца,
Забылася да маманьцы скланіцца.
— Пастойце, дружачкі, я вярнуся,
Я сваёй да маманьцы скланюся:
«Прыступі, да маманька, блізенька,
Скланю табе галаваньку нізенька,
Коскамі зямельку ўкрыю,
Слёзкамі ножанькі памыю».

## 1482

— Пакорся, маладая, пакорся,
Старому, младому паклонься,
Старога, малога не мінай,
Ручкамі ножкі абымай,
А слёзкамі зямельку ўлівай.
— Засцілайце сталы, я йду,
Благаслоў, мама, я сяду.
— Зжалься, младая, зжалься,
З сваей вольнасцю расстанься:
Ужо твае вольніцы мінулі,
Як камень да воды ўтанулі.

## 1483

Пахілілася бярозка да зямлі,
Пакланілася малада Томачка ўсёй радні.
Пахілілася бела бярозка нізенька,
Пакланілася Томачка мамачцы блізенька.
— Да асыпся, зялёны лісток, з бярозкі,
Ды пакланіся, Томачка, мамачцы ў ножкі.
— Дзякуй, дзякуй табе, мамачка, за хлеб-соль,
Сабіраецца наша радзінка за твой стол.

## 1484

Пакланіся, млода Манечка, у народзе,
Каб не стала трывога ў дарозе,
Каб не прысталі кованы коні пад табою,
Каб не зламалі жалезны колы пад табою.

## 1485

Салавейка свішча —
Сад разлягае,
Дзеванька плача
Да на воз сядае.

— Прыступі, матанька,
Да мяне блізенька,
То я пакланюся
У ножкі нізенька.

Касою русаю
Зямліцу укрыю,
Дробнымі слёзкамі
Ножанькі памыю.

# АД'ЯЗДЖАЮЦЬ ДА ШЛЮБУ

## 1486

Ой, сонейка, сонейка,
Ды заходзь жа борздзенька
За высокую гару,
Не сушы нам явару.
Нам явару многа трэба:
Будзем явар сеч, рубаці,
Будзем касцёл будаваці,
Двое дзетак вянчаці.
Двое дзетак-адналетак:
Ў адно лета радзіліся,
На другое хрысціліся,
На трэцяе вянчаліся —
На ўсё жыццё пабраліся.
На каберцы стаялі,
Пярсцёначкі памянялі.
Пярсцёначкі-абручачкі,
Пабраліся за ручачкі.
Пярсцёначкі залатыя
Да абое маладыя.

## 1487

Да саду, дзевачкі, да саду
Да вяжыце рутаньку ў пучкі.

Да мяціце юланьку з канца —
Павязем дзеваньку да вянца.

Хто ж тую юланьку замяце,
Той нашу дзеваньку завязе.

Замятуць вуланьку гарабцы,
А завязуць дзеваньку малайцы.

## 1488

Да йдзіце, дзевачкі, у агарод,
Да рвіце руту наўпярод,
Да мяціце вулачку да канца,
Да будзе ісці дзевачка да вянца.
Да мяціце вулачку ў шчыры бор,
Да будзе ісці дзевачка ў божы дом.

## 1489

Ламніце рожаньку,
Ой, ламніце да рожаньку,
Сцяліце да дарожаньку

Маладой да маладому,
Ой, маладой да маладому
Да да божага дому.

Да да божага дому.
Ой, да да божага дому
Да па шчасце, па долю.

Там вада да рачыстая,
Ой, там вада да рачыстая,
Спадобі нас, да прачыстая.

Там вада да пагожая,
Ой, там вада да пагожая,
Спадобі нас, маці божая.

## 1490

Шчыпліце рожаньку,
Сцяліце да дарожаньку
Маладой, маладому
Да да божага дому.
Там жа нам ручкі звяжуць,
Шчырую праўду скажуць.
Белаю беляніцаю
З чужою чужаніцаю,
Штоб была маладзіцаю.

## 1491

Да мяціце вулачку з канца ў канец,
Да будзе ісці дзевачка пад вянец,
Да на тую горку на крутую,
Да ў тую цэркаўку святую.
А ў той цэркаўцы тры ксяндзы,
Не адны самі, да з дзякамі
Маладую дзевачку звянчалі.

## 1492

Замятуць уланьку да канца,
Павядзем дзеваньку да вянца.
Хто ж нашу уланьку памяце,
Той нашу дзеваньку завязе.
Замятуць дарожаньку арабкі,
Павязуць дзеваньку да вянца маладцы.

## 1493

— Да мяціце вулачку з канца ў канец,
Да вядзіце дзеваньку пад вянец.

Да мяціце вулачку да канчайце,
Да вядзіце дзеваньку, вянчайце.

— Да мы сваю вулачку мяцема,
Да мы сваю дзеваньку вядзема.

Да мы сваю вулачку канчалі,
Да мы сваю дзеваньку звянчалі.

## 1494

Мецена вулачка мятлою,
Павезена Марыся з сястрою.

Мецена вуліца да канца,
Павезена Марыся да вянца.

Мецена вуліца дзеркачом,
Павезена Марыся з панічом.

Павезена — заплецена,
Прывезена — расплецена.

## 1495

Ой, мецена вулачка, мецена,
Тудой Хіму ведзена.
Ой, мецена вулачка дзеркачом,
Ведзена Хімачку з панічом.
Ой, Хіма вулачку падмяла,
За сабою дружачак павяла.

## 1496

Мяціце вуліцу да канца,
Мяціце вуліцу да канца,
Вядзіце Мар'юшку да вянца
І да белага ручніка,
І да маладога Івана.
На дварэ дождж, на дварэ дождж,
Ганкі слізкі, ганкі слізкі.
— Кланяйся, Мар'юшка, матушцы нізка.
— Спасіба, матушка, за ўхаванне.
Я ў цябе, матушка, нагулялася,
Русыя касіцы начасалася,
Шаўковых уплётаў наўпляталася.

## 1497

Мяціце юланьку з канца,
Вядзіце дзеваньку да вянца.
Мяціце юланьку дзеркачом,
Бо ехаціме дзеванька з панічом.
Не так мяцёна, як звеяна,
Будзе наша дзеванька звенчана.

## 1498

Сячыце калінаньку з канца,
Вядзіце дзеваньку да вянца.
І ссеклі калінаньку з канца,
Завялі дзеваньку да вянца.
І ссеклі калінаньку, зрубалі,
Ужо нашу дзеваньку звянчалі.

## 1499

А ў каго ж ты, малада Марыся, удалася,
Што ў срэбра-золата убралася?
Віла вяночак з трох ягадочак,
Залаты пас.
— Ой, бывай, бывай, мая мацюхно,
Часта ў нас.
— Ой, як жа маю ў цябе бываці:
Пазарасталі сцежанькі, не знаці.
Пазарасталі сцежанькі-дарожкі вярбою,
А не краснымі і не чырвонымі кветкамі.

## 1500

А ў нядзелю рана-парана
Малада Марыся да шлюбу едзе.
І яе баценька выраджае
І на добры розум навучае:
— Марысю, дзіця маё,
Як да цэркві зайдзеш,
Не стой жа, не пышніся.
Госпаду богу памаліся,
Святой прачыстай пакланіся.
Свята прачыста дзева-маці
Дапаможа табе на шлюб стаці,
З правай ручкі персцень зняці,
З маладым Максімкам шлюб узяці.
І яе баценька ў варот стаіць,
У залатой верацёнцы,
Слёзка слёзку пабівае.
— Цыт, баценьку, не плач па мне,

Яшчэ ся да цябе я назад вярну,
Ано пайду шлюб вазьму.
Яшчэ ж бо я не шлюбёна,
Ано з Максімкам памаўлёна.

## 1501

Да маці дзіцятка к вянцу шле,
Да не вяліць ветру павенуці,
Дробнаму дожджыку да не капнуці,
А ліхім людзям да не глянуці.
— Куды ж маё дзіцятка паедзе,
Ці на тую горачку крутую,
Ці ў тую цэркаўку святую?

## 1502

Гарыце, свечы, гарыце,
А вы, добрыя людзі, глядзіце,
Куды маё дзіцятка паедзе,
Ці ў гэту дарожку крутую,
Ці ў гэту цэркаўку святую.
У гэтай дарожцы да круты рог,
У гэтай цэркаўцы да святы бог.

## 1503

— Разлейся, Дунаю, па бору, па карэнню,
Па вшалякім зеллю.
Расплачся, Марысю, перад сваім бацэнькам,
Няхай бацэнька тое чуе,
Няхай цябе пажалуе.
— Ужо будзе мяне мой бацэнька жалаваці,
Бо трэба мне да шлюбу ўжо ехаці.

## 1504

У нядзельку рана зорачка іграла,
Сонейка ўсходзіла.
Маладая дзяўчынка ў роднай матулькі

Благаславенства прасіла:
— Благаславі, мамка, благаславі, родная,
І шчасцейка дай.
— Благаслаўляю, дзетка, благаслаўляю, любае,
Няхай сам бог благаславіць.
Я табе даю, што ў хаце маю,
А шчасця не ўгадаю.

## 1505

І на дварэ дожджык росіць, божа мой,*
Люсечка мамку просіць, божа мой:
—Будзь жа мне прыгодная, божа мой,
Зацяплі мне свечачку, божа мой,
Паблагаслаў мне сцежачку, божа мой.
— Люсечка, дзіця маё, божа мой,
Зацепліць ксёндз свечачку, божа мой,
Паблагаславіць табе сцежачку, божа мой.

## 1506

Вышаў Іванька за варотушкі,
Пакланіўся свайму татульку ў ножкі:
— Благаславі мяне, татулька, да шлюбу выязджаю.
— З богам, з богам, дзіцятка,
З богам, дзіцятка, з усімі святымі.
Табе дарожка благаславёна
І цэркаўка адчынёна.
Цэркаўка адчыняная
І капланы назбіраныя.

## 1507

Устала Лідачка ў нядзельку рана,
Умылася бялюсенька.

Пакланілася татульку з мамкай
У ножкі нізюсенька:

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Блаславіце, татулька з мамкай,
Да шлюбу ступіць.

— З богам, дзіцятка, з богам, дачушка,
З усімі святымі.

Табе дарожка бласлаўлёна,
Цэркаўка адчынёна.

Табе дарожку пан бог блаславіў,
Цэркаўку поп адчыніў.

## 1508

У нядзельку рана зарыца грала,
Як сонейка ўсходзіць у нядзельку ж рана.*
Да там Кацечка ў татулькі з мамкай
Благаславеннейка просіць:
— Благаславі ж мяне, татка з мамкай,
У дарожку паехаць.
— З богам, дзіцятка, з богам, роднае,
З усімі святымі.
Табе ж дарожка благаслаўлёная,
Касцёл адамкнён, каберцы засцялёны,
Свечачкі запалёны.
Там ручкі звяжуць, табе праўду скажуць.

## 1509

Альжбетка з пасаду ідзець,
Татульку на ножкі падзець:
— Татулька мой родненькі,
Благаславі мяне шчыранька,
У дарожку выправі,
У дарожку шчаслівую.

* Кожныя два радкі, акрамя апошняга, паўтараюцца.

## 1510

Сядзіць Настулька на пасаджэнні, божа ж мой,
І просіць матульку на багаславенне, божа ж мой:
— Багаславі мяне, матулька, да вянца,
А ад вянца багаславі мяне, матулька, да жыцця.

## 1511

Ай, конічак вараненькі
Зямлю выбіваець,
Ай, Дунечка ў сваей матушкі
Благаславеннейка просіць:
— Благаславі, мая матушка,
У чужыя людзі, у харошае шчасце,
У шчаслівую долю.
— З богам, з богам, маё дзіцятка,
З усімі святымі.

## 1512

Благаславі, маці,
Свайму дзіцяці,
Каб было жытліва
І давеку шчасліва.

Крапі, тата, коні,
Прасі ў бога долі,
Каб было шчасліва
На многія годы.

## 1513

Благаславі мяне, мой бацюхна,
На шчаслівую дарогу
Да божага дому.
Дзякуй табе, мой бацюхна,
За тваю выгоду
Да за тваю унегу,
За тваё гадаванне.

## 1514

Святая нядзелька,
Сырая зямелька,
Благаславі ж мяне
На першым парозе,
У доўгай дарозе.
Першы ступочак
У божы дамочак.
У божы дамочак,
Пад звонкі званочак,
Пад яснаю свечкай
На каберцы стаці,
Папа прасіці:
— Папочак-галубочак,
Нада табе для каберца стаці,
Пара дзетак звянчаці.

## 1515

Стала Таклюська
Па канец стала,
Малілася богу.
— Матулька мая родная,
Багаславі мне дарожку.
— Таклюська мая,
Дачушка мая,
Табе дарожка багаславёна,
Царкоўка адчынёна,
Свечкі пылаюць,
Дзякі ўспяваюць,
Цябе дажыдаюць.

## 1516

— А слаўныя багатыя суседзі,
Благаславіце гэта дзіцё, што едзе.
— Няхай яе бог благаславіць, мы будзем,
Няхай яе бог долю дае, мы просім.

## 1517

Благаславіце, людзі,
Блізкія суседзі,
Гэтаму дзіцяці
К вянцу стаці.

Скачыла Ганулька з лаўкі далоўкі,
Скланілася матцы нізка ў ножкі,
Коскамі зямельку пакрыла,
Слёзкамі ножачкі памыла.

Карыся, Ганулька, старому,
Кланяйся, дзіцятка, малому.
З паклона галоўка не баліць,—
Стары і малы благаславіць.

## 1518

Калясом сонца, ой, у гару ідзе,
Малады Апанаска да шлюбу едзе.
Ой, рана-рана едзе да шлюбу, едзе,
Просіць баценька на спамаганне.
— Няхай це, сынку, бог спамагае,
Шчасце і доленьку добрую дае,
Шчасце і доленьку, шчасліву дарогу,
Шчасліву дарогу да божага дому.

## 1519

Калясом сонечка як угору ідзе,
Так наша Прузынка да шлюбу едзе.
Ой, едзе, едзе, ад'язджае,
Просіць баценька аб успамаганні:
— Баценька родны, успамажы мяне.
— Няхай цябе, доньку, сам бог успаможа
І ўсе святыя, людзі добрыя,
Суседзі блізкі, сватове мілы.

## 1520

Кругам сонейка да ўгору ідзе,
Ой, рана, рана да ўгору ідзе.*
Млода панечка да шлюбу едзе,
Едзь, едзь, панечка, богу маліцца,
Та й не забудзься матулі ўкланіцца,
Упадзь баценьку на белы ножкі.
Асыплюць цябе дробныя слёзкі,
Папрасі баценька на спамаганне.
— Хай табе, дзіцятка, сам бог спаможа,
Шчасцем, дабыткам, ядроным жыткам,
Шчасцем-доляю — радзінай добраю.

## 1521

Дзвоннае дзерава таполле,
Як у лесе стаяла — шумела,
Дарогаю вязёна — звінела,
На двор звязёна — мувіла.
Мувіла дзеванька ў нядзельку:
— Навіце вяночкаў з барвенку,
Не пляці косанькі ў батожкі,
Нагатуй ручнічок пад ножкі,
Жоўтую свечаньку ў ручкі.
На бяленькім ручнічку стаяла,
Жоўтую свечаньку трымала,
Сваёму маладцові прысягала,
Як боб слёзанькі раняла,
А ў бога доленькі прасіла:
— Тут мяне, божа, спамажы
І майго бацюнька прынясі
На святое новае падвор'е,
На за цісова застолле.

## 1522

Ойчаньку мой родненькі,
Перайдзі дарожаньку.

---

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Ойчаньку мой, родненькі,
У шчаслівую гадзінаньку.

Ой, да шлюбу паеду,
Там жа мне ручкі звяжуць.

Там жа мне ручкі звяжуць,
Верненькае слоўца скажуць.

## 1523

Ды маладзенькі малойчык
Па сенечках ходзіць,
У руках шапачку носіць,
Свайго татачку просіць:
— Татачка мой родненькі,
Перайдзі мне дарожачку,
Шлюбавую сцежачку.
— Дзіця маё ды маладое,
Няхай табе бог пяройдзе
Ды з краснымі дзеўкамі,
З маладымі малайцамі.

## 1524

— Мой бацюхна ж родненькі,
Вазьмі каня ж да за вуздэчку,*
Перайдзі мне дарожачку,
Хоць невялічку сцежачку.
— Дзіця маё ж залатое,
Няхай табе гаспод пяройдзе
І з шчасцем, і з доляю,
І з Юр'ем, і з Міколаю,
І з новаю да Пакроваю.

## 1525

Павучок на небе йдзець,
А павучынне далоў падзець,

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Маладзенькі Віталь па застоллю ідзець,
Татульку да ног падзець:
— Татулька родненькі,
Перайдзі мне сцежачку,
Шлюбную дарожачку.
— Няхай табе бог пяройдзець
І з Юр'ем, і з Міколаю,
І з шчасцем, і з доляю.

## 1526

А не пчолка гудзе —
Дзевачка сільна плача,
Мамачцы на нагах паўшы:
— А мамачка родная,
Перайдзі мне сцежачку,
Шлюбную дарожачку.
— Няхай табе бог пяройдзе
А тую дарожачку,
Шлюбную сцежачку
З ціхімі анёламі,
З нізкімі уклонамі.

## 1527

Павучок нітачку ўець,
Валечка за стол ідзець,
Мамачцы да ног падзець:
— Ах, мамачка родная,
Перайдзі мне сцежачку.
Перайдзі мне сцежачку,
Сцежачку таптаную.
Сцежачку таптаную
Дзіцяці каханаму,
Сцежачку хаджоную
Дзіцяці радзонаму.

## 1528

Калясом сонца ходзіць,
Дзевачка таткі просіць:
— Татачка мой родненькі,
Перайдзі мне дарожачку,
Шлюбавую сцежачку.
— Дзіцятка маё роднае,
Няхай табе бог пяройдзе
І з хлебам, і з соляю,
І з шчасцем, і з доляю.

## 1529

Заехала дзевачка богу маліцца...
Заехала дзевачка богу маліцца,
Пыталася ў бацюхны, дзе астанавіцца.
— Стань сабе, дзіця, пасярод касцёла,
Пасярод касцёла, блізка прастола.
А тудою іціме да божая матка,
Божая матка да божыя анелы.
Ой, яны нясцімуць долю ў прыполе,
А прыдоллейка — у прыполлейку,
Маладой Надзечцы — у прыполлейка.

## 1530

Ой, суседачкі, прашу вас,
Не пераходзьце проці нас.

Няхай пяройдзе госпад бог,
Родны бацейка — напярод.

Хай нам дарожку пакропіць,
Хай нас да шлюбу выправіць.

## 1531

Да гары, хмелю, да гары,
Штоб не пераходзілі дарогі варагі.
Да няхай пяройдзе гасподзь бог,

Ой, сам татачка, ой, напярод
І з трайчастаю свячою,
І з дробнаю слязою.

## 1532

Стаяла рутанька ўкрай плота
Дробненькім дождженькам абліта.
Ой, там Ясенька ўмываўся,
Сваім варожанькам кланяўся:
— Ой, мае ж веце варогі,
Да не пераходзьце дарогі,
А няхай пярэйдзе сам пан бог
І мой баценька напярод.

## 1533

Ой вы, мілыя варогі,
Да не пераходзьце дарогі.
Няхай пярэйдзе госпад бог,
Мой баценька — напярод.
Хай пярэйдзе радзіна,
Штоб была дарожанька шчасліва,
Няхай пярэйдзе матка мая,
Штоб дарога гладка была.

## 1534

Саступіце, варогі, з дарогі *
Да не пераходзьце дарогі,
Да няхай пяройдзе мамачка
Да і з хлебам, і з соллю,
Да і з шчасцем, і з доляй.

## 1535

— Адступіцеся, варогі,
Да не пераходзьце дарогі,

* Кожны радок паўтараецца.

Каб наша дарожачка роўна была,
Каб наша Адарка дольна была.
Роўна дарога да вянца,
Дольна наша Адарка да канца.
Да ў нашага свата Даніла
Стаяла ў варотах каліна. (2)
— Да долу, веццейка, да долу,
Да пара табе, Адарка, ў дарогу,
Ой, бо яшчэ пара, Адарка.
— Ясны месячык, не свяці мне,
Ясныя зорачкі, блясцеце,
Вараныя конікі, бяжэце.
Да пабеглі конікі ў падолле,
На бацюшкава падвор'е.

## 1536

Завідлівы варожанькі,
Уступайце з дарожанькі
Маладой і маладому
Да божага дому.
Там іх ручанькі звяжуць,
Вернае слоўца скажуць,
Вярнейша, як бацька,
Вярнейша, як маці.

## 1537

Адступіцеся, варогі,
Не пераходзьце дарогі,
Дарогі.
Мы вас падтопчым пад ногі,
Пад ногі,
Пад чырвоныя чаботы,
Чаботы,
Пад залатыя падкоўкі,
Штоб нашы падкоўкі брашчалі,
Штоб нашы ворагі маўчалі.

## 1538

А не стойце, варогі,
Не займайце дарогі,
Бо нашы коні строгі —
Паадтоптваюць вам ногі.
Гострымі гастрожкамі,
Залатымі падкоўкамі
Белы камень разбіваюць,
Па дарозе раскідаюць:
— Гэта вам, варогі,
Белы камень пад ногі.

## 1539

Расступіцеся, варогі,
Варогі,
Не пераходзьце дарогі,
Дарогі
Нашым конікам пад ногі,
Пад ногі,
Шчэ й пад капыты,
Капыты,
Пад здаровыя жываты,
Жываты.

## 1540

Праступіце, варожанькі,
З бітай дарожанькі,
Каб конь схадзіў,
Каб воз звазіў.

## 1541

Сасгупі, ведзьма, з дарогі,
А не дзелай жа нам трывогі,—
Падтопчам цябе пад ногі,
Пад каваныя калёсы,
Пад чырвоныя чабаты,
Пад здаровыя жываты.

1542

У дарогу, сваты, у дарогу,*
Бярыце бога з сабою,
А прачыстую напярод,
Сякіце зямлю папярок.
З дарогі, змяя, з дарогі,
Штоб не было сватам трывогі.

1543

Сустрачай нас, божа,
На першым парозе,
На новым возе,
На бітым гасцінцы.

1544

Ай, перад нашым поездам
Сам бог дарожку перайшоў
І з мікольскаю свячою,
І з ярданскаю вадою.

1545

— Пакрапі нас, баценьку, свячонаю вадою,
Праваю рукою і шчаслівою гадзінаю,
Бо мы едзімо да божага дому,
Каб нам ксёндз шлюб даў
І нам белы ручкі ізвязаў.

1546

Да ў нядзельку па зары,
Па зары
Ходзіць Мар'я па двары,
Па двары,
Просіць месячык і зару,
Зару:

* Кожны радок паўтараецца.

— Сваці, зарыца, да свету,
Да свету,
Пакуль да шлюбу заеду,
Заеду.
— Досыць я табе сваціла,
Сваціла,
Як цябе мама радзіла,
Радзіла,
Па новых сенях ходзячы,
Ходзячы,
Белыя ручкі ломячы,
Ломячы,
Лепшай долі просячы,
Просячы. —

## 1547

Ходзіць малада па новым двара,
Косанькі распусціўшы,
Сабе дружачкі просіць:
—Едзь, сванька, за мною,
За русаю касою,
За беленькім лічкам,
За зялёным вяночкам.

## 1548

Ой, выварача́й, матуленька, шубу
Да выпраўляй твае дзетанькі да шлюбу.
Ой, выпраўляй нас, матка, выпраўляй,
У бога шчасце й долі ублагай.

## 1549

— Надзявай да, маці, шубу,
Бо я еду ж да шлюбу.

Гой, там мяне не знацімуць,
Там мяне да пытацімуць:

«Гой, ці роду да вялікага,
Ці татачкі да багатага?»

Ой, я роду невялікага,
Я татачкі да багатага.

## 1550

Матка мая, любка,
Да варочайся хутка
І ўнясі шубу —
Я еду да шлюбу,
Шлюбу шлюбаваці,
Двое дзетак вянчаці.

## 1551

І ў цябе, і ў мяне усё карыя вочы,
Пойдзем да папа мы цёмнай ночы.
Пойдзем да папа, што нам поп скажа,
Беленькім ручнічком ручанькі звяжа.

## 1552

— Куды паедзеш?
— Да шлюбу, да шлюбу.
— А чаму не плачаш?
— Не буду, не буду.
А няхай плача
Маладога маці,
А што я буду
Завадзіла ў хаце.

## 1553

— Да куды едзеш?
— Да шлюбу.
— Да чаму ж не плачаш?
— Не буду.
Да няхай плача ён, ён,
Што вязе бяду ў свой дом.
Да не глядзі, што я плачу,
Паганяй хутчэй клячу,
Не глядзі, што я тужу,
Паганяй хоць цераз лужу.

# МУЗЫЧНЫ ДАДАТАК

Каравай, зборная субота, пасад — вызначаючыя этапы ў драматургічным разгортванні вясельнага абраду, дзе кожнае дзеянне дэталёва асвятляецца і сімвалічна абагульняецца песняй.

У гэтым музычным дадатку пададзены некаторыя варыянты тыповых напеваў[1] каравая, зборнай суботы і пасада, поўны звод якіх (з картаграфаваннем усіх раёнаў іх пашырэння) будзе прадстаўлен у асобным выданні. Для адных з гэтых напеваў характэрна групавое прымацаванне і іншых па тэматыцы вясельных твораў, другія ж адрозніваюцца большай спецыфічнасцю. У гэтым плане можна адзначыць каравайныя напевы-заклінанні (№ 24), святочныя воклічы каравайных (№ 19) і «зачынальных» (адкрываючых вяселле) напеваў (№ 23), лірызаваныя напевы зборнай суботы, часам і пасада (№ 30). Вылучаюцца таксама напевы «Як брат сястру на пасад вядзе», сярод якіх можна знайсці аналагі вясельным прычытанням-галашэнням (№ 16).

У цэлым пададзеныя тут напевы складаюць восем тыпалагічных груп, якія ахопліваюць і святочна-прыўзнятую, і драматызавана-журботную вобразна-эмацыянальныя сферы беларускага вяселля: I—1—9; II—10—11; III—12—17; IV—18; V—19—22; VI—23—25; VII—26—28; VIII—29—30.

*З. Я. МАЖЭЙКА*

---

[1] Парадкавыя нумары напеваў прастаўлены з левага боку нотнага прыкладу, парадкавыя нумары паэтычных тэкстаў да дадзеных напеваў — з правага.

1 Умерана 757

1. У стра- се, ку- ка- ва- ла зя- зю- ля у стра- се.

2. Пла- ка- ла дзе- ва- нька па ка- се,

пла- ка- ла дзе- ва- нька па ка- се.

2 ♩ = 66 1129

1. Ся- дзе- ла зя- зю- ля на стра- се,

ся- дзе- ла зя- зю- ля [на] стра- се.

2. Пла- ка- ла Ган- на- чка па ка- се,

пла- ка- ла Ган- на- чка па ка- се.

3 800

♩ = 63

1. А што ў но- вень- кай свя- тлі- цы,

а што ў но- вень- кай свя- тлі- цы

2. рас- ста- ва- лі- ся ся- стры- цы,

рас- ста- ва- лі- ся ся- стры- цы.

4 850

♩ = 63

1. Збо- рна- я су- бо- та на- ста- ла,

збо- рна- я су- бо- та на- ста- ла.

2. Дзе- ва- чка дру- жа- чак са- бра- ла,

дзе- ва- чка дру- жа- чак са- бра- ла.

5 1125

♩ = 66

1. Ка- ці- ла- ся ка- ля- со па ра- се,










6 1172

♩ = 69













7 1530

Умерана






8 Умерана 1445







9 1202

♩ = 63













10 1384

Рухава












**11** **211**

♪ = 100

1. Ка_ ра_ ва_ ю, мой ра_ ю,

ка_ ла ця_ бе хо_ ра_ ша_ і_ гра_ [ю].

**12** **224**

♩ = 72

1. А гу_ ба_ та мя_ сі_ ла,

А гу_ ба_ та мя_ сі_ ла,

а ры_ ла_ та са_ джа_ ла,

А кра_ сна_ я да ха_ ро_ ша_ я

да у печ за_ зі_ ра_ [ла].

**13** **87**

♪ = 117

1. А са_ ма ж я не зна_ ю,

а са_ ма ж я не зна_ ю,













608

14

♩ = 112










77

15

♪≈116










і а_ цец і ма_ ці,
ка_ ра_ ва_ ю гі_ ба...[ці],


16 ♩ = 76
1244
1. Брат ся_ стру на па_ сад вя_ дзець,


брат ся_ стру на па_ сад вя_ дзець,


ся_ стра бра_ ту па_ кла_ ня_ ец[ца]:


2.—Бра_ ці_ тка ты мой ро_ дне_ нькі,


бра_ ці_ тка ты мой ро_ д(э)_ не_ н(і)_ кі.


Ці я та_ бе на_ да_ ку_ чы[ла]?

17

519

♪ = 126



839

18

♩=62

19

465

♩ = 88

1. Да ра_ на (і), ра_ на, не_ шта ў ле_ се

зві_ не_ ла,

да ра_ на, ра_ на, не зві_ не_ ла —

га_ ва_ ры_ ла.

2. Да ра_ на ж(ы), ра_ на, не зві_ не_ ла —

га_ ва_ ры_ ла.

Да ра_ на, ра_ на, за га_ ро_ ю

но_ вы двор.

20 903



♩ = 72
1. Па_ пы_ тай_ мо_ ся ў Ма_ русь_ кі




да ў Ма_ ру- ські_ най ма_ ма_ чкі,




да ці па_ зво_ ліць,да ці па_ вя_ ліць




да пе_ сень_ кі спя_ ва_ [ці].


21 182



♩ = 84
1. Наш ка_ ра_ вай ха_ ро_ шы,




ха_ ро_ шы,




бо ха_ ро_ шы_ [я] ка_ ра_ вай_ на_ чкі




гі_ ба_ лі,

